Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
“Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт”

Д. У. ДУК

# ПОЛАЦК І ПАЛАЧАНЕ
# (IX – XVIII СТСТ.)

Наваполацк
ПДУ
2010

УДК 94(476.5)"8/17"
ББК 63.3(4Беи)
Д81

Рэкамендавана да выдання Саветам УА "ПДУ"
ў якасці манаграфіі (пратакол № 6 ад 5.03.2010)

РЭЦЭНЗЕНТЫ:
д-р мастацтвазнаўства, дац., заг. каф. культуралогіі і міжнароднага турызму
УА "Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт" А. М. КУШНЯРЭВІЧ;
д-р гіст. навук, праф., заг. каф. археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін
УА "МДУ імя А. А. Куляшова" І. А. МАРЗАЛЮК;
д-р гіст. навук, праф., гал. навук. супр. ДНУ "Інстытут
гісторыі НАН Беларусі" Г. В. ШТЫХАЎ

**Дук, Д. У.**

Д81 Полацк і палачане (IX – XVIII стст.) / Д. У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2010. – 180 с., [22] арк. іл.

ISBN 978-985-531-122-6.

Прысвечана гісторыі Полацка IX – XVIII стст. Абагульняецца вынік археалагічных раскопак у г. Полацку (1928 – 2010 гг.). На падставе шырокага кола археалагічных, пісьмовых, картаграфічных і выяўленчых крыніц зроблена рэканструкцыя сацыяльнай і тапаграфічнай прасторы самага старажытнага горада Беларусі. Падрабязна разгледжана гісторыя фарміравання горадаўтваральных структур Полацка (дзяцінец, замкі, пасады). Прыводзіцца аналіз развіцця рамёстваў і гандлю ў Полацку. Прадстаўлена вялікая колькасць малюнкаў, планаў Полацка і табліц з апісаннем нерухомай маёмасці палачан.

Разлічана на гісторыкаў, краязнаўцаў, студэнтаў гістарычных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў, мастацтвазнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 94(476.5)"8/17"**
**ББК 63.3(4Беи)**

На вокладцы змешчаны выявы кафлі з бернардзінскага кляштара першай паловы XVI ст. з раскопак 2010 г. у г. Полацку і фрэскі Спаса-Праабражэнскай царквы "Св. Еўфрасіння гаворыць са сваім бацькам".

**ISBN 978-985-531-122-6**

*Жонцы маёй Наталлі*

# УВОДЗІНЫ

Цэнтральнай фігурай любога горада з'яўляецца чалавек. Менавіта людзі з іх паўсядзённым клопатам ствараюць аснову гарадскога жыцця. У сярэдневяковых гарадах гандлёва-рамеснае насельніцтва пражывала на пасадах. У гэтых адносінах Полацк не быў выключэннем. Дзякуючы пасадскім людзям – творцам свабоднага гандлю і рамяства, – стала магчымым існаванне Полацка як першага горада на тэрыторыі Беларусі і аднаго з найстаражытнейшых дзяржаваўтваральных цэнтраў на тэрыторыі Старажытнай Русі.

Сляды дзейнасці соцень тысяч жыхароў старажытнага горада захаваліся ў культурным пласце Полацка ў выглядзе матэрыяльных рэшткаў. Яны і з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай сучаснай гістарычнай навукі, падмуркам працы не аднаго пакалення археолагаў. Дзякуючы археалагічнай навуцы, многія аспекты гісторыі Полацка IX – XVIII стст. сталі вядомы шырокай грамадскасці, а шэраг стэрэатыпных уяўленняў перагледжаны. Археалагічнае вывучэнне Полацка дазваляе раскрыць механізм пераўтварэння горада з летапіснага "града" ў развіты сацыяльна-эканамічны цэнтр Старажытнай Русі і Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ).

У дадзеным даследаванні прадстаўлена гісторыя змен сацыяльнай тапаграфіі Полацка ў шырокім храналагічным кантэксце, вызначаны колькасны рост, сацыяльны склад насельніцтва і прынцыпы яго самакіравання, адметнасці развіцця матэрыяльнай і асобных аспектаў духоўнай культуры палачан, узровень развіцця тэхналогій вытворчасці і гандлёвых сувязяў. Гэтую працу немагчыма было б правесці без увядзення ў навуковы зварот корпуса пісьмовых крыніц. Іх база значна абмежавана: большасць актавых кніг полацкага магістрата, якія з'яўляюцца асноўнай крыніцай вывучэння паўсядзённага жыцця, былі знішчаны ў выніку пажараў і войнаў. Але тыя, што захаваліся, утрымліваюць каштоўнейшы матэрыял па вывучэнню жыццёвай прасторы Полацка.

Праблема вывучэння полацкага пасада ў шырокім разуменні гэтага тэрміна не новая ў айчыннай археалогіі. Прадметам даследаванняў беларускіх археолагаў, у першую чаргу А. М. Ляўданскага, Г. В. Штыхава, С. В. Тарасава, з'яўляліся пытанні тапаграфічнага развіцця, забудовы і планавання, а таксама рамеснага і гандлёвага развіцця сярэдневяковага горада. Аднак многія базавыя пытанні станаўлення і развіцця пасадскай структуры Полацка ў кантэксце урбаністычнай структуры сярэдневяковых і навачасных гарадоў засталіся па-за ўвагай даследчыкаў. Такім чынам, вывучэнне гістарычнай прасторы гарадскога пасада Полацка з'яўляецца актуальнай задачай, і немалую ролю ў вырашэнні гэтай праблемы вызначаюць магчымасці археалагічнай навукі.

***Сказила бы всякие речы с часом старость, коли бы учинки людские, которые ж с приroженья своего конец мають, через листы не были увечнены и годным сведецством ку пришлой ведомости не были приведены.***

*Прывілей г. Полацку на Магдэбургскае права, 7 кастрычніка 1498 г.*

## 1. ГІСТАРЫЧНАЯ ПРАСТОРА ПОЛАЦКА

“Калыска беларускай дзяржаўнасці ...”. З гэтых слоў, якія, па вызначэнні доктара гістарычных навук, прафесара Г. В. Штыхава, ёміста ахарактызавалі значэнне Полацка ў гісторыі станаўлення нашай Бацькаўшчыны, хацелася б пачаць чарговы аповед пра гісторыю Полацка. Гэта больш чым горад, больш чым пачатак культурнай і сакральнай прасторы Беларусі. Полацк уяўляе сабой яшчэ не раскрыты феномен, у якім зараджаліся і якому яшчэ будуць прысвечаны лепшыя здабыткі многіх айчынных гуманістаў і асветнікаў. Спасціжэнне непаўторнай спадчыны Полацка немагчыма без вывучэння яго гістарычнага мінулага.

Сённяшні Полацк – гэта горад з больш чым тысячагадовай гісторыяй. Сэрца Полацка – гэта яго гістарычны цэнтр. Жыццё сотняў пакаленняў палачан засведчана ў рэштках помнікаў даўніны, якія ствараюць непаўторную аўру старажытнага горада.

Горад узнік пры вусці р. Палаты. Старажытны цэнтр Полацка – першапачатковае гарадзішча і паселішчы, размешчаныя на аддаленасці 0,8 км ад упадзення р. Палаты ў р. Заходняя Дзвіна (мал. 1 – 3). З ранняга жалезнага веку і да ранняга сярэдневякоўя гарадзішча належала балтам, якія і далі назву гораду – Полацк, ад р. Палата. У сярэдзіне VIII ст. полацкае гарадзішча засяляюць носьбіты археалагічнай культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганаў, якую большасць гісторыкаў атаясамлівае са славянамі-крывічамі. З гэтага часу пачынаецца летазлічэнне “града” Полацка, які ў X – XI стст. паступова пераўтвարыўся ў цэнтр зямлі-валасці – Полацкага княства – са сваім княжацкім радаводам і епіскапскай кафедрай (992 г.).

У 862 г. Полацк згадваецца ў ліку гарадоў (Белавозера, Растоў, Мурам), якія наўгародскі князь Рурык раздаваў сваім мужам-васалам [Лаврентьевская летопись, 1997, стб. 20]. Імя першага полацкага князя невядома, але ён быў варагам (скандынавам) па паходжанні, як і сам Рурык. На той час у Полацку, відаць, ужо існаваў княжацкі радавод з мясцовага (крывіцкага) рода-племяннога аб’яднання [Тарасаў, 1996, с. 18]. Прынамсі, археалагічна пацверджана, што крывічы жылі на полацкім гарадзішчы і паселішчы з канца VIII ст.

У 907 г. Полацк згадваецца ў ліку гарадоў, дзе “седяху велици князи под Олгом суще” [Лаврентьевская летопись, 1997, стб. 31]. Полацк на той час з’яўляўся саюзнікам Кіева. Аднак гэтыя саюзныя адносіны ў наступных XI – XII стст. саступілі месца бескампраміснай барацьбе з Кіевам за сферы ўплыву ў Падзвінні і Верхнім Падняпроўі.

Рагвалод стаў першым полацкім князем, чыё імя занатаваў летапісец. Вядома, што ён прыйшоў “з-за мора”, меў дачку Рагнеду. Рагвалод княжыў каля 980 г., г. зн. больш як на стагоддзе пазней за ўвакняжанне першых полацкіх валадароў, імёны якіх, на жаль, нам невядомы.

Неўзабаве Полацк быў захоплены войскамі наўгародскага князя Уладзіміра. Рагвалод быў забіты, а Рагнеда стала жонкай Уладзіміра. Вынікі гэтага паходу мелі велізарнае значэнне для далейшага развіцця Полацка. Так, на працягу XI ст. полацкія князі тройчы хадзілі вайсковымі выправамі на Ноўгарад і двойчы яго захоплівалі (1021 і 1066 гг.). З імёнамі Уладзіміра і Рагнеды звязана і адраджэнне дынастыі полацкіх

князёў. Князь Ізяслаў Уладзіміравіч стаў пачынальнікам дынастыі полацкіх князёў – Рагвалодавых унукаў. Княжацкая ўлада перадавалася ад бацькі да старэйшага сына, што з'яўляецца яркай адметнасцю Полацка. У Старажытнай Русі да 1097 г. дзейнічаў прынцып перадачы ўлады "па старшынству". Па гэтай прычыне сын Ізяслава Брачыслаў ужо не меў правоў спадкаемства вялікакняжацкага кіеўскага стала (у Кіеве княжыў яго дзядзька Яраслаў Мудры), і ў Полацку склаўся ўласны княжацкі радавод.

Да 1222 г. – часу паходу смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча на Полацк няма ніякай інфармацыі аб захопе гэтага галоўнага горада зямлі-воласці кааліцыямі паўднёва-рускіх князёў ці князямі гарадоў-"прыгарадаў". У XIII ст. Полацк не зведаў мангола-татарскай і крыжацкай навалы. Змаганне з крыжакамі за землі Ніжняга Падзвіння пры князю Уладзіміры (? – 1216 г.) не перараслі ў працяглы канфлікт з Ордэнам. Ужо ў 1229 г. была заключана Смаленская гандлёвая праўда, ці дагавор Полацка (разам са Смаленскам і Віцебскам) з Рыгай і Гоцкім берагам, паводле якой рэгламентаваліся ўмовы гандлю па Дзвіне на працягу доўгага часу. У наступныя гады дагаворы былі заключаны ў 1340, 1406 і 1476 гг. У XIII – XVI стст. у Полацку існавала нямецкая факторыя (гандлёвая кантора). І хаця выправы інфлянцкіх крыжакоў у межы Полацкай зямлі працягваліся і ў XIV ст., яны істотна не паўплывалі на гандлёвыя адносіны паміж Полацкам і Рыгай.

Час палітычнага росквіту Полацка прыпадае на XI ст. і звязаны з імёнамі князёў Брачыслава Ізяславіча (1003 – 1044 гг.) і Усяслава Брачыславіча (1044 – 1101 гг.). У гэты час у Полацку ўзводзіцца велічны Сафійскі сабор (каля 1044 – 1066 гг.) (мал. 4), утвараюцца пасады з разгалінаванай інфраструктурай, будуюцца першыя гарадскія ўмацаванні. З дванаццаці вядомых скандынавам гарадоў Старажытнай Русі крапасныя ўмацаванні згадваюцца толькі ў Полацку [Джаксон, 2001, с. 133], што пацвярджае яго выключнае значэнне і як ваенна-адміністрацыйнага цэнтра ўлады.

У XI ст. на чале дзяржавы стаяў князь, якому падпарадкоўваліся баяры ("моцныя мужы") і "дзецкія" – асабіста адданая князю дружына. Князь прызначаў цівуноў (суддзяў і фінансавых упраўляючых), мытнікаў, ключнікаў. У гэты час пад патранажам князёў пашыраецца царкоўнае і манастырскае землеўладанне.

Межы зямлі-княства ахоплівалі тэрыторыю Беларускага Падзвіння. У нізоўях Дзвіны жыло падуладнае Полацку балцкае насельніцтва, існавалі гарады-крэпасці Герцыке і Кукенойс, заснаваныя князем Брачыславам Ізяславічам. На мяжы славяна-балцкіх зямель былі заснаваны "грады"-крэпасці Браслаў (ад імя "Брачыслаў"), Маскавічы, Рацюнкі. Пасля 1021 г. у сферу ўплыву Полацка ўваходзяць і землі Верхняга Падзвіння (Віцебск, Усвяты).

У XII ст. адбываецца эканамічны росквіт Полацка. У гэты час у горадзе па чарзе правяць дзеці і ўнукі князя Усяслава Брачыславіча. Вынікам іх дзейнасці з'явілася стварэнне ў Полацку ансамбля мураваных цэркваў, аб'яднаных самабытнымі рысамі непаўторнай полацкай школы дойлідства (мал. 5). У Полацку паўстаюць архітэктурныя ансамблі Спаса-Еўфрасіннеўскага і Барысаглебскага (Бельчыцкага) манастыроў. На Востраве р. Дзвіны існуе манастыр Іаана Прадцечы, заснаваны, паводле скандынаўскіх саг, ісландскім місіянерам Торвальдам Вандроўнікам каля 1000 г. Насельніцтва Полацка ў XII – XIII стст. налічвала больш за 10 тыс. чалавек. Полацк становіцца цэнтрам асветы. На XII ст. прыпадае дзейнасць Еўфрасінні Полацкай, у гэты час квітнеюць разнастайныя рамёствы і гандаль. У Полацку працуюць майстар-ювелір Лазар Богша і дойлід Іаан, якія пад ідэйным патранажам прападобнай Еўфрасінні стварылі свае непаўторныя шэдэўры. Высокі талент і адукаванасць князёўнаў з полацкага княжацкага радаводу пацвярджаецца найноўшымі гісторыка-лінгвістычнымі даследаваннямі, паводле якіх аўтарам знакамітага "Слова аб паходзе Ігаравым" з'яўляецца полацкая

княжна Марыя Васількаўна (каля 1127 г. – ?) [Полоцкая княжна..., 2008]. У XII – XIV стст. у скрыпторыях манастыроў ствараюцца знакамітыя полацкія Евангеллі – рукапісныя кнігі на пергамене.

У XII ст. узрастае роля "прыгарадаў" Полацка, многія з якіх становяцца самастойнымі княствамі (Віцебск, Друцк, Менск і інш.). Пачынаецца "ўдзельны" перыяд гісторыі Полацкай зямлі, калі эканамічная незалежнасць асобных земляў змушала князёў да ўзброенай барацьбы паміж сабой.

Эвалюцыянаваў і палітычны лад Полацка. У XII ст. веча набыло вялікую моц, і палачане ад яго імя маглі запрашаць князя на прастол ці пазбаўляць яго ўлады. Князь пасля абрання заключаў з вечам дагавор – крыжацалаванне. Веча ў Полацку выбірала выканаўчы орган з трыццаці мужоў, "старцаў". Гэты орган улады кіраваў не толькі ўнутранымі, але і знешнімі справамі Полацка [Копысский, 1975, с. 74 – 75].

Вялікае значэнне для палітычнага развіцця дзяржавы мелі рашэнні полацкага епіскапа. Першым вядомым полацкім епіскапам з'яўляецца Міна (1105 г.). Калі ў 1127 г. па волі Кіева полацкія князі былі высланы ў Візантыю, палітычныя рашэнні ад імя горада магла прымаць ігуменні Спаскага манастыра Еўфрасіння, што пацвярджаюць знойдзеныя археолагамі актавыя пячаткі.

У Полацку існавала купецкае аб'яднанне, згаданае ў 1159 г. пад назвай "братчына". Братчына збіралася ў патранальнай старой царкве св. Багародзіцы на Пятроў дзень. На братчыне выступалі прадстаўнікі ўплывовага гандлёва-рамеснага люду, з якімі мог весці перагаворы нават сам князь.

У пачатку XIII ст. у Ніжнім Падзвінні ўзнік г. Рыга, і палачане сутыкнуліся з сур'ёзнай канкурэнцыяй у знешнеэканамічным гандлі. У выніку барацьба з Ноўгарадам за кантроль паўночнага адрэзку вялікага гандлёвага шляху "з вараг у грэкі", апагей якой прыйшоўся на XI ст., пераўтварылася ў супрацоўніцтва дзеля спынення агрэсіі каталіцкага ордэна Братоў рыцарства Хрыстовага. Якаў Палачанін згаданы летапісцам як мужны воін, які вызначыўся ў Неўскай бітве 1140 г. Шлюб Аляксандра Яраславіча (Неўскага) з полацкай княжной замацаваў дынастычны саюз абедзвюх дзяржаў.

Новыя гістарычныя рэаліі абумовілі нараджэнне новай дзяржавы – ВКЛ. У 1250-я гг. у Полацку пасаджаны на княжанне першы князь з дынастыі Таўцівіла, запрашэнне якога было абумоўлена неабходнасцю захаваць княства ад мангола-татарскай і ордэнскай пагрозы і заручыцца падтрымкай магутнага саюзніка. Таўцівіл быў пляменнікам Міндоўга, ён прыняў праваслаўе і стараўся захоўваць мясцовыя традыцыі. Адносіны паміж палачанамі і князем афармляліся ў выглядзе пісьмовага дагавора – рада. Каля 1307 г. Полацк уваходзіць у склад ВКЛ [Варонін, 2009, с. 30 – 40]. Гэтая падзея адлюстравана ў змене тапаграфічнай структуры Полацка – спыненні існавання гарадзішча як княжацкай рэзідэнцыі і ўзвядзенне сістэмы ўмацаванняў на Верхнім замку.

Апошні полацкі князь Андрэй Альгердавіч (? – 1399 г.) сваім княжаннем падводзіць вынік існавання Полацка як дзяржавы з інстытутам саслоўна-прадстаўнічай манархіі. Пад час яго кіравання палачане прымалі ўдзел у паходах на землі маскоўскай Русі і ў Прыбалтыку, пашырылі землі княства на поўначы за кошт Наўгародчыны, вызначыліся гераічным удзелам у Кулікоўскай бітве 1380 г. Андрэй Полацкі стаў адным з асноўных герояў "Задоншчыны". І хаця Полацк ніколі не быў захоплены крыжакамі, па волі князя Андрэя Полацкая зямля на пэўны час была перададзена крыжакам на ўмове лену [Русско-Ливонские акты, 1868, с. 81]. Гэтае рашэнне князя заручыцца падтрымкай у супрацьстаянні з Ягайлам за вялікакняжацкі прастол не выклікала адабрэння полацкага веча і скончылася для Андрэя трагічна. Дзякуючы амбіцыям князя Андрэя, пэўны час Полацкая зямля мела назву Вялікага княства Полацкага. Да 1394 г. Андрэй Полацкі знаходзіўся ў турме ў Хенцінскім замку, адкуль быў вызвалены па

хадатайніцтву Вітаўта. Андрэй Полацкі загінуў як мужны воін у барацьбе з татарамі на рацэ Ворксле ў 1399 г.

З 1392 г. у Полацку ўведзена намесніцтва, з 1504 г. Полацк – цэнтр ваяводства (першым ваяводам быў Станіслаў Глебавіч у 1505 – 1513 гг.). Намеснікаў прызначаў вялікі князь або выбірала гарадское веча. Суд намесніка мог адбывацца толькі пры ўдзеле баяр і мяшчан. З XVI ст. гербам горада стаў старажытны хрысціянскі сімвал – выява трохмачтавага карабля з разгорнутымі ветразямі (мал. 6).

У складзе ВКЛ Полацк па-ранейшаму заставаўся найбуйнейшым рэлігійным цэнтрам. Полацкая праваслаўная архіепархія ў 1596 г. пераведзена ў грэка-каталіцкую. Значнасць полацкай грэка-каталіцкай архіепархіі падкрэслівае той факт, што з пятнаццаці архіепіскапаў сем сталі мітрапалітамі.

У эпоху сярэдневякоўя паняцце “палачанін” не азначала толькі месца жыхарства людзей у межах крапасных сцен гарадскіх замкаў ці пасадаў. Згаданыя ў летапісах “людзі” лічыліся палачанамі, калі яны пражывалі на тэрыторыі полацкай воласці. У 1498 г. у Полацку прывілеем вялікага князя Аляксандра ўведзена магдэбургскае права. Пачынаецца новы перыяд развіцця Полацка як горада з уласным інстытутам самакіравання – гарадскім магістратам. Магістрат складаўся з 20 радцаў, бурмістраў і лаўнікаў (суддзяў). Два бурмістры (адзін – праваслаўны, другі – католік) абіраліся з ліку рады. Улада войта, які спачатку адказваў за гарадское кіраванне ад імя вялікага князя, пасля 1511 г. была значна абмежавана магістратам.

На магдэбургскае права пераводзіліся не толькі ўсе жыхары Полацка – мяшчане (тэрмін паходзіць ад слова “места”, г. зн. горад), але і ўсе людзі, якія сяліліся на мяшчанскіх землях у блізкіх і далёкіх ваколіцах Полацка. Мешчанінам мог лічыцца той чалавек, які валодаў нерухомасцю, меў сваю сядзібу – “пляц” – непасрэдна ў месцы і займаўся рамяством ці гандлем. З наданнем Полацку магдэбургскага права пачынаецца працяглае супрацьстаянне баяр-шляхты і царкоўных феадалаў з полацкімі мяшчанамі. Абвастрэнню барацьбы спрыяў той факт, што баярскае землеўладанне ў XVI ст. стала пераважаць над мяшчанскім. Аднак полацкае мяшчанства было маёмасна неаднародным. Многія з мяшчан сяліліся на землях баяр і актыўна супраціўляліся ўскладанню на іх абавязкаў па абароне горада і рамонце гарадскіх умацаванняў. Толькі ў 1630-я гг. мяшчане левабярэжнай часткі Полацка былі пераведзены на магдэбургскае права.

Частка баярскіх мяшчан пасля надання Полацку магдэбургскага права былі вымушаны перасяліцца на левабярэжную частку Полацка. Так пачалося актыўнае засяленне тэрыторый за р. Дзвіной, дзе ўзнікаюць задзвінскія пасады. Гэтаму не ў малой ступені спрыяла пагаршэнне знешнепалітычнай сітуацыі, паколькі ў першай палове XVI ст. Полацк становіцца аб’ектам нападу маскоўскіх войск. Верхні Замак, як асноўная фартэцыя, вытрымліваў абарону, але асноўны ўдар прыходзіўся на пасады, дзе жыла значная колькасць мяшчан.

У сям’і полацкага мешчаніна Лук’яна Скарыны каля 1490 г. нарадзіўся беларускі асветнік і першадрукар Францыск Скарына. Увесь творчы лёс гэтага чалавека склаўся па-за межамі роднага Полацка. Гэта было абумоўлена аб’ектыўнымі прычынамі, паколькі ў часы росквіту творчага таленту Скарыны Полацк перажываў не лепшыя часы. Арганізаваць у фактычна памежным горадзе друкарню было немагчыма. Тым не менш, пачатковую адукацыю Скарына мог атрымаць і ў Полацку, дзе з 1498 г. існавала вучэльня пры бернардзінскім кляштары (мал. 7). Тут ён мог авалодаць лацінскай мовай, засвоіць і іншыя школьныя навукі.

Гандаль меў вялізарнае значэнне для Полацка. Двойчы на год адбываліся двухтыднёвыя гарадскія кірмашы. Рынак з гандлёвай плошчай, размешчаны каля сцен Верхняга Замка на беразе Чорнага ручая, меў назву “Вялікі торг” (размяшчаўся тут да

Інфлянцкай вайны). На плошчы рынка збіралася і полацкае веча. У 1506 – 1507 гг. Полацк унёс пабор з гандлю ў казну 1519 коп грошаў літоўскіх, тады як узятыя разам Гародня, Наваградак, Менск, Берасце – усяго 900 коп. У гэтыя ж гады мытны збор толькі з гандлю воскам і соллю ў Полацку склаў 3937 коп, або 20 % гэтага збору з усіх гарадоў ВКЛ, у ліку якіх былі Кіеў, Коўна, Смаленск, Уладзімір Валынскі, Львоў і інш. [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 129].

У сярэдзіне XVI ст. стала зразумела, што да Полацка набліжалася вялікая пагроза. У 1552 г. пытанне аб надзейным умацаванні Полацка было ў чарговы раз пастаўлена каралеўскімі рэвізорамі. Рэвізія замкаў і гарадской маёмасці засведчыла нездавальняючы стан пасадскіх умацаванняў, выправіць якія да пачатку полацкага паходу маскоўскага цара Івана IV Грознага было цяжка.

Узімку 1563 г. Полацк быў захоплены войскамі Івана IV Грознага. З-за непрадбачлівасці полацкага ваяводы Станіслава Давойны падчас аблогі горада маскоўскім войскам абаронцы былі вымушаны спаліць Вялікі пасад, а насельніцтва горада часткова разышлося, а часткова перайшло пад ахову крапасных сцен Верхняга Замка. Выдатна ўзброеныя маскоўскія войскі гарматным абстрэлам пашкодзілі крапасныя сцены, і гарнізон вырашыў спыніць абарону. Захоп адной з самай значнай крэпасці Белай Русі набыў шырокі грамадскі рэзананс далёка за межамі краіны. У 1579 г. Полацк быў вернуты ў склад ВКЛ. Наступствы Інфлянцкай вайны сталі асноўнай прычынай заняпаду вядучай палітычнай і сацыяльна-эканамічнай ролі Полацка ў ВКЛ.

У гады падначалення Полацка маскоўскім войскам у горадзе быў узведзены Ніжні (Стралецкі) замак. Дзеля яго насыпання спатрэбілася 230 тыс. $м^3$ зямлі [Тарасаў, 1998 б, с. 49]. Каб здабыць такую колькасць зямлі, было пракапана новае русла р. Палаты, якое аддзяліла старажытнае гарадзішча ад Ніжняга замка (асноўнага пачатковага паселішча). Сёння рэшткі вала Івана Грознага з’яўляюцца адметнай рысай гарадской тапаграфіі (мал. 8).

У 1569 г. утварылася новая дзяржава – Рэч Паспалітая. Кароль Стэфан Баторый пасля адваёвы Полацка надае вялікія правы езуітам, у прыватнасці, у 1582 г. перадае ім усе полацкія праваслаўныя храмы і манастыры. У Полацку будуецца езуіцкі калегіум, якому належаць вялізарныя землі ў самім горадзе і ў ваколіцах Полацка, у тым ліку цэлы пасад – Экімань. Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. полацкія цэрквы становяцца ўніяцкімі, і пачынаецца працяглы перыяд барацьбы паміж праваслаўным насельніцтвам і вялікакняжацкай уладай. Палітыка талерантнасці, накіраваная на замірэнне канфесійных канфліктаў, асабліва абвостраная падчас забойства полацкага ўніяцкага архіепіскапа Ісафата Кунцэвіча (1623 г.), абумовіла з’яўленне ў Полацку праваслаўнага Багаяўленскага манастыра паводле прывілею караля Уладзіслава IV (1633 г.). Манастыр становіцца цэнтрам праваслаўя ў Полацку, пры ім дзейнічае брацкая школа.

Насельніцтва Полацка ў першай палове XVI ст. налічвала крыху больш 10 тыс. чалавек. На працягу наступнага стагоддзя адбываецца скарачэнне колькасці палачан у выніку войнаў і новых паходаў маскоўскіх войск на Полацк. Тым не менш, у Полацку былі створаны ўмовы для існавання разгалінаваных рамёстваў, росквіт якіх прыходзіцца на 1630 – 1640-я гг. Гэтаму, як ні парадаксальна, садзейнічалі вынікі Інфлянцкай вайны, паколькі пасля вяртання Полацка ў склад ВКЛ пачынаецца актыўнае засваенне заходнееўрапейскага рамяства і некаторым чынам вестэрнізацыя жыццёвай прасторы [Дук, 2007 ж, с. 240 – 241].

Адбываецца змена гарадскіх архітэктурных дамінантаў. У пачатку XVI ст. быў узведзены мураваны будынак полацкай ратушы. На Вялікім пасадзе пры гарадскім рынку ўтвараецца адміністрацыйны цэнтр магдэбургскага Полацка. У 1738 г. каля гарадскога рынка з ратушнай плошчай пачынае ўзводзіцца касцёл св. Стэфана (мал. 9). Ён становіцца архітэктурнай дамінантай горада.

У 1633 г. Полацк быў зноў захоплены маскоўскімі ваяводамі. Ацалеў толькі Верхні замак (мал. 10). Пытанне аб належнай падрыхтоўцы гарадскіх умацаванняў да абароны абвастрыла канфліктную сітуацыю паміж гарадскімі ўладамі, мяшчанамі і шляхтай. У часы вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 – 1667 гг. горад быў падначалены цару Аляксею Міхайлавічу. Многія полацкія рамеснікі былі вывезены ў Маскоўскае царства. Вайна нанесла Полацку вялікія страты. Пасады і ваколіцы Полацка абязлюдзелі, у горадзе пасля вайны жыло не больш за 700 чалавек [Сагановіч, 1995, с. 130].

На часы ваеннага ліхалецця прыходзіцца пачатак творчасці паэта, драматурга, перакладчыка, педагога, царкоўнага і грамадскага дзеяча Сімяона Полацкага (Самуіла Пятроўскага-Сітняновіча). З актавых кніг полацкага магістрата (мал. 11) стала вядома, што ён нарадзіўся ў сям'і полацкага мешчаніна. З сярэдзіны 1650-х да 1664 г. быў настаўнікам брацкай школы Багаяўленскага манастыра, дзе пачаўся яго творчы шлях як паэта і грамадскага дзеяча. У 1664 г. Сімяон Полацкі пераехаў у Маскву, дзе і адбываецца далейшы росквіт яго творчасці.

Адраджэнне горада пасля Андросаўскага перамір'я 1667 г. адбывалася павольна. Вялікакняжацкая ўлада была вымушана вызваліць палачан ад многіх падаткаў, каб паскорыць аднаўленне горада. У 1704 – 1705 гг. Полацк стаў цэнтрам лакалізацыі буйной групоўкі войск Пятра I і шмат пацярпеў ад ваенных пабораў. У выніку пажару парахавога складу была амаль цалкам знішчана галоўная святыня горада – Сафійскі сабор.

Аднак у трэцяй чвэрці XVIII ст. адраджэнне Полацка як значнага сацыяльна-эканамічнага цэнтра ВКЛ зноў набірае моц. Зруйнаваны Сафійскі сабор адбудаваны як базіліка ў 1738 – 1750 гг. у стылі віленскага барока па праекце Іагана Крыштофа Глаўбіца за сродкі ўніяцкага мітрапаліта і полацкага архіепіскапа Фларыяна Грабніцкага. З сярэдзіны XVIII ст. у Полацку ўзводзяцца мураваныя ансамблі шматлікіх каталіцкіх кляштароў і касцёлаў. Распачатае напрыканцы XVII ст. будаўніцтва мураванага езуіцкага калегіума з сярэдзіны XVIII ст. пачынае адлівацца ў формы завершанага мураванага комплекса.

Падчас першага падзелу Рэчы Паспалітай ў 1772 г. правабярэжная частка Полацка ўвайшла ў склад Расійскай Імперыі. У 1780 г. Полацк наведвае расійская імператрыца Кацярына II. Да яе прыезду было завершана будаўніцтва вялікага адміністрацыйнага будынка – дома генерал-губернатара на месцы полацкай ратушы. У Полацку Кацярына II спынілася ў доме полацкага губернатара Івана Рэбіндэра на вул. Вялікай. Адсюль адкрывалася панарама задзвінскага Полацка, які прыналежаў да Рэчы Паспалітай. За часам праўлення Кацярыны II падчас другога падзелу Рэчы Паспалітай ў 1793 г. левабярэжная частка Полацка ўвайшла ў склад Расійскай Імперыі. У 1772 г. Полацк становіцца адміністрацыйным цэнтрам правінцыі ў складзе Пскоўскай губерні, з 1776 г. – губернскім горадам, з 1778 па 1796 гг. Полацк з'яўляўся цэнтрам намесніцтва, пасля чагоператвараецца ў павятовы горад спачатку Беларускай, а пасля 1802 г. Віцебскай губерні.

Відавочна, што ў другой палове XVIII ст. у Полацку быў створаны значны сацыяльна-эканамічны патэнцыял для адраджэння яго былога значэння ў ВКЛ. Пасля далучэння Полацка да Расійскай імперыі ў планы новай улады ўваходзіла пераразмеркаванне акцэнтаў гарадской інфраструктуры ў адпаведнасці з горадабудаўнічымі традыцыямі расійскіх гарадоў. Аднак пасля 1796 г. стала праводзіцца мэтанакіраваная палітыка па ператварэнні Полацка ў павятовы горад. У 1820 г. пасля спынення васьмігадовага існавання езуіцкай акадэміі з правамі ўніверсітэта – першай вышэйшай навучальнай установы на землях сучаснай Беларусі і буйнейшай навуковай установы тагачаснай Еўропы – правінцыйны статус Полацка быў прадвырашаны на доўгія гады.

# 2. ГІСТАРЫЯГРАФІЯ І КРЫНІЦЫ

## 2.1. Гісторыя і гістарыяграфія археалагічнага вывучэння полацкіх пасадаў

Археалогія – гэта “гісторыя з рыдлёўкай”. Культурны пласт з’яўляецца невычэрпнай крыніцай ведаў, якую здольны прачытаць уважлівы даследчык. Пры значным недахопе пісьмовых крыніц магчымасці археалогіі з’яўляюцца практычна неабмежаванымі. Дзякуючы ёй, скарбніца ведаў гісторыі Полацка пастаянна папаўняецца. Сучасныя ўяўленні пра гістарычную тапаграфію Полацка – плён працы многіх пакаленняў археолагаў і гісторыкаў.

Сацыятапаграфічная структура Полацка IX – XVIII стст. – з’ява зменлівая, і ў розныя гістарычныя эпохі яна мела істотныя адрозныя характарыстыкі. Гістарычныя часткі Полацка складаюцца са старажытнага гарадзішча, паселішча-перадграддзя, паселішчаў за р. Палатой, Ніжняга і Верхняга замкаў, былых Вялікага, Запалоцкага і Крыўцовага пасадаў са слабодамі, Вострава, Экімані, а таксама Бельчыцкага Барысаглебскага і Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыроў (мал. 12).

Фарміраванне сучасных уяўленняў пра дынаміку станаўлення полацкіх пасадаў адбывалася на працягу значнага прамежку часу.

Гісторыя археалагічнага вывучэння Полацка пачынаецца з 1928 г., калі ў горадзе пачала працаваць экспедыцыя Інбелкульта пад кіраўніцтвам А. М. Ляўданскага. На той час уяўленне пра Полацк як пра горад са шматвяковай гісторыяй ніяк не было падмацавана археалагічнымі крыніцамі. Што сабой уяўляў Полацк у часы Рагвалода і Усяслава Брачыславіча? Якім стаў Полацк у гады змагання за яго цара Івана IV і караля Стэфана Баторыя? Адказ на гэтыя пытанні ўпершыню было наканавана адшукаць таленавітаму беларускаму археолагу А. М. Ляўданскаму.

А.М. Ляўданскі ўпершыню вызначыў месцапалажэнне старажытнага дзяцінца на полацкім гарадзішчы (мал. 13) і правёў археалагічную разведку на тэрыторыі Запалоцкага пасада (“старога горада”). На тэрыторыі Запалоцця была знойдзена кераміка, якая датавалася XI – XII стст. [Ляўданскі, 1930, с. 169]. Зроблена выснова аб тым, што Запалоцце разам з Верхнім замкам з’яўлялася паселішчам з XI, а магчыма і з X ст. Старажытныя паселішчы былі вызначаны на поўдзень ад гарадзішча ў нізоўях р. Палаты, а таксама на Ніжнім замку. А. М. Ляўданскі выказаў гіпотэзу, што вал Ніжняга замка насыпаны не раней за XV ст. [Ляўданскі, 1930, с. 172].

Працяг археалагічнага вывучэння Полацка пачынаецца ў пасляваенны час. Пачатак гэтай падзеі паклала маштабнае будаўніцтва, распачатае гарадскімі ўладамі ў 1957 г. ва ўсходняй частцы Верхняга замка, якое выклікала шырокі грамадскі рэзананс. Як вынік, у зоне будаўніцтва пачаліся выратавальныя раскопкі (мал. 14). У 1957 г. М. К. Каргер праводзіць археалагічныя даследаванні на месцы будаўніцтва аднаго з карпусоў гарадской бальніцы на Верхнім замку (катлаван меў плошчу каля 900 м$^2$, у ім разбіты раскоп 112 м$^2$). Гэтыя раскопкі на тэрыторыі *сучаснага* Верхняга замка фактычна адлюстроўвалі забудову і стратыграфію культурнага пласта *пасадскай* тэрыторыі, да якой яна і належала да пашырэння замкавай тэрыторыі (гл. ніжэй) [Дук, 2007 з; Тарасаў, 1998 б, с. 64; Тарасаў, 2002, с. 36].

Гісторыя археалагічнага даследавання на тэрыторыі *ўласна* Верхняга замка працягнулася ў 1958 г. і ў наступныя гады (мал. 15). Яна ставіла мэту найперш археалагічна-архітэктурнага даследавання помнікаў мураванага дойлідства.

У чэрвені – ліпені 1959 г. у Полацку пачала працаваць экспедыцыя АН БССР на чале з А. Р. Мітрафанавым. Яе мэтай было вывучэнне тапаграфіі старажытнага По-

лацка, этапаў яго забудовы, а таксама характарыстыка заняткаў і гандлёвых сувязяў насельніцтва горада.

У 1959 г. на тэрыторыі Верхняга замка і Вялікага пасада было закладзена 17 шурфоў з мэтай вызначэння стратыграфіі абодвух помнікаў [Шламков, спр. № 92]. Тэрыторыя даследавання ахоплівала ўсю пляцоўку Верхняга замка, у тым ліку яго ўсходнюю частку, якая надалей (1959 – 1963 гг.) стала месцам асноўных археалагічных раскопаў. Навуковым кансультантам з’яўляўся Л. Д. Побаль.

Акрамя кіраўніцтва раскопкамі ў г. Полацку, Л. Д. Побаль збіраў звесткі пра месцапалажэнне старажытных полацкіх манастыроў. Ім праведзены археалагічныя разведкі ў ваколіцах Полацка, вынікі якіх маюць неацэннае значэнне сёння, калі многія тэрыторыі ўжо забудаваны. На адной з ваколіц, якая мела назву “Пагіршчына” і была размешчана ўздоўж правага берага р. Палаты на поўнач ад Запалоцкага пасада, размяшчаліся ворыўныя палі (мал. 16). Тут сярод пад’ёмнага матэрыялу былі знойдзены рэшткі гаршкоў XV – XVI стст., а таксама кавалкі амфары XI ст. [Поболь, спр. № 112, с. 2]. Пазней, падчас археалагічных даследаванняў тут сапраўды будзе выяўлены культурны пласт з рэшткамі паселішча сярэдневяковага Полацка.

На Ніжнім замку Полацка ў раёне сучаснай вул. Стралецкай Л. Д. Побалем было закладзена 5 шурфоў на адлегласці 50 м ад Верхняга замка. Зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 1,5 м. У шурфе № 3 выяўлены кавалак шклянога пярсцёнка XI – XII стст., які дазволіў Л. Д. Побалю выказаць меркаванне пра размяшчэнне на Ніжнім замку *пасада* старажытнага Полацка. У астатніх шурфах зафіксавана кераміка, не ранейшая за XV ст.

Важнае адкрыццё было зроблена ва ўсходняй унутранай частцы г. зв. вала Івана Грознага. Прарэзка падножжа вала шурфом 2×3 м дазволіла вызначыць, што пад двухмятровым пластом гліны, з якой складаецца вал, размешчаны пласт зямлі магутнасцю 1 м, у якім зафіксаваны драўляныя канструкцыі. У пласце гліны знойдзена шыфернае праселка, жалезнае крэсіва і іншыя рэчы, а ў пласце зямлі пад валам знойдзена венца керамічнага начыння, старэйшага за XV ст. [Поболь, спр. № 112, с. 8]. Л. Д. Побаль пацвердзіў думку А. М. Ляўданскага аб тым, што вал Ніжняга замка насыпаны не раней за XV ст.

Археалагічныя разведкі былі праведзены Л. Д. Побалем на Востраве (левы бераг р. Дзвіны насупраць Верхняга замка) і мясцовасці, якая ў старажылаў мела назву “Французская батарэя” ці проста “Батарэя”.

Л. Д. Побалем было закладзена 5 шурфоў з мэтай даследавання рэштკаў манастыра Іаана Прадцечы, які згадваецца ў пісьмовых крыніцах XV – XVI стст. Шурфы былі размешчаны ва ўсходняй частцы Вострава, якая не затапляецца падчас вяснавых паводкаў (мал. 17). Зафіксавана магутнасць культурнага пласта 1,5 м. У ніжняй перадмацерыковай частцы раскапаны шкілетныя рэшткі людзей, якія былі пакладзены галавой на захад.

На адлегласці 450 м на захад ад месца шурфоўкі была даследавана мясцовасць пад назвай “Французская батарэя” ці проста “Батарэя”. Гэтая мясцовасць размешчана на левым беразе старога русла р. Дзвіны, якое ўтварала Востраў. “Батарэя” размешчана на правым высокім беразе ручая Свінец. Са слоў старажылаў, каля “Батарэі” ў даваенны час былі курганы, якія да 1959 г. былі цалкам разараны [Поболь, спр. № 112, с. 12]. У справаздачы ўтрымліваецца каштоўнае апісанне гэтага помніка. “Батарэя” ўяўляла сабой пляцоўку 50 × 60 м (выцягнута па восі ўсход-захад), якая з паўднёвага і заходняга боку была акружана дугападобным валам, з усходу амывалася безыменнай рэчкай, з паўночнага боку – Дзвіной. Раскопак на помніку не праводзілася.

На тэрыторыі былога Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра Л. Д. Побалем была зроблена спроба адшукаць сляды селішчаў, выяўленых А. М. Ляўданскім. На агародах у раёне размяшчэння бельчыцкіх храмаў XII ст. быў сабраны нешматлікі пад'ёмны матэрыял, у т. л. манета XVI ст.

На ўсход ад Чорнага ручая і Верхняга замка ў раёне тагачаснай СШ № 8 (зараз – другі Замкавы завулак) праведзена шурфоўка з мэтай вызначэння часу засялення дадзенай тэрыторыі. Рэчаў, ранейшых за XVII ст., знойдзена не было.

На адлегласці каля 450 м на паўночны ўсход ад будынкаў былога кадэцкага корпуса (езуіцкага калегіума) гарадскімі ўладамі ў тым жа 1959 г. было распачата будаўніцтва інтэрната. Па вул. Савецкай быў вырыты катлаван памерам 38×18 м (сёння гэта будынак інтэрната па пр. Ф. Скарыны, 3). На месцы будаўніцтва былі закладзены шурфы, пасля чаго праведзена даследаванне траншэй пад падмурак. Інфармацыя пра раскопкі змешчана ў палявым дзённіку В. Е. Шламкова, які захоўваецца ў архіве Інстытута гісторыі НАН Беларусі (справаздача Л. Д. Побаля ўтрымлівае кароткія звесткі пра вынікі вывучэння тэрыторыі). Гэтыя даследаванні раней не згадваліся ў навуковых публікацыях, аднак іх вынікі ўяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць.

Глыбіня культурнага пласта ў зоне будаўніцтва складала каля 3,6 м [Шламков, спр. № 92, с. 19 – 57]. На глыбіні каля 3 м было зафіксавана шмат драўляных канструкцый, прапласткі гною. Мацярык складаўся з вільготнага дробназярністага пяску-“плывуна” шэрага колеру. Былі выяўлены 2 зрубныя пабудовы, памерамі 1,6×1,6 м, зробленыя пры дапамозе сякеры з бярвенняў дыяметрам 0,15 – 0,2 м. Адзін зруб меў падлогу з дошак. Шчыльнасць забудовы была вялікай, паколькі ў дзённіку адзначаецца наяўнасць у траншэі “аналагічных пабудоў”. Нагляд працягваўся з 29.06 да 01.07.1959 г., пасля чаго быў прыпынены А. Р. Мітрафанавым, які лічыў, што “эти работы дают очень мало пользы, т. к. находки все поздние” [Шламков, спр. № 92, с. 19 – 57]. Большасць апісаных у дзённіку рэчаў датуюцца XVII – XIX стст., сярод іх паліваная кафля, фарфоравы посуд, паліваная і непаліваная кераміка, фрагменты люлек, нешматлікія жалезныя вырабы. Класіфікацыя керамікі зроблена па катэгорыях “паліўная / непаліўная”, таму вызначыць колькасць венцаў ранніх форм немагчыма.

Актыўнае будаўніцтва карпусоў гарадской бальніцы вымушала праводзіць выратавальныя археалагічныя раскопкі на Верхнім замку. Тут у 1959 г. А. Р. Мітрафанавым было закладзена 8 шурфоў. На большасці з іх выяўлена невялікая глыбіня культурнага пласта, мацярык зафіксаваны на ўзроўні “восьмага штыка” (1,6 м). Толькі ва ўсходняй частцы Верхняга замка магутнасць культурнага пласта дасягала 2,4 м (шурфы 5 і 6). У адрозненне ад заходняй часткі Замчышча, тут быў выяўлены вялікі культурны пласт з прапласткамі дрэва і драўлянымі канструкцыямі.

10 чэрвеня А. Р. Мітрафанавым было прынята рашэнне закласці раскоп II плошчай 320 м$^2$ у паўднёва-ўсходняй частцы Верхняга замка (раскоп I плошчай 400 м$^2$ быў разбіты на захад ад заходняй апсіды Верхняга замка не на пасадскай тэрыторыі [Тарасаў, 1992, с. 16]). Выбар месца раскопа быў абумоўлены тым, што культурны пласт тут меў значную магутнасць [Митрофанов, спр. № 89]. Закладзены раскоп распрацоўваўся ў 1959 – 1960 гг., яго працягам з'яўляўся раскоп III (1961 – 1962 гг., кіраўнік В. Р. Тарасенка), плошча якога складала таксама 320 м$^2$. Абодва раскопы атрымалі назву “ўсходні раскоп”. У 1967 г. на адлегласці каля 80 м на поўнач ад усходняга раскопа Г.В. Штыхавым быў разбіты раскоп плошчай 162 м$^2$. Магутнасць культурнага пласта ў раскопах вагалася ад 4,3 да 5,5 м.

Атрыманыя падчас раскопак археалагічныя даныя патрабавалі належнага асэнсавання. Першая рэканструкцыя тапаграфічнай структуры полацкіх пасадаў і сацы-

яльнага складу насельніцтва Полацка ў IX – XIII стст. па даных пісьмовых і археалагічных крыніц была прадстаўлена ў манаграфічных працах Л. В. Аляксеева [Алексеев, 1966; Алексеев, 2006, кн. 1, рис. 22]. Л. В. Аляксееў зрабіў грунтоўны аналіз пісьмовых крыніц, аднак вынікі археалагічных даследаванняў на момант падрыхтоўкі працы да друку былі яшчэ вельмі абмежаваныя. Так, напрыклад, археалагічныя крыніцы пра развіццё Запалоцкага пасада практычна адсутнічалі, тое ж тычылася і Вялікага пасада. Па гэтай прычыне многія палажэнні вызначаліся гіпатэтычна, напрыклад, вакольны горад памылкова атаясамліваўся з Ніжнім замкам, Запалоцкі пасад лічыўся малазаселеным у XI – XIII стст. (мал. 18) [Алексеев, 1966, с. 136 – 137].

Увядзенне ў навуковае абарачэнне вынікаў палявых даследаванняў 1950 – 1960 гг. было ўпершыню зроблена Г. В. Штыхавым [Штыхов, 1975, с. 37 – 55]. Асноўная колькасць археалагічных даных была атрымана пад час раскопак усходняй часткі Верхняга замка. Усе яны маюць прамое дачыненне да характарыстыкі пасадскай тэрыторыі, паколькі асноўная колькасць будаўнічых гарызонтаў “усходняга раскопа” ўтварылася ў XI – XIII стст., г. зн. у той час, калі гэтая тэрыторыя яшчэ не ўваходзіла ў склад Верхняга замка.

З 1961 па 1964 гг. і ў 1967 – 1968 гг. археалагічныя даследаванні ў Полацку праводзіліся Г. В. Штыхавым [Штыхов, спр. № 129, с. 2 – 9; Штыхов, спр. № 216, с. 1 – 4; Штыхов, спр. № 245, с. 18 – 19; Штыхов, спр. № 315, с. 18 – 29].

У 1961 г. недалёка ад вусця р. Палаты Г. В. Штыхавым было раскапана 36 м культурнага пласта пры магутнасці 1,8 м. Пласт папсаваны познімі пахаваннямі, прасочваецца пласт пажарышча XVI ст. Выяўлены кавалкі кругавой керамікі X – XIII стст. [Штыхаў, 2009, с. 355 – 356].

У 1962 г. быў праведзены археалагічны нагляд за пракладаннем траншэй пад закладку сада на тэрыторыі цэнтральнай і паўднёвай частак Ніжняга замка [Штыхов, спр. № 129, с. 2]. Вызначана магутнасць культурнага пласта да 1 м. Пласт не ўтрымліваў керамікі, ранейшай за XVI ст. Аднак кераміка X – XIII стст. была выяўлена на г. зв. стрэлцы Ніжняга замка ў 30 м ад р. Палаты разам з развалам плінфы са слядамі рошчыны [Штыхов, спр. № 129, с. 9]. У гэтым жа годзе былі праведзены археалагічныя раскопкі на старажытным полацкім гарадзішчы, дзе быў выяўлены культурны пласт з ляпной керамікай.

Фрагменты сценак ляпной керамікі і раннеганчарныя венцы гаршкоў былі знойдзены падчас шурфоўкі мысаў правага берага р. Палаты насупраць гарадзішча [Штыхов, спр. № 129, с. 6]. У перадмацерыковым пласце пажарышча зафіксавана гладкасценная ляпная кераміка з адагнутым вонкі венцам. Агульная магутнасць пласта складала 1,3 м. Зроблена выснова, што тут з часоў ранняга жалезнага веку размяшчалася паселішча.

У тым жа годзе быў даследаваны катлаван на месцы будаўніцтва дзіцячага садка (сёння ён размешчаны па вул. Ф. Скарыны). Гэты катлаван размяшчаўся ў паўночнай частцы Вялікага пасада на адлегласці каля 0,5 км ад старажытнага полацкага гарадзішча [Штыхов, спр. № 129, с. 7]. На месцы катлавана магутнасць культурных напластаванняў складала 2,8 м. На глыбіні 1,9 м залягаў пласт з матэрыяламі “дамангольскага часу”. Былі знойдзены венцы керамічных гаршкоў XI – XII стст., арнаментаваны касцяны грэбень, праселкі з ружовага сланца. Паводле Г. В. Штыхава, абодва берагі р. Палаты былі заселены на працягу X – XIII стст. паласой шырынёй 200 – 250 м [Штыхов, спр. № 129, с. 8]. Пры гэтым асабліва падкрэсліваўся той факт, што матэрыялаў “дамангольскага часу” ў наглядзе за будаўнічым катлаванам у 1959 г. па вул. Савецкай знойдзена не было.

У 1962 г. Г. В. Штыхаў даследаваў таксама культурны пласт пад цаглянай грабніцай непадалёк ад г. зв. храма на рове (царквы Ражаства Хрыстова). Гэты пласт утрымліваў кераміку "дамангольскага часу" [Штыхов, 1975, рис. 16: 20]. Сабраны пад'ёмны матэрыял на левым беразе р. Дзвіны ў раёне "Батарэі" – гэта была кераміка, не ранейшая за XVI ст.

У 1963 г. праводзіўся археалагічны нагляд за пракладаннем дзвюх будаўнічых траншэй. Адна з траншэй перасякала культурны пласт уздоўж правага берага р. Дзвіны ад Верхняга замка на ўсход да маста праз Дзвіну, другая пракладалася ад былога кадэцкага корпуса да праспекта Ф. Скарыны (былы праспект К. Маркса). Напластаванні старажытнарускага часу ў першай траншэі былі зафіксаваны толькі на адлегласці каля 500 м ад Верхняга замка. Далей заўважана толькі падсыпка берага р. Дзвіны цагляным друзам і будаўнічым смеццем [Штыхов, спр. № 216, с. 1]. Магутнасць культурнага пласта ў другой траншэі складала 1,5 м каля будынка былога кадэцкага корпуса і павялічвалася ў бок плошчы Леніна (цяпер плошча Свабоды) да 2 – 3 м [Штыхов, спр. № 216, с. 2]. Насупраць усходняй сцяны Мікалаеўскага сабора (узарваны ў 1964 г.) на адлегласці 50 – 70 м быў зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 3,5 м. Знойдзены кавалкі кафлі, паліваны посуд. Канстатавана поўная адсутнасць напластаванняў, ранейшых за XVII ст.

У Запалоцці падчас земляных работ на адлегласці каля 600 м ад Верхняга замка была знойдзена жалезная сякера X – XI стст. [Штыхов, 1975, рис. 9: 3] і дзве бронзавыя прывескі гэтага ж часу [Штыхов, спр. № 216, с. 2].

На Верхнім замку Г. В. Штыхавым было зроблена некалькі шурфоў. У раёне Машны (паўночна-заходні выступ да р. Палаты) зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 0,8 м. Знойдзена кераміка "дамангольскага часу". На адлегласці каля 60 м на паўночны ўсход ад апсіды Сафійскага сабора культурны пласт меў магутнасць 1,6 м. У ім знойдзена кераміка старажытнарускага часу і касцяная шахматная фігура [Штыхов, спр. № 216, с. 3]. У выніку шурфоўкі была пацверджана адсутнасць вялікага культурнага пласта на тэрыторыі Верхняга замка па-за межамі яго ўсходняй часткі.

На ўсходняй частцы Вострава на беразе р. Дзвіны быў закладзены шурф. Магутнасць культурнага пласта ("шэрай зямлі") складала 1,4 м. У пласце знойдзена кераміка XIV – XV стст. [Штыхов, спр. № 216, с. 4].

У 1964 г. былі закладзены шурфы ў цэнтральнай частцы Ніжняга замка. Магутнасць пласта склала 1,5 м. Ніжняя яго частка з глыбіні 1 м утрымлівала кераміку і пацеркі "дамангольскага часу", датаваныя XIII ст. [Штыхов, спр. № 245, с. 18 – 19]. Сярод знойдзеных венцаў гаршкоў ёсць выразныя формы, характэрныя для раннекругавой керамікі X – XI стст. (мал. 19: 5, 6, 8). Такім чынам, з'явіўся дадатковы аргумент на карысць меркавання Л. Д. Побаля аб размяшчэнні на Ніжнім замку старажытнага пасада.

Зроблены археалагічны нагляд за пракладаннем будаўнічай траншэі па вул. Камуністычнай (300 м на поўдзень ад воданапорнай вежы). У раёне будынка па вул. Камуністычнай, 11 быў зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 2,85 м. Знойдзеная кераміка датавана XI – XIII стст. Зроблена выснова аб існаванні ў XI – XIII стст. на гэтай частцы горада пасадскай тэрыторыі. У тым жа годзе працягнуты раскопкі на правым беразе р. Палаты ў раёне Чырвонага маста [Штыхов, спр. № 315, с. 18]. Тут, побач з шурфамі 1962 г., быў разбіты раскоп, у якім адкрыты культурныя напластаванні XI – XIII стст. Былі атрыманы доказы, што гэтая частка горада ў выгіне правага берага р. Палаты ўваходзіла ў межы старажытнай пасадскай тэрыторыі (мал. 20; 21).

У 1968 г. праводзіўся археалагічны нагляд за пракладаннем траншэі цеплатрасы ў раёне вул. Энгельса (цэнтральная частка Вялікага пасада). Культурны пласт дасягаў

магутнасці 2 м. У ніжнім чорным перадмацерыковым пласце знойдзена кераміка, якая датавалася XI – XII стст. [Штыхов, спр. № 315, с. 29].

Сістэматызацыя назапашанага ў 1920-я – 1960-я гг. археалагічнага матэрыялу прадстаўлена Г. В. Штыхавым у першай фундаментальнай працы па гісторыі Полацка [Штыхов, 1975]. Было вызначана, што старажытным дзяцінцам Полацка з'яўлялася гарадзішча IX ст. На правым беразе р. Палаты каля гарадзішча было размешчана паселішча-перадграддзе плошчай 0,25 га. Верхні замак пачаў засяляцца напрыканцы X ст. [Штыхов, спр. № 375, с. 9; Штыхов, спр. № 349, с. 54]. Асноўным матэрыялам для такога датавання з'яўляецца раннекругавая кераміка з раскопаў II – IV ст., візантыйская манета і куфіцкі дырхам, пацеркі-лімонкі, аднабаковыя касцяныя грабяні. У той жа час адбывалася станаўленне пасадскай структуры Полацка (Запалоцкі і Вялікі пасады). У першай палове XI ст. Верхні замак становіцца адміністрацыйным цэнтрам горада. Г. В. Штыхавым праведзены аналіз развіцця рамёстваў і гандлёвых сувязяў насельніцтва старажытнага Полацка.

Такім чынам, у выніку палявых археалагічных даследаванняў 1928, 1957, 1959 – 1964 гг. і 1967 – 1968 гг. былі атрыманы першыя даныя аб развіцці тапаграфічнай структуры Полацка, узроўні развіцця гарадскіх рамёстваў і гандлёвых сувязяў пасадскага насельніцтва. Маштабы археалагічных раскопак тых часоў былі вельмі значнымі (усяго вывучана больш за 964 м плошчы[1]). На жаль, большасць справаздач па выніках раскопак утрымлівае толькі агульныя звесткі пра характар культурнага пласта і колькасць знаходак у ім. Графічнае суправаджэнне справаздач (планы раскопаў, гарызантальная і вертыкальная стратыграфія, планіграфія і гарызонты размяшчэння асобных знаходак) не заўсёды адлюстравана дастаткова поўна.

Адносна тапаграфічнага развіцця пасада было вызначана, што «посад был по меньшей мере в трёх местах, причём главная его часть (великий посад) занимала пространство между Полотой и Западной Двиной, включая Нижний замок» [Штыхов, 1972, с. 76]. Г. В. Штыхаў выказаў меркаванне аб "канчанскай" структуры Полацка XI – XIII стст., агульныя памеры гарадской тэрыторыі, на думку даследчыка, складалі не менш за 80 га, насельніцтва – каля 8 тыс. чал. [Штыхов, 1978, с. 123].

У 1970-я гг. увага археолагаў была засяроджана пераважна на вывучэнні помнікаў полацкай школы дойлідства на Верхнім і Ніжнім замках і на тэрыторыі Бельчыцкага і Спаса-Ефрасіннеўскага манастыроў. Падчас гэтых даследаванняў вывучэнне абмяжоўвалася фіксацыяй толькі архітэктурных аб'ектаў, апісанне культурнага пласта ў справаздачах, за рэдкім выключэннем, адсутнічае.

Так, падчас археалагічнай разведкі П. А. Рапапорта ў Экімані ў 1976 г. знойдзены фрагменты цэглы, якія даследчык вызначыў як слабаабпаленую плінфу і на падставе гэтага выказаў меркаванне аб размяшчэнні ў Экімані печаў для абпалу плінфы [Раппопорт, спр. № 527, с. 24 – 25].

У 1976 – 1977 гг. П. А. Рапапортам быў даследаваны комплекс княжацкага церама на Верхнім замку. Церам быў узведзены пасля таго, як утварыўся культурны пласт магутнасцю больш за 1 м са знаходкамі XII – XIII стст. [Раппопорт, спр. № 527; Раппопорт, спр. № 574]. Такі значны па магутнасці культурны пласт азначае вялікую інтэнсіўнасць жыцця на дадзеным тэрыторыі, што дазваляе вызначыць яе пасадскі характар у той час.

[1] Памеры многіх шурфоў у справаздачах не пазначаліся, што не дазваляе вызначыць іх дакладную плошчу.

Наступны этап вывучэння пасадскай тэрыторыі прыпадае на 1980-я –1990-я гг.

У 1979 – 1980 гг. Г. В. Штыхаў правёў вялікія па плошчы і навуковай значнасці раскопкі старажытнага паселішча каля Чырвонага маста і ў Запалоцці. У 1979 г. было ўскрыта 140 м$^2$, у 1980 – 136 м$^2$. Знойдзены пласт з ляпной керамікай і рэчамі, датаванымі Г. В. Штыхавым VIII – X стст. [Штыхов, спр. № 635; Штыхов, спр № 691]. Пацверджана думка, што Запалоцкі пасад пачаў засяляцца з канца X ст.

У Запалоцці ў 1980 г. былі праведзены раскопкі на перакрыжаванні вуліц Краснова і Міхайлаўскага завулка (148 м$^2$), канстатавана наяўнасць сучасных перакопаў. На перакрыжаванні вуліц Краснова і Я. Коласа (раскоп 2, 104 м$^2$) глыбіня культурнага пласта склала каля 0,8 м. Працэнтнае размеркаванне керамікі з пласта выглядае наступным чынам: кераміка X ст. – 3 %, XI ст. – 4 %, XII – XIII стст. – 30 %, XIV – XVI стст. – 58 % (5 % керамікі не вызначана) [Штыхов, спр. № 691, с. 4]. Пацверджана думка, што Запалоцкі пасад пачаў засяляцца з канца X ст.

У 1986 г. у Полацку пачынаюць працаваць экспедыцыі Інстытута гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам С. В. Тарасава. На працягу 1986 – 1993 гг. раскопкі праводзіліся штогадова. Асноўнай мэтай экспедыцый з’яўлялася рэканструкцыя тапаграфіі Полацка IX – XVII стст. і вызначэнне стану захаванасці абарончых збудаванняў гарадскіх пасадаў і Верхняга замка.

Раскопкі былі распачаты ў Запалоцці [Тарасов, спр. № 953]. На паўночна-заходняй ускраіне сучаснага Запалоцця, на мяжы забудовы і ворыўных палей, захаваліся сляды старажытных абарончых умацаванняў. Тут яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны праходзіў глыбокі роў, які, па словах мясцовых жыхароў, быў “у рост каня”. Гэты роў быў амаль цалкам засыпаны падчас добраўпарадкавання тэрыторыі ў пасляваенны час [Тарасов, спр. № 953, с. 4]. Усяго ў 1986 г. былі зроблены два раскопы: адзін каля раскопа Г. В. Штыхава 1980 г. (раскоп I, 60 м$^2$), другі фактычна з’яўляўся прарэзкай старажытнага рова Запалоцця (раскоп II, 170 м$^2$). Зроблена выснова аб трох этапах у развіцці абарончых збудаванняў (XI – XII стст., XIII – пач. XIV стст. і XIV – XVI стст.) [Тарасаў, 1998 б, с. 60].

У 1986 г. была праведзена шурфоўка ў той жа паўночна-заходняй частцы Запалоцця з мэтай вызначэння мяжы пасялення. Было высветлена, што ў XII – XIII стст. пасяленні палачан не абмяжоўваліся ўмацаваннямі, але і размяшчаліся па-за яго сценамі. Рэшткі культурнага пласта старажытнарускага часу былі выяўлены на адлегласці 0,5 км на захад ад мяжы сучаснай забудовы ў т. зв. урочышчы “Копанкі”. Выказана думка аб наяўнасці тут сельскагаспадарчых селішчаў-прадмесцяў Полацка. На мысах правага берага р. Палаты насупраць гарадзішча і Верхняга замка быў выяўлены культурны пласт магутнасцю 1,1 м з керамікай XI – XIII стст. Аналагічны культурны пласт зафіксаваны на поўнач ад былога рэчышча р. Палаты (сучасная назва старыцы – “Палацішча”), тут знойдзены пад’ёмны матэрыял – кераміка і жалезныя рэчы XII – XIII стст. [Тарасов, спр. № 953, с. 13, 18, 21].

У тым жа годзе пачалося планамернае вывучэнне Ніжняга замка на тэрыторыі стадыёна “Спартак”. У раскопе III (60 м$^2$) быў адкрыты пласт з ляпной керамікай, які, на думку С. В. Тарасава, належаў “селішчу-пасаду” старажытнага Полацка VIII – IX стст. [Тарасов, спр. № 953, с. 18]. Праведзена шурфоўка з мэтай вызначэння плошчы адкрытага паселішча. У выніку была вызначана новая дыспрапорцыя плошчаў старажытных гарадзішча і паселішча: адпаведна замест 1: 0,25 – 1: 6.

Праведзена даследаванне культурнага пласта траншэі пад вадаправод па вул. Я. Коласа на адлегласці каля 100 м ад вул. Краснова ў Запалоцці. Мацярык зафіксаваны

на глыбіні каля 0,55 – 1,15 м, месцамі – адразу пад дзірваном [Тарасов, спр. № 953, с. 19]. Знойдзена кераміка XII – XVIII стст.

У выніку археалагічнага нагляду за будаўнічымі работамі на тэрыторыі Вялікага пасада быў выяўлены культурны пласт з керамікай XI – XIII стст. у раёне Доміка Пятра I, на перакрыжаванні вул. Леніна (сучасная Ніжнепакроўская) з вуліцай Свярдлова [Тарасов, спр. № 953, с. 20].

У 1987 г. былі распачаты маштабныя раскопкі па вывучэнні культурнага пласта на тэрыторыі пл. Свабоды. Раскопкі насілі выратавальны характар і размяшчаліся ў зоне, адведзенай пад будаўніцтва шматпавярховага жылога дома. Раскопкі працягваліся ў 1988 г. Агульная плошча раскопа склала 1100 $м^2$. У выніку былі атрыманы каштоўныя даныя па характару забудовы гэтай часткі пасада на працягу XI – XVIII стст., адкрыты рэшткі старажытнай пасадскай сцяны, сядзіба ювеліра XII ст. Сабрана вялікая калекцыя рэчавага матэрыялу [Тарасов, спр. № 1014; Тарасов, спр. № 1084].

Археалагічны нагляд праводзіўся ў раёне перакрыжавання вул. Сака і Ванцэцці з вул. Энгельса, на поўнач ад гасцініцы "Дзвіна" (пр. Ф. Скарыны, 13) [Тарасов, спр. № 1014, с. 15 – 16].

Праводзіўся нагляд за пракладаннем будаўнічай траншэі ў раёне перакрыжавання вул. Сака і Ванцэцці з вул. Энгельса [Тарасов, спр. № 1014, с. 15]. Тут быў выяўлены магутны – да 3,5 м – культурны пласт з матэрыяламі XII – XVIII стст.

На поўнач ад гасцініцы "Дзвіна" (пр. Ф. Скарыны, 13) праводзіўся археалагічны нагляд за пракладаннем траншэі. Культурны пласт меў магутнасць 2,2 м. Зафіксаваны пераважна рэчы XVI – XVIII стст. [Тарасов, спр. № 1014, с. 16]. У перадмацерыковым пласце знойдзена венца гаршка, характэрнае для XII – XIII стст. Зроблена выснова, што пачатак засялення ўсходняй часткі Вялікага пасада адпавядае гэтаму часу.

Археалагічны нагляд за пракладаннем траншэі ў раёне плошчы Ф. Скарыны (ад праспекта Ф. Скарыны ніжэй па схіле да р. Дзвіны) вызначыў адсутнасць культурнага пласта, ранейшага за XVIII стст. Такім чынам, упершыню археалагічна была акрэслена ўсходняя мяжа Вялікага пасада, якая пралягала ў раёне сучаснай плошчы Ф. Скарыны.

На правым беразе р. Палаты на паўночны ўсход ад Чырвонага маста ў будаўнічых траншэях быў зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 1,8 – 1,9 м. У пласце знойдзена кераміка XI – XII стст., атрыманы звесткі аб размяшчэнні сядзібаў палачан на перыферыйнай тэрыторыі, значна аддаленай ад гарадзішча і размежаванай з ім ракой [Тарасов, спр. № 1014, с. 18].

Важныя даныя па вывучэнні тапаграфіі старажытнага Полацка далі вынікі шурфоўкі, праведзенай на знешнім баку ад г. зв. вала Івана Грознага – паміж валам і вул. Стралецкай (паўднёвая частка Ніжняга замка). Тут зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 3,8 м. Плошча шурфа – 4 $м^2$. У ніжняй частцы гэтага пласта знойдзены раннеганчарны посуд XI ст. і 2 сценкі ляпнога гаршка [Тарасов, спр. № 1014, с. 19]. Пры гэтым на вертыкальнай стратыграфіі напластаванняў быў выразна вылучаны гарызонт залягання падножжа вала, які размяшчаўся вышэй за напластаванні XIII ст. Ніжні пласт шурфа нагадваў рачныя адкладанні (чаргаванне праплastак пяску і зямлі). На думку С. В. Тарасава, у старажытнасці тут працякаў ручай, які пачынаўся ад г. зв. "Паповага балота" на Верхнім замку і з'яўляўся натуральным прыродным маркерам паўднёвай мяжы пачатковага паселішча.

Аналагічныя вынікі былі атрыманы ў 1991 г. у шурфе каля заходняй часткі вала, побач з сучасным праездам на Ніжні замак [Тарасаў, спр. № 1371, с. 13]. Агульная магутнасць культурнага пласта склала каля 3,4 м. У перадмацерыковым пласце знойдзены

кавалкі ляпнога посуду, загладжанага на ганчарным крузе, і крамянёвы адшчэп. Ускрыты магутны культурны пласт, які датуецца XI – XVI стст., г. зн. ён утварыўся да часу ўзвядзення насыпу вала 1563 г.

У выніку шурфоўкі ва ўсходняй частцы Вострава была знойдзена кераміка XI ст., якая дазваляе меркаваць пра час засялення гэтай левабярэжнай тэрыторыі Полацка.

У 1987 г. праводзіўся археалагічны нагляд за катлаванам у зоне будаўніцтва аўтамабільнага маста праз р. Дзвіну ў раёне Экімані. Знойдзены кавалкі керамікі, якія датуюцца не пазней за XII ст., аднак асноўная колькасць керамікі датуецца XV – XVIII стст. Кераміка XI – XIII стст. у вялікай колькасці была знойдзена як пад'ёмны матэрыял на ворыўных палях паміж тагачаснай Экіманню і Вострававам, на поўдзень ад кургана Бессмяротнасці. Аднак вызначыць магутнасць і характар культурнага пласта Экіманскага пасада ў той час не ўдалося [Тарасов, спр. № 1014, с. 21].

Даследаванне будаўнічай траншэі на перакрыжаванні вул. Замкавай і Горкава (сёння – другі Замкавы завулак) у 1988 г. дазволіла выявіць магутныя чатырохмятровыя культурныя напластаванні [Тарасов, спр. № 1084, с. 19]. У перадмацерыковым пласце знойдзены раннекругавы посуд і посуд, загладжаны на ганчарным крузе. Траншэя пракладалася ад перакрыжавання згаданых вуліц і далей на ўсход уздоўж вул. Замкавай. Ніжні пласт меў магутнасць 0,2 м. Ляпной керамікі зафіксавана не было, аднак трапляліся сценкі архаічнага начыння X – XI стст., загладжанага на ганчарным крузе. Пласт XII – XIII стст. меў магутнасць каля 0,5 м. Паказальна, што магутнасць культурнага пласта паменшылася толькі ў раёне былога Мікалаеўскага сабора, тут яна складала каля 2,5 м. Назіранні за пракладаннем траншэі ў раёне дома № 3 па вул. Ф. Скарыны дазволілі выявіць кераміку XII ст. Агульная магутнасць напластаванняў у гэтай цэнтральнай частцы Вялікага пасада склала каля 2,5 м [Тарасов, спр. № 1084, с. 21].

У 1989 – 1990 гг. былі праведзены раскопкі на тэрыторыі Ніжняга замка (раскоп плошчай 400 м$^2$ і 8,7 м$^2$). У выніку былі атрыманы доказы, што тэрыторыя Ніжняга замка з'яўлялася прадцечай гарадскога пасада ў VIII – X стст. [Тарасов, спр. № 1165, с. 12; Тарасаў, спр. № 1205, с. 3]. Пры гэтым якіх-небудзь слядоў абарончых умацаванняў на г. зв. стрэлцы Ніжняга замка ў раёне дома № 23 па вул. Горкага (сёння – вул. Стралецкая) знойдзена не было. У выніку раскопак былі адкрыты сляды дзейнасці раменікаў, у першую чаргу ювеліраў, вызначаны характар забудовы ранняга этапу існавання пасада, прасочана стратыграфія пласта.

Раскоп плошчай 80 м$^2$ быў закладзены каля ўсходняга схілу пагорка да г. зв. Чорнага ручая, непадалёк ад храма Ражаства Хрыстова XII ст. Мэтай раскопак была верыфікацыя гіпотэзы аб размяшчэнні ў дадзенай частцы колішняга Вялікага пасада старажытнай гандлёвай плошчы [Тарасаў, спр. № 1205, с. 5 – 6]. Быў адкрыты стратыграфічна аднародны культурны пласт магутнасцю 1,6 м, які ўтварыўся не раней за XVI – XVII стст. У гэтым пласце былі знойдзены асобныя фрагменты керамікі XII ст. Аўтар раскопак не прыводзіць пэўных высноў адносна размяшчэння плошчы. Аднак адсутнасць стратыграфічнага пласта, ранейшага за XVI ст., на беразе Чорнага ручая сведчыць пра магчымасць яе размяшчэння менавіта тут. У раёне плошчы, якая прадугледжвала незабудаванае месца для грамадскіх сходаў, інтэнсіўнасць будаўнічай дзейнасці, а адпаведна, і хуткасць утварэння культурных напластаванняў, не магла быць вялікай.

У 1991 г. былі праведзены раскопкі на будаўнічай тэрыторыі насупраць дамоў №№ 4, 6 па вул. Камуністычнай (былы Вялікі пасад) [Тарасаў, спр. № 1371, с. 6]. Былі закладзены два шурфы памерамі 2×2 м. Агульная магутнасць культурных напласта-

ваняў склала каля 2,2 м. Ніжні пласт магутнасцю 0,3 м утрымліваў кераміку XI – XIII стст. Пласты, якія залягалі вышэй за яго, утварыліся ў XVI – XIX стст.

У тым жа годзе былі распачаты работы па даследаванні паўночнай часткі абарончага рова Вялікага пасада XVI – XVII стст. Каля воданапорнай вежы (вул. Ф. Скарыны) быў закладзены шурф 2×2 м, агульная магутнасць пласта склала 1,2 м. У ніжняй частцы пласта былі знойдзены кавалкі посуду XI – XII стст. Зафіксавана гаспадарчая яма з развалам печы-каменкі. Раскопкі былі працягнуты ў 1992 г. на плошчы 80 м$^2$ [Тарасаў, спр. № 1422, с. 3 – 16]. Магутнасць культурнага пласта склала ад 1 да 2 м. Перадмацерыковы пласт утварыўся ў XI ст., але быў значна папсаваны падчас узвядзення абарончых умацаванняў у XVII ст. У раскоп трапіла частка абарончай сцяны пасада разам з фрагментам Кутняй (Наўгольнай) вежы, што ўпершыню дазволіла ў агульных рысах вызначыць характар абарончай сцяны Вялікага пасада XVII ст.

Вялікую цікавасць уяўляюць вынікі раскопак на г. зв. Батарэі на левым беразе р. Дзвіны. Помнік упершыню апісаны Л. Д. Побалем у 1959 г., аднак археалагічныя раскопкі на ім былі праведзены менавіта ў 1992 г. [Тарасаў, спр. № 1422, с. 19 – 20]. Паводле стану на 1992 г. большая частка помніка была занята могілкамі. З заходняга і паўднёвага боку захаваўся вал вышынёй 1,5 м. Была зроблена прарэзка вала (даўжыня 7,5 м). Мацярык зафіксаваны на глыбіні 1,3 м ад паверхні вала. Была раскапана глінабітная аснова печы XVII ст. з багатым наборам кафлі. Зроблена выснова аб узвядзенні абарончых умацаванняў Батарэі не раней за XVI – XVII стст.

У 1993 г. была праведзена шурфоўка на Ніжнім замку Полацка па вул. Стралецкай у раёне дамоў №№ 14, 15 (побач з раскопам 1989 – 1990 гг.) [Тарасаў, спр. № 1496, с. 14]. Раскоп каля дома № 8 па вул. Стралецкай быў размешчаны на беразе Чорнага ручая, насупраць Верхняга замка. Пачатковая плошча раскопа складала 180 м$^2$, аднак выхад на мацярык зроблены ў некалькіх шурфах на месцы раскопа. Выяўлены культурны пласт XIX – XX стст., які фактычна ўяўляў сабой развал будаўнічых канструкцый некалі існаваўшага дома. Работы былі спынены.

Такім чынам, у выніку праведзеных археалагічных даследаванняў С. В. Тарасава 1980-х – першай паловы 1990-х гг. былі зроблены высновы адносна развіцця тапаграфіі Полацка IX – XVII стст., зоны распаўсюджвання культурнага пласта гістарычнага цэнтра, характару асноўных абарончых збудаванняў гарадскіх пасадаў (мал. 20). Вызначаны чатыры этапы тэрытарыяльнага пашырэння горада. Падагульненне гісторыка-археалагічнага даследавання адлюстравана ў артыкулах і навуковай манаграфіі, дзе прадстаўлена і значная частка матэрыялаў са справаздач аб раскопках [Тарасов, 1987; Тарасов, Романенкова, 1987; Тарасаў, 1988; Тарасов, 1989; Тарасаў, 1992 а; Тарасаў, 1993 а, б, в; Тарасаў, 1998 а; Тарасаў, 1998 б].

У 1986, 1989 – 1992, 1996 – 1997 гг. археолага-архітэктурныя даследаванні на тэрыторыі Вялікага пасада ў г. Полацку праводзілі Н. І. Здановіч [Здановіч, спр. № 14; Здановіч, спр. № 1148 б; Здановіч, спр. № 1213 а; Здановіч, спр. № 1213 в; Здановіч, спр. № 1373; Здановіч, спр. № 1374; Здановіч, спр. № 1376; Здановіч, спр. № 1447; Здановіч, спр. № 1450], П. А. Русаў [Русаў, спр. № 103; Русаў, спр. № 1692], Г. М. Сагановіч [Сагановіч, спр. № 975]. Экспедыцыі ставілі мэтай вызначэнне ступені захаванасці помнікаў архітэктуры, якія трaплялі ў зону новабудоўлі. У выніку гэтых даследаванняў стала магчымым вызначыць стратыграфію асобных частак пасадскай тэрыторыі і ўдакладніць этапы яе пашырэння. Агульная даследаваная плошча склала 1364 м$^2$ [Дук, 2007 ж, табл. 1].

У 1989 г. праводзіліся раскопкі па вул. Фрунзэ (сёння вул. Еўфрасінні Полацкай) паміж дамамі №№ 1 – 3. Выяўлена глыбіня культурнага пласта каля 1,85 м з керамікай XI – XVIII стст. [Здановіч, спр. № 14, с. 9 – 10].

У 1989 – 1991 гг. раскопкі праводзіліся на месцы размяшчэння эканамічнага дома Багаяўленскага манастыра XVIII – XIX стст. Першыя археолага-архітэктурныя даследаванні на месцы былога эканамічнага дома былі праведзены яшчэ ў 1986 г. (кіраўнік – Г. М. Сагановіч) [Сагановіч, спр. № 975]. Акрамя ўласна падмуркаў, вывучаўся і культурны пласт. Было вызначана, што пачатак засялення дадзенай часткі Вялікага пасада пачаўся не раней за канец XI – XII стст. (па наяўнасці археалагічных знаходак з культурнага пласта гэтага часу) [Здановіч, спр. 1148 б, с. 18; Здановіч, спр. № 1373, с. 13, 19].

На месцы будучай карціннай галерэі мастацкай школы (пр. Ф. Скарыны), каля 100 м на ўсход ад плошчы, у 1990 г. быў закладзены раскоп плошчай 550 м$^2$ [Здановіч, спр. 1213 а, с. 3]. У раскопе былі даследаваны рэшткі двух розначасовых цагляных дамоў. Першы быў пабудаваны не пазней за сярэдзіну XVII ст. і меў падлогу з керамічных плітак, багата аздобленую кафляную печ і сцены, складзеныя з цэглы-пальчаткі. Пазней на яго месцы быў пабудаваны другі дом, які паўтараў абрысы першага. Плошча абодвух дамоў была не меншай за 48 м$^2$.

З 1995 г. пачынаецца археалагічнае вывучэнне Полацка на базе Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта (у гэты год былі праведзены раскопкі М. В. Клімава і С. В. Тарасава на Верхнім замку) [Клімаў, спр. № 1599].

У 1996 г. М. В. Клімаў правёў археалагічныя раскопкі ва ўсходняй частцы Вострава на мяркуемым месцы размяшчэння манастыра Іаана Прадцечы і ў Экімані [Клімаў, 2009; Клімаў, спр. № 1622]. Плошча раскопа 24 м$^2$. У розных частках Вострава былі зроблены 4 шурфы. З найбольш ранніх матэрыялаў на Востраве знойдзены 2 шыферныя праселкі, кераміка XI – XII стст. У паўднёвай частцы Вострава культурны пласт адсутнічаў (знішчаны падчас будаўніцтва зоны адпачынку ў 1960-я гг.), толькі ў заходняй частцы Вострава былі зафіксаваны рэшткі пласта магутнасцю 0,25 м.

У Экімані зроблены шурф плошчай 2 м$^2$ (300 м на захад ад маста праз Дзвіну на першай надпоплаўнай тэрасе). Глыбіня культурнага пласта дасягала 2 м. Знойдзена кераміка XIV – XV стст. [Клімаў, спр. № 1622, с. 9].

З 2000 г. на базе Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта сталі праводзіцца штогадовыя раскопкі (кіраўнік – Д. У. Дук), іх асноўнай мэтай з'яўляецца ўдакладненне этапаў існавання пасадскай тэрыторыі, вызначэнне характару і заняткаў яго насельніцтва. Усяго было археалагічна даследавана 1020 м$^2$, з іх 44 м$^2$ – на полацкім гарадзішчы [Дук, спр. № 1880; Дук, спр. № 1921; Дук, спр. № 2046 а; Дук, спр. № 2078; Дук, спр. № 2079 а; Дук, спр. № 2167; Дук, спр. № 2284; Дук, спр. № 2368; Дук, спр. № 2511; Дук, спр. № 2511; Дук, спр. № 2513; Дук, спр. № 2537]. З 2000 г. падчас археалагічнага нагляду за будаўнічымі работамі на пасадскай тэрыторыі Полацка быў вызначаны характар культурнага пласта на плошчы каля 2000 м$^2$.

У 2000 – 2003 гг. археалагічныя раскопкі былі праведзены ў паўднёвым дворыку былога езуіцкага калегіума (акадэміі). У ракопах 1 – 4 даследавана 276 м$^2$ плошчы пры сярэдняй магутнасці культурнага пласта каля 2 м. Вызначана працягласць засялення пасадскай тэрыторыі на месцы раскопа з XI ст. У 2002 г. адкрыта частка абарончай сцяны вакольнага горада, якая з'яўлялася працягам фартыфікацыйнай сістэмы, выяўленай С. В. Тарасавым у раскопе на плошчы Свабоды. Адкрыты сляды дзейнасці дзвюх касцярэзных майстэрняў: XIII ст. і XV – XVI стст.

У 2004 і 2006 гг. праводзіліся раскопкі на тэрыторыі заходняй часткі Запалоцкага пасада (раскопы 1, 2 на плошчы 322 м$^2$). Тут быў выяўлены культурны пласт XI – пачатку XIII стст. магутнасцю 0,8 – 1,6 м, які пачынаецца ад сучаснай мяжы Запалоцця

і тэрытарыяльна ахоплівае раён т. зв. “Копанак” (500 – 600 м на захад уздоўж р. Дзвіны).

У 2005 г. праводзіліся выратавальныя раскопкі на месцы ўзвядзення офіснага будынка па вул. Камуністычнай, 4. Раскоп плошчай 168 $м^2$ разбіты на адлегласці каля 10 м ад раскопаў 1987 – 1988 гг. на плошчы Свабоды. Культурны пласт меў магутнасць каля 4 – 5 м. Былі знойдзены сляды існавання ювелірнай майстэрні XVII ст. Ніжні культурны пласт утрымліваў рэчы XI – XII стст. У тым жа годзе быў праведзены археалагічны нагляд за ўзвядзеннем жылога будынка па вул. Леніна, 29 (сёння – вул. Ніжнепакроўская). Будаўнічы катлаван меў плошчу 625 $м^2$. Культурны пласт моцна пашкоджаны ў XIX – XX стст. У траншэях інжынерных камунікацый па вул. Ніжнепакроўскай былі выяўлены сляды забудовы XVI ст. непасрэдна на месцы сучаснай вуліцы насупраць Багаяўленскага сабора.

Падчас раскопак 2007 г. на полацкім гарадзішчы быў зафіксаваны культурны пласт магутнасцю 3 м, плошча раскопа складала 44 $м^2$. Археалагічна даследаваны могілкі XVII – XVIII стст., на якіх былі пахаваны прадстаўнікі каталіцкай канфесіі, верагодна, полацкая шляхта. Быў вызначаны час існавання славянскага пасялення і княжацкай рэзідэнцыі на помніку: другая палова VIII ст. – пачатак XIV стст. Зафіксаваны культурны пласт днепра-дзвінскай культуры, сабрана калекцыя ляпнога посуду банцараўскай культуры. Адкрыты сляды ювелірнай і зброевай майстэрняў, знойдзена прадстаўнічая колькасць артэфактаў, якая сведчыць пра размяшчэнне на гарадзішчы мураванай царквы.

На месцы былой сядзібы па вул. Стралецкай, 23 на г. зв. стрэлцы Ніжняга замка ў 2008 г. былі праведзены археалагічныя раскопкі з мэтай вызначэння суадносін культурных напластаванняў гарадзішча і паселішча. Раскоп меў плошчу 40 $м^2$. Магутнасць пласта складала 2 м. Зафіксаваны перадмацэрыковы пласт з матэрыяламі банцараўскай культуры і смаленска-полацкіх доўгіх курганоў. Адкрыта касцярэзная майстэрня XV – пачатку XVI стст.

Быў праведзены археалагічны нагляд і раскопкі на месцы будаўніцтва офіснага будынка ў раёне вул. Ніжнепакроўскай, 26. Плошча катлавана склала 506 $м^2$, глыбіня культурнага пласта – 1,8 – 3,4 м. Катлаван быў зроблены ў непасрэднай блізкасці ад былога эканамічнага дома Багаяўленскага манастыра. Пласт значна пашкоджаны падмуркамі пабудоў і керамічным дрэнажом XIX ст. Непашкоджаны культурны пласт захаваўся фрагментарна, яго вывучэнне засведчыла наяўнасць керамікі XI – XII ст., што пацвярджае выказанае Н. І. Здановіч меркаванне пра засяленне разглядаемай часткі пасада ў гэты час.

У 2009 г. праведзены выратавальныя раскопкі на плошчы Свабоды ў г. Полацку (100 $м^2$). Раскопкі пацвердзілі гандлёва-рамесны статус пачатковага насельніцтва дадзенай тэрыторыі, гаспадарчае засваенне якой датуецца XI ст.

Археалагічныя даследаванні на левабярэжнай частцы Полацка ў 2009 г. ставілі мэтай вывучэння часу ўтварэння культурнага пласта, зоны яго распаўсюджвання і яго сутнасных характарыстык на тэрыторыі левабярэжных Крыўцова і Экіманскага пасадаў Полацка. Дзеля гэтага ў розных частках Экіманскага і Крыўцовага пасадаў былі закладзены шурфы агульнай плошчай 42 $м^2$ (Экіманскі) і 24 $м^2$ (Крыўцоў). Гэтыя раскопкі былі абумоўлены тым, што надзейных археалагічных даных аб плошчы былога Экіманскага пасада, ні тым больш пра стратыграфію і час утварэння культурнага пласта да сённяшняга дня практычна не існавала.

На тэрыторыі Запалоцкага пасада ў 2010 г. па вул. Краснова, 7 быў закладзены раскоп 70 $м^2$. Падчас раскопак былі ўскрыты падмуркі бернардзінскага кляштара першай паловы XVI ст. Даследаваны старажытныя культурныя напластаванні XI – XII стст.

На тэрыторыі сучаснай в. Экімань Полацкага раёна было зроблена 7 шурфоў і зачышчана сценка межавой траншэі пад водаадвод. Выяўлены артэфакты XV – XVIII стст., у т. л. раскапаны падмурак адной з цэркваў XVI ст., складзены з шырокафарматнай цэглы на вапнавай рошчыне. На тэрыторыі Крыўцовага пасада даследаваны напластаванні, сінхронныя па часе ўтварэння экіманскім. Выключэннем з'яўляецца тэрыторыя Слабады пры вусці правабярэжнай часткі р. Бельчыца. Тут культурны пласт утвараўся на працягу XI – XVIII стст., аднак нідзе ён не перавышаў глыбіні 1,5 м пры сярэдняй магутнасці каля 1 м.

У 2003 і 2007 гг. быў праведзены нагляд за пракладаннем траншэі на тэрыторыі былога Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра XII – XIX стст. і г. зв. Старой Слабады. У выніку даследавання ўдалося вызначыць характарыстыку культурных напластаванняў Бельчыцкага манастыра і яго плошчу. Адкрыты культурны пласт магутнасцю каля 1 м, які ўтварыўся ў XIV – XIX стст. У гэтым пласце былі размешчаны адзінкавыя фрагменты керамікі і плінфа XII ст.

У 2000 і 2007 гг. быў праведзены археалагічны нагляд за пракладаннем інжынерных сетак у раёне плошчы Ф.Скарыны і па вул. Камуністычнай, 15. Удакладнена ўсходняя мяжа Вялікага пасада, на пазначанай тэрыторыі культурных напластаванняў ранейшых за канец XVII ст. не выяўлена. У выніку археалагічнага нагляду за пракладаннем траншэі цеплатрасы ў 2000 г. праз в. Экімань былі адкрыты падмуркі і пахаванні каля былой царквы. У 2002 г. падчас пракладання дзюкера па дне р. Дзвіны і рыцця траншэі на левым беразе ў раёне Багаяўленскай царквы былі зафіксаваны драўляныя канструкцыі XVII – XVIII стст. былога перавоза.

З 2008 г. у г. Полацку пачала дзейнічаць комплексная археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі НАН Беларусі, Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта і Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка (кіраўнік – В. М. Ляўко). У справе археалагічнага вывучэння Полацка прымаюць актыўны ўдзел супрацоўнікі Інстытута гісторыі М. В. Клімаў (2008 г. – раскопкі ў Запалоцці, 2009 г. – на Вялікім пасадзе і на гарадзішчы) [Клімаў, спр. № 2596] і С. Д. Дзярновіч (археалагічны нагляд на вул. Ніжнепакроўскай).

У 2008 г. М. В. Клімавым былі праведзены раскопкі на тэрыторыі Запалоцкага пасада. Было вывучана 72 $м^2$. Сярэдняя глыбіня культурных напластаванняў склала 1,2 м, пераважная большасць артэфактаў датуецца XI – XIII стст. Матэрыялы XVI – XVIII стст. знойдзены ў верхнім перамяшаным культурным пласце [Клімаў, спр. № 2596].

У 2009 г. М. В. Клімаў праводзіў выратавальныя раскопкі на аб'екце ўзвядзення офіснага будынка па вул. Ф. Скарыны, 10. Пад раскоп трапіла тэрыторыя сумарнай плошчай 1045 $м^2$, з іх раскопвалася 180 $м^2$. Атрыманы даныя пра развіццё дадзенай часткі пасада з XI ст. Зафіксаваны сляды металургіі жалеза ў культурным пласце XI – XII стст.

На старажытным полацкім гарадзішчы ў тым жа годзе ўскрыта 8 $м^2$ культурных напластаванняў.

Павелічэнне тэмпаў будаўніцтва ў першае дзесяцігоддзе XXI ст. выклікала патрэбы ў больш пільным выкананні заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Так, падчас археалагічнага нагляду С. В. Тарасава і Д. У. Дука за пракладаннем інжэнерных камунікацый да дома па вул. Фрунзэ, 1 (сёння – вул. Еўфрасінні Полацкай)

былі адкрыты культурныя напластаванні 3,5 м з рэштkамі драўляных пабудоў XVI – XVII стст.

Археалагічны нагляд ажыццяўляўся С. В. Тарасавым, Д. У. Дукам і А. А. Салаўёвым ў 2000 і 2002 гг. на тэрыторыі, якая з паўночна-ўсходняга боку прымыкала да абарончых умацаванняў Вялікага пасада XVII ст. [Дук, Соловьёв, 2004]. Падчас пракладання інжэнерных камунікацый быў выяўлены культурны пласт XVII – XIX стст. на ўчастку паміж вуліцамі Гогаля, Ф. Скарыны, Свярдлова і праспектам Ф. Скарыны. Сярод знаходак знойдзена шмат вырабаў са скуры, у т. л. прылады рамесніка. Зроблена выснова аб лакалізацыі ў гэтых частках гарбарных майстэрняў у XVII – XVIII стст.

Актыўныя работы па ажыццяўленні археалагічнага нагляду на тэрыторыі ахоўнай зоны культурнага пласта Полацка праводзіць навуковы супрацоўнік НПГКМЗ А. А. Салаўёў [Соловьёв, 2004]. У 2004 г. А. А. Салаўёвым праведзены археалагічна-архітэктурныя даследаванні ў падвальным памяшканні дома № 15 па вул. Талстога. Тэрытарыяльна гэты будынак размешчаны на перыферыі паўночнай часткі Вялікага пасаду, на вянцы схіла да вул. Еўфрасінні Полацкай. Зафіксавана магутнасць пласта 1,4 м. Самыя раннія матэрыялы сведчаць аб пачатку засялення дадзенай тэрыторыі ў XII ст. У пласце гэтага часу выяўлены сляды заняткаў смолакурэннем [Соловьёв, 2004].

У 2005 г. па заданні НПГКМЗ праведзены археалагічны нагляд за пракладаннем траншэі вадаправода ў в. Экімань. Зафіксаваны рэшткі драўлянай маставой і культурны пласт XVII – XVIII стст. Інфармацыя занатавана ў палявым дзённіку.

У 2006 – 2007 гг. праводзіўся археалагічны нагляд за пракладаннем інжынерных сетак на тэрыторыі сектара прыватнай забудовы па вул. Ф. Міронавай і вул. Кастрычніцкай, у раёне перакрыжавання з вул. Еўфрасінні Полацкай. Быў выяўлены культурны пласт з артэфактамі XI – XII і XVIII стст. Зафіксаваны сляды гаспадарчых мацерыковых ям і пабудоў, жылых і вытворчых комплексаў.

Вынікі праведзенага археалагічнага нагляду у раёне вул. Ф. Міронавай і Кастрычніцкай маюць неацэннае значэнне, паколькі сведчаць пра невядомыя раней старонкі гісторыі Полацка, а менавіта – гандлёва-рамесныя заняткі пасадскага насельніцтва XI – XII стст. на тэрыторыі на захад і паўночны ўсход ад старажытнага гарадзішча і на поўнач ад асноўнай тэрыторыі Запалоцкага пасада. На жаль, вынікі раскопак дагэтуль не апублікаваны. Інфармацыя аб наглядзе занатавана ў палявым дзённіку і трох справаздачах, якія захоўваюцца ў НПГКМЗ. Улічваючы вялікае значэнне атрыманых падчас археалагічнага нагляду вынікаў, з дазволу А. А. Салаўёва неабходная для раскрыцця прадмета даследавання інфармацыя размешчана ў дадатку (гл. дадатак 1).

У 2006 г. А. А. Салаўёвым праведзены археалагічны нагляд у сучасным мікрараёне Запалоцце, атрыманы даныя аб размяшчэнні сядзібы XVII ст. [Дук, Салаўёў, 2007 е]. У 2007 г. праведзены археалагічны нагляд за рамонтам цеплатрасы па вул. Войкава, 1 – 5 [Соловьёв, спр. № 2510]. Магутнасць культурнага пласта 1,25 – 2 м. Раннія матэрыялы датуюцца XI – XII стст. Сярод іх выяўлена вялікая колькасць плінфы, якая не мела слядоў рошчыны, і паліваная плітка падлогі. Сярод плінфы пераважаюць дэфармаваныя ў агні вырабы таўшчынёй 2,7 – 3,5 см, шырынёй 15 – 20 см. Зроблена выснова аб размяшчэнні ў гэтай паўночна-заходняй частцы Вялікага пасада печаў для абпалу плінфы і архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі XII ст.

Такім чынам, найбольш значныя археалагічныя адкрыцці пачатку XXI ст. у кантэксце вывучэння пасадскай структуры – гэта даследаванне паўднёвай часткі абарончай сцяны вакольнага горада XI ст., вызначэнне плошчы Запалоцкага пасада XI – пачатку XIII стст. і пасяленняў за р. Палатой, удакладненне этапаў існавання і

характарыстыкі заняткаў насельніцтва старажытных гарадзішча і паселішча, адкрыццё шэрагу рамесных майстэрняў XII – XVIII стст., вызначэнне этапаў існавання і плошчы левабярэжных пасадаў Полацка.

Агульная плошча культурных напластаванняў, якія былі стацыянарна даследаваны археолагамі на тэрыторыі полацкіх пасадаў, склала 5780 м$^2$. Найбольш даследаванай з'яўляецца тэрыторыя Вялікага пасада (ускрыта 5044 м$^2$ плошчы), на тэрыторыі Запалоцкага пасада раскапана плошча 772 м$^2$, на тэрыторыі Востраўскага і Экіманскага пасадаў раскапаная археолагамі плошча складае больш за 80 м$^2$, селішча каля Чырвонага маста раскапана на плошчы 276 м$^2$. Крыўцоў пасад археалагічна даследаваўся непасрэдна на тэрыторыі Барысаглебскага манастыра (зафіксавана стратыграфія дзвюх скразных будаўнічых траншэй) і падчас раскопак у 2009 г. (плошча 24 м$^2$). Падчас пракладання інжынерных сетак была зроблена фіксацыя культурных напластаванняў гэтага помніка, акрэслены межы манастыра. Сумарна пад археалагічны нагляд на тэрыторыі ўсіх пасадаў Полацка трапіла плошча каля 20000 м$^2$.

Абагульненне накопленых археолагамі даных дазваляе скласці комплексную карціну развіцця і фарміравання пасадскай структуры Полацка (забудова і планаванне горада, развіццё гарадскіх рамёстваў, дынаміка распаўсюджвання культурнага пласта і інтэнсіўнасці жыцця, вызначэнне сацыяльнага статуса насельніцтва асобных тэрыторый, розныя аспекты сацыяльна-эканамічнага развіцця горада). Дыспрапорцыя ў ступені археалагічнага вывучэння левабярэжных і правабярэжных пасадаў Полацка ў значнай ступені кампенсуецца данымі пісьмовых крыніц, якія на час іх існавання (XVI – XVIII стст.) прадстаўлены дастаткова поўна.

### 2.2. Крыніцы па гісторыі пасадскай структуры Полацка IX – XVIII стст.

Пісьмовыя крыніцы ў вывучэнні пасадскай структуры Полацка даюць цікавыя звесткі па гарадской тапаграфіі, сацыяльнай арганізацыі пасадскага насельніцтва.

Старажытнарускія летапісы з'яўляюцца важнай крыніцай па пачатковай гісторыі Полацка, ролю якіх у асэнсаванні палітычнай гісторыі Полацка цяжка пераацаніць. Аднак паведамленні летапісаў аб сацыятапаграфічнай структуры Полацка XII – XIII стст. вельмі фрагментарныя [Ипатьевская летопись, 1998; Лаврентьевская летопись, 1997]. Найбольш інфарматыўным у гэтым плане з'яўляецца позні Лебедзеўскі летапіс, у якім падаецца апісанне пахода Івана IV на Полацк [Лебедевская летопись, 1965].

Звесткі пра сацыяльны склад насельніцтва, гарадскую тапаграфію і аб'екты нерухомасці Полацка XV – пачатку XVI стст. змяшчаюцца ў полацкіх граматах, выданых А. Л. Харашкевіч [Полоцкие грамоты, 1977, 1978, 1980, 1982].

Матэрыялы бягучага справаводства з полацкіх магістрацкіх кніг XVI – XVIII стст., апублікаваныя А. П. Сапуновым [Витебская старина, 1885; Витебская старина, 1888] і змешчаныя ў зборніках: "Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы..." [ИЮМ, 1873; ИЮМ, 1874; ИЮМ, 1875; ИЮМ, 1892; ИЮМ. Вып. 25; ИЮМ, 1895; ИЮМ, 1901]; "Археаграфічны зборнік дакументаў..." [Археографический сборник документов…, 1867], "Беларускі архіў" [Справы полацкага гродзскага суда..., 1928], "Актавая кніга полацкага магістрата 1650 г." [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006], "Апісанне дакументаў і папер, якія захоўваюца ў Маскоўскім архіве Міністэрства юстыцыі" [Описание документов и бумаг…, Кн. 21] даюць прадстаўленне пра размяшчэнне гарадскіх пляцаў, вуліц, аб'ектаў нерухомасці, інвентары асобных двароў, сацыяльнай арганізацыі насельніцтва і г. д. Найбольшую цікавасць прадстаўляе апублікаваны змест

дзвюх актавых кніг за 1533 і 1650 гг. [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006; Справы полацкага гродзскага суда..., 1928]. З гэтых крыніц можна даведацца пра выгляд інтэр’ераў жылых памяшканняў, асаблівасці карыстання асобнымі рэчамі, гарадскую тапаграфію, сацыяльную арганізацыю пасадскага насельніцтва.

У тэкстах прывілеяў вялікіх князёў Аляксандра і Жыгімонта І Полацку на магдэбургскае права 1498 г. [Полоцкие грамоты, 1978, с. 153 – 157], 1529 г. [Акты Литовско-Русского государства, с. 217], і прывілеі Аляксандра манахам-бернардзінцам 1498 г. на заснаванне кляштара 1498 г. [Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, 1948, s. 538 – 539] пазначаюцца некаторыя катэгорыі нерухомых аб’ектаў гарадской інфраструктуры, грамадскія абавязкі асноўных сацыяльных груп.

Важнай крыніцай па характарыстыцы сацыяльна-эканамічнага і тапаграфічнага развіцця Экіманскага пасада Полацка другой паловы XVIII ст. з’яўляецца “Люстратар Полацкі езуіцкіх маёмасцей, у архіў ясна асвечанага князя, ягамосці Радзівіла, маршалка генеральнай канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага. C.D.” [Lustrator Połocki…, 1774]. Люстрацыя была складзена да сакавіка 1774 г. і знаходзілася ў архіве Міхала Геранімa Радзівіла. Дакумент уяўляе сабой першы вопіс езуіцкіх фальваркаў, размешчаных на левым беразе р. Дзвіны, з мэтай вызначэння прыбытковасці былых езуіцкіх уладанняў (на гэты час маёмасць езуітаў перайшла ў распараджэнне Адукацыйнай камісіі) [Сяргеенка, 2003, с. 51]. Люстрацыя з’яўляецца каштоўнай крыніцай па апісанні маёмасці езуітаў у фальварку Экімань разам з Вострававам.

Полацкая рэвізія 1552 года ўтрымлівае даныя пра баярскае, мяшчанскае і духоўнае землеўладанне, колькасць мяшчанскіх двароў, цэркваў у г. Полацку, сацыяльны склад насельніцтва. Рэвізія ілюструе стан пасадскіх умацаванняў, назвы асобных вуліц, размяшчэнне гарадскіх пляцаў [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 14 – 15].

Асаблівасці сацыятапаграфічнай структуры Полацка падчас панавання ў горадзе расійскіх войскаў у 1563 – 1579 гг. можна знайсці ў разрадных кнігах, надрукаваных А. П. Сапуновым [Витебская старина, 1885] і Кнізе полацкага пахода 1563 г. [Книга полоцкого похода…].

Каштоўнейшымі наратыўнымі крыніцамі з’яўляюцца творы Паўля Одэборна “Праўдзівы і грунтоўны аповед пра русаў, іх шлюбныя і пахавальныя абрады, побыт, адзенне і г. д., а таксама пра веру і звычаі татар” [Сагановіч, 2005] і Р. Гейдэнштэйна “Запіскі аб Маскоўскай вайне” [Гейденштейн, 1889]. “Аповед” быў скончаны ў 1581 г., пабудаваны на матэрыяле Полацка-Дзісненскага Падзвіння, у ім прадстаўлены звесткі пра побыт, матэрыяльную культуру і норавы мясцовага гарадскога і сельскага насельніцтва часоў вызвалення Полаччыны ў 1579 г. У “Запісках” Р. Гейдэнштэйна прадстаўлена панарамная карціна ўзяцця Полацка ў 1579 г.

В. А. Вароніным апублікаваны тэкст тэстамента полацкага лаўніка Д. Панкова за 1559 г., які ўтрымлівае каштоўную інфармацыю аб рухомай і нерухомай маёмасці заможнага палачаніна [Варонін, 2003].

Тэкст інвентара нерухомай уласнасці – сядзібы на Запалоцкім пасадзе – Людвікі Караліны Радзівіл за 1685 г. з Радзівілаўскага архіва быў апублікаваны А. І. Дзярновічам, ім жа быў зроблены аналіз зместу дакумента [Дзярновіч, 2009].

Падрабязную характарыстыку выяўленчых крыніц, а гэта пераважна гісторыка-картаграфічныя дакументы, прадставіў у сваёй манаграфічнай працы С. В. Тарасаў [Тарасаў, 1998 б, с. 10 – 17]. Так, самай старажытнай выявай горада з’яўляюцца два планы, складзеныя асабістым сакратарам Стэфана Баторыя Станіславам Пахалавіцкім, якія адлюстроўваюць Полацк 1579 года (гэтыя планы пазначаны П 1 і П 2 паводле часу

стварэння) [Тарасаў, 1998 б, с. 10; Alexandrowicz, 1998]. Трэці план – гэта расфарбаваная гравюра з нюрнбергскага лятучага лістка 1579 г. [Белы, 1997]. Найбольш інфарматыўнымі ў плане рэканструкцыі тапаграфіі Полацка з’яўляюцца планы С. Пахалавіцкага.

Другі план выкананы ў 1707 г. З гэтага плана знята копія і, паводле крыніцазнаўчага аналізу А. Белага, дзесьці ў 1720-х гг. дапоўнена пэўнымі зменамі гарадской тапаграфіі [Белы, 1998, с. 13]. Вядомы план 1779 года, план рэгенерацыі горада 1778 года і два планы канца XVIII ст. (адзін з іх выкананы, на думку С. В. Тарасава, паміж 1779 і 1786 гг.). Шэраг планаў Полацка датуюцца XIX – XX стст. З гэтых планаў для раскрыцця прадмета сапраўднага даследавання найбольш інфармацыйнымі з’яўляюцца планы 1579 і 1707 гг. Астатнія планы Полацка XVIII – пачатку XX ст. уяўляюць цікавасць пры рэтраспектыўным разглядзе сацыятапаграфічнай структуры Полацка XVI – XVIII стст. Уяўляе цікавасць план-рэканструкцыя Полацка XVI – XVII стст., выкананы А. К. Марэлем [Иезуиты в Полоцке…, 2005. С. 8].

З новых выяўленчых крыніц адзначым адкрытыя ў апошнія гады выявы фрэскавага роспісу Спаса-Праабражэнскай царквы XII ст. у г. Полацку [Сарабьянов, 2007] і фрэскі з выявай Полацка сярэдзіны XVI ст. Віленскага касцёла святых Францішка і Бернардзіна [Гліннік, 2004].

У жывапісе Спаса-Праабражэнскай царквы візантыйскі канон перадаецца грэчаскімі і мясцовымі мастакамі. Дэталі адзення, выгляд будынкаў, змешчаных на асобных фрэсках, былі характэрны для мясцовага заможнага насельніцтва і мураванага дойлідства таго часу.

Сюжэт фрэскі касцёла святых Францішка і Бернардзіна прысвечаны змаганню св. Георгія з цмокам на фоне катаванняў полацкіх айцоў-бернардзінцаў маскоўскімі татарамі ў 1563 г. На фрэсцы змешчаны ўмоўныя выявы бернардзінскага касцёла, сабор-най царквы св. Сафіі, умацаванняў Верхняга замка і абарончых вежаў Запалоцця. Размяшчэнне тапаграфічных аб’ектаў не выклікае пярэчанняў і сведчыць пра знаёмства мастака з Полацкам.

Важнай выяўленчай крыніцай, якая дае ўяўленне пра знешні выгляд барокавай забудовы Полацка, з’яўляецца абраз св. Мікалая з фондаў НПГКМЗ. Абраз датуецца сярэдзінай XVIII ст. [Ярошевич, 2009, с. 19], і ёсць падставы меркаваць аб яго стварэнні полацкім майстрам.

Сярод архіўных пісьмовых крыніц важнае месца займаюць матэрыялы бягучага справаводства, змешчаныя ў складзе актавых кніг полацкага магістрата 1650 – 1772 гг. (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, фонд 1823 “Полацкі магістрат”) (мал. 11). Захавалася 5 актавых кніг за другую палову XVII ст. і 45 актавых кніг XVIII ст. [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006, с. 10]. Акрамя таго, у фондзе 2424 “Полацкі гарадавы магістрат” захоўваюцца 3 актавыя кнігі за 1779, 1781 і 1782 гг.

Магістрацкія кнігі ўтрымліваюць каштоўныя даныя па тапаграфіі полацкіх пасадаў, размяшчэнні аб’ектаў нерухомасці, назвах вуліц. Знаёмства з матэрыяламі дазваляе вызначыць знешні выгляд і інтэр’ер жылля палачан, сацыяльны склад і арганізацыю насельніцтва, маёмасны стан розных сацыяльных груп XVII – XVIII стст.

Паводле аналізу дакументаў пазначаных актавых кніг полацкага магістрата стала магчымым параўнаць дынаміку змен гарадской тапаграфіі за 1650 – 1782 гг. З актавых кніг полацкага гарадавога магістрата найбольш інфарматыўнай у плане вызначэння аб’ектаў нерухомасці з’яўляецца кніга за 1779 г. Аднак звесткі пра элементы гарадской тапаграфіі і аб’екты нерухомасці захоўваюцца практычна ў кожнай з пералічаных

актавых кніг, некаторыя з іх маюць неацэннае значэнне [НГАБ, ф. 1823, воп. 2, спр. 3, арк. 29 адв.; НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 17, арк. 51 – 51 адв.].

Інфармацыю пра элементы гарадской інфраструктуры можна сустрэць і сярод архіўных матэрыялаў каптуровага суда полацкага ваяводства (“Дэкрэт аб справе паноў Буйніцкіх з Корсакамі”, 01.08.1733 г.) [НГАБ, ф. 1878, воп. 1, спр. 2].

Фонд Мяніцкіх, які захоўваецца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве, утрымлівае шматлікія дакументы (арыгіналы і копіі) XV – пачатку XX стст., якія найперш тычацца гісторыі Полаччыны і прылягаючых тэрыторый (Ушаччына, Лепельшчына і інш.). Найбольшую каштоўнасць для раскрыцця прадмета даследавання ўяўляюць копіі інвентарных дакументаў, выпісаў з актавых кніг, зробленыя Вікенціем Мяніцкім, якія тычацца тапаграфіі, сацыяльна-эканамічнага развіцця Полацка XVI – XIX стст. і ўтрымліваюць апісанні аб’ектаў нерухомасці, у т. л. абарончых умацаванняў, касцёлаў і цэркваў [LVIA, фонд 599, воп. 1, спр. 3].

Рэвізія полацкага павета 1563 г., якая захоўваецца ў складзе фонда “Літоўская метрыка” Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў, утрымлівае апісанні тапаграфіі Полацка часоў Інфлянцкай вайны [РГАДА, фонд 389, оп. 1, д. 573, л. 382 – 383 обр.].

Такім чынам, у вывучэнні сацыятапаграфічнай структуры Полацка корпус археалагічных крыніц з’яўляецца больш поўным і дынамічна папаўняемым. Археалагічным крыніцам належыць безумоўна прыярытэтная роля ў вывучэнні гісторыі станаўлення і развіцця пасадскай структуры Полацка ў IX – XV стст. Прычынай гэтаму з’яўляецца фрагментарнасць звестак і нешматлікасць пісьмовых крыніц па гэтым перыядзе. Актавыя кнігі полацкага магістрата, як найбольш інфармацыйныя, найбольш поўна характарызуюць перыяд з сярэдзіны XVII па канец XVIII стст. Прыярытэт пісьмовых крыніц у вывучэнні такіх аспектаў, як сацыяльны склад насельніцтва, размяшчэнне і паходжанне гарадскіх тапонімаў з’яўляецца безумоўным. Аднак аб ступені развіцця рамёстваў, гандлёвых сувязяў, дынамікі фарміравання гарадской тапаграфіі (межы пасадаў, вулічная трасіроўка, наяўнасць крапасных умацаванняў, лакалізацыя сядзіб, будынкаў грамадзянскага і культавага прызначэння і г. д.) магчыма ўпэўнена меркаваць пры параўнанні корпуса археалагічных і пісьмовых крыніц.

Нягледзячы на дастаткова прадстаўнічую гістарыяграфію праблемы, многія аспекты вывучэння сацыятапаграфічнай структуры Полацка не былі асветлены. З часоў публікацыі фундаментальных работ А. М. Ляўданскага, Г. В. Штыхава і С. В. Тарасава і іншых кола археалагічных крыніц было значна пашырана. У сукупнасці з данымі пісьмовых крыніц сёння стала магчымым дастаткова поўна адлюстраваць працэс станаўлення і развіцця Полацка на працягу IX – XVIII стст.

# 3. ПОЛАЦК У СІСТЭМЕ СТАНАЎЛЕННЯ І РАЗВІЦЦЯ САЦЫЯТАПАГРАФІЧНАЙ СТРУКТУРЫ СТАРАЖЫТНАРУСКІХ ГАРАДОЎ IX – XIII СТСТ.

Полацк – адзін са старажытнейшых гарадоў на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Пад 862 г. у Лаўрэнцьеўскім летапісе знаходзім паведамленне аб раздачы наўгародскім князем[2], скандынавам па паходжанні, Рурыкам гарадоў сваім васалам: "… и придоша стареишии Рюрикъ седе Новегороде а другии Синеоусъ на Белеозере а третии Изборьсте Труворъ … и прия власть Рюрикъ и раздая мужемъ своимъ грады овому Полотескъ овому Ростовъ другому Белоозеро и по тем городом суть находници Варязи а перьвии насельници в Новегороде Словене въ Полотьски Кривичи в Ростове Меря в Белеозере Весь в Муроме Мурома и теми всеми обладаше Рюрикъ…" [Лаврентьевская летопись, 1997, стб. 20]. У тэксце летапісу названа насельніцтва, якое заснавала Полацк, – крывічы, у 862 г. у Полацку сеў княжыць варажскі князь, васал Рурыка. Аднак гісторыкі не сумняваюцца ў наяўнасці ўласнай княжацкай дынастыі ў крывічоў-палачан – паводле той жа крыніцы, усходнія славяне, у тым ліку і палачане, мелі свой княжацкі радавод [Левко, 2008, с. 14].

У 862 г. Полацк уваходзіць у палітычны саюз славянскіх і варажскіх плямёнаў Паўночнай Русі на чале з Ноўгарадам (862 – 882 гг.) і Кіевам (882 – 912 гг.). Па вызначэнні Г. С. Лебедзева, Полацк у гэты час уваходзіць у склад г. зв. "Дзяржавы Рурыка" [Лебедев, 2005, с. 529]. У 862 – 882 гг. у Полацку княжылі васалы князёў Рурыка і Алега. Напрыканцы X ст. у Полацку княжыць Рагвалод.

Такім чынам, Полацк у летапісах згадваецца ў ліку найбольш старажытных "градаў" Паўночнай Русі разам з Ладагай, Ноўгарадам, Белавозерам, Ізборскам, Растовам, Мурамам [Лаврентьевская летопись, 1997, стб. 20 – 21]. Арэал Паўночнай Русі дакладна пазначаны ў летапісе ў аповядзе пра раздачу Рурыкам гарадоў сваім васалам. Тым не менш, недастатковасць крынічнай (летапіснай і археалагічнай) базы па гісторыі Полацка раней за X ст. [Белецкий, Лесман, 1979, с. 304 – 306; Куза, 1985, с. 88 – 89; Плавінскі, 2007, с. 28 – 29] істотна звужала магчымасці гістарычных рэканструкцый.

Археалагічныя раскопкі ў 2007 – 2008 гг. далі новы матэрыял для вызначэння датавання раннегарадскіх стратыграфічных напластаванняў Полацка на гарадзішчы і вакольным горадзе. Быў вызначаны бесперапынны характар існавання жыцця на полацкім гарадзішчы з сярэдзіны I тыс. да н. ч. да пачатку XIV ст. (выяўлены артэфакты і культурныя напластаванні днепра-дзвінскай, банцараўскай археалагічных культур і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, атрымана серыя радыёвугляродных дат) [Дук, 2008 в; Дук, 2009 в].

Паспрабуем зрабіць параўнальную характарыстыку сацыятапаграфічнай структуры Полацка ў сістэме станаўлення і развіцця старажытнарускіх гарадоў Паўночнай Русі IX – XIII стст. паводле даных археалагічных і пісьмовых крыніц. За аснову аналіза абраны тыя старажытнарускія "грады", якія на сённяшні дзень з'яўляюцца найбольш даследаванымі ў археалагічным плане і ўваходзілі ў склад г. зв. "Дзяржавы Рурыка" (Ладага, Ноўгарад, Ізборск, Пскоў, Віцебск).

Гісторыю Полацка немагчыма разглядаць без дэтэрмінацыі паняцця "Русь", пад якой для перыяду другой паловы VIII – X стст. разумеем назву этнапалітычнай супольнасці ва Усходняй Еўропе ў сярэдневякоўі [Насевіч, 2001, с. 145]. Для большасці плямёнаў Русі была характэрна славянская мова, носьбіты гэтай мовы дакладна пазначаны ў летапісе ў супрацьвагу іншамоўным плямёнам: "Словенескъ языкъ в Руси По-

[2] Дагэтуль Рурык княжыў у Ладазе.

ляне Деревляне Ноугородьци Полочане Дреговичи Северъ Бужане зане седоша по Бугу послеже же Велыняне а се суть инии языци иже дань дають Руси Чюдь Меря Весь Мурома Черемись Моръдва Пермь Печера Ямь Литва Зимигола Корсь Норова Либь…” [Лаврентьевская летопись, 1997, стб. 11].

Прагорад [Штыхов, 1983, с. 56], протагорад [Седов, 1983, с. 53] ці горад-эмбрыён [Карлов, 1976, с. 36 – 37] – гэта выкарыстоўваемыя ў гістарыяграфіі назвы пачатковага гандлёва-рамеснага ці любога ўмацаванага пасялення, якое не аформілася яшчэ ў горад у сацыяльна-эканамічным разуменні гэтага тэрміна. Названыя паняцці актыўна ўжываюцца гісторыкамі ў дачыненні да асобных пасяленняў, летапісных “градаў” Усходняй Еўропы IX – XIII стст.

У айчыннай гістарыяграфіі вылучаны характэрныя рысы для вызначэння раннесярэдневяковага горада: паведамленне пра горад у пісьмовых крыніцах як пра важны населены пункт, цэнтр акругі; наяўнасць дзяцінца (града) і пасада, плошча якога ў некалькі разоў перавышае плошчу дзяцінца; пражыванне ў ім значнай колькасці мясцовага гандлёва-рамеснага насельніцтва; існаванне гарадской абшчыны; наяўнасць складанага ўнутрыгарадскога плана з элементамі добраўпарадкавання; узвядзенне манументальных свецкіх ці культавых пабудоў [Загорульский, 1983, с. 27; Штыхов, 1983, с. 55].

Працэс станаўлення ўласна горада для кожнага пасялення вызначаўся індывідуальнымі характарыстыкамі. Сума накопленых гісторыкамі і археолагамі ведаў аб пачатковай гісторыі летапісных гарадоў Паўночнай Русі дазваляе вылучыць асноўныя рысы кожнага з іх.

Ладага згадваецца ў летапісе пад 862 г. як першая сталіца Русі: “И седе стареишии в Ладозе Рюрикъ” [Ипатьевская летопись, 1998, стб. 14]. Пачатковая Ладага займала мыс на правым беразе р. Волхаў пры ўпадзенні ў яе р. Ладажкі. На стрэлцы мыса ўзведзена невялікая (плошчай каля 1 га) каменная крэпасць. Да яе прымыкалі ўмацаваныя ў познім сярэдневякоўі пасяленні Землянога горада. Ладага была заснавана ў сярэдзіне VIII ст. (паводле дэндрахраналагічнага вызначэння – у 753 г.). Старажытнае пасяленне мела плошчу 4 – 5 га і было неўмацаваным. Яно размяшчалася па абодвух берагах р. Ладажкі. Этнічны склад насельнітцва быў даволі стракатым. На мяжы IX – X стст. на неўмацаванай раней стрэлцы мыса ўзводзяцца першыя крапасныя сцены. З X ст. славянскі этнічны кампанент у Ладазе пачынае дамінаваць, у XII ст. пасяленне займае плошчу 16 га [Куза, 1985, с. 88 – 89; Кирпичников, 2008, с. 38 – 39].

Пасля смерці братоў Трувара і Сінеўса ў 862 г., Рурык “пришел к Ильмерю и сруби город надъ Волховом. И прозваша и Новъгород. И седе ту княжа” [Ипатьевская летопись, 1998, стб. 14]. З гэтага часу Ноўгарад з’яўляўся галоўным “градам” “дзяржавы Рурыка”. Гарадская тапаграфія Ноўгарада фарміравалася паступова на працягу значнага прамежку часу. Старажытнейшыя напластаванні Ноўгарада зафіксаваны толькі на Рурыкавым гарадзішчы, размешчаным на адлегласці каля 2 км ад Ноўгарада. Гарадзішча знаходзілася на перасячэнні гандлёвых шляхоў праз рэкі Мста, Шэлонь, Ловаць і Волхаў. Напрыканцы I тыс. плошча Гарадзішчанскага пасялення склала каля 6 – 7 га. У сярэдзіне IX ст. тут існаваў княжацкі двор, пры якім дзейнічала варажская дружына. Такім чынам, летапісны аповед аб запрашэнні Рурыка на княжанне мае адносіны да Гарадзішча [Носов, 2007, с. 272 – 273; Янін, 1997, с. 10 – 11].

Найбольш раннія сведчанні засялення ўласна Ноўгарада паводле метаду дэндрахраналагічнага аналізу датуюцца на Нераўскім канцы 953 г., на Славенскім канцы – 973 – 974 гг., на Людзіным канцы каля 950 г. У гэты час склалася гарадская планіроўка вуліц і былі зафіксаваны першыя драўляныя маставыя, пагонная сядзібная планіроўка, машчэнне падвор’яў і г. д. Раней за гэты час на месцы трох буйнейшых раёнаў горада археалагічна зафіксаваны ворыўныя палі і грунтавая дарога. На месцы ворыўных палёў

будучага Ноўгарада паступова будаваліся вялікія сядзібы баяраў, планіроўка якіх практычна ў нязменным выглядзе існавала ў пазнейшыя часы да інкарпарацыі Ноўгарада ў склад Маскоўскай дзяржавы [Колчин, Янин, 1982, с. 112]. У XII і XIII стст. колькасць канцоў павялічваецца ў выніку пашырэння плошчы горада і засваення пад забудову новых значных тэрыторый (да 1169 г. фарміруецца Плотніцкі канец).

Такім чынам, Ноўгарад становіцца горадам не раней за сярэдзіну X ст. У гэты час Рурыкава гарадзішча і новыя пасяленні развіваліся асобна [Янін, 1997, с. 10 – 11]. У пачатку XI ст. Яраслаў Уладзіміравіч перанёс сваю рэзідэнцыю ўніз па цячэнні Волхава да торга, аднаго з цэнтраў новых пасяленняў, што адлюстравана ў значным зніжэнні інтэнсіўнасці жыцця на Гарадзішчы. Двор князя быў уладкаваны на ўскраіне Славенскага пагорка, яшчэ вольнай у XI ст. ад шчыльнай забудовы. Княжацкая рэзідэнцыя была другаснай у дачыненні да існаваўшага там пасялення. Разам з сядзібай Яраслава размяшчаўся двор яго дружыннікаў. Перанос рэзідэнцыі князя з'яўляўся буйным палітычным актам дзяржаўнага значэння. Апошнім крокам у гэтым працэсе стала будаўніцтва Уладзімірам Яраславічам у 1044 г. Новага горада (крэпасці) на месцы ўладычынага двара, паколькі гарадок у вытоках Волхава не мог выконваць функцыі абароны вялікага пасялення. Адначасова ў цэнтры дзяцінца быў закладзены каменны Сафійскі сабор [Носов, 1997, с. 274].

У апошняй трэці XI ст. працягваецца ўзмацненне наўгародскага баярства, якое адлюстравана ў з'яўленні інстытута пасадніцтва новага тыпу і тым самым – ва ўмацаванні гарадскога самакіравання. У выніку князі былі вымушаны зноў пераехаць на Гарадзішча, але захавалі за сабой правы на Яраслава Дворышча як на гарадскую сядзібу. У 1103 г. на Гарадзішчы ўзводзіцца Дабравешчанскі сабор, які проціпастаўляўся агульнагарадскому Сафійскаму храму [Носов, 1997, с. 274].

Пскоў і Ізборск размешчаны на адлегласці менш за 30 км адзін ад аднаго. Ізборск згадваецца ў летапісе пад 862 г., Пскоў – пад 930 г. Паводле С. В. Бялецкага, у VIII – сярэдзіне IX стст. на Труваравым гарадзішчы сучаснага Ізборска размяшчалася гандлёва-рамеснае пасяленне імігрантаў-славян, носьбітаў культуры доўгіх курганоў. У сярэдзіне IX ст. жыццё на гарадзішчы спыняецца не без удзелу скандынаўскага насельніцтва, верагодна, прафесійных воінаў. Аднаўленне жыцця адбываецца ў XI ст., што звязана ўжо з летапісным Ізборскам. Такім чынам, паводле С. В. Бялецкага, найстаражытнейшае пасяленне на Труваравым гарадзішчы не з'яўляецца прадцечай летапіснага Ізборска [Белецкий, 1996, с. 32 – 33; Белецкий, Лесман, 2006, с. 89 – 90].

Паводле В. В. Сядова, Ізборск у VIII – IX стст. вылучаўся сваім сацыяльным статусам. Падчас раскопак былі выяўлены сляды вечавай плошчы і капішча, захаваліся сведчанні гандлёва-рамеснай дзейнасці старажытнага насельніцтва. Пачатковае пасяленне выконвала адміністрацыйна-племянные і культавыя функцыі як племянны цэнтр адной з груповак крывічоў. Скандынаўскі ўплыў на матэрыяльную культуру насельніцтва старажытнага Ізборска прасочваецца ў невялікай ступені, у адрозненне ад Ладагі, Рурыкава і Пскоўскага гарадзішчаў. У X ст. гарадзішча было значна перабудавана, што адлюстроўвае працэсы станаўлення сярэдневяковага горада. Выспавая частка гарадзішча ўмацоўваецца па перыметру дубовай сцяной і ператвараецца ў дзяцінец, а ўмацаваная каменнай сцяной паўднёвая частка гарадзішча становіцца вакольным горадам. Дзяцінцам Ізборска Труварава гарадзішча з'яўлялася да 1329 г., калі пскоўскі пасаднік Шэлога з пскавічамі і ізбаранамі пабудаваў крэпасць на Жара́ўяй гары за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. Гэтая крэпасць стала дзяцінцам Ізборска да Новага часу. Такім чынам, паводле В. В. Сядова, Ізборск VIII – IX стст. можна лічыць протагорадам, які ў X ст. трансфармаваўся ў раннесярэдневяковы горад. За межамі ўмацаванняў

Ізборска з Х ст. разрастаюцца пасадскія пасяленні [Седов, 2003, с. 140 – 141; Седов, 2007, с. 117].

Старажытнае пскоўскае гарадзішча мела плошчу каля 2 га і пляцоўку авальнай формы. На ім існавалі пасяленні культуры каменных могільнікаў сярэдзіны І тыс., культуры доўгіх курганоў апошняй чвэрці І тыс., у VIII – IX стст. на гарадзішчы існавала пасяленне культуры тыпу Камно-Рыуга [Белецкий, 1996, с. 55 – 70]. У паўднёвай частцы гарадзішча размяшчаўся пасад, язычніцкае капішча і курганны некропаль. Гэтыя тапаграфічныя адзінкі датуюцца часам не раней за Х ст. [Лабутина, 1997, с. 190 – 191]. Этнічная прыналежнасць насельніцтва пачатковага Пскова вызначаецца як поліэтнічнае з перавагай прыбалтыйска-фінскага элемента пры ўдзеле латгалаў, славян і скандынаваў. Раннегарадское пасяленне на месцы Пскова было знішчана ў першай палове XI ст., раней за 1044 г., пасля чаго пачынаецца ўласна “гарадскі” этап развіцця Пскова.

Паводле С. В. Бялецкага, група славян-імігрантаў у сярэдзіне IX ст. перасялілася на спаленае пасяленне аўтахтонаў пры вусці ракі Пскавы. Гэтае пасяленне паступова пераўтварылася ў ядро будучага Пскова, у Х ст. тут фарміруецца старажытнарускі горад.

У XIV ст. адбываецца станаўленне Пскова як цэнтра самастойнай феадальнай рэспублікі. Пскоў складаўся з пскоўскага дзяцінца, дзе размяшчаліся органы гарадскога кіравання, тут захоўвалася зерне і іншая сельскагаспадарчая прадукцыя, адзенне. Каля дзяцінца праходзіла другая лінія ўмацаванняў – Даўмонтава сцяна. Побач з умацаваннямі размяшчалася люднае Таргавішча – плошча, замошчаная дрэвам. Сюды сыходзіліся радыусы галоўных вуліц з розных бакоў – з Завелічча, Запскоўя, Паланішча. Астатняя частка горада да сцяны 1309 г. (знешняя лінія гарадскіх умацаванняў) была занята пераважна жылой забудовай. Агульная плошча трох частак горада – дзяцінца, Даўмонтавай сцяны і прасторы паміж Даўмонтавай сцяной і сцяной 1309 г. – складала каля 20 га. Пасад Пскова хутка пашыраўся ў міжрэччы Пскавы і Вялікай і быў умацаваны каменнай сцяной ў 1374 / 1375 гг. Плошча горада павялічылася да 39 га. На ўскраінах пасада размяшчаліся агароды і нівы. Плошча пасада значна пашырылася да сярэдзіны XV ст., у гэты час горад ужо займаў плошчу 211,27 га [Лабутина, 1985, с. 240 – 244].

Віцебск паўстаў як пагост на адрэзку шляху “з варагаў у грэкі”. Акрамя віцебскага пагоста, княжной Вольгай былі заснаваны пагосты ў Гарадку і Усвятах. Віцебск з’яўляўся цэнтрам племяннной акругі ў дадзяржаўны перыяд (з 947 г.) і валасным у складзе Полацкай зямлі (з 1021 г.).

Віцебск узнік не пазней за Х ст. на ўпадзенні Віцьбы ў Заходнюю Дзвіну. У Х – XI стст. Віцебск уяўляў сабой пасяленне, структура якога складалася з Замкавай гары і пасада ля яе падножжа плошчай каля 6 га. Вакол Замкавай гары існавалі яшчэ два пасяленні. У Х – XI стст. адбывалася фарміраванне гандлёва-рамеснага пасада на аснове зліцця пасяленняў ля падножжа Замкавай гары. У той жа час з усходу ад Замкавай гары фарміруецца ўмацаваны вакольны горад. Напрыканцы XIII ст. дзяцінец і вакольны горад мелі агульную плошчу да 10 га, на іх аснове сфарміраваліся Верхні і Ніжні замкі. У XII ст. у горадзе існаваў торг. Утвараюцца пасяленні на правым беразе Віцьбы плошчай 2,5 га, якія, верагодна, з’яўляліся часткай гарадскога пасада [Левко, 1987, с. 147 – 148; Бубенько, 1997, с. 26 – 27].

На думку В. М. Ляўко, характар рэчаў, іх нешматлікасць на раннім этапе развіцця пасялення, адсутнасць рэгулярнай забудовы, выразнай рамеснай вытворчасці не дазваляюць назваць Віцебск горадам у сацыяльна-эканамічным значэнні да XII ст. [Левко, 2004, с. 26, 48].

У 40-я гг. XII ст. пасадскія пасяленні паўночнай часткі Дзвінскага ўзвышша ўмацоўваюцца драўлянай сцяной і ўваходзяць у агульнагарадскую структуру як ва-

кольны горад. З усходняй і заходняй часткі Ніжняга замка ўмацаванняў пасадаў да сярэдзіны XIV ст. не выяўлена [Бубенько, 2004, с. 151].

Асаблівую цікавасць уяўляе ніжні стратыграфічны пласт Віцебска (*стратыграфічны пласт 1 Дзвінскага ўзвышша і пласт 2 Ніжняга замка*), які ўтрымлівае матэрыялы трэцяй чвэрці I тыс. н. ч. і апошняй чвэрці I тыс. н. ч. (адпаведна керамічныя гаршкі і рэчавыя комплексы банцараўскай культуры і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў). Гэта стратыграфічна аднародны пласт, які не мае сцерыльных прапласткаў і слядоў храналагічнай лакуны. Вышэй за гэты пласт залягае *стратыграфічны пласт 2*, які ўтрымлівае ляпную кераміку IX – X стст. разам з раннеганчарнай і падпраўленай на ганчарным крузе [Левко, 2008, с. 11 – 12]. Аналагічная стратыграфічная сітуацыя зафіксавана на пляцоўцы гарадзішча старажытнага Лукомля. Тут раскапаны чорны гумусаваны пласт з ляпной керамікай і рэчамі другой паловы I тыс. н. ч., а ва ўсходняй частцы гарадзішча – рэшткі абарончых збудаванняў апошняй чвэрці I тыс., якія загінулі ў моцным пажары [Еремеев, 2007, с. 110]. Пад гэтым пластом размяшчаўся пласт з керамікай днепра-дзвінскай культуры, які быў знішчаны ў пазнейшы час і захаваўся толькі ў мацерыковых ямах. Паводле Г. В. Штыхава, “перерыва в заселении городища и селища не прослеживается на протяжении раннего и позднего средневековья” [Штыхов, 2008, с. 3]. Такая ж карціна зафіксавана на полацкім гарадзішчы і вакольным горадзе, аб чым гаворка пойдзе ніжэй. Тут жа важна падкрэсліць той факт, што *гэтая група* помнікаў існавала ў адзін час у рэгіёне Беларускага Падзвіння і мае выразнае стратыграфічнае падабенства раннесярэдневяковых напластаванняў.

У IX – X стст. Полацк з’яўляўся галоўным (“старшым”) горадам сваей “вобласці”, аснову якой Г. В. Штыхаў небеспадстаўна атаясамлівае з насельніцтвам заходняга арэала культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў [Штыхов, 2008, с. 2 – 3]. Полацк з’яўляўся цэнтрам племянной групоўкі крывічоў-палачан і атрымаў назву ад р. Палата [Лаврентьевская летопись, 1997, стб. 10]. Найбольш верагодна, што тапонім “Полацк” выкарыстоўвала пачатковае балцкае насельніцтва гарадзішча, напрыканцы VIII ст. яго перанялі славяне. Тапонім “Pal(l)teskja”, “Pallteskjuborg” вядомы Скандынавам з X ст.[3] [Джаксон, 2001, с. 124 – 125].

Старажытны “град” быў заснаваны на пагорку мысавага тыпу плошчай каля 1 га, на якім прыкладна з VII ст. да н. ч. пражывалі балцкія плямёны днепра-дзвінскай і банцараўскай культур [Дук, 2007 б; Дук, 2008 г].

Тэрыторыя горада ў IX ст. не абмяжоўвалася гарадзішчам, побач з ім узнікалі паселішчы, таму сумарная плошча пасялення была не меней за 8 га. Тапаграфічная структура Полацка развівалася монацэнтрычна. Ад гарадзішча ў радыяльным напрамку Полацк “абрастаў” пасяленнямі. Найбольш значнае па плошчы пасяленне (г. зв. селішча, ці перадграддзе) размясцілася на поўдзень ад гарадзішча – на месцы Ніжняга замка (плошча каля 6 га). У XI ст. гэтае пасяленне было акружана крапасной сцяной і стала вакольным горадам.

У гістарыяграфіі пытанне пра існаванне *вакольнага* горада Полацка практычна не закраналася даследчыкамі. Выключэннем з’яўляюцца працы Л. В. Аляксеева і П. А. Рапапорта, якія выказалі меркаванне не толькі пра магчымасць яго існавання, але і пра размяшчэнне на тэрыторыі паміж р. Палатой і Заходняй Дзвіной. Паводле Л. В. Аляксеева, вакольны горад размяшчаўся на месцы Ніжняга замка да вул. Прабойнай, вакольны горад ён атаясамляе з заходняй часткай Вялікага пасада ці Ніжнім замкам (мал. 18)

[3] На думку асобных даследчыкаў (Г. Шрамм), назва Полацка перайшла і замацавалася ў скандынаўскіх мовах у сярэдзіне IX ст. [Джаксон, 2001, с. 124].

[Алексеев, 2006, кн. 1, с. 108 – 109]. П. А. Рапапорт лакалізуе вакольны горад на адлегласць да 1200 м на ўсход ад Верхняга замка [Раппопорт, 1967, с. 94].

Меншае па плошчы “перадграддзе” (0,25 га) выяўлена на правым беразе р. Палаты. Па ўсёй верагоднасці, аналагічныя невялікія па плошчы “перадграддзі” маглі існаваць і на паўночным захадзе ад гарадзішча на правым беразе р. Палаты. Прынамсі, пра гэта ёсць прамыя археалагічныя сведчанні.

Даныя радыёвугляроднага датавання разам з комплексам рэчаў сведчаць аб пражыванні на гарадзішчы насельніцтва культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў у 780 г., нашмат раней за дату першай летапіснай згадкі Полацка (862 г.) [Дук, 2008 г]. Працяг раскопак старажытнага Полацка ў 2008 г. на тэрыторыі старажытнага вакольнага горада пацвердзіў факт наяўнасці на ім *аднароднага стратыграфічнага пласта* другой паловы І тыс. н. ч. У гэтым пласце былі знойдзены фрагменты ляпной керамікі банцараўскай культуры і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў разам з рэчамі апошняй чвэрці І тыс. н. ч. Атрыманая серыя пяці радыёвугляродных дат з гэтага пласта пацвярджае пазначанае датаванне.

Такім чынам, у другой палове VIII ст., але не пазней за 780 г., на гарадзішчы пры вусці р. Палаты крывічамі быў заснаваны моцны племянны і рэгіянальны цэнтр, ядро будучага княства.

З пачатку XI ст. полацкае гарадзішча выкарыстоўвалася як рэзідэнцыя полацкіх князёў Ізяславічаў, “Рагвалодавых унукаў”. Разам з князем на гарадзішчы пражывала мясцовае славянскае рамеснае насельніцтва, якое абслугоўвала патрэбы княжацкага двара. Прысутнасць рамеснікаў (збройнікаў, ювеліраў) на старажытным полацкім дзяцінцы цалкам адпавядае тапаграфіі старажытных рускіх гарадоў: у цэнтральнай частцы горада, у непасрэдным суседстве з княжацкім церамам, археолагі знаходзяць мноства розных майстэрняў, якія, магчыма, мелі вотчынны характар [Рыбаков, 1948, с. 169]. Радыёвугляродная дата – 1310 г. – з комплексам знаходак пачатку XIV ст. вызначае час спынення існавання княжацкай рэзідэнцыі на гарадзішчы. Гэта, магчыма, абумоўлена ўваходжаннем Полацка ў склад ВКЛ і зменамі палітычнага статуса горада [Дук, 2008 г, с. 27].

Папулярная ў гістарыяграфіі думка пра размяшчэнне княжацкай рэзідэнцыі і княжацкага двара з XII ст. за межамі горада [Дук, 2008 а] вынікае з фрагменту летапісу пра падзеі 1159 г. Пад гэтым годам у летапісе пазначаюцца тапаграфічныя аб’екты, якія проціпастаўляюцца “гораду”. Гаворка ідзе пра мястэчка “Бельцици”. У той час там ужо існаваў буйны манастыр з чатырма мураванымі цэрквамі. Паводле летапісу, у 1159 г. дзесьці ў Бельчыцы, магчыма, непасрэдна на тэрыторыі манастыра, размяшчаліся князь і яго дружына. Аднак факт знаходжання князя Расціслава ў Бельчыцы ў часы найвышэйшага супрацьстаяння князя і “Полцанъ”[4] не з’яўляецца доказам размяшчэння ў манастыры княжацкай рэзідэнцыі. Наадварот, агульнапрызнана, што ў часы супрацьстаяння з народам князь імкнуўся знаходзіцца па-за межамі горада, а не на тэрыторыі дзяцінца [Куза, 1985, с. 65 – 66]. У летапісе пра падзеі 1159 г. дакладна пазначана, што папярэджаны сваім “дзецкім” князь Расціслаў на паўдарозе вярнуўся ў Бельчыцу, адкуль разам з дружынай накіраваўся ў Менск да свайго брата Валадара. Размяшчэнне манастыра ў зручным для князя месцы на шляху ў Менск і факт часовага[5] знаходжання дружыны толькі падкрэсліваюць значнасць фартыфікацыйнай функцыі *Бельчыцкага*

[4] Паводле той жа крыніцы, князю працістаяла полацкае веча.

[5] Часовасць пражывання князя ў Бельчыцы вынікае з тэксту крыніцы “бо князь *в то веремя* на Бельцици”.

*Барысаглебскага* манастыра, але зусім не з’яўляюцца доказам размяшчэння ў Бельчыцы княжацкай рэзідэнцыі.

Археалагічныя даныя таксама не пацвярджаюць факт размяшчэння княжацкай рэзідэнцыі на тэрыторыі Барысаглебскага манастыра. Падчас археалагічнага назірання за пракладаннем інжынерных сетак былі вывучаны культурныя напластаванні на тэрыторыі манастыра. У 2003 г. траншэя цеплатрасы шырынёй 1,5 м на глыбіню ў сярэднім 1 – 1,5 м перасякала былую манастырскую тэрыторыю з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. У 2007 г. паралельна на адлегласці ад 35 да 100 м на захад была пракладзена другая траншэя з аналагічнымі характарыстыкамі.

Стратыграфія культурных напластаванняў выразна адрозніваецца ад вядомай княжацкай рэзідэнцыі на гарадзішчы. Так, культурны пласт, ранейшы за XIV – XV стст., адсутнічае. Артэфакты XII – XIII стст. былі прадстаўлены выключна кавалкамі керамічнага посуду, што не супярэчыць статусу манастырскай тэрыторыі, на якой інтэнсіўнасць жыцця і шчыльнасць забудовы была не вельмі высокай. Відавочна, што княжацкая рэзідэнцыя прадугледжвала б і значны асартымент ювелірных упрыгожванняў, зброі ў культурным пласце, а таксама наяўнасць непасрэдна ўмацаванняў манастыра. Усе гэтыя катэгорыі рухомых і нерухомых артэфактаў выяўлены не былі [Дук, 2008 а]. Абсалютна відавочна, што найбольш ранція стратыграфічныя пласты былі знівеліраваны ў XV – XVI стст., што сведчыць аб іх нязначнай магутнасці.

Аналагічная сітуацыя характэрна для напластаванняў XIV – XV стст. на ўласна пасадскай тэрыторыі. Нешматлікасць у Полацку стратыграфічна вылучаных напластаванняў гэтага часу сведчыць пра іх уключэнне ў пазнейшы стратыграфічны пласт XVI – XVII стст. у выніку шырокамаштабнай будаўнічай дзейнасці. Гэта з’яўляецца адметнай рысай археалагічнага вывучэння культурнага пласта полацкіх правабярэжных пасадаў.

На правым беразе р. Палаты ўздоўж р. Дзвіны ў XI ст. фарміруецца Запалоцкі пасад [Дук, 2006 в, с. 52 – 53]. У XI ст. пры вусці р. Палаты забудоўваецца пляцоўка Верхняга замка, на ім пражывае епіскап з прыбліжанымі асобамі, на тэрыторыі замка ўзводзяцца культавыя і свецкія пабудовы для адміністрацыйна-цырыманіяльных патрэб. Нягледзячы на адсутнасць культурнага пласта X ст., наяўнасць асобных артэфактаў гэтага часу сведчыць на карысць таго, што пляцоўка Замчышча першапачаткова выкарыстоўвалася ў якасці язычніцкага культавага цэнтра. На гэта ўказваюць і асаблівасці размяшчэння, і спецыфіка забудовы дадзенага аб’екта ў гарадской тапаграфіі старажытнага Полацка [Лобач, 2009].

Вялікі пасад фарміруецца на аснове старажытнага паселішча (з XI ст. – вакольнага горада), межы якога ён пераўзышоў у другой палове XI ст. У XII ст. паўстаюць дзве буйнейшыя культавыя ўстановы – згаданы Бельчыцкі Барысаглебскі і Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыры, размешчаныя за межамі горада.

Якім чынам адзначаныя працэсы станаўлення тапаграфічнай структуры Полацка ў IX – XIII стст. карэлююцца з аналагічнымі працэсамі іншых старажытных гарадоў Паўночнай Русі?

Відавочна, што тапаграфічнае развіццё Полацка на пачатковым этапе мае адметныя рысы наяўнасці радыяльнай структуры з цэнтрам на гарадзішчы. Цэнтрам горада ў IX ст. з’яўлялася гарадзішча, а ў бок р. Дзвіны ўздоўж левага берага р. Палаты працягнулася вялікае паселішча – з XI ст. вакольны горад і ядро будучага Вялікага пасада. Невялікія паселішчы былі размешчаны і на мысах р. Палата. Падобнай мадэлі развіцця тапаграфіі ў найстаражытнейшых стольных “градах” Паўночнай Русі (Ладага, Ноўгарад) у IX – X стст. не назіралася. Тым не менш, схема развіцця “дзяцінец –

вакольны горад (ядро будучага пасада)” у IX – X стст. характэрна для Ізборска[6], Пскова і Віцебска, з X ст. – для Ладагі, з XI ст. – Ноўгарада.

У XI ст., падчас станаўлення ўласна горада ў сацыяльна-эканамічным разуменні і феадалізацыі грамадства, у Полацку адбываюцца змены тапаграфічнай структуры, якія маюць найбольшыя падабенствы з Ноўгарадам. Так, перанос рэзідэнцыі наўгародскіх князёў у пачатку XI ст. практычна сінхронны па часе ўладкаванню Верхняга замка ў Полацку, які Г. В. Штыхаў і С. В. Тарасаў датуюць адпаведна пачаткам ці сярэдзінай XI ст. [Тарасаў, 1998 б, с. 37, Штыхов, 1975, с. 23]. Аднак функцыянальнае прызначэнне Верхняга замка ў Полацку і княжацкай рэзідэнцыі на ўскраіне Славенскага пагорку ў Ноўгарадзе адрознівалася фактарам адсутнасці на першым слядоў пражывання княжацкай дружыны.

Прысутнасць варагаў (скандынаваў) на полацкім гарадзішчы і вакольным горадзе па рэчавым матэрыяле практычна не прасочваецца. Гэта з’яўляецца адметнай рысай, якая адрознівае Полацк ад Рурыкавага гарадзішча ў Ноўгарадзе і г. зв. “Землянога гарадзішча” ў Старой Ладазе, дзе знойдзены багаты асартымент скандынаўскай зброі і ўпрыгожанняў [Волковицкий, 2003, с. 135; Носов, 2007, с. 26 – 27; Янин, 1997, с. 10 – 11]. На Рурыкавым гарадзішчы пражывала поліэтнічнае насельніцтва, а статус пасялення вызначаецца як гандлёва-рамесны і ваенна-адміністрацыйны цэнтр [Носов, 2007, с. 26 – 27]. Знойдзены археолагамі на Полацкім гарадзішчы і паселішчах комплекс рэчаў IX – X стст. з’яўляецца тыповым для гістарычнай акругі Полацка і славянскага насельніцтва ўсходнееўрапейскага рэгіёна ў цэлым [Плавінскі, 2007, с. 28]. Усё гэта пацвярджае, што пачатковая крэпасць на гарадзішчы была заснавана славянамі-крывічамі і функцыянавала без шырокага ўдзелу скандынаваў [Дук, 2007 з, с. 25–31]. У адрозненне ад Ноўгарада, пасадская структура Полацка фарміравалася сінхронна часу існавання гарадзішча і мела прамое дачыненне да летапіснага “града” IX ст.

Асобныя сядзібы полацкіх рамеснікаў на пасадах па багацці не саступалі баярскім у Ноўгарадзе [Тарасаў, 2003, с. 270]. Пра гэта ж сведчыць і паведамленне летапісу 1092 г. пра полацкія “харомы”. Зварот да наўгародскіх матэрыялаў невыпадковы, паколькі баярскіх сядзіб XI – XIV стст. у Полацку археалагічна не выяўлена. Сляды сядзіб баяр-шляхты археалагічна зафіксаваны на тэрыторыі Верхняга замка, Вялікага і Запалоцкага пасадаў толькі ў канцы XVI – XVII стст. [Дук, 2007 ж, с. 68]. Гэтыя сядзібы размешчаны цераспалосна з сядзібамі рамеснікаў і вылучаюцца па наяўнасці печаў з “гербавай” кафляй і адмысловым інвентары. Магчыма, працяг вывучэння пасадаў вялікай плошчы дазволіць выявіць баярскія сядзібы, больш раннія за XVI ст., але верагодна і іншая сітуацыя: баярскіх сядзіб на тэрыторыі пасадаў у XI – XIV стст. не існавала. І звязана гэта з асаблівасцю сацыяльнай арганізацыі пасадскага насельніцтва.

Такім чынам, Полацк з’яўляецца адным з самых старажытных гарадоў на тэрыторыі Паўночнай Русі. Археалагічны матэрыял пацвярджае даныя летапісных крыніц аб існаванні Полацка ў IX – X стст. разам з такімі летапіснымі “градамі”, як Ладага, Ноўгарад (Рурыкава гарадзішча), Ізборск, Пскоў. Сацыятапаграфічная структура Полацка ў IX – XIII стст. прайшла складаны шлях развіцця, які мае пэўныя адметнасці ад аналагічных працэсаў у гарадах Паўночнай Русі. Варажскі этнічны элемент у Полацку прасочваецца ў значна меншай ступені ў параўнанні з Ладагай і Ноўгарадам. Стратыграфія культурнага пласта і матэрыяльная культура другой паловы I тыс. мае найбольшыя падабенствы менавіта з гарадамі Беларускага Падзвіння (Віцебскам і Луком-

[6] Погляд на пачатковую гісторыю Ізборска, на нашу думку, больш аргументаваны ў канцэпцыі С. В. Бялецкага, якая і ўзята намі за аснову гістарычнага параўнання.

лем). І хаця пісьмовыя крыніцы згадваюць гэтыя гарады ў больш позні час, няма сумненняў у іх “протагарадскім” этапе ў ІХ – Х стст.

Полацк узнік на аснове аўтахтоннага пасялення балтаў днепра-дзвінскай і банцараўскай культур, пры гэтым культурны пласт трэцяй і апошняй чвэрці І тыс. н. ч. найлепш захаваўся на тэрыторыі вакольнага горада. Керамічны комплекс банцараўскай культуры і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў з гэтага пласта сведчыць аб пэўным этапе сумеснага пражывання двух этнасаў (усходніх балтаў і славян-крывічоў[7]) пачатковага Полацка. Што тычыцца гарадзішча, то керамічныя комплексы адзначанага часу тут прысутнічаюць у моцна перамяшаных культурных напластаваннях разам з раннеганчарнай керамікай, што сведчыць пра больш складаны характар гісторыі помніка.

Станаўленне сярэдневяковага Полацка прыпадае на сярэдзіну ХІ ст., тое ж можна адзначыць і ў дачыненні да іншых гарадоў Паўночнай Русі (Ноўгарад, Ізборск, Пскоў). Віцебск у ХІ ст. вылучаецца як удзельны “прыгарад” Полацка, а рысы развітага гандлёва-рамеснага пасялення з функцыямі ўласна горада набывае не раней за ХІІ ст.

Падабенства развіцця сацыятапаграфічнай структуры Полацка, Віцебска і Лукомля ўздымае пытанне аб прычынах, паводле якіх Полацк адыгрываў вядучую ролю ў рэгіёне. Відавочна, што гэта не маглі быць выгоды ў арганізацыі гандлю, паколькі Полацк хаця і размяшчаўся на шляху “з варагаў ў грэкі”, тым не менш не меў пераваг у параўнанні з іншымі раннегарадскімі цэнтрамі. Тапаграфічныя асаблівасці размяшчэння пачатковых гарадзішча і паселішчаў на аддаленні ад асноўнай гандлёвай магістралі – р. Дзвіны – толькі пацвярджаюць гэта. Больш таго, пасяленне пры вусці р. Палаты шмат у чым саступала таму ж Віцебску, праз які па рацэ Усвяча праз волак магчыма было трапіць на раку Ловаць. Альтэрнатыўны шлях праходзіў па рэках Обаль ці Дрыса – зноў такі пралягаў па-за межамі р. Палаты [Бектинеев, 1987, с. 7]. Рака Палата вышэй за воз. Ізмок, адкуль яна бярэ пачатак, не з’яўлялася прыдатнай для праходжання караблёў, тут і сёння размешчаны вялікі лясны масіў, бліжэйшыя прытокі ракі Ловаць адсутнічаюць. Рака Палата на ўсёй працягласці русла плыткая. Ёсць падставы меркаваць, што так было і ў старажытнасці. Прынамсі, па звестках Р. Гейдэнштэйна, русла р. Палаты ў дажджлівым 1579 г. было вельмі плыткім, раку паўсюдна можна было перайсці па калена [Гейденштейн, 1889, с. 56].

У сувязі з гэтым нельга не пагадзіцца з меркаваннем Э. М. Загарульскага аб тым, што асноўным фактарам, які б вылучаў Полацк з ліку сінхронных пасяленняў, з’яўляецца вядучая палітычная, а як вынік – і сацыяльна-эканамічная роля горада. “Стартавыя” магчымасці для развіцця пасялення, відаць, адыгрываў менавіта факт размяшчэння ў горадзе княжацкай адміністрацыі [Загорульский, 1983, с. 28]. Гэтая адміністрацыя спачатку васальна падпарадкоўвалася Рурыку, а ў ХІ ст. праводзіла ў дачыненні да яго самастойную эканамічную і, як вынік, палітычную дзейнасць [Гісторыя Беларусі, 2000, с. 157]. Пра гэта сведчаць паход наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча на Полацк і забойства полацкага князя Рагвалода (каля 890 г.), паходы полацкіх князёў Брачыслава Ізяславіча (1021 г.) і Усяслава Брачыславіча (1066 г.) на Ноўгарад. Адсутнасць на полацкім гарадзішчы слядоў размяшчэння варажскай дружыны сведчыць аб дамінаванні на ім мясцовай крывіцкай рода-племяннай вярхушкі ў ІХ – ХІ стст., падпарадкаванай спачатку інтарэсам Ноўгарада, а ў далейшым – з часоў Рагвалода і Брачыслава Ізяславіча – падтрымліваючай мясцовага князя.

[7] Погляды гісторыкаў на этнічную прыналежнасць абедзвюх культур разгледжана намі ў асобным артыкуле [Дук, 2007 г].

# 4. “ДЗЯЦІНЕЦ”, “ПАСАД” І “ЗАМАК” У САЦЫЯЛЬНАЙ ТАПАГРАФІІ ПОЛАЦКА IX – XVIII СТСТ.

## 4.1. Функцыі і статус замкаў у сацыятапаграфічнай структуры горада

Паходжанне тэрміна “горад” ад слова “град” – “агароджанае месца” – з’яўляецца агульнапрызнаным фактам [Моргунов, 2008, с 57]. Звычайна функцыю пачатковай крэпасці выконваў дзяцінец. Сакральная тапаграфія Полацка дахрысціянскіх часоў налічвала дзве культавыя (сакральныя) зоны: узвышша на сутоку рэк Дзвіны і Палаты і Валова азярына – месца ўшанавання Вялеса/Воласа. Пасля пабудовы Сафійскага сабора мясцовасць на сутоку рэк Палаты і Дзвіны стала сакральным хрысціянскім цэнтрам. Рэлікты дахрысціянскіх уяўленняў захаваліся да XVI ст. у тапоніму “Чорная гара” і “Чорны ручай” як маркеры існавання старажытнага язычніцкага капішча [Алексеев, 2006, кн. 1, с. 104, 106 – 107; Лобач, 2009, с. 118]. У 1563 г., пасля пабудовы Ніжняга замка, за гарой пры вусці р. Палаты замацавалася назва “Верхні замак”.

У гістарыяграфіі склалася дастаткова трывалае меркаванне аб пераносе старажытнага дзяцінца (IX – X стст.) з гарадзішча на Верхні замак. Гэты працэс вызначаецца ў межах XI ст. [Тарасаў, 1998 б, с. 37; Тихомиров, 1956, с. 26; Штыхов, 1975, с. 33]. Сёння, калі атрыманы доказы працягу існавання княжацкай рэзідэнцыі на гарадзішчы да пачатку XIV ст., тэзіс пра перанос *дзяцінца* выглядае не зусім правамоцным. Аднак адмаўляць той факт, што Верхні замак з XI ст. з’яўляўся месцам пражывання сацыяльных эліт і выконваў важныя адміністрацыйныя функцыі, таксама нельга.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: якую ролю ў сацыятапаграфічнай структуры Полацка выконваў Верхні замак з XI па XVIII стст.? Дзеля гэтага неабходна высветліць функцыянальнае прызначэнне замкаў у структуры старажытных гарадоў Русі і дынаміку змен забудовы і засялення Верхняга замка Полацка.

Так, пачаткова на дзяцінцы пражывалі малодшыя дружыннікі (“дзецкія”) і баяры (“сільныя мужы”) [Штыхаў, 1999, с. 36]. З моманту развіцця феадальных адносін князь усё больш абапіраецца на малодшую дружыну (“княжых дзяцей”)[8] [Колединский, 2002, с. 224]. На дзяцінцы размяшчаліся рамесныя майстэрні і пражывала вялікая колькасць насельніцтва [Фроянов, Дворниченко, 1988, с. 33]. Тут жа былі размешчаны гарадскі сабор і цэрквы, княжацкія церамы, а таксама кром – сховішча прадуктаў гарадской абшчыны [Чантурия, 2005, с. 65 – 66]. Пры гэтым памеры дзяцінцаў рэдка перавышалі 2 га (Берасце, Клецк, Пінск, Слуцк) [Лысенко, 1999, с. 78 – 109] ці 3 га (Мінск) [Загорульский, 1982, с. 80]. Дзяцінец быў ідэалагічным цэнтрам, месцам канцэнтрацыі рамяства і пражывання свецкай і духоўнай адміністрацыі горада, выконваў функцыю абароны не толькі князя, але і пасадскага люду ў часы ваеннай небяспекі.

Паводле А. М. Ляўданскага і М. М. Ціхамірава, пасля адбудовы Верхняга замка на гарадзішчы працягвала існаваць пасяленне, якое вызначаецца як “асобы княжацкі двор” [Тихомиров, 1956, с. 26]. Што тычыцца Верхняга замка Полацка, то сляды дзейнасці княжацкай адміністрацыі фіксуюцца па наяўнасці непадалёк ад Сафійскага сабора *княжацкіх*[9] храма Архангела Міхаіла і церама. Гэтыя помнікі манументальнага дойлідства выяўлены археалагічна, звесткі аб іх у пісьмовых крыніцах адсутнічаюць. Па

[8] З гэтым тэзісам добра стасуецца згаданы эпізод, калі князь Расціслаў быў папярэджаны сваім “дзецкім” аб падрыхтоўцы замаху на яго з боку полацкага баярства.

[9] Вызначэнне распаўсюджана ў гістарыяграфіі, але не падмацавана гістарычнымі крыніцамі.

меркаванні П. А. Рапапорта, царква і церам пабудаваны ў другой палове XII ст. [Раппопорт, 1980].

Для ўдакладнення пытання аб датаванні часу пабудовы церама варта прааналізаваць змест справаздач П. А. Рапапорта аб раскопках у Полацку ў 1976 – 1977 гг. Церам, складзены з плінфы, быў даследаваны ў 1976 г., а драўляная прыбудова каля яго – у 1977 г. [Раппопорт, спр. № 527; Раппопорт, спр. № 574].

Церам уяўляў сабой невялікую, амаль квадратную ў плане мураваную пабудову памерам 4,7×4,2 м. З захаду да яе прымыкала другая, яшчэ меншая прыбудова – 2,5×2,4 м. З паўночнага боку ўшчыльную да мураванага церама прыстасавана зрубная драўляная канструкцыя. Вонкавыя памеры зруба гэтай прыбудовы – 5,3×5,4 м. У драўлянай прыбудове захаваліся сляды драўляных плах падлогі з рэшткамі розначасовых печышчаў.

З тэксту справаздачы 1976 г. магчыма даведацца, што:

1) Знешні памер сцен мураванага церама складаў 4,7×4,2 м. Падмурак церама зроблены з камянёў на вапнавай рошчыне, ён заглыблены ў чорны культурны пласт, а яго падножжа абапіраецца на мацярык – шчыльны жоўты пясок.

2) Глыбіня залягання мацерыка на ўчастку раскопу – 2,2 – 2,4 м. На глыбіні 1,2 – 1,4 м пачынаецца магутны культурны пласт са знаходкамі XII – XIII стст., у які і быў заглыблены падмурак церама.

3) Памеры цэглы з церама – 3,5 – 3,8×15 – 16×26,5 – 29 см. Пры гэтым падкрэслена, што “лекальных кирпичей или кирпичей обычного (широкого) формата нет”. Знакі на тарцах цэглы знойдзены ў вельмі нешматлікай колькасці. Рошчына-цамянка без вялікіх дамешак шамоту.

4) Характар муроўкі сцен не высветлены, хаця былі знойдзены асобныя кавалкі цэглы, замацаванай рошчынай у некалькі радоў. Зроблена дапушчэнне, што муроўка была са “схаваным радам” [Раппопорт, спр. № 527, с. 12 – 14].

5) Драўляная прыбудова добра дапасуецца да цаглянай і ўяўляе з ёй *адзіны* комплекс.

Відавочна, што спосаб уладкавання падмурка церама вызначаюць час яго будаўніцтва ў XIV ст., пасля таго, як утварыўся “магутны культурны пласт XII – XIII стст.”. Памер цэглы набліжаны да брусковай і добра вядомы ў Полацку па знаходках у Экімані і Запалоцці[10] (гл. ніжэй). Датаванне рэштkaў самай ранняй з пяці печаў, раскапаных у драўлянай прыбудове, вызначана паводле дэндрахраналогіі 1304 г. [Заяц, 1997; Панічева, 1980]. Такім чынам, церам з плінфы і драўляную прыбудову каля яго магчыма датаваць не раней за XIV ст.

Можна пагадзіцца з думкай аб прыналежнасці церама ў XIV – XVI стст. да комплекса княжацкага двара. Цалкам магчыма, што ў гэты час на Верхнім замку існавала гарадская сядзіба князя накшталт Яраслава Дворышча ў Ноўгарадзе. Аднак не выключана і іншае. Церамы на Русі выяўлены ў Пераяслаўлі, Чарнігаве, Смаленску, Гародні, але яны не заўсёды належалі князю, нярэдка – епіскапу [Трусаў, 1993, с. 19; Pucko, 2001, с. 89].

Факт выкарыстання гарадзішча як жылой рэзідэнцыі полацкіх князёў у IX – XIII стст. цяжка аспрэчыць (наяўнасць багатага на элітарныя знаходкі і стратыграфічна стракатага культурнага пласта, рамесных майстэрняў, царквы, прысутнасць якой археалагічна зафіксавана) [Дук, 2007 б, с. 39]. Падобная сітуацыя назіраецца ў Ноўгарадзе, дзе існавала проціпастаўленне Дабравешчанскага сабора на Гарадзішчы Сафійскаму сабору на Яраслававым Дворышчы.

[10] Пра тое, што гэта зусім іншы ў параўнанні з плінфай фармат, сведчыць аўтар справаздачы.

Затое дзейнасць епіскапа на Верхнім замку прасочваецца даволі яскрава ў першую чаргу па пісьмовых (лакалізацыя ў XIV – XVII стст. епіскапскага двара[11]) і археалагічных (адкрыццё ў 1980 г. жылога драўлянага дома XIV – XV стст. непасрэдна каля Сафійскага сабора) крыніцах [Тарасаў, 1998 б, с. 68 – 70].

Сітуацыя з размяшчэннем княжацкага двара змянілася ў пачатку XIV ст. (уваходжанне Полацка ў склад ВКЛ) [Варонін, 2009, с. 30 – 40]. Пасля "цьмянага" для Полацка перыяду тэакратычнай улады, дзесьці пасля 1326 г., калі быў пасаджаны на княжанне брат Гедыміна Воінь, княжацкая рэзідэнцыя на гарадзішчы спыніла сваё існаванне, праз некалькі стагоддзяў помнік быў канчаткова закінуты і гарадзішча ператварылася ў гарадскія могілкі [Дук, 2007 з].

На полацкім гарадзішчы разам з князем і дружынай пражывала рамеснае насельніцтва [Дук, 2007 з]. Для Верхняга замка гэтая сітуацыя не характэрна. Тут у XI – XIII стст. размяшчаліся манастыры, цэрквы, княжацкі церам і епіскапскі двор. Выяўленая сядзібная забудова рамеснікаў (ювеліраў, касцярэзаў, кавалёў і інш.) у XI – XIII стст. размяшчалася *каля* Верхняга замка, фактычна на пасадскай тэрыторыі.

На тэрыторыі ўласна Верхняга замка не знойдзена слядоў рамеснай вытворчасці. Культурныя напластаванні XI – XIII стст. на Верхнім замку невялікія па магутнасці і не вылучаюцца разнастайнасцю знойдзеных артэфактаў (на гарадзішчы назіраецца адваротная сітуацыя). Нарэшце, на Верхнім замку адсутнічаюць сляды крапасных умацаванняў XI – XIII стст.

Адна з функцый дзяцінца – абарончая. Сляды магутных абарончых умацаванняў выяўлены практычна на ўсіх гарадах двух буйнейшых старажытнарускіх княстваў на тэрыторыі сучаснай Беларусі – Полацкім і Тураўскім. Так, дзяцінцы ўсіх буйнейшых гарадоў Тураўскай зямлі (Турава, Бярэсця, Давыд-Гарадка, Пінска) у XI ст. мелі ўнутрывальныя канструкцыі, равы і сістэму крапаснай забудовы [Лысенко, 1999, с. 90 – 94]. Аднак на Верхнім замку Полацка не выяўлена надзейных слядоў наяўнасці крапасных умацаванняў, ранейшых за XIV ст. Аднак a priori лічыцца, што яны павінны былі існаваць [Тарасаў, 1998 б, с. 93]. Паказальнае ў гэтым плане меркаванне Л. В. Аляксеева, які адзначае, што менавіта пры Ўсяславе Брачыславічы (1044 – 1101) была пабудавана "магутнейшая крэпасць на Замкавай гары ў Полацку, падобна той, якую ўзвёў яго сын на верхняй Свіслачы, назваўшы Менскам" [Алексеев, 2006, кн. 1, с. 103].

На нашу думку, Верхні замак у разглядаемы перыяд быў уключаны ў агульную сістэму пасадскай фартыфікацыі, якая існавала з XI ст. і была досыць разгалінаванай. У XI ст. Верхні замак набыў функцыю хрысціянскага сакральнага цэнтра замест былога язычніцкага. Не адмаўляючы прысутнасць на Замчышчы абарончай сцяны, адзначым, што яна магла быць зроблена з вастракола і пакуль што археалагічна не выяўлена. Ускосным доказам адсутнасці магутных абарончых збудаванняў Верхняга замка ў XI – XIII стст. з'яўляецца вялікі культурны пласт і характар забудовы ўсходняй часткі Верхняга замка. Асноўныя археалагічныя даследаванні Верхняга замка праводзіліся менавіта тут, і практычна нідзе не было зафіксавана выразных рэшткаў крапаснай сцяны, за адным выключэннем.

Так, у 1957 г. на глыбіні 3,2 – 3,3 м была выяўлена ўнутрывальная канструкцыя, якая аднесена М. К. Каргерам да яруса 1 [Каргер, спр. № 25, с. 4 – 5]. Канструкцыя складалася з 2 – 3 радоў невялікіх акруглых бярвенняў і некалькіх цясаных плах, пакладзеных перпендыкулярна адна на другую. Паміж бярвеннямі зафіксавана гліна (мал. 22). Канструкцыя выяўлена да глыбіні 3,7 – 3,8 м ад зямной паверхні (мацярык раз-

[11] Самая ранняя дата – 1309 г.

мяшчаўся на глыбіні 5,88 м). Пад адзначанымі канструкцыямі зафіксаваны будаўнічыя ярусы 2 і 3. Шматлікі рэчавы матэрыял, знойдзены ў раскопе, датаваны XI – XIII стст.

Гэтыя выяўленыя фрагменты абарончых умацаванняў дапаўняюцца паведамленнем А. Р. Мітрафанава, які прымаў удзел у раскопках 1957 г. У раскопе 1959 г. у перадапошнім будаўнічым гарызонце на глыбіні 5 м былі выяўлены бярвенні ўнутрывальнай канструкцыі, у працяг яе на месцы корпуса бальніцы ў 1957 г. М. К. Каргерам выяўлены рэшткі дубовых варот [Тарасаў, 2002, с. 35]. Паколькі ўся канструкцыя размяшчалася на культурным пласце, застаецца канстатаваць той факт, што яна не была сінхроннай часу засялення тэрыторыі Верхняга замка.

Ды і ці маглі замкавыя ўмацаванні падыходзіць ушчыльную да пасадскай тэрыторыі? Малаверагодна. З улікам інтэнсіўнага нарастання культурнага пласта ўсходняя частка была вышэйшай за асноўную пляцоўку Замчышча. Верхні замак з усіх бакоў, акрамя ўсходняга, мае надзвычай добрыя прыродныя ўмацаванні ў выглядзе стромкіх высокіх схілаў вышынёй больш за 10 м. Вось чаму адкрытыя рэшткі абарончай сцяны маглі належаць альбо вакольнаму гораду XI ст., альбо пасаду XII – XIII стст.

У XIV – XVI стст. тэрыторыя Верхняга замка па перыметры з вонкавага боку была абнесена драўлянымі ўмацаваннямі. Іх сляды ў заходняй і, магчыма, паўднёвай частцы Верхняга замка зафіксаваны археалагічна [Булкин, спр. № 594, с. 9 – 11; Тарасаў, 1998 б, с. 41].

З прыведзеных даных вынікае, што Верхні замак у XI – XIII стст. наўрад ці меў магутную сістэму крапасных умацаванняў. У гэтым не было вялікай патрэбы, улічваючы адсутнасць на Верхнім замку княжацкага двара і зручнае размяшчэнне на ўмацаваным самой прыродай, акружаным з трох бакоў вадой пагорку. І нават той факт, што з XIII ст. на Верхнім замку размяшчаецца двор полацкіх епіскапаў, а ў Сафійскім саборы захоўваецца гарадская казна і бібліятэка, не можа з'яўляцца доказам існавання на ім княжацкай рэзідэнцыі.

У той жа час на гарадзішчы былі даследаваны выразныя сляды крэпасці, якія складаліся з вала, рэшткаў драўляных канструкцый і каменных адмостак. Да сённяшняга дня з паўночнага боку гарадзішча захаваліся сляды вала і дзвюх тэрас ля яго падножжа. Гэтыя тэрасы, магчыма, з'яўляюцца рэшткамі старажытнага ўзвоза на гарадзішча. Княжацкая рэзідэнцыя была надзейна ўмацавана, і менавіта яна выконвала функцыю абароны пасадскага люду ў часы ваеннай небяспекі.

Верхні замак у XI – XVI стст. з'яўляўся старажытным сакральным цэнтрам, які выкарыстоўваўся і для адміністрацыйна-цырыманіяльных мэтаў. Акрамя таго, Верхні замак мог з'яўляцца месцам дзейнасці князя (XI – XIV стст.), магчыма, і яго пражывання (пасля 1326 г.). На Верхнім замку жылі княжацкі намеснік (з 1392 г.), ваявода (з 1504 г.), уладыка, баяры і мяшчане, на ім размяшчаўся шэраг манастыроў і быў пабудаваны Сафійскі сабор.

Такім чынам, пры супастаўленні ўсяго комплекса гістарычных крыніц вынікае, што *дзяцінец* Полацка ў IX – XIII стст. існаваў на старажытным полацкім гарадзішчы, а з пачатку XIV ст. яго функцыі стаў выконваць Верхні замак.

Адміністрацыйны цэнтр горада пасля надання Полацку магдэбургскага права (1498 г.) і пабудовы гарадской ратушы (пасля 1509 г.) быў перанесены на гарадскую плошчу [Дук, 2007 ж, с. 38]. З гэтага часу на працягу XVI – XVII стст. Верхні замак становіцца мэтай шматлікіх нападаў на Полацк маскоўскіх войск. У гэты час на яго тэрыторыі размяшчаліся двары ваяводы і сацыяльных эліт, захоўваліся гарадскі скарб і бібліятэка. Замак па-ранейшаму заставаўся сакральным цэнтрам і самай значнай полац-

кай крэпасцю. На яго ўмацаванне выдаткоўваліся асноўныя сродкі, і захоп гэтай фартэцыі ў 1563 г. азначаў страту Полацка войскамі ВКЛ. У сярэдзіне XVII ст. Верхні замак згадваецца пад найменнем "вялікі горад" [Витебская старина, 1885, с. 273]. Замак меў надзейную ахову. Гайдукі (вартаўнічыя) Верхняга замка пражывалі, як правіла, тут жа ў сваіх дамах разам з жонкамі і дзецьмі [Дук, 2007 ж, с. 229].

На сённяшні дзень пры наяўнасці звестак аб шматлікіх паходах на Полацк у перыяд з 980 г. (забойства Рагвалода Уладзімірам Святаславічам) па 1563 г. [Варонін, 2006, с. 444] доказы аб захопе полацкага дзяцінца[12] адсутнічаюць. Пры наяўнасці комплексу грамадзянскай архітэктуры безумоўнай архітэктурнай дамінантай Верхняга замка ў XVI ст. працягваў заставацца Сафійскі сабор (мал. 23).

У 1563 г., падчас панавання ў горадзе войскаў Івана IV, быў пабудаваны Ніжні замак. Яго функцыя – ахова гарнізона стральцоў і абарона паўночна-ўсходняй часткі Верхняга замка як асноўнай фартэцыі. Аднак гэтая функцыя сябе не апраўдала ўжо ў 1579 г. Як вядома, штурм горада адбыўся з адваротнага боку, і пад удар трапіў Верхні замак. Пасля яго захопу ўтрыманне Ніжняга замка станавілася бесперспектыўным [Гейденштейн, 1889].

Канчаткова абарончую функцыю Ніжні замак страчвае ў пачатку XVIII ст. і з таго часу становіцца месцам жыхарства маргінальнай часткі насельніцтва Полацка [Дук, 2007 ж, с. 31].

### 4.2. Дэтэрмінацыя паняцця "пасад" і этапы тэрытарыяльнага пашырэння полацкіх пасадаў

Двухчасткавая структура кожнага старажытнарускага горада адпавядае схеме "дзяцінец (умацаваная крэпасць) – перадграддзе (пасад)" [Толочко, 1989, с. 152; Тихомиров, 1956, с. 242]. Нярэдка тэрмін "перадграддзе" выкарыстоўваецца ў сінанімічным значэнні з тэрмінам "вакольны горад".

Уласна "пасад" – гэта гандлёва-рамесніцкая частка феадальнага горада, жыхары якой аб'ядноўваліся ў самакіруемую абшчыну. Наяўнасць у структуры пасялення гандлёва-рамеснага пасада з'яўляецца галоўнай прыметай горада, якая адрознівае яго ад княжацкіх крэпасцей і феадальных замкаў-сядзіб [Тимощук, 1995, с. 106]. Характар рамесных заняткаў, гандлю і абшчынная арганізацыя вызначаецца індывідуальна для кожнага ўсходнеславянскага горада.

Пасадская структура старажытнарускіх гарадоў пачала фарміравацца ўжо ў IX ст. і канчаткова сфарміравалася з набыццём пасяленнем функцыі сацыяльна-эканамічнага цэнтра акругі, уласна горада [Тихомиров, 1956, с. 47]. Вылучаныя гісторыкамі рысы існавання старажытнарускага горада ў сацыяльна-эканамічным значэнні гэтага тэрміну практычна цалкам характарызуюць арганізацыйную і матэрыяльную аснову пасадскай структуры (акрамя наяўнасці схемы "дзяцінец ("град") – пасад", гэта і паведамленне аб горадзе ў пісьмовых крыніцах як аб важным населеным пункце, цэнтры акругі, пражыванне ў ім значнай колькасці мясцовага гандлёва-рамеснага насельніцтва, існаванне гарадской абшчыны, разгалінаванай гарадской інфраструктуры, манументальных свецкіх і культавых пабудоў) [Седов, 1983, с. 53 – 54; Штыхов, 1983, с. 56 – 57].

І. Я. Фраянаў звярнуў увагу на разыходжанні ў гістарыяграфіі часу вызначэння станаўлення пасадаў старажытнейшых гарадоў Русі – ад IX да XI ст. [Фроянов, 1996,

[12] Старажытнага гарадзішча, а з XIV ст. – Верхняга замка.

с. 188; Фроянов, 1999, с. 82 – 83]. Гісторык адмаўляе думку аб існаванні гарадскіх пасадаў раней за XI ст., падкрэсліваючы асноўную функцыю пасадаў – канцэнтрацыя разгалінаванага рамяства і гандлю, якая не магла скласціся ў больш ранні час. Паводле І. Я. Фраянава, творцы свабоднага пасадскага рамяства – гэта вольныя людзі, якія пакідалі родавыя селішчы зямлі-воласці і сяліліся каля гарадскіх сцен. Аднак чым функцыянальна адрозніваліся пасады XI ст. ад селішчаў-передградздзяў больш ранняга часу? Гарадской абшчыны, разгалінаванай гарадской інфраструктуры і манументальных свецкіх і культавых пабудоў у ранні час існаваць, натуральна, не магло. Тым не менш, селішчы-перадграддзі з'яўляліся асновай станаўлення паўнацэннай пасадскай структуры горада, паколькі ўжо з моманту заснавання іх плошча значна перавышала плошчу дзяцінца, тут размяшчаліся рамесныя майстэрні і пражывала асноўная колькасць насельніцтва.

Надзейных даных пра арганізацыю рамяства ў раннегарадскі час няма, і можна пагадзіцца з думкай аб яго абшчынным характары [Фроянов, Дворниченко, 1988, с. 33]. Таму пачатак гісторыі *станаўлення* пасадаў Полацка і іншых найстаражытнейшых усходнеславянскіх гарадоў варта разглядаць з IX – X стст., калі вакол умацаванага града-крэпасці існавалі неўмацаваныя паселішчы ці вакольны горад. Адзінымі крытэрыямі для яго вызначэння з-за адсутнасці пісьмовых крыніц з'яўляюцца археалагічныя даныя.

Тэрмін "вакольны горад" азначае асаблівую горадабудаўнічую структуру, якая ў адных выпадках семантычна бліжэй да дзяцінца, у другіх – да гандлёва-рамеснага перадграддзя [Толочко, 1989, с. 156]. Уласна пад назвай "вакольны горад" разумеецца тэрыторыя побач з дзяцінцам, абнесеная валамі, равамі і крапасной сцяной, якая ўтварае другую лінію гарадскіх умацаванняў. У гістарычнай літаратуры вакольны горад атаясамліваецца з умацаваным пасадам [Возний, 2008, с. 391]. На нашу думку, больш карэктна было б вызначыць вакольны горад як прадцечу існавання пасадаў у протагарадскі (дафеадальны) час. Адпаведна з рэаліямі развіцця раннегарадскіх пасяленняў вакольны горад мог пераўтварыцца ў пасад у сацыяльна-эканамічным разуменні гэтага тэрміну.

З канца XII ст. перадграддзі-пасады асобных старажытнарускіх гарадоў пачынаюць дзяліцца на больш дробныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі – канцы (Ноўгарад, Пскоў, Растоў, Ладага, Старая Руса, Смаленск) [Толочко, 1989, с. 160]. Увогуле слова "пасад" часцей сустракаецца ў пісьмовых крыніцах пры апісанні гарадоў Паўночнай Русі (упершыню фіксуецца ў Ноўгарадзе пад 1234 г., у Полацку – толькі ў 1529 г. [Акты Литовско-Русского государства, с. 217][13]). Тэрмін "перадграддзе" (у сэнсе "пасад") больш характэрны для паўднёвых гарадоў Русі [Тихомиров, 1956, с. 242]. Гэта цалкам карэлюецца з традыцыйнай для гарадоў Русі схемай проціпастаўлення астрога дзяцінцу, г. зн. умацаванай частцы горада, дзе жыў князь з малодшай дружынай ("княжымі дзецьмі"), ці г. зв. "унутранага горада" – "днешнего града" [Колединский, 2002, с. 224]. Функцыя дзяцінца – абарона не толькі князя, але і пасадскага люда ў часы ваеннай небяспекі.

Асноўныя горадаўтваральныя пасады Полацка – Вялікі і Запалоцкі – пачалі фарміравацца ў XI ст. На думку П. П. Талочкі, назва асноўнай тапаграфічнай адзінкі Полацка – "Вялікі пасад" – сведчыць пра наяўнасць "малога пасада", якім з'яўляўся ўмацаваны вакольны горад пачатковага Полацка [Толочко, 1989, с. 157]. Назва "Вялікі

[13] Дагэтуль выкарыстоўвалася альтэрнатыўная назва пасада – астрог.

пасад” упершыню фіксуецца ў Прывілеі Жыгімонта I г. Полацку за 1529 г. [Акты Литовско-Русского государства, с. 217], але няма сумненняў пра яе больш позняе паходжанне. “Малы пасад”, на думку П. П. Талочкі, размяшчаўся на тэрыторыі, якая з поўдня прымыкала да першапачатковага гарадзішча (г. зв. полацкае паселішча, ці вакольны горад). Таксама тэрыторыя “малога пасада” ўключала і старажытнае “перадграддзе” на правым беразе р. Палаты плошчай 0,24 га [Штыхов, 1987, с. 9]. Згодна з удакладненымі данымі, сумарная плошча гэтага “малога пасада” да сярэдзіны XI ст. складала каля 12 га [Дук, Тарасаў, 2005, с. 166 – 167]. Такім чынам, існаванне назвы “малы пасад” у дачыненні да вакольнага горада з’яўляецца вельмі верагоднай, але яна магла ўзнікнуць не раней за другую палову XI ст., у перыяд яго трансфармацыі ў пасад.

Працэс перарастання вакольнага горада ў пасад добра прасочваецца па археалагічных матэрыялах у тым ліку і Верхняга замка. Так, час засялення Верхняга замка можна падзяліць на два перыяды. Першы з іх – калі вакольны горад дасягнуў мяжы Замкавай гары каля яе ўсходняга падножжа (мал. 24). З гэтым перыядам у т. зв. “усходніх раскопах” на Верхнім замку звязаны знаходкі ляпнога посуду, візантыйскай манеты Рамана I (919 – 944 гг.), куфічны дырхам, шкляныя пацеркі-лімонкі, аднабаковыя касцяныя грабяні. Культурны пласт гэтага часу як самастойны не вылучаецца і разглядаецца даследчыкамі разам з пластом XI ст. Аналагічная сітуацыя назіраецца і з напластаваннямі ўсходняй часткі вакольнага горада (раскоп 1987 – 1988 гг.). Акрамя таго, ва ўсходняй частцы Верхняга замка, у т. зв. Машне і каля Сафійскага сабора, культурных напластаванняў, ранейшых за XII ст., увогуле няма. Артэфакты XI ст. у ніжнім стратыграфічным пласце прадстаўлены пераважна керамічным посудам, які мае датаванне ў межах XI – XII стст. Гэта сведчыць пра тое, што тэрыторыя, на якой адбылося будаўніцтва Сафійскага сабора, у сярэдзіне XI ст. не была заселена [Тарасаў, 1998 а, с. 300 – 301]. Вакольны горад займаў тэрыторыю каля Верхняга замка. Далейшае імклівае развіццё сядзібнай забудовы абумовіла хуткае нарастанне культурнага пласта, што з цягам часу прывяло да пашырэння тэрыторыі Верхняга замка ва ўсходнім накірунку за кошт уласна пасадскай тэрыторыі.

Вынікі раскопак у 2009 г. на тэрыторыі плошчы Свабоды, якая ў першай палове XI ст. прымыкала з поўдня да старажытнага вакольнага горада, засведчылі аграрны характар тэрыторыі. На мацерыку зафіксаваны роў, запоўнены перапрэлай арганікай, які вызначаў межы паміж двума агародамі. Акрамя рова, межы агарода маркіруюць сляды плота, зробленага з драўляных калкоў і аплеценага галлём. Накірунак размяшчэння мяжы агародаў супадае з трасіроўкай вуліцы XVII ст. Такім чынам, дзесьці з пачатку XI ст. дадзеная тэрыторыя выкарыстоўвалася пад агароды, у другой палове XI – XII стст. у выніку развіцця пасадскай забудовы ўтвараецца культурны пласт. Сітуацыя вельмі нагадвае наўгародскую, дзе самыя старажытныя напластаванні гандлёва-рамеснага пасялення, уласна Ноўгарада, перакрываюць передмацерыковыя пласты з выразнымі слядамі ворыўных палёў і сельскіх дарог [Колчин, Янин, 1982, с. 112].

Але ўжо ў XII – XIII стст. рамесны статус насельніцтва дадзенай тэрыторыі пацвярджаюць археалагічныя знаходкі (вырабы з косці, нарыхтоўкі і інструменты вытворчасці, ювелірныя вырабы XII – XIII і XVII стст., рэшткі тыгляў, кавальскі інструмент). Знаходжанне двух крыжоў-энкалпіёнаў XII ст. на тэрыторыі аднаго раскопа сведчыць пра канцэнтрацыю заможнага і ўплывовага насельніцтва. Высокі сацыяльны статус жыхароў дадзенай часткі пацвярджаюць таксама і знаходкі пісала (сведчанне пра валоданне граматай), рарытэтных вырабаў з косці (арнаментаваныя ігольніца і накладка) і дрэва (самшытавы грэбень).

У XI ст. плошча Вялікага пасада па-за межамі вакольнага горада (12,5 га) была каля 50 га (мал. 25). Забудова пасада пачыналася з захаду ад сцяны вакольнага горада (у XII ст. яна страціла сваю фартыфікацыйную функцыю), з поўначы была абмежавана руслам р. Палаты, з поўдня – р. Дзвіна. Натуральнай мяжой пасадскай тэрыторыі з усходу з'яўляўся глыбокі прыродны роў, які быў размешчаны на ўсход ад перакрыжавання вул. Сака і Ванцэцці і вул. Ф. Скарыны.

У XI – XII стст. тэрыторыя Вялікага пасада стабілізуецца па лініі пасадскага паркана XVI – XVIII стст. Усходнія межы пасада заставаліся практычна нязменнымі на працягу гэтага часу. Аднак унутраная планіроўка істотна мянялася.

У пачатку XIV ст. у склад Вялікага пасада ўваходзіць старое гарадзішча. У справе аб продажы двух двароў ад пратапапа́ Багдана Яцковіча ваяводу Альбрэхту Гаштольду згадваюцца два двары з зямлёй, размешчаныя на "старым гарадзішчы ў новым паркане" [Описание документов и бумаг…, с. 432]. Відавочна, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра новы паркан Вялікага пасада, які агароджваў гарадзішча разам з прылеглымі тэрыторыямі і быў пабудаваны ў 1516 г.[14] Гэта з'яўляецца яшчэ адным прамым доказам на карысць таго, што русла р. Палаты ў пачатку XVI ст. праходзіла па паўночнай ускраіне гарадзішча, а гарадзішча і тэрыторыя будучага Ніжняга замка ўтваралі адно цэлае і не былі падзелены ні прыродным, ні штучным ровам. У адваротным выпадку патрэбы ва ўмацаванні гарадзішча парканам не было б. Дакумент цікавы яшчэ і тым, што напрамую сведчыць аб размяшчэнні на гарадзішчы мяшчанскіх сядзіб у пачатку XVI ст. Паводле археалагічных даных, княжацкая рэзідэнцыя была пакінута ў пачатку XIV ст., у XVII – XVIII стст. на гарадзішчы размяшчаліся гарадскія могілкі.

Пашырэнне Верхняга замка за кошт уключэння часткі пасадскай тэрыторыі (на месцы т. зв. "усходніх раскопаў" 1959 – 1962 гг.) магло адбыцца толькі пасля пабудовы крапаснай сцяны. Самыя раннія па часе рэшткі абарончых умацаванняў Верхняга замка зафіксаваны на яго заходнім схіле і, паводле дэндрахраналагічнага аналізу, датуюцца XIV ст. [Тарасаў, 1998 б, с. 41]. У XIV ст. адбылася перапланіроўка грамадзянскай забудовы ўсходняй часткі Верхняга замка [Штыхов, 1975, с. 38], пра што гаворка пойдзе ніжэй. Гэтыя працэсы – магчымае сведчанне аб пашырэнні замкавай тэрыторыі на ўсход за кошт часткі пасадскай.

У выніку археалагічнага нагляду за пракладаннем інжынерных сетак у 2000 і 2007 гг. на тэрыторыі плошчы Ф. Скарыны і вул. Гогаля было вызначана, што культурны пласт па трасе і прылягаючых раёнах вул. Гогаля адсутнічае, а на поўдзень ад плошчы Ф. Скарыны, г. зн. на схіле другой надпоймавай тэрасы, зафіксаваны невялікія па магутнасці (да 1 м) культурныя адкладанні з артэфактамі пераважна XVIII – XIX стст.[15] [Дук, спр. № 1880; Дук, спр. № 2513]. Такім чынам, тапаграфічныя межы Вялікага пасада заставаліся вельмі трывалымі на працягу XIII – XVIII стст.

Грамадзянская забудова Вялікага пасада XI – XVIII стст. дастаткова поўна ахарактызавана ў гістарычнай літаратуры [Дук, 2007 ж, с. 203 – 228; Здановіч, 1998; Здановіч, 2003; Тарасаў, 1998 б, с. 65 – 66; Тарасаў, 2003; Штыхов, 1975, с. 37 – 55]. Адзначым толькі, што асноўнымі яе рысамі з'яўляюцца выключна драўляны характар да XVII ст., у XVII – XVIII стст. – пераважна драўляны, трываласць у размяшчэнні плошчы і межаў гарадскіх сядзіб і пагонны характар забудовы на працягу ўсяго вывучаемага перыяду.

[14] Першыя абарончыя ўмацаванні Вялікага і Запалоцкага пасадаў пад назвай "паркан" былі ўзведзены каля 1501 г. [Даўгяла, 1928, с. 215 – 219; Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 192].

[15] Сярод венцаў гаршкоў былі знойдзены адзінкавыя формы XVII ст.

У пачатку XI ст. на правым беразе р. Палаты ўтвараецца Запалоцкі пасад [Дук, 2007 в]. У XIV ст. за часткай Запалоцкага пасада замацоўваецца назва “стары горад”, якая працягвае выкарыстоўвацца да XX ст. [Ляўданскі, 1930, с. 169; Полоцкие грамоты, 1977, с. 85]. Паходжанне тапоніма “Запалоцце” вызначае тэрыторыю за р. Палатой. У сярэдзіне XI ст. яго плошча была не меншай за 40 га, што больш чым у 3 разы перавышае плошчу вакольнага горада (“малога пасада” XI ст.). Запалоцкі пасад быў умацаваны і актыўна забудоўваўся ўздоўж р. Дзвіны ў заходнім накірунку. У пачатку XIII ст. Запалоцкі пасад удвая скараціўся ў памерах і дасягнуў плошчы каля 20 га. У XIV ст. на закінутай частцы Запалоцкага пасада (“старога горада”) размяшчаліся агароды [Полоцкие грамоты, 1977, с. 85]. Відаць, у гэты час і з’явілася назва “Вялікі пасад”, якая замацавалася за тэрыторыяй ад старажытнага гарадзішча да Верхняга замка, уключаючы і былы вакольны горад.

Асобныя пасяленні палачан размяшчаліся на мысах уздоўж р. Палаты на поўнач ад Вялікага і Запалоцкага пасадаў. Сляды такой забудовы выяўлены на аддаленасці каля 0,8 – 1 км ад вусця р. Палаты ў раёне сучаснага Чырвонага маста, вул. Кастрычніцкай і вул. Ф. Міронавай. Размяшчэнне сядзіб палачан у XI – XIII стст. на мысах уздоўж р. Палаты сведчыць пра важную ролю ракі ў жыцці тагачаснага насельніцтва. Тэрытарыяльная аддаленасць ці адмежаванасць ад гарадскіх умацаванняў – гарадзішча і вакольнага горада – як бачым, не з’яўлялася істотнай перашкодай для абрання месца пасялення. Галоўным фактарам з’яўлялася набліжанасць да р. Палаты, яна ж і выступала своеасаблівай мерыдыяльнай воссю ў фарміраванні планіровачнай структуры Полацка.

Плошча пасяленняў за р. Палатой была вельмі значнай (40 га), яна дзялілася на дзве часткі прыродным ровам, які пачынаўся ад паўночнага выгіну старога русла р. Палаты. Адно з выяўленых пасяленняў размешчана на ўсход ад згаданага рова ў трохвугольніку паміж р. Палатой, сучаснай вул. Кастрычніцкай і ровам, другое – ад р. Палаты на захад па трасе вул. Міронавай. Культурны пласт датуецца XI – XII стст., асобныя артэфакты (ляпны посуд і пацеркі) сведчаць пра магчымасць засялення дадзенай тэрыторыі ў X ст. Артэфакты XI ст. вызначаюць гандлёва-рамесныя заняткі тутэйшага насельніцтва. Наяўнасць шматлікіх рэшткаў драўляных дамоў XI – XII стст., якія загінулі ў агні, і бедныя на індывідуальныя знаходкі напластаванні XII ст. дазваляюць дапусціць, што перад тым як пакінуць пасяленне, людзі паспелі ўзяць з сабой найбольш каштоўныя рэчы.

Відавочна, што пасяленні за р. Палатой былі заселены сінхронна з заходняй часткай Запалоцкага пасада. Па сутнасці, гэтыя два пасяленні на поўнач ад Запалоцця ўтваралі асобны пасад, назва якога ў пісьмовых крыніцах не захавалася. Наяўнасць культурнага пласта і артэфактаў XIII – XVI стст. не зафіксавана. Па сведчанні археалагічных і пісьмовых крыніц, у XVII – XVIII стст. на тэрыторыі на захад ад рова размяшчаліся фальваркі паноў Лакачэўскага, Яніса і мясцовасці Пагіршчына, Пагіраўская мыза, Слабада, на ўсход ад рова прасціраліся агароды і ворыўная зямля.

Важнае значэнне “торга”, ці “места”, неаднаразова падкрэслівалася гісторыкамі ў вызначэнні сацыятапаграфічнай структуры старажытных гарадоў [Тимощук, 1995, с. 107]. “Местам” называлі ўсю гандлёвую плошчу на пасадзе, па гэтай прымеце і ўсю тэрыторыю горада называлі “местам”[16] (адсюль – “мяшчане”, ці “месцічы”, якія ў Полацку ўпершыню згаданы ў інтытуляцыі гарадскіх зваротаў пад 1435, 1458 і 1459 гг.

[16] Тэрмін “место Полоцкое” ўпершыню згаданы ў канцы 40-х гг. XV ст. [Макараў, 2008, с. 64].

[Полоцкие грамоты, 1982, с. 150, 179; LVIA, спр. № 43, арк. 14 адв.; Rohdewald, 2005, p. 103]). Паказальна, што ў XV ст. "мяшчанамі" называлі жыхароў горада, якія займаліся гандлем [Макараў, 2008, с. 64].

Галоўная плошча Полацка была размешчана каля Верхняга замка, паблізу Чорнага ручая. Яна ж з XII ст. з'яўлялася месцам вечавых сходаў. На гэтай тэрыторыі ў першай палове XVI ст. існаваў гарадскі рынак – "Вялікі торг". Побач з плошчай размяшчалася царква Ражаства Хрыстова (XII – XVII стст.) [Дук, 2007 ж, с. 44]. Пасля будаўніцтва езуіцкага калегіума ў 1581 г. гандлёвая плошча была перанесена на ўсход, у раён сучаснай плошчы Свабоды.

У сярэдзіне XVI ст. горад зведаў вялікія тапаграфічныя змены, прычынай чаго сталі ваенныя падзеі і захоп Полацка маскоўскім войскам Івана IV (1563 – 1579 гг.). Гэтыя змены істотным чынам паўплывалі на развіццё сацыятапаграфічнай структуры Полацка ў далейшы час. Акрамя археалагічных, захаваўся вялікі комплекс пісьмовых крыніц, якія ўсебакова характарызуюць гэты працэс як з боку маскоўскіх летапісцаў, так і з адміністрацыі Стэфана Баторыя. Падрабязныя звесткі пра мэты і рэалізацыю працэса тагачаснага ўладкавання Полацка занатаваны ў Кнізе полацкага пахода 1563 г. [Книга полоцкого похода…, 2004]. Тэзісна характарыстыка зменаў сацыятапаграфічнай структуры горада ў гэты час выглядае наступным чынам.

У 1563 г., падчас панавання ў горадзе войскаў Івана IV, на частцы тэрыторыі Вялікага пасада, практычна ў межах былога вакольнага горада, пабудаваны Ніжні замак (мал. 26). Месцам для яго будаўніцтва абрана тэрыторыя Вялікага пасада, спаленага па загадзе полацкага ваяводы Станіслава Давойны. Іван IV загадаў князю Пятру Зайцаву і дзяку Барысу Шчокіну зрабіць "горад" "наспех, не мешкая, полое место да и во всем городе изсматривати, да которые места будет пригож поделати" [Книга полоцкого похода..., 2004, с. 70]. Акрамя таго, было загадана аднавіць Запалоцкі пасад і перасяліць туды ўсіх мяшчан. Мясцоваму насельніцтву, у тым ліку і з іншых гарадоў ВКЛ, было забаронена сяліцца на тэрыторыі абодвух замкаў. Доступ для наведвання Сафійскага сабора быў дазволены "літоўскім і земскім людзям, бурмістрам" толькі ў вялікія святы і па невялікай колькасці чалавек. Стральцам было загадана рабіць пастаянныя рэйды па пасадскай тэрыторыі: "воеводам Захарье и князю Давыду в остроге быти и дела царя и великого князя беречи и по острогу еженочей голов от собя посылати и самим того еженочей назирати" [Книга полоцкого похода..., 2004, с. 72].

Так, падчас уладкавання горада ў 1563 г. было пракапана новае русла р. Палаты, зямля ў колькасці 230 тыс. $м^2$ спатрэбілася для ўзвядзення вала Ніжняга замка, які заняў частку былой пасадскай тэрыторыі [Тарасаў, 1998 б, с. 49].

Вялікі пасад у 1563 – 1579 гг. уяўляў сабой незаселенае пажарышча. Гэта было зроблена з-за таго, што фартыфікацыйная функцыя Вялікага пасада ў 1563 г. сябе не апраўдала, і Іван IV перасцярог паўтарэнне сітуацыі [Гейденштейн, 1889, с. 56]. Запалоцце было акружана драўлянай сцяной з валам.

У 1579 г., падчас аблогі Полацка войскамі Стэфана Баторыя, маскоўскія войскі размясціліся ў Верхнім замку, а "горад" (Запалоцкі пасад) быў выпалены [Гейденштейн, 1889, с. 58].

Такім чынам, Вялікі пасад уяўляў сабой незаселенае пажарышча з 1563 па 1579 гг. Запалоцкі пасад пасля ўзяцця Полацка Стэфанам Баторыем у 1579 г., па сведчанні Р. Гейдэнштэйна, быў небяспечнай тэрыторыяй, паколькі, акрамя пажарышча, тут размяшчаліся могілкі, "клаакі і іншыя брудныя месцы", да таго ж венгры са складу каралеўскага войска ўзвялі на былым пасадзе шанцы (абарончыя ўмацаванні палявога лагера) [Гейденштейн, 1889, с. 58].

Аднаўленне абодвух пасадаў заняло не адзін год, паколькі інвентар маёмасці полацкага архіепіскапа за 1580 г. засведчыў на Вялікім пасадзе толькі адну вуліцу Плігаўскую, каля якой размяшчалася адзінаццаць незаселеных пляцаў [LVIA, спр. 3, арк. 180]. Больш чым праз паўстагоддзя – у 1633 г. – згадваюцца толькі крапасныя ўмацаванні Запалоцкага пасада, што само па сабе гаворыць аб прыярытэтах у тагачаснай забудове [АСД, 1867, с. 271 – 272].

Паводле рэвізіі 1552 г., на левым беразе р. Дзвіны існавалі чатыры пасады: Востраўскі, Экіманскі, Крыўцоў і Слабадскі. Востраўскі размешчаны насупраць Верхняга замка ў рукаве русла р. Дзвіны, Экіманскі размешчаны на захад ад Вострава, Крыўцоў размешчаны паміж вусцем р. Бельчыца і Востравам, Слабадскі размяшчаўся пры вусці р. Бельчыца, на яе правым беразе.

Пачатак станаўлення левабярэжных пасадаў – Крыўцовага і Слабадскога – прыпадае на другую палову XV ст. Пасяленне (г. зв. "слабодка") на месцы будучага Слабадскога пасада існавала з XI ст. Востраўскі і Слабадскі пасады згаданы толькі ў рэвізіі 1552 г., у пісьмовых крыніцах наступных двух стагоддзяў яны больш не згадваюцца.

У першай трэці XVII ст. на левым беразе р. Дзвіны існаваў адзін пасад, які меў назву Крыўцоў. На гэтым пасадзе размяшчалася "мястэчка", у сэнсе "мясцовасць", Бельчыцы-Кабак, ці Бельчыцкая слабада [Дук, 2007 ж, с. 33 – 38].

Найбольш аддаленым ад гістарычнага цэнтра Полацка быў Экіманскі пасад. Засяленне Экімані пачалося ў другой палове XV ст. У дачыненні да Экімані ў сярэдзіне XVI ст. ужываюцца адначасова назвы "пасад" і "прадмесце", у XVII ст. выкарыстоўваюцца назвы "мястэчка" і "факторыя". Гэта далёка не выпадкова. Экімань была перададзена Стэфанам Баторыем езуіцкаму калегіуму, з'яўлялася разам з Востравам яго найбуйнейшай юрыдыкай і, паводле земскіх кніг, з канца XVI ст. мела статус полацкага прадмесця, аднак жыхары Экімані ў XVII ст. па-ранейшаму лічыліся мяшчанамі [Дук, 2007 ж, с. 33 – 38].

У 1622 – 1623 гг. мяшчане Крыўцовага пасада разам са слабадскімі сталі падначаленымі полацкаму магістрату.

Для маркіроўкі лакальнай прыналежнасці насельніцтва Полацка ў сярэдзіне XVII ст. карысталіся азначэннямі "заполочане" (жыхары Запалоцкага пасада), "заречане" (жыхары левабярэжнай часткі Полацка ўвогуле), "кабачане" (жыхары мясцовасці Кабак). Кабачане па-ранейшаму вылучаліся асобна з агульнай колькасці задзвінскага насельніцтва [Дук, 2007 ж, с. 33 – 38].

Такім чынам, у Полацку да пачатку XVI ст. існавалі два асноўныя горадаўтвараючыя пасады – Вялікі і Запалоцкі. Гэтыя пасады размяшчаліся на правым беразе р. Дзвіны, Запалоцкі – на захад ад вусця р. Палаты, Вялікі – на ўсход ад Верхняга замка. Абодва пасады былі ўмацаваны. Плошча Вялікага пасада заставалася практычна нязменнай на працягу XII – XVII стст. і складала каля 50 – 60 га, межы Запалоцкага пасада істотна вагаліся ў бок скарачэння, што было выклікана частымі войнамі з Маскоўскім княствам. Аднак наўрад ці нават у самыя неспрыяльныя часы плошча Запалоцкага пасада была меншай за 17 га. Менавіта на гэтым пасадзе ў 1498 г. быў заснаваны першы ў Полацку каталіцкі кляштар бернардзінцаў [Дук, Салаўёў, 2007 е]. Сумарная плошча левабярэжных пасадаў у XVI ст. дасягала 40 га.

Тапаграфічная структура левабярэжных пасадаў – Крыўцова і Экіманскага – была сфарміравана ў пачатку XVI ст. Згаданыя ў полацкай рэвізіі 1552 г. Слабадскі і Востраўскі пасады ў XVII ст. юрыдычна становяцца часткай Крыўцовага пасада пад найменнем асобных мясцовасцей. Гэтыя тэрытарыяльныя адзінкі былі заселены да часу

ўтварэння левабярэжных пасадаў як полацкія слабоды, з цягам часу яны становяцца пасяленнямі пры манастырах Барыса і Глеба і Іаана Прадцечы.

Тэрытарыяльныя змены ў развіцці полацкіх пасадаў адбываліся ў некалькі этапаў.

І этап – станаўленне вакольнага горада (“малога” пасада) ІХ – ХІ стст. і пасяленняў за р. Палатой (з Х ст.), фарміраванне сацыятапаграфічнай структуры Вялікага і Запалоцкага пасадаў у ХІ ст., існаванне пасялення на месцы Старой Слабады пры вусці р. Бельчыца (з Х ст.) і Вострава на р. Дзвіне (ХІ ст.). Першыя сведчанні пра існаванне паркана Запалоцкага пасада (ХІ ст.).

ІІ этап – ХІІ – ХV стст. Спыненне існавання вакольнага горада, скарачэнне плошчы Запалоцкага пасада (пачатак ХІІІ ст.), спыненне існавання пасяленняў за р. Палатой, уключэнне старога гарадзішча ў склад Вялікага пасада і павелічэнне тэрыторыі Верхняга замка за кошт часткі Вялікага пасада (пачатак ХІV ст.).

ІІІ этап – першая палова ХVІ стст. (да 1563 г.). Утварэнне левабярэжных пасадаў Полацка (Востраўскі, Крыўцоў, Слабадскі і Экіманскі) за кошт перасяленцаў з Вялікага і Запалоцкага пасадаў (пачатак ХVІ ст.). Скарачэнне тэрыторыі Запалоцкага пасада (першая палова ХVІ ст.). Будаўніцтва паркана Вялікага і Запалоцкага пасадаў (каля 1501 г.).

ІV этап – 1563 – 1579 гг. Пабудова Ніжняга замка на частцы Вялікага пасада, змена русла р. Палаты (1563 г.). Спыненне існавання Вялікага пасада. Аднаўленне тэрыторыі Запалоцкага пасада ў межах паркана.

V этап – 1579 г. – канец ХVІІІ ст. Перанос гарадской рынкавай плошчы (1581 г.). Пераўтварэнне старога гарадзішча ў гарадскія могілкі (ХVІІ ст.). Арганізацыйнае аб’яднанне левабярэжнага насельніцтва Полацка ў межах Крыўцовага і Экіманскага пасадаў.

## 5. САЦЫЯЛЬНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ, СКЛАД І КІРАВАННЕ ПАСАДСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА

Пасадскае насельніцтва Полацка ў XI – XIII стст. складалася пераважна з асабіста вольнага насельніцтва – рамеснікаў і гандляроў. Асобы статус мелі малодшыя дружыннікі (“дзецкія”) і баяры (“сільныя мужы”) [Штыхаў, 1999, с. 36]. Апошнія разам з самай шматлікай катэгорыяй асабіста вольнага насельніцтва – рамеснікамі і гандлярамі – прадстаўлялі асноўную частку палачан і згадваюцца ў дагаворах з Рыгаю XV ст. як “мужы-палачане” [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 126]. Дзецкія жылі пры двары князя, і да пачатку XIV ст. іх прысутнасць разам з князем і рамеснікамі зафіксавана на тэрыторыі полацкага гарадзішча. Слядоў баярскіх сядзіб на пасадскай тэрыторыі ў XI – XV стст. археалагічна не выяўлена, чаго нельга сказаць пра XVI – XVII стст. У гэты час баярскія (шляхецкія) сядзібы размяшчаліся на тэрыторыі Вялікага і Запалоцкага пасадаў і на паўночнай частцы Верхняга замка [Дук, 2007 ж, с. 68]. Выкарыстоўваючы метад рэтраспекцыі, магчыма дапусціць, што ў XI – XV стст. полацкія баяры сяліліся цераспалосна з пасадскім насельніцтвам, а таксама на Верхнім замку.

Бяднейшай часткай насельніцтва старажытнарускіх гарадоў з’яўляліся рамеснікі-халопы і іншыя катэгорыі залежных ад князя, баяр і “чарняцоў” (духавенства) людзей. Акрамя халопства, у гарадах Русі існавалі г. зв. “міласнікі” (жабракі) [Тихомиров, 1956, с. 150]. Даныя пісьмовых крыніц пра колькасць гэтай катэгорыі людзей у Полацку, як і ў іншых старажытнарускіх гарадах, адсутнічаюць.

Да сярэдзіны XII ст. летапісы не паведамляюць пра існаванне “канчанскай” структуры асобных старажытнарускіх гарадоў. Тэрмін “пасад” згадваецца яшчэ пазней – у 1234 г., што сведчыць пра раннефеадальны характар развіцця гарадоў у IX – сярэдзіне XII стст. Паводле П. П. Талочкі, у гэты час гарады яшчэ былі адносна невялікімі ўтварэннямі, і іх унутраная адміністрацыйна-тэрытарыяльная структура яшчэ не адлілася ў завершаныя формы [Толочко, 1989, с. 144].

Упершыню тэрмін “канец”[17] згаданы ў дачыненні да адной адміністрацыйна-тэрытарыяльнай часткі Кіева пад 1147 г., у Ноўгарадзе “Неревский конец” згаданы пад 1172 г. Акрамя Кіева і Ноўгарада, канчанская структура была характэрна для Пскова, Растова, Ладагі, Старой Русы, Смаленска [Толочко, 1989, с. 144 – 145]. Погляды на сацыяльную арганізацыю канцоў сярод гісторыкаў розняцца: паводле П. П. Талочкі, канчанская структура прадугледжвала наяўнасць залежнага ад баярства гандлёва-рамеснага насельніцтва [Толочко, 1989, с. 147], на думку Л. А. Фадзеева, яна была заснавана на прынцыпах федэралізму і народаўладдзя [Фадеев, 1976, с. 21]. Канцы Ноўгарада былі найбольш буйнымі структурнымі адзінкамі горада са сваім вечам і выбарнымі начальнікамі. Кожны канец уключаў у сябе больш дробныя падраздзяленні – вуліцы і сотні. Гарадская абшчына “канцоў” была цесна звязана з сельскай акругай [Фадеев, 1976, с. 17, 31].

У гістарыяграфіі розніцца падыход да вызначэння характару веча (сход вольных абшчыннікаў з прадстаўнікамі знаці ці абмежаваная група знаці з выбарнымі ад абшчыны) [Фроянов, Дворниченко, 1988, с. 187]. Наяўнасць у Полацку веча фіксуецца ў апісанні падзей 1021 г. (паход Брачыслава Ізяславіча на Ноўгарад) [Фроянов, Двор-

[17] Тэрмін выкарыстоўваўся ў азначэнні да розных раёнаў перадграддзя ці вуліц асобных старажытнарускіх гарадоў. Тэрмін інтэрпрэтуецца па-рознаму: як тапаграфічная адзінка [Толочко, 1989, с 144 – 145], як месца, на якім адбываўся сход абшчыннікаў, альбо сукупнасць уладанняў абшчыны (ад слова “конъ” – сходка) [Фадеев, 1976, с 28 – 29].

ниченко, 1988, с. 197][18]. Паводле грунтоўнага аналізу А. А. Горскага, у пісьмовых крыніцах адсутнічае наяўнасць канкрэтных службовых асоб ад "абшчын", якія б прадстаўлялі "горад-дзяржаву" [Горский, 2004, с. 100]. Гісторык адмаўляе вылучэнне ў якасці земскіх лідэраў тысяцкіх, ваяводаў, баяраў, а значыць рэальных падстаў для тэзісу аб існаванні ў старажытнай Русі "дзяржаў-абшчын" і народаўладдзя няма. У якасці сацыяльнай эліты выступалі князь і дружына [Горский, 2004, с. 100 – 108]. Адсюль вынікае, што веча не толькі не з'яўлялася органам абшчыннай улады, яно было створана для яе падаўлення [Толочко, 1989, с. 206]. Прыклад Полацка сведчыць, што ўлада веча пераўзыходзіла паўнамоцтвы князя толькі ў крызіснае для княжацкай улады XII ст. [Rohdewald, 2001, с. 18].

Баярская карпаратыўнасць наўгародскіх канцоў яскрава прасочваецца ў сацыяльным складзе іх насельніцтва. Насельніцтва канца складаецца з баяр і непасрэдна залежных ад іх людзей, якія жывуць на баярскіх сядзібах, – вотчынных рамеснікаў, чэлядзі, клірыкаў; для апошніх выдзяляліся асобныя ўчасткі. З узнікненнем баярскага пасадніцтва напрыканцы XI ст. дзейнасць гэтай групы насельніцтва горада рэгулявалася выключна вечавымі парадкамі і была выключана з юрысдыкцыі князя [Колчин, Янин, 1982, с. 114].

Канчанскаму насельніцтву проціпастаўлена насельніцтва соцен. На працягу XII ст. у Ноўгарадзе соценная сістэма падпарадкоўвалася княжацкім соцкім і тысяцкаму. Гэтае насельніцтва (рамеснікі і гандляры) было незалежнае ад баяр і падпарадкоўвалася княжацкаму апарату. Таму ў дачыненні да сацыяльнай структуры Ноўгарада тэрмін "пасадскае насельніцтва" не выкарыстоўваецца, паколькі пасада ў выглядзе асобнай горадаўтваральнай структуры ў Ноўгарадзе ў X – XV стст. не існавала, а ў сацыяльным плане пасадскаму насельніцтву адпавядала насельніцтва соцен. Баярскія сядзібы наўгародскіх канцоў размяшчаліся цераспалосна з насельніцтвам соцен [Колчин, Янин, 1982, с. 115]. Альтэрнатыўны погляд І. Я. Фраянава і А. Ю. Дварнічэнкі аб дамінаванні ўласнасці вольных абшчыннікаў над баярскай у наўгародскім грамадстве XI – XII стст. [Фроянов, Дворниченко, 1988, с. 196] не супярэчыць выказаным меркаванням: канчанская сістэма фарміравалася паступова і прывяла ўрэшце да перавагі баярскай землеўласнасці.

Летапісных звестак аб полацкіх "канцах" не зафіксавана, аднак Г. В. Штыхаў мяркуе аб наяўнасці "канчанскай арганізацыі" Полацка на манер Наўгародскай, якая, на думку даследчыка, у Полацку не атрымала шырокага развіцця [Штыхов, 1975, с. 33, 130]. А ці магла яна існаваць увогуле?

Заўважым, што пісьмовыя крыніцы XV – XVI стст. і больш ранняга часу не паведамляюць аб наяўнасці "канчанскай" структуры Полацка. Полацкае баярства і вечавы лад у XII ст. набылі вялікую магутнасць, аднак вялікай карпаратыўнасці баярскіх родаў накшталт наўгародскіх у Полацку не назіраецца. Інстытут княжацкай улады захоўваўся ў Полацку да канца XIV ст. Баярства як асобная сацыяльная група была юрыдычна адмежавана ад іншых груп пасадскага насельніцтва толькі ў 80-я – 90-я гг. XV ст. У гэты час абазначылася перавага баяраў над мяшчанамі ў сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці Полаччыны [Макараў, 2008, с. 66]. У гэты ж час у Полацку знікаюць вечавыя сходы як своеасаблівы тып грамадзянскай улады, дзе пэўную ролю ў XIII – XIV стст. маглі адыгрываць таксама і беззямельныя мяшчане, але ўжо пад уладай князя ці вялікакняжацкага намесніка [Rohdewald, 2001, s. 17]. Гэтая

[18] З гэтым тэзісам згодны далёка не ўсе гісторыкі. Магчыма, што пад 1021 г. у Эймундавай сазе ідзе гаворка толькі пра раду князя з дружынай [Джаксон, 2001, с. 135 – 136; Rohdewald, 2001. С. 22].

апошняя асаблівасць вылучае грамадскі лад Полацка ад уладкавання іншых усходнеславянскіх гарадоў.

Інфармацыя аб арганізацыі вольнага насельніцтва Беларускага Падзвіння ў XI – XIV стст. у межах дзесятковай сістэмы – тысяча, сотні, дзесяткі – у пісьмовых крыніцах адсутнічае, за выключэннем аповесці аб Святохне, праўдзівасць якой выклікае сумненні [Штыхов, 1975, с. 19]. У “Дэкрэце” Казіміра Ягелончыка 1486 г. увядзенне ў Полацку дзесятнікаў разглядаецца як парушэнне даўняй мясцовай традыцыі [Макараў, 2008, с. 45].

Адсутнасць соценнай структуры арганізацыі пасадскага насельніцтва Полацка ў XI – XV стст. сведчыць аб іншай, у параўнанні з Ноўгарадам, сацыяльнай арганізацыі насельніцтва пасадаў. Юрыдычная перавага полацкага баярства над мяшчанамі (як вызначальная рыса наўгародскіх канцоў) зафіксавана не раней за 80-я – 90-я гг. XV ст. З гэтага часу адбываецца паступовая перавага зямельнай уласнасці баяр у Полацку і полацкай воласці, як і ў гарадах з “канчанскай” структурай [Варонін, 1998, с. 59]. Адсюль вынікае асаблівасць сацыяльнай арганізацыі пасадскага насельніцтва: соценная структура склалася ў Полацку толькі ў XVI ст. і звязана ўжо з магдэбургскім горадам, аб чым гаворка пойдзе ніжэй. Такім чынам, рэальных падстаў для вызначэння канчанскай арганізацыі насельніцтва Полацка ў XII – XV стст. няма.

Адна з галоўных прымет сярэдневяковага горада – гэта наяўнасць у ім гарадской абшчыны. Паводле М. М. Ціхамірава, П. П. Талочкі, Г. В. Штыхава і інш., аб наяўнасці на пасадзе самакіруемай абшчыны сведчаць наяўнасць гандлёвай плошчы, узнікненне сядзібнай забудовы, якая падпарадкоўвалася законам горадабудаўніцтва, разгалінаванай гарадской інфраструктуры. Свабоднае насельніцтва гарадскіх пасадаў з’яўлялася галоўным валадаром пасадскай зямлі з аднаго боку, і сацыяльнай арганізацыяй, якая адстойвала інтарэсы свабоднага пасадскага насельніцтва, з другога [Бубенько, 2004, с. 151 – 152; Штыхов, 1988, с. 172].

Канчанская структура прадугледжвала іншую сацыяльную арганізацыю: канчанскія жыхары былі залежным ад баярства гандлёва-рамесным насельніцтвам. Гэтае насельніцтва аказвала ўплыў і на іншыя свабодныя катэгорыі гараджан. У супрацьвагу гэтаму карпаратыўнасць свабоднага пасадскага рамяства закладзена ў аснове існавання пасадаў [Толочко, 1989, с. 147].

Аднак існаванне пасадскай абшчыны ў X – XIII стст. не знайшло адлюстравання на старонках гістарычных крыніц ні ў Полацку, ні ў іншых гарадах Русі. Даныя археалогіі адназначна не могуць сцвердзіць яе існаванне, яны прадстаўляюць толькі ўскосныя звесткі пра існаванне карпаратыўнасці пэўных рамесных спецыяльнасцяў. Прыметы карпаратыўнай арганізацыі полацкіх рамеснікаў у X – XIII стст. можна прасачыць па наяўнасці ў цэнтральнай частцы Вялікага пасада ювелірных майстэрняў у XII і ў XVII стст. [Дук, 2007 д, с. 2 – 15; Тарасаў, 2003]. Сляды ювелірнай вытворчасці былі адкрыты падчас даследаванняў тэрыторый X – XIII стст.: гарадзішча, вакольнага горада, Запалоцця, Вялікага пасада. У Полацку квітнелі і іншыя рамёствы, археалагічна вывучаны касцярэзныя, гарбарныя, кавальскія, залатарскія і іншыя майстэрні XII – XVIII стст. Найбольш уплывовай рамеснай карпарацыяй у першай палове XVI ст. з’яўлялася мясніцкая, якая не толькі забяспечвала мясам Полацк, але і ганяла жывёлу на продаж у Вільню [Варонін, 2006 б, с. 40].

Старажытная карпаратыўнасць рамеснай вытворчасці ў XVII ст. аформілася ў цэхавую арганізацыю. Ды і ўласна горад пераўтвараецца ў цэнтр субкультуры пэўных прафесійных груп. Гарадскія рамеснікі становяцца замкнёнай сацыяльнай адзінкай, што яскрава бачна на прыкладзе цэхавага ўладкавання: іх прадукцыя выраблялецца па замове

шляхты і магнатаў, густы апошніх залежаць ад запатрабаванняў, найперш, еўрапейскай моды. Па вызначэнні П. Бэрка, “сістэма цэхаў спрыяла стварэнню рамеснікамі і гандлярамі агульнай культуры, адрознай ад культуры сялян” [Бэрк, 1999, с. 62].

У айчыннай гістарыяграфіі апошніх гадоў трывала замацавалася слушнае меркаванне, што тып сярэдневяковага заходнееўрапейскага места (ізаляванай у юрыдычным сэнсе ад наваколля абшчыны, якая карысталася правам на самакіраванне) не быў характэрны для Русі ў XI – XIII стст. [Куза, 1985, с. 44 – 45; Фроянов, 1996, с. 192; Фроянов, Дворниченко, 1988]. Рускія “города” і зямля-воласць утваралі адно арганізацыйнае цэлае, а жыхары зямлі разам з насельніцтвам гарадоў мелі супольную назву (“палачане”, “меняне”, “смаляне” і інш.) [Штыхов, 1978, с. 125]. Насельніцтва зямлі-воласці ў арганізацыйным плане аб’ядноўвалася ў абшчыны (гарадскія і сельскія) і падпарадкоўвалася абшчыне старшага горада. Іншымі словамі, гэта была сістэма супадначаленых абшчын, кіруемых валасным вечам і вечам старшага горада [Дворниченко, 2008, с. 461]. Напрыклад, насельніцтва пскоўскіх канцоў было звязана з прыгарадамі ў адміністрацыйных адносінах і было абавязана ўдзельнічаць у сустрэчах і забеспячэнні войска, якое прыходзіла на дапамогу гораду [Лабутина, 1985, с. 131]. Цэнтральны дзяцінец-“град” з размешчанымі каля яго пасадамі ўтвараў арганічнае цэлае з падпарадкаванай яму тэрыторыяй і з’яўляўся адзіным значным цэнтрам улады, рамяства і гандлю зямлі-воласці.

Наданне Полацку магдэбургскага права прывяло да вылучэння мяшчанскай абшчыны са складу насельніцтва зямлі-воласці [Макараў, 2008, с. 39, 68]. Пасля 1498 г. у склад мяшчанства ўвайшло ўсё насельніцтва горада, за выключэннем духавенства і баяр. На магдэбургскае права былі пераведзены такія катэгорыі насельніцтва, як жыхары вёсак, якімі валодалі мяшчане, і путныя слугі. Аляксандр Ягелончык забараніў баярам, вялікакняжацкаму намесніку і праваслаўнаму духавенству мець падданых у Полацку. Баяры павінны былі за выкуп вярнуць полацкім мяшчанам дамы, якія яны гвалтоўна “покупили”. Былі створаны органы асобных гарадскіх улад [Макараў, 2008, с. 69].

Мяркуемую мадэль соценнай структуры арганізацыі пасадскага насельніцтва гісторыкі атаясамліваюць з наўгародскай [Варонін, 2000 б, с. 63]. Так, у Ноўгарадзе вольнае, але не арыстакратычнае насельніцтва аб’ядноўвалася ў 10 сотен і доўгі час падпарадкоўвалася непасрэдна князю. Гэтую адміністрацыйную сістэму ўзначальвалі тысяцкі і дзесяць соцкіх. Тэрыторыя сотен і канцоў не мела дакладна акрэсленых межаў, і паступова канцы пашыраліся за кошт тэрыторыі сотен. Ніжэйшым адміністрацыйным звяном было насельніцтва вуліц. Асноўнымі гаспадарамі канцоў было наўгародскае баярства, кожны канец меў сваё веча, саборны храм і канчанскі манастыр [Куза, 1985, с. 85].

Адсутнасць соценнай структуры арганізацыі пасадскага насельніцтва Полацка ў XII – XV стст. сведчыць аб іншых, у параўнанні з Ноўгарадам, прынцыпах гарадскога кіравання. У Полацку з XII ст. галоўную ролю адыгрывалі вольныя гарадскія абшчыннікі, аб’яднаныя ў гандлёва-рамесныя карпарацыі накшталт “братчын”. Нездарма ў летапісе сярод усіх гарадоў Русі занатаваны звесткі пра існаванне полацкай “братьщины” (1159 г.), якая збіралася каля Старой царквы Багародзіцы “в городе” на Пятроў дзень [Ипатьевская летопись, 1998, стб. 495].

У XII – XIV стст. усе жыхары Полацка, якія валодалі нерухомай маёмасцю (“харомамі”) вызначаліся тэрмінам “людзі”. А вось пад тэрмінам “мужы”, верагодна, выступаў абраны “людзьмі” вышэйшы орган гарадскога самакіравання, легітымнасць якога падтрымлівалася епіскапам ад імя Святой Сафіі [Тарасаў, 2009, с. 86].

Старэйшыны як кіраўнікі вечавых сходаў з'яўляюцца ў 1400 г. Яны абіраліся з ліку мяшчан і баяр, пазней у іх склад маглі ўваходзіць і тыя мяшчане, якія не мелі зямельных уладанняў. Гэтая форма выбарных асоб была перанята ад нямецкіх купцоў, якія ненадоўга спыняліся ў Полацку і выбіралі старостаў сярод сваёй абшчыны [Rohdewald, 2001, с. 19].

Аднак асобныя органы гарадскіх улад, якія б дзейнічалі пастаянна, у Полацку не былі створаны да часу ўвядзення магдэбургскага права. Згодна з пастановамі прывілея 1498 г. у Полацку ўводзіўся ўрад войта, якога прызначаў вялікі князь літоўскі. Войту перадавалася судзебная ўлада над насельніцтвам горада. Дзейнасць войта праводзілася сумесна з райцамі і бурмістрамі, якія вырашалі ўсе гарадскія справы [Макараў, 2008, с. 69]. На справе ж да 1550-х гг. функцыі войта выконваў ваявода, а гарадское самакіраванне ўзначальваў лентвойт. З 1558 г. лентвойта прызначаў ваявода [Варонін, 2000 б, с. 90].

Сацыяльная структура насельніцтва Полацка ў XVI – XVIII стст. была даволі стракатай. Як і ў іншых беларускіх гарадах, самае высокае становішча ў Полацку ў XVI – пачатку XVII стст. займалі баяры (з XVII ст. – шляхта). У XVI ст. дробная шляхта часта называлася па-старому – баяры-шляхта. Прамежкавы стан паміж дробнай шляхтай і магнатамі займала сярэдняя шляхта, якая валодала невялікімі маёнткамі [Улащик, 1986, с. 133]. У Полацку да вышэйшага саслоўя ў XVI – XVIII стст. належалі, як і раней, асобныя мяшчане. У іх лік уваходзілі землеўласнікі і купцы, сярод якіх вылучаліся вельмі заможныя гараджане [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 48]. Тэрмін "мяшчане" ў інтытуляцыі гарадскіх зваротаў сустракаецца з 1459 года [Полоцкие грамоты, 1982, с. 150]. Сярод заможных мяшчан былі "славетныя" мяшчане-радцы, "паспалітыя людзі месцкія" ці "паспольства" – гэтая частка насельніцтва складала гарадскі патрыцыят (бюргерскі стан) [Александрович, 1998, с. 160; Варонін, 2000 б, с. 62; Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 48]. У першай палове XVI ст. полацкі патрыцыят займаўся пераважна гандлем, сярэдні слой – рамяством і гандлем [Варонін, 2000 б, с. 65 – 66]. Гэтая тэндэнцыя, верагодна, захавалася і ў XVII – XVIII стст. Паводле В. А Вароніна, існаванне адносна адзінага стану мяшчан у Полацку можна весці з 1498 года (Прывілей Полацку на магдэбургскае права) [Варонін, 2000 б, с. 62].

У XVI ст. асноўнае гарадское насельніцтва складалася з мяшчан. Згодна "Попісу войска ВКЛ", у 1528 г. у Полацку жыло 384 сям'і мяшчан-баяр, у інвентарным апісанні полацкай рэвізіі (1552) мяшчанскія двары налічвалі 1494 адзінкі [Варонін, 2000 б, с. 69]. Сярэдні слой гараджан ("паспалітыя людзі месцкія") прадстаўлялі майстры, падмайстры, вучні з ліку паўнапраўных гараджан, гандляры, уласнікі крам на рынках [Варонін, 2000 б, с. 66]. Сярэдні слой у буйных гарадах у XVI – першай палове XVII ст. складаў да паловы ўсіх жыхароў [Полоцк: Ист. очерк, 1987. С. 71]. Мяшчане адыгрывалі вядучую ролю ў сацыяльна-эканамічным развіцці горада на працягу ўсяго разглядаемага перыяду [Полоцк: Ист. очерк, 1987. С. 61].

У XVI – XVII стст. горад прыцягваў вялікую колькасць збяднелых сялян ("чорных людзей") [Варонін, 2000 б, с. 66]. Асабіста вольнае збяднелае сялянства – "лёзныя" і "гульцяі" – з'ўлялася гарадскімі жыхарамі (мяшчанамі), аднак паўнапраўнымі гараджанамі лічыліся тыя, хто меў нерухомую маёмасць ("оселость"). "Лёзныя" і "гульцяі" арандавалі жылое памяшканне ў гараджан. У крыніцах яны фігуруюць як "каморнікі" [Копысский, 1966, с. 58 – 60]. Частка "чорных людзей" працавала па найме ("найміты", "парабкі", "слугі") ці займалася купляй-продажам тавараў ("перакупнікі"). У Полацку "лёзных" наймалі на гандлёвыя караблі для аховы купецкіх абозаў ("молодцы") [Ко-

пысский, 1966, с. 61]. Маргінальныя групы гарадской беднаты (“лёзныя”, “жабракі”) складалі да 10 % насельніцтва [Котлярчук, 2001, с. 43].

Па меры развіцця горада ўнутраная замкнёнасць гарадской супольнасці парушалася. Менавіта таму склад гарадскога насельніцтва ніколі не быў аднародным. У сваёй сутнасці мяшчанства і ўвогуле жыхары горада былі масай нестабільнай, дынамічнай, этнічна і канфесійна разнароднай, асабліва што тычыцца перыяду XV – XVIII стст. Дынаміка гарадскога жыцця настойліва патрабавала прытоку рабочай сілы, таму гарадскі асяродак выконваў ролю прыстанішча для збеглых сялян [Гардзееў, 2008, с. 253].

Да канца XV ст. вернікі праваслаўнай канфесіі абсалютна дамінавалі ў Полацку. Выключэннем маглі з’яўляцца замежныя купцы, якія на пэўны час спыняліся ў Полацку і дзейнічалі ў межах нямецкага двара [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 141]. Размяшчэнне гэтага двара на пасадскай тэрыторыі і тэрытарыяльна не ізаляванага, як у Ноўгарадзе, сведчыць пра талерантныя адносіны да вернікаў гэтай канфесіі. У 1498 г. у Полацку заснаваны бернардзінскі кляштар, які неаднаразова выпальваўся падчас набегаў маскоўскіх войск [Марзалюк, 2007, с. 25]. Масавае распаўсюджванне каталіцызму, а крыху пазней – і ўніяцтва, прыходзіцца на перыяд пасля 1580 г., калі ў Полацку пачынаюць дзейнічаць езуіты. Апірышчам праваслаўных вернікаў у Полацку з’яўляецца Багаяўленскі манастыр (заснаваны ў 1633 г.) [Витебская старина, 1885, с. 278; ИЮМ, 1875, с. 352]. У XVI – XVII стст. у Полацку існаваў і кальвінскі збор (заснаваны ў першай палове XVI ст. і праіснаваў да 1660 г.).

У асобныя перыяды, напрыклад, у другой палове XVIII ст., масавы прыток рабочай сілы з паезуіцкіх маёнткаў полацкай акругі, які быў неабходны для шырокамаштабнага мураванага будаўніцтва, істотна паўплываў на этнаканфесійнае развіццё горада. Тое ж адбывалася і ў XII ст. – час найвышэйшага росквіту полацкай школы дойлідства, калі шырокамаштабнае будаўніцтва вымагала пошуку новых крыніц рабочай сілы, у тым ліку з сельскай акругі, жыхары якой на той час актыўна спрычыняліся да хрысціянскай веры. Таму вызначыць сацыяльны (а тым больш этнаканфесійны) склад насельніцтва Полацка ў XII – XVIII стст. – задача няпростая.

Крыніцай папаўнення гарадскога насельніцтва з’яўлялася ў першую чаргу сельская акруга. Так было здаўна, прынамсі, асартымент рэчаў, знойдзеных у Полацку ў пластах X – XIII стст. у асноўнай масе тыповы і для сельскай акругі. Першыя ўскосныя звесткі пра паходжанне гарадскога насельніцтва з бліжэйшай полацкай акругі магчыма знайсці ў пісьмовых крыніцах другой паловы XV – XVI стст. Так, прозвішчы некаторых палачан тоесныя з назвамі населеных пунктаў павета і ваяводства (Заскаркі, Кубліцкія, Палупяты, Росіцы, Сялявы і інш.). Мясцовае паходжанне пахаваных на полацкіх могілках у XVII – XVIII стст. людзей пацвярджаюць і даныя антрапалагічнай экспертызы.

У XVI – XVIII стст. у Полацку пражывалі яўрэі, татары, маскавіты (выхадцы з маскоўскай дзяржавы), немцы, вугорцы, палякі і іншыя са складу ваенных і рамеснікаў, якія на пэўны час траплялі ў Полацк. Так, у 1599 г. Леў Сапега паведамляў Крыштофу Радзівілу, што сярод жыхароў Полацка была значная частка маскавітаў, якія засталіся ў Полацку пасля 1579 г. [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 46][19].

Найбольш шматлікай была яўрэйская абшчына. Дакладных даных аб яе колькасным складзе ў XVI – XVII стст. няма, аднак можна пагадзіцца з меркаваннем І. А. Марзалюка аб двухпрацэнтным складзе яўрэйскага насельніцтва ў Полацку і

[19] Большая частка маскоўскага гарнізона, як вядома, вярнулася ў Маскоўскае царства [Гейденштейн, 1889, с. 70].

іншых гарадах Беларускага Падзвіння ў дачыненні да ўсіх гараджан [Марзалюк, 2007, с. 46]. На працягу XVIII ст. колькасць яўрэяў у гарадах Беларусі ўзрастае, аднак не перавышае 25 % агульнага складу гараджан, у асноўным гэта датычыцца заходняга рэгіёну Беларусі. Пасля далучэння Полацка да Расійскай імперыі і ўвядзення мяжы аселасці колькасць яўрэяў у Полацку рэзка ўзрасла. Паводле Я. К. Анішчанкі, на 1 верасня 1801 г. у Полацку пражывала 1859 мяшчан-хрысціян і 1978 мяшчан-яўрэяў, сярод купцоў хрысціян і яўрэяў адпаведна 349 і 44 [Марзалюк, 2007, с. 47, 60]. Па даных 1805 г., колькасць яўрэяў складала 1151 чалавек з агульнага ліку 2991 жыхароў Полацка [Географический словарь, 1805, с. 1238].

У 1522 г. татары-“казакі” атрымалі зямельныя ўладанні ў Полацку [Любавский, 1892, с. 532]. Аднак татарскае насельніцтва не фіксуецца ў захаваных інвентарах і рэвізіях XVI – XVIII стст., таму, верагодна, яго колькасць была нязначнай і істотна не паўплывала на дэмаграфічную і этнаканфесійную структуру Полацка.

Соценная структура арганізацыі пасадскага насельніцтва адлюстравана ў пісьмовых крыніцах XVI – XVII стст. Так, рэвізія 1552 г. згадвае мяшчанскія дзесяткі і сотні (адпаведна і службовых асоб – дзесятнікаў і сотнікаў) [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 1, 2, 6, 10]. Паводле пастановы ратушы ад 1638 г., будаўніцтва новага гарадскога паркана павінны былі “пилновати сотники, поручники и десятники” [АСД, 1867, с. 309]. Пры гэтым асабліва агаворвалася, што кожнаму ўладальніку гарадскога “пляца” ці яго часткі дакладна вызначалася месца і памер свайго кавалка сцяны. Сотнікі і дзесятнікі згадваюцца і ў крыніцах сярэдзіны XVII ст. разам з гарадскімі шафарамі і пaборцамі, якія ўсе “одноколвекъ приходъ и расходъ меских грошей въ рукахъ своихъ мели” [ИЮМ, 1874, с. 253].

Паводле “Рэвізіі”, кожны з пасадаў меў сваю ўнутраную арганізацыю, запіс 1540 г. называе старосту Востраўскага пасада Радыёна Клочнева [Варонін, 2000 б, с. 63]. Апроч таго, у першай палове XVI ст. і ў пачатку XVII ст. склаўся падзел мяшчан па вуліцах. На жыхароў вуліц размяркоўваліся павіннасці, а вуліцы мелі сваіх старшынь [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 9]. З дакумента 1621 г. вынікае, што сходам полацкіх мяшчан на вул. Вялікай кіравалі “старшины мещанские” [Витебская старина, 1888, с. 121].

Важнае значэнне для разумення сістэмы кіравання пасадскага насельніцтва мае дакумент “Постановене згодное од всего посполства полоцкого, абы сотники шторок новые оберaны были, и петидесятники, и десятники” аб абранні сотнікаў і пяцідзесятнікаў, які захаваўся ў складзе актавай кнігі полацкага магістрата за 1656 – 1657 гг. Так, 5 верасня 1656 г. на сходзе ў ратушы прадстаўнікоў полацкіх мяшчан “обрали сотников и петидесятников для всякого дела, абы готовыми *з* сотнями были и послушенство врадовое полнили. То что обрали сотни, кои в сотню зарецкую Федора Гатовку, а петидесятником Семена Сысу, в сотню екиманскую сотником Якима Грочанина, а петидесятником […][20], в сотню заполоцкую сотником Федора Шапоньку, а петидесятником […да][21] Сивицкого сотником обрали, сотником Даниилу Лаптевича, а петидесятником […][22], на ме*й*сцу Гарбуза обрали сотником Гарасима Баханского и Малявко поданы*й* на тот же врад, на ме*й*сцу Сабура Шевца обран сотник Гаврыло Юрко, петидесятником Семен Попько, на месцу Павла […][23] Яку*б* Юревич сотником, Павел До*й*ла петидесятником, на ме*й*сцу Тивуна Грыцко Коротки*й* сотником, пети-

[20] Прапушчана адно ці два словы.

[21] Прапушчана адно ці два слова і далей зацёрта прыкладна 2 словы.

[22] Прапушчана адно ці два словы.

[23] Прапушчана адно ці два словы.

десятником […][24] тых теды всиих осо*б* выше*й* помененых згоднена сотництво и петидесятництво о братцвы …” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, аркуш 47, 47 адв.].

З тэкста дакумента вынікае існаванне сістэмы кіравання пасадскага насельнітцва ў межах пасадаў: Задзвінскага (“сотня зарецкая”), Экіманскага (“сотня екиманская”) і Запалоцкага (“сотня заполоцкая”). На кожны з гэтых двух пасадаў быў абраны адзін сотнік і адзін пяцідзесятнік. Астатняя частка абраных асоб, а менавіта шэсць сотнікаў і столькі ж пяцідзесятнікаў[25], была абрана ад “поспольства” Вялікага пасада. Гэтыя службоўцы павінны былі рабіць штогадовыя справаздачы аб усіх работах, гарадскіх даходах і расходах. Сотнікі, пяцідзесятнікі і дзесятнікі абіраліся не толькі для службы гораду, але і для выканання загадаў цара Аляксея Міхайлавіча. Кандыдатуры для абрання былі прапанаваны брацтвамі (цэхамі), што падкрэслівае вядучую ролю раместнага насельніцтва ў жыцці горада. Найбольшая колькасць абраных кіруючых асоб ад Вялікага пасада сведчыць пра вядучую ролю і прадстаўнічасць яго жыхароў ў сацыяльна-эканамічным жыцці Полацка ў сярэдзіне XVII ст. Цікавым з’яўляецца факт вызначэння адной “зарецкой сотни” насельнітцва Крыўцовага пасада, што пацвярджае наяўнасць у першай палове XVII ст. аднаго пасада замест пазначаных у Полацкай рэвізіі 1552 г. Востраўскага, Крыўцовага і Слабадскога [Дук, 2007 ж, с. 237]. Экімань – былая юрыдыка езуіцкага калегіума – падчас вайны 1654 – 1667 гг. і панавання ў горадзе Аляксея Міхайлавіча была падначалена гарадскому магістрату.

Верагодна, менавіта сотнікі і пяцідзесятнікі абавязаны былі сачыць, каб мяшчане бралі лес на будоўлю і дровы ў “пущах господарских” за выключэнне зямель баяр і паноў (Устава Жыгімонта I г. Полацку ад 1529 г.) [Акты Литовско-Русского государства, с. 217]. Гліну, паводле граматы Аляксандра 1504 г., мяшчанам дазвалялася браць “где найдутъ на земляхъ нашихъ и мещанскихъ” [Акты Литовско-Русского государства, с. 217]. Такім чынам, улада сотнікаў і пяцідзесятнікаў на месцы клапацілася, з аднаго боку, аб выкананні правоў мяшчан, а з другога была прызначана для кантролю і арганізацыі грамадскіх абавязкаў.

Асноўнымі абавязкамі гарадскога і сельскага насельніцтва зямлі-воласці ў XI – XIII стст. з’яўляліся рамонт і ўзвядзенне замкавых і пасадскіх умацаванняў [Раппопорт, 1956, с. 178; Раппопорт, 1961, с. 210]. У гэты час магчыма вызначыць шырокамаштабны характар узвядзення пасадскіх умацаванняў (Запалоцце – XI – XII стст., вакольны горад – XI ст.) і гарадзішча. У XIV ст. вядомы ўмацаванні Верхняга замка.

Натуральна, што вялікая па працягласці сістэма абарончых умацаванняў патрабавала адпаведнай мабілізацыі людскіх рэсурсаў. Гэтае пытанне было адным з найбольш актуальных для дзяржаўнай улады на працягу наступных часоў, што пацвярджае тэкст граматы вялікага князя літоўскага Казіміра ад 1475 г.: “Говорили нам бояре полоцкие и мещане и все поспольство, што ж, деи, городничого в них здавна не бывало у Полоцку. А коли, деи, надобе город Полтеск робити, наместникъ н(а)ш, которыи город Полътеск от нас державить, тот дело городовое росказываеть делати н(а)шим людем, которые н(а)ши люди з волостей н(а)ших Задвинских Полтеск рубливали издавна, и пригоном полоцким и иным волостем, которые издавна город Полтеск рубливали” [Полоцкие грамоты, 1978, с. 48 – 49].

У XVI – XVII стст. патрабаванне вялікакняжацкай і гарадской улады аб узвядзенні і падтрыманні мяшчанамі ў належным стане гарадскіх умацаванняў стала пры-

---

[24] Прапушчана адно ці два словы.

[25] У тэксце згадана пяць пяцідзесятнікаў, таму што частка тэкста з імем шостага пяцідзесятніка пашкоджана.

чынай шматлікіх канфліктаў. Распаўсюджванне магдэбургскага права істотна замаруджвалася менавіта нежаданнем мяшчан адбудоўваць замкавыя ўмацаванні і паркан і з'яўлялася адной з прычын перасялення на феадальныя юрыдыкі.

Мяшчане ў XVII – XVIII стст. абавязаны былі даваць падводы для каралеўскіх паслоў, прадастаўляць кватэры салдатам і прыезджым службовым асобам [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 65]. Яшчэ адным з абавязкаў гараджан з'яўлялася падтрыманне ў працаздольным стане гарадскія водаадводныя калектары і маставыя [Медведев, 1956, с. 209]. Менавіта полацкія мяшчане "масты на вуліцы масцілі" [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 371 адв.].

Полацкія мяшчане абавязаны былі плаціць падаткі на карысць дзяржавы (традыцыйныя для XVI ст. ваенны налог сярэбшчыну ці ардыншчыну, у XVII – XVIII стст. – ваенны ("гіберна") і падворны ("падымнае")). Перыядычна збіралася з яўрэяў, татараў, цыганоў і г. зв. "пагалоўшчына", і купецкія налогі для мяшчан, якія займаліся гандлем. Да ліку ўскосных налогаў належалі "чопавае" і "сасновы", які спаганяўся з продажу некаторых тавараў. За права вытворчасці хмяльных напіткаў мяшчане выплочвалі ваяводзе і войту "капшчызну" [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 65 – 66].

Паводле Прывілею Полацку на магдэбургскае права 1498 г., мяшчане абавязаны былі пабудаваць ратушу і чатыры гасціныя двары. Акрамя таго, гараджане неслі замкавую павіннасць. Пасля 1498 г. у пабудаванні і рэпарацыі замка павінны былі прымаць удзел усе землеўласнікі полацкага ваяводства. Яны высылалі сялян з інструментам і канямі. Полацкія мяшчане выконвалі земляныя работы па падсыпанні замка і неслі замкавую службу.

Паводле граматы Аляксандра ад 20 кастрычніка 1504 г., усе людзі "господарские, и боярские, и путные, которые домы свои въ месте мають, каждый съ нихъ делницы свои паркана мають робити подавному" [Акты Литовско-Русского государства, с. 217]. Аналагічныя пастановы былі выданы вялікакняжацкай уладай у 1533, 1552, 1638 гг. Паводле пастановы 1504 г., "старожа" Замка павінна была адбывацца па чарзе па 12 чалавек усімі людзьмі гаспадарскімі, княжацкімі, панскімі, баярскімі, духоўнымі, мяшчанскімі і путнымі, якія ў Полацку "местца свои мають" [Акты Литовско-Русского государства, с. 217]. Мяшчане былі вызвалены ад замкавай "старожы" паводле граматы 1593 г., аднак яна была зноў уведзена граматай Уладзіслава IV [Ткачев, 1987, с. 64 – 65]. Згодна з гэтай жа пастановай, "мостъ великий на устьи на Полоте, который идеть от города до Бернардиновъ, мають мещане одны робити с тыми людми духовными и зъ боярскими, которые в месте ремествомъ ся обыдятъ и которые ку праву ихъ прислухають. А што мостъ на великий посадъ, то мають робити пригонники – тежъ мещане стацей на пословъ давати не мають" [Акты Литовско-Русского государства, с. 217]. Мяшчане былі абавязаны пабудаваць плітніцу, чатыры гасціныя дамы і млын.

Прывілей Полацку на магдэбургскае права 1498 г. перавёў пад уладу магістрата ўсіх жыхароў Полацка, акрамя баяраў і духавенства. Пры гэтым духоўным і свецкім феадалам было катэгарычна забаронена мець падданых у Полацку. Рашучыя дзеянні першага полацкага войта Радыёна па канфіскацыі баярскай і архіепіскапскай нерухомай маёмасці непадалёк ад полацкага замка выклікала востры канфлікт [Макараў, 2008, с. 71 – 72]. Таму, паводле "Вырока" 12 ліпеня 1499 г., гарадскім уладам было забаронена распараджацца вотчыннымі дварамі і землямі баяр у горадзе і замку. Падданыя баяр плацілі дзяржаўныя падаткі разам з мяшчанамі, але яны не былі падуладнымі магістрату. Аляксандр Ягелончык дазволіў свецкім феадалам трымаць падданых на сваіх уласных землях у Полацку, баярам былі вернуты грунты, канфіскаваныя войтам Радыёнам.

У снежні 1500 г. Аляксандр выдаў "Уставу", паводле якой юрысдыкцыя жыхароў горада вярталася да дэклараванай у прывілеі 1498 г. Супраціўленне полацкага намесніка Станіслава Глябовіча прывяло да з'яўлення новага "Выроку" ад 30 снежня 1502 г., паводле якога намесніку было рашуча забаронена судзіць полацкіх мяшчан, а духоўным і свецкім феадалам загадвалася ўсіх падданых ураўнаваць у правах з іншымі мяшчанамі. Непаслядоўная палітыка Аляксандра Ягелончыка прывяла да неабходнасці выдання другога прывілея на магдэбургскае права 1509 г. Жыгімонтам Старым. Гэты прывілей у пытанні юрысдыкцыі практычна паўтараў змест першага, за выключэннем адносін часткі путных слуг і нешматлікай групы падданых шляхты [Макараў, 2008, с. 73 – 74]. Падданыя духавенства і шляхты павінны былі плаціць чынш ("позем") гаспадарам зямлі, на якой яны жылі, згодна з асабістым дагаворам з уласнікамі зямлі. У якасці выключэння вялікі князь дазволіў свецкім феадалам пакінуць пры сваіх гарадскіх дварах па адным "падворніку" і "агародніку". У 1529 г. быў выданы чарговы "Вырок", паводле якога людзі, якія жылі на землях феадалаў, маглі самастойна прыняць рашэнне аб сваёй прававой прыналежнасці, аднак, незалежна ад іх выбару, яны былі абавязаны плаціць чынш гаспадарам зямлі. Такім чынам, духавенства і баяры практычна без абмежаванняў маглі павялічваць колькасць падпарадкаваных сабе асоб на ўласных гарадскіх землях [Макараў, 2008, с. 77].

Полацкая рэвізія 1552 г. зафіксавала прысутнасць у Полацку яшчэ адной катэгорыі мяшчан – тых, якія належалі "замкаваму праву", г. зн. падпарадкоўваліся непасрэдна ваяводу. Гэтыя мяшчане валодалі 44 дварамі і жылі на тэрыторыі Верхняга замка [Макараў, 2008, с. 77].

Пытанне аб юрыдычным статусе асобных тэрыторый стала адным з галоўных у змаганні магістрата з феадаламі на працягу XVI – XVIII стст. У перыяд з 1500 па 1597 г. вялікія князі літоўскія ў васьмі граматах пацвярджалі магдэбургскае права Полацку. Да сярэдзіны XVI ст. пастутова перамагае прынцып падаткаабкладання мяшчан, якія займаліся рамяством і гандлем, але жылі на землях феадалаў, нароўні з усімі мяшчанамі магістрацкай юрысдыкцыі. Аднак гэты прынцып нярэдка парушаўся. На працягу XVIII ст. магістрат дамагаўся ад езуіцкага калегіума права на выплату купецкага падатка з мяшчан буйнейшых полацкіх юрыдык – Экімані і Вострава [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 52 – 54, 65 – 66].

Паводле пацвярджальнага прывілею Полацку 1633 г. караля і вялікага князя Уладзіслава, полацкія мяшчане, якія жывуць як у самім горадзе, так і ў прадмесцях, павінны быць паслухмянымі гарадскім уладам і магдэбургскаму праву. Уладзіслаў дазволіў мяшчанам будаваць дамы на тэрыторыі Верхняга замка – традыцыйным месцы пражывання гарадского набілітэту [Доўнар, 2004, с. 46]. Гэтыя мяшчане былі вызвалены з-пад замкавай юрысдыкцыі і падпарадкаваны гарадской ратушы на аснове даўняга права, што асабліва падкрэслівалася. Гэта было зроблена для павышэння бяспекі палачан падчас варожых нападаў. Асобна падкрэслівалася, што ў горадзе і прадмесцях не павінна быць ніякіх юрыдык. А калі шляхта, духавенства маюць ці будуць мець дом у Полацку, то чалавека, які будзе жыць у гэтым доме і будзе займацца купецтвам, рамяством і шынкам, трэба лічыць мешчанінам, і ён трапляе пад гарадскую юрысдыкцыю. А свайму пану такі мешчанін павінен будзе плаціць толькі штогадовы чынш. Такім чынам, шляхціч заставаўся ўласнікам зямлі і дома на тэрыторыі горада, але не чалавека. Дадзенае правіла не распаўсюджвалася на залежных ад шляхціча людзей, якія жылі ў шляхецкіх дамах у горадзе, але не займаліся гандлем і рамяством [Доўнар, 2004, с. 46].

Прывілей 1633 г. указвае на магчымасць стварэння прыватных юрыдык у горадзе. Так, у пачатку XVII ст. магістрат вёў спрэчку з зямянінам гаспадарскім полац-

кага павета Янам Ісаевічам Баханьскім. 20 красавіка 1622 г. вынесена пастанова каралеўскага суда па пытанні аб падначаленні мястэчка Бельчыцкага пасада, "вновь названного Кабаком", прысуду і павіннасцям полацкага магістрата [ИЮМ, 1901, с. 114 – 120]. Паводле рашэння, усе "ўладычныя, княжацкія, папоўскія, панскія і баярскія" мяшчане Бельчыцкія Крыўцовага пасада, якія займаліся "гандлем, купецтвам, рамёсламі, шынкам", былі перададзены пад юрысдыкцыю полацкага магістрата. Астатнія, "людзі простыя і агароднікі", засталіся пад уладай і паслушэнствам Баханьскага, а з усіх павіннасцей гараджан на іх ускладалася толькі абарона горада. 5 чэрвеня 1623 г. была заключана здзелка паміж зямянінам Іванам Іванавічам Баханьскім і яго жонкай Раінай Аляксандраўнай з аднаго боку і прадстаўнікамі полацкага магістрата – з другога адносна мястэчка Бельчыцы-Кабака [ИЮМ, 1901, с. 120 – 126]. Паводле здзелкі, Іван Іванавіч Баханьскі перадаваў сваіх мяшчан мястэчка Бельчыцы-Кабак, размешчанага пад Полацкам, каля Крыўцовага пасада за р. Дзвіною, ва ўладанне полацкага магістрата. 16 чэрвеня 1623 года возны Іван Скірмонт перадаў ад землеўладальнікаў Баханьскіх пад юрысдыкцыю полацкага магістрата заселеныя і пустыя пляцы на Крыўцовым пасадзе ў мястэчку Бельчыца-Кабак і вакол мястэчка Кабака, каля ручая, з мяшчанамі і павіннасцямі [ИЮМ, 1892, с. 362 – 364].

Іван Скірмонт 16 ліпеня 1623 г. передае мяшчан Крыўцовага пасада мястэчка Бельчыцы-Кабак з ведамства Барысаглебскага манастыра пад юрысдыкцыю полацкага магістрата [ИЮМ, 1892, с. 360 – 361]. Дагэтуль двор у Бельчыцах належаў Баханьскім і быў прададзены зямянам гаспадарскім Сцяпану і Абраму Рыпінскім [ИЮМ, 1901, с. 122]. Рыпінскія прадалі мястэчка Бельчыца-Кабак полацкаму архіепіскапу Ісафату Кунцэвічу і барысаглебскаму ігумену Генадзю Хмяльніцкаму, а ўжо тыя аддалі гэтае мястэчка з мяшчанамі і павіннасцямі гораду, пакінуўшы сабе збор чынша па 1 злотым за пляц у год [ИЮМ, 1892, с. 358 – 361].

Такім чынам, да першай трэці XVII ст. полацкі магістрат нарэшце дамогся канчатковага пераходу пад магістрацкую юрысдыкцыю асноўнага гарадскога прадмесця Полацка – Крыўцовага пасада, пакінуўшы землеўладальнікам толькі "людзей простых і агароднікаў". У 1622 – 1623 гг. гандлёва-рамеснае насельніцтва Крыўцовага пасада стала падначаленым полацкаму магістрату. Гарадской ратушы былі падпарадкаваны не толькі старадаўнія гарадскія землі і ўласныя землі мяшчан, але і землі, купленыя гарадскім магістратам у шляхты [Доўнар, 2004, с. 47].

У дачыненні да Экімані ў сярэдзіне XVI ст. ужываюцца адначасова назвы "пасад" і "прадмесце", у XVII ст. выкарыстоўваюцца назвы "мястэчка" і "факторыя". Гэта далёка не выпадкова. Экімань была перададзена Стэфанам Баторыем езуіцкаму калегіуму, з'яўлялася разам з Востравам яго найбуйнейшай юрыдыкай [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 66] і, паводле земскіх кніг, з канца XVI ст. мела статус полацкага прадмесця [ИЮМ, вып. 25, с. 133], аднак жыхары Экімані ў XVII ст. па-ранейшаму з'яўляліся мяшчанамі [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006, с. 86].

Паводле прывілея 1633 г., яўрэям было забаронена будаваць і купляць дамы для пражывання, займацца гандлем на гарадской тэрыторыі Полацка. Гэты пункт паўтараў змест ранейшых прывілеяў Полацку на магдэбургскае права. Аднак яўрэі жылі ў Полацку і ў XVI, і ў XVII стст. Яўрэі былі падначалены прысуду і ўладзе толькі полацкага ваяводы [Доўнар, 2004, с. 47].

Такім чынам, развіццё пасадскай структуры Полацка прайшло шлях ад этапа станаўлення вакольнага горада (т. зв. "малога пасада") IX – першай паловы XI стст. да

ўтварэння першых горадаўтваральных пасадаў – Вялікага і Запалоцкага – у другой палове XI ст. Так званая "канчанская" структура ў Полацку не склалася, што адрознівае Полацк ад гарадоў-дзяржаў Ноўгарада і Пскова. У Полацку з XI ст. галоўную ролю адыгрывалі вольныя гарадскія абшчыннікі, аб'яднаныя ў гандлёва-рамесныя карпарацыі накшталт "братчын". Мяшчанская абшчына была вылучана са складу зямлі-воласці толькі пасля надання Полацку магдэбургскага права (1498 г.). Пасля 1498 г. у склад мяшчанства ўвайшло ўсё насельніцтва горада, за выключэннем духавенства і баяр. Юрыдычная перавага полацкага баярства над мяшчанамі зафіксавана ў пісьмовых крыніцах не раней за 80-я – 90-я гг. XV ст. У першай палове XVI ст. у Полацку склалася г. зв. "соценная" сістэма арганізацыі пасадскага насельніцтва. Апошняя акалічнасць істотным чынам адрознівае Полацк ад рэгіёнаў Паўночнай Русі, дзе "соценная" сістэма існавала з XII ст.

## 6. ПЛАНІРОВАЧНАЯ СТРУКТУРА, ГАРАДСКОЕ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ І ЗАБУДОВА ПОЛАЦКІХ ПАСАДАЎ У IX – XVIII СТСТ.

### 6.1. Планіровачная структура Полацка ў IX – X стст. Асаблівасці раннегарадской забудовы.

Планіровачная структура Полацка IX – X стст. вывучана па матэрыялах раскопаў на старажытным полацкім гарадзішчы, селішчы каля Чырвонага маста, Ніжнім замку і на плошчы Свабоды.

Полацкае гарадзішча размешчана на правым беразе р. Палаты за 0,8 км ад упадзення яе ў р. Дзвіну. Пагорак размешчаны на перасечанай мясцовасці правага берага ракі. Вышыня гары – да 13 м, агульныя памеры – 73×75 м. Верхняя пляцоўка меншая – 75×40 м і па форме нагадвае прамавугольнік з выступам ва ўсходняй частцы [Штыхов, 1975, с. 21]. Пачынаючы з 1947 г. гарадзішча шчыльна забудавана, сёння на гарадзішчы размешчана 11 сядзіб з агародамі.

Сярэдняя магутнасць культурнага пласта на гарадзішчы складае 1,8 м, у паўночнай частцы яна максімальная і дасягае 4 м.

Жыццё на гарадзішчы было распачата ў першай палове I тыс. да н. ч., верагодна, каля VII ст. да н. ч. Захаваўся культурны пласт днепра-дзвінскай культуры. Паводле радыёвугляроднага аналізу, у стратыграфічным гарызонце днепра-дзвінскай культуры захаваліся прапласткі вугалю ад VII ст. да н. ч., да I – III стст. н. ч.[26] У гэтым пласце дысперсна размешчаны рэчы і кераміка I тыс. да н. ч. – першай чвэрці I тыс. н. ч., сярэдзіны I тыс. н. ч., трэцяй і апошняй чвэрці I тыс. н. ч. Пласт са славянскай керамікай апошняй чвэрці I тыс. н. ч. захаваўся толькі ў межах мацерыковай ямы (радыёвугляродная дата – 660 – 780 г. н. ч.[27]). Верагодна, усе напластаванні, старэйшыя за III ст. н. ч., былі знівеліраваны падчас добраўпарадкавання тэрыторыі гарадзішча [Дук, 2008 в].

Сляды пажару, знойдзеныя на месцы раскопак на полацкім гарадзішчы ў 2009 г., і манеты сведчаць на карысць таго, што ў першай палове IX ст. гарадзішча мела драўляныя пабудовы [Клімаў, 2010, с. 6].

Такім чынам, дакладных даных аб забудове гарадзішча ў IX – X стст. няма па прычыне нівеліроўкі большай часткі культурнага пласта гэтага часу. Культурны пласт X ст. селішча каля Чырвонага маста таксама захаваўся фрагментарна. Даныя раскопак на Ніжнім замку і плошчы Свабоды больш інфарматыўныя і дазваляюць вызначыць асаблівасці планіроўкі і забудовы вакольнага горада.

Вакольны горад Полацка размяшчаўся на поўдзень ад гарадзішча (тэрыторыя сучаснага стадыёна “Спартак” і Ніжняга замка), выходзіў за межы Замка ва ўсходнім накірунку, дзе яго мяжой з’яўлялася абарончая сцяна з драўлянымі гароднямі. Прыкладная плошча вакольнага горада складала 12,5 га[28].

---

[26] Радыёвугляроднае вызначэнне зроблена ў ДНУ “Інстытут геахіміі і геафізікі” Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (лабараторыя геахіміі ізатопаў пад кіраўніцтвам к.т.н. М. Д. Міхайлава).

[27] У ранейшых публікацыях намі была аргументавана верхняя дата ў якасці храналагічнага маркера для датавання мацерыковай ямы [Дук, 2008 в, с. 264].

[28] Раней у сумеснай публікацыі з С. В. Тарасавым [Дук, Тарасаў, 2005] было выказана меркаванне аб прыналежнасці абарончай сцяны сярэдзіны XI ст. да пасадскай тэрыторыі, аднак наяўнасць культурнага пласта XI ст. на значнай аддаленасці ад яе дазваляе вызначыць тагачасную плошчу Вялікага пасада значна большую за вызначаныя памеры.

На правым беразе р. Палаты размяшчалася селішча-перадградздзе плошчай каля 0,25 $м^2$. Спробы вызначыць аналагічныя перадградздзі на правабярэжных (заходніх) мысах уздоўж р. Палаты доўгі час былі безвыніковыя [Тарасов, спр. № 953, с. 13, 18, 21]. У 2007 г. адкрыты першыя сляды забудовы на правым беразе р. Палаты, дзе, верагодна, размяшчалася другое селішча-перадградздзе (гл. дадатак 1). Полацк IX – X стст. развіваўся ў веерным накірунку з цэнтрам на гарадзішчы.

Час утварэння культурнага пласта і асаблівасці размяшчэння гарадской забудовы гэтага часу прадстаўляюць вынікі раскопак на Ніжнім замку Полацка. У раскопе 2008 г. культурны пласт з ляпной керамікай быў выяўлены на глыбіні каля 1,8 м, ён утвараў ніжні стратыграфічны гарызонт. Магутнасць пласта складае ў сярэднім каля 0,3 м, ён перакрывае больш 20 мацерыковых ям. Рэшткаў драўляных канструкцый практычна не захавалася, акрамя напалову спарахнелых кавалкаў дрэва, прыдатных для радыёвуглероднага датавання.

Знаходкі з гэтага стратыграфічнага пласта прадстаўлены пераважна фрагментамі ляпнога керамічнага посуду (мал. 2), керамічнымі праселкамі і нешматлікімі рэчамі з жалеза і косці. Асаблівасцю гэтага пласта з’яўляецца поўная адсутнасць пацерак – яны былі знойдзены ў размешчаным вышэй пласце з раннеганчарным посудам. Тая ж сітуацыя вызначана і ў іншых раскопах на Ніжнім замку, напрыклад, у раскопе 1989 г. на перадмацерыковы пласт 6 прыходзілася 16 пацерак, на пласт 5 – 133 [Тарасов, спр. № 1165, с. 9]. Аналагічная карціна назіраецца ў Віцебску, дзе храналагічны дыяпазон “выпадзення” пацерак прыпадае на час не раней за X ст. [Еремеев, 2007, с. 6].

Даныя радыёвуглероднага датавання кавалкаў дрэва з мацерыковых ям №№ 1, 2, 8 даюць дадатковыя магчымасці для храналогіі асобных груп ляпной керамікі, паколькі гэта асноўны рэчавы матэрыял, знойдзены ў запаўненні ям.

Так, з ямы № 1 атрымана каліброваная радыёвуглеродная дата IGSB-1373 390-50 BC. У мацерыковай яме № 1 сабрана 39 фрагментаў ляпной керамікі, з якіх 4 венцы, 32 сценкі, 3 кавалкі керамічнай абмазкі печы; таксама знойдзены 1 кавалак шлака. Сярод венцаў – 1 венца міскі, 3 венцы гаршкоў.

З ямы № 2 атрымана каліброваная радыёвуглеродная дата IGSB-1376 340–660 AD. Ляпная кераміка з мацерыковай ямы № 2 прадстаўлена 36 фрагментамі, з іх 3 венцы, 27 сценак, 1 донца, 1 арнаментаваны фрагмент накрыўкі, 4 керамічныя бясформенныя злепкі.

З мацерыковай ямы № 8 атрыманы каліброваныя радыёвуглеродныя даты IGSB-1377 660–900 і 910–950 AD. Ляпная кераміка з мацерыковай ямы № 8 прадстаўлена 12 фрагментамі, з іх 2 венцы, 10 сценак. Гэтая кераміка тыповая для культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў VIII – X стст. Найбольш верагодны храналагічны дыяпазон бытавання дадзенай керамікі – 910 – 950 гг.

Каліброваныя радыёвуглеродныя даты IGSB-1374 атрыманы з ямы № 3 – 240–600 AD. Знаходкі ў яме адсутнічалі. Проба IGSB-1375 кавалка дрэва, які быў знойдзены ў ніжнім стратыграфічным пласце прадстаўляе каліброваную дату 420–670 AD. Побач з ямай знойдзены два венцы слоікападобнага посуду банцараўскай культуры і два венцы керамікі, падобнай да валынцаўскага тыпу [Дук, 2009 в].

Індывідуальныя знаходкі з ніжняга стратыграфічнага пласта прадстаўлены нешматлікімі вырабамі з жалеза і косці VIII – X стст. Ніжні стратыграфічны пласт утварыўся ў IX – X стст. Гэты пласт утрымлівае кераміку банцараўскай культуры, культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў. Пераважная колькасць усіх рэчаў з ніжняга пласта датуецца апошняй чвэрцю I тыс. Відавочна, што актыўная гаспадарчая дзейнасць у

X ст. прывяла да знішчэння культурнага пласта трэцяй чвэрці I тыс. Культурны пласт трэцяй чвэрці I тыс. захаваўся ў межах асобных мацерыковых ям. У сукупнасці з данымі радыёвуглярoднага датавання магчыма вызначыць пачатак існавання селішча старажытнага Полацка ў другой палове VIII – IX стст., якое ў X – XI стст. пераўтвараецца ў вакольны горад. Дагэтуль з VI ст. на яго месцы існавала селішча банцараўскай культуры, што пацвярджаецца радыёвуглярoдным датаваннем кавалкаў дрэва і наяўным керамічным матэрыялам. Адсутнасць сцерыльных праплaстак у структуры пласта, а таксама значнай колькасці вугалю дае падставы для вызначэння бесперапыннага характару існавання селішча – вакольнага горада ў VI – X стст.

У раскопе 1989 г. непасрэдна на мацерыку была зафіксавана наземная каркасна-слупавая пабудова, даўжыня адной са сценак складае 2,8 м, дыяметр слупавых ям – 0,1 м. Пабудова была знішчана ў пажары [Тарасов, спр. № 1165, с. 8]. Сляды каркасна-слупавой пабудовы даўжынёй 4,2 м былі выяўлены ў 1986 г. [Тарасов, спр. № 953, с. 16]. Ва ўнутранай прасторы пабудовы размяшчаўся развал печы-каменкі і гаспадарчая яма, магчыма, для захоўвання дроў.

Аналагічныя пабудовы ацяпляліся печамі-каменкамі, выкладзенымі з камянёў дыяметрам 0,1 м на глінянай аснове. Ад некаторых печаў захаваліся глінабітныя асновы на драўляных апечках. Круглая аснова адной з даследаваных печаў дасягала 1,1 м. Каля адной раскапанай пабудовы была знойдзена вялікая колькасць пацерак, ювелірных прылад і тыгляў для плаўкі каляровых металаў. Гэтыя знаходкі сведчаць пра размяшчэнне тут ювелірнай майстэрні X ст. [Тарасов, спр. № 1165, с. 10].

Другая даследаваная пабудова, складзеная з бярвенняў дыяметрам 0,1 м, мела памеры 3×4 м. Печ-каменка размяшчалася ў паўднёва-ўсходнім куце. Датуецца сярэдзінай X – пачаткам XI стст. [Тарасов, спр. № 1165, с. 10].

Побач з жылымі пабудовамі размяшчаліся будынкі гаспадарчага прызначэння. У раскопе 1989 г. ускрыты рэшткі стайні X ст., на падлозе якой быў зафіксаваны развал камянёў дыяметрам 0,8 м.

Двары раскапаных сядзіб былі агароджаны вастраколам з заглыбленых у мацярык драўляных слупкоў [Тарасов, спр. № 953, с. 16]. Зафіксаваны і сляды агароджы-плятня.

У трэцім будаўнічым гарызонце раскопа 1987 – 1988 гг. на плошчы Свабоды былі зафіксаваны рэшткі драўлянага насціла гаспадарчых пабудоў, канструкцыя драўляных варот [Тарасов, спр. № 1014, с. 13 – 14; Тарасов, спр. № 1084, с. 5]. Магутнасць ніжняга перадмацерыковага пласта складае каля 0,2 м, месцамі – да 0,6 м. З усёй колькасці ганчарнай і раннеганчарнай керамікі ў раскопе 1987 г. зафіксавана 3 % ляпных гаршкоў і патэльняў. Датаванне пласта вызначана ў межах X – пачатку XI стст.

Рэшткі пабудоў трэццяга будаўнічага гарызонта зафіксаваны па наяўнасці глінабітных апечкаў памерамі 1,1×0,9 м [Тарасов, спр. № 1084, с. 5]. Адзін з апечкаў пабудовы П-8 уяўляў сабой каркасна-слупавую канструкцыю, сценкі якой былі зроблены з дошак. Дошкі шырынёй 3 см усталяваны ў прадольныя пазы вертыкальна ўкапаных чатырох бярвенняў. Прастора ўнутры дошак запаўнялася шлакамі, перапаленымі камянямі і вуглем. Апечак захаваўся на вышыню 0,6 м.

Выяўлена мацерыковая яма, якая мела плошчу 62 $м^2$. У гэтай яме разам з нешматлікімі артэфактамі знойдзены конскія чарапы, яма запоўнена гноем з драўлянымі трэскамі, што дазваляе вызначыць яе як стайню, агароджаную вертыкальна пастаўленымі жардзінамі [Тарасов, спр. № 1084, с. 9].

Раннія сядзібныя комплексы мелі плошчу каля 90 – 100 $м^2$. Раннесярэдневяковы Полацк, такім чынам, меў агульную колькасць насельніцтва каля 4 тыс. чалавек (пры

ўмове пражывання 6 чалавек у межах адной сядзібы на агульнай плошчы каля 8 га) [Тарасов, спр. № 1084, с. 59; Тарасаў, 2002, с. 33]. Плошча пасяленняў за р. Палата ў X ст. таксама магла складаць некалькі гектараў, значыць, і колькасць насельніцтва пачатковага Полацка была большай. Прадаўжэнне археалагічных даследаванняў павінна канчаткова вырашыць гэтае пытанне.

Пласт з ляпной керамікай ва ўсіх раскопах на Ніжнім замку аднародны па структуры, магутнасцю ў сярэднім 0,2 – 0,3 м. У ім знойдзены венцы гаршкоў трэцяй чвэрці I тыс. н. ч. і кавалкі дрэва, якія, паводле даных радыёвугляроднага аналізу, датуюцца трэцяй і апошняй чвэрцямі I тыс. н. ч. [Дук, 2009 в]. Такім чынам, пласт з ляпной керамікай утварыўся ў X ст. і змяшчаў арганічныя рэшткі і артэфакты папярэдняга культурнага пласта. Гэтая асаблівасць сведчыць пра адносна нешматлікую шчыльнасць насельніцтва пачатковага Полацка, якое жыло на даволі вялікай плошчы [Тарасаў, спр. № 1205, с. 5].

Аналагічная сітуацыя паўтараецца з ніжнім стратыграфічным пластом на плошчы Свабоды (трэці будаўнічы гарызонт). Тут артэфакты X ст. у невялікай колькасці зафіксаваны ў пласце, які ўтварыўся ў XI ст. Тое ж адбылося і з “няўлоўнымі” напластаваннямі XIV – XV стст., якія былі знішчаны падчас будаўнічай і гаспадарчай дзейнасці XVI – XVII стст. і на пасадах нідзе не вылучаюцца ў асобны будаўнічы ці стратыграфічны гарызонт. Пры гэтым, нягледзячы на адсутнасць на пасадскай тэрыторыі культурнага пласта XIV – XV стст., факт існавання Полацка ў гэты час не ставіцца пад сумненне.

Наяўнасць слядоў ювелірнай і кавальскай вытворчасці сведчыць пра рамесны характар насельніцтва вакольнага горада ў X – XI стст. Палачане ў X – пачатку XI стст. сяліліся ў зрубных дамах каркасна-слупавой канструкцыі з печамі-каменкамі. Падвор’і масціліся дрэвам, у склад сядзібы ўваходзілі пабудовы гаспадарчага прызначэння. Сядзібы мелі агароджы з вастракола ці плятня. Аналагічная забудова характэрна і для іншых гарадоў Беларускага Падзвіння, у прыватнасці, Віцебска пачатку XI ст. [Бубенько, 2004, с. 44 – 45].

### 6.2. Планіровачная структура і забудова полацкіх пасадаў у XI – XV стст.

Старажытнаруская назва “град” паходзіць ад слоў “гарадзіць”, “агароджваць” і азначае ўмацаванае пасяленне. У XI ст. у дачыненні да Полацка выкарыстоўваецца тэрмін “горад” у яго сацыяльна-эканамічным разуменні. У XV ст. у дачыненні да беларускіх гарадоў замацоўваецца назва “места”, адсюль – “мяшчане”. Тэрмін “горад” зрэдку фіксуецца ў пісьмовых крыніцах і азначае толькі ўмацаваную частку горада – дзяцінец. Тэрміны “места” і “мяшчане” падкрэсліваюць вядучую ролю гандлёва-рамеснага насельніцтва ў сацыяльна-эканамічным развіцці беларускіх гарадоў.

Паводле Г. В. Штыхава, плошча Полацка ў XI ст. складала не менш за 80 га, насельніцтва – каля 8 тыс. чал. [Штыхов, 1978, с. 123]. С. В. Тарасаў разлічвае яе з улікам новых даных па Вялікім пасадзе і Запалоцці і вызначае роўнай 120 га [Тарасаў, 1998 б, с. 38]. Колькасць насельніцтва Полацка вызначана каля 15 тыс. чал. [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 66].

Паспрабуем разлічыць плошчу Полацка ў XI – XV стст. з улікам апошніх даных. Яна складаецца з асноўных тэрытарыяльных адзінак – Вялікага (каля 60 га[29]) і Запалоцкага пасада (максімальны памер – 40 га), Верхняга замка (9,44 га), Ніжняга замка

[29] З улікам тэрыторыі пазнейшага Ніжняга замка – каля 7 га.

(каля 7 га), гарадзішча – каля 2 га[30], паселішчаў за р. Палатой – да 50 га, Вострава – каля 8 га, Старой Слабады – каля 5 га. У выніку плошча Полацка ў XI ст. была не меншай за 180 га, у XII – XIII стст. адбываецца паступовае яе скарачэнне за кошт пасяленняў за р. Палатой і часткі Запалоцкага пасада на 70 га. Даныя аб колькасці насельніцтва Полацка ў гэты час прадстаўлены ў навуковых працах Г. В. Штыхава і С. В. Тарасава [Тарасаў, 1998, с. 88 – 91; Штыхов, 1975, с. 33]. Методыка падлікаў грунтуецца на даных археалагічных крыніц пры поўнай адсутнасці пісьмовых, і таму з'яўляецца вельмі прыблізнай. Вызначаная гісторыкамі колькасць насельніцтва вагаецца ад 8 да 15 тыс. чалавек у залежнасці ад плошчы пасадскай тэрыторыі. Заўважым толькі, што пры максімальным тэрытарыяльным пашырэнні Полацка ў XVIII ст. (каля 250 га) гісторыкі на падставе *комплекса* гістарычных крыніц фіксуюць колькасць гарадскога насельніцтва каля 4 – 10 тыс. чалавек (гл. ніжэй).

Упершыню згадка пра полацкія вуліцы фіксуецца ў "Аповесці мінулых часоў" пад 1092 г. Тут жа прыводзяцца назвы дамоў – "хоромины" [Лаврентьевская летопись, 1997, с. 214 – 215]. Летапісныя паведамленні не вызначаюць назвы вуліц, таму ў межах разглядаемага перыяду прыярытэтнымі з'яўляюцца даныя археалагічных крыніц. У прыватнасці, многія з выяўленых археолагамі вуліц падчас раскопак на плошчы Свабоды былі пабудаваны ў XII ст., але захавалі накірунак і размяшчэнне да сярэдзіны XVII ст.

Пад тэрмінам "хароміны" згадваюцца жылыя дамы палачан увогуле, у т. л. прадстаўнікоў княжацкага дома, епіскапаў і заможнага баярства. Уяўленне пра выгляд харомін дае фрэска Спаса-Праабражэнскай царквы XII ст., якая адлюстроўвае погляд візантыйскага майстра на тагачасны інтэр'ер княжацкіх палат (мал. 27).

Забудова Полацка XI – XIII стст. найлепш вывучана па матэрыялах "усходніх" раскопаў на сучасным Верхнім замку. У даследуемы час сядзібная забудова размяшчалася на пасадскай тэрыторыі *каля* Верхняга замка і ўяўляе сабой прыклад развіцця пагоннай дваровай забудовы ўласна пасадскай тэрыторыі. Яе асаблівасцю напрыканцы X ст. з'яўляецца наяўнасць наземных зрубных жытлаў з печамі-каменкамі, у XI – XII стст. печы сталі рабіць глінабітнымі. У XIII ст. адбываецца ўшчыльненне забудовы, што прывяло да больш інтэнсіўнага росту культурных напластаванняў. Працягласць існавання аднаго будаўнічага гарызонта складала ў сярэднім 10 гадоў [Штыхов, 1975, с. 55].

Так, на даследаванай пасадскай тэрыторыі было зафіксавана некалькі вуліц, трасіроўка якіх паказана на плане-рэканструкцыі С. В. Тарасава (мал. 28).

Сядзібны комплекс заможнага рамесніка-ювеліра быў даследаваны на тэрыторыі сучаснай плошчы Свабоды. Жылыя будынкі сядзібы разам з вытворчымі комплексамі былі выцягнуты ўздоўж вуліцы, машчонай дрэвам. На поўдні, углыб двара, за плеценым плотам знаходзіўся агарод, сад, утрымлівалася хатняя жывёла і птушка [Тарасаў, 2003, с. 272]. У склад сядзібы ўваходзіла 7 пабудоў, памеры жылой часткі сядзібы складалі каля 340 м$^2$, усяго прысядзібнага комплекса – больш за 1500 м$^2$.

Падчас археалагічнага даследавання пасяленняў за р. Палатой па трасе вул. Ф. Міронавай заўважана наступная заканамернасць: усе пабудовы, узведзеныя на мацерыковым пяску, мелі неглыбокія ямы пад падлогай, якія выкарыстоўваліся як склепы. Гэта сведчыць пра тое, што дошкі падлогі стацыянарна не мацаваліся да лагаў, а лёгка здымаліся. Асобныя пабудовы былі заглыблены ў мацярык на 0,1 – 0,3 м. Амаль у кожнай яме зафіксавана прапластка вугля і попелу, якая ўтрымлівае асноўную колькасць знаходак – керамікі, костак жывёл і перапаленых камянёў. Развалы камянёў без значных рэштак абпаленай гліны сведчыць аб выкарыстанні насельніцтвам печаў-

[30] З улікам часткі скапанай у 1563 г. зямлі.

каменак і вогнішчаў рознай канструкцыі. Заўважана, што развал печы размяшчаўся не на самым дне мацерыковай ямы, а на культурным пласце, які звычайна не ўтрымліваў знаходак.

На месцы размяшчэння шчыльнай мацерыковай гліны чырвонага колеру мацерыковых ям пад пабудовамі XI – XII стст. не выяўлена. Тут культурны пласт вельмі вільготны, і артэфакты XI – XII стст. сканцэнтраваны ў перадмацерыковым пласце, межы пабудоў выявіць не ўдалося. Верагодна, тут існавалі наземныя зрубныя пабудовы.

Культурны пласт XIV – XV стст. у Полацку практычна не захаваўся. Адзіным месцам, дзе магчыма вызначыць напластаванні XV ст., з’яўляюцца тэрыторыя былога Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра і ўсходняя частка Верхняга замка (у межах былой пасадскай тэрыторыі). Адсутнасць культурных напластаванняў гэтага часу з’яўляецца свайго роду адметнасцю Полацка, на што ўжо неаднаразова звярталася ўвага [Тарасаў, 1998 б, с. 35; Тарасаў, 2009, с 82].

Тым не менш, аналагічная сітуацыя з размяшчэннем культурнага пласта XIV – XV стст. характэрна не толькі для Полацка, але і для некаторых беларускіх гарадоў, напрыклад, Магілёва [Марзалюк, 1998, с. 14]. Артэфакты гэтага часу знойдзены ў больш позніх стратыграфічных гарызонтах. Сярод іх вылучаецца гаршковая кафля, адметныя формы посуду, навясныя замкі і ключы да іх тыпу Д, Е і Ж па наўгародскай класіфікацыі і інш. Гэта азначае, што культурны пласт вызначанага перыяду быў адносна невялікі і цалкам уключаны ў пазнейшыя напластаванні, папросту перамешаны з імі. Відавочна, што будаўнічая дзейнасць і інтэнсіўнасць жыцця ў межах гарадской тэрыторыі ў XVI – XVIII стст. была непараўнальна больш высокай, чым у папярэднія два стагоддзі.

Забудова на месцы “ўсходніх” раскопаў Верхняга замка вызначана Г. В. Штыхавым паміж III і V будаўнічымі гарызонтамі. У III – IV будаўнічых гарызонтах раскопу II былі даследаваны жылыя і гаспадарчыя пабудовы, насцілы і дваровыя частаколы [Штыхов, 1975, с. 38]. Шчыльнасць іх размяшчэння адпавядала сядзібам больш ранняга часу. Аднак на месцы вуліцы XIII ст. у будаўнічым гарызонце XIV ст. ужо размяшчаліся сядзібы. Усё гэта сведчыць пра пэўную перапланіроўку тэрыторыі Верхняга замка ў XIV ст.

Паводле С. В. Тарасава, у XIII ст. плошча Вялікага пасада дасягнула свайго максімальнага памеру (50 га) і працэс яго забудовы перайшоў ад экстэнсіўнага да інтэнсіўнага (засваенне тэрыторый у межах абарончых умацаванняў) [Тарасаў, 1998 б, с. 38]. Найноўшыя археалагічныя даныя дазваляюць вызначыць інтэнсіўнае засваенне тэрыторыі Вялікага пасада значна раней – у межах XI ст. (выяўлены культурны пласт гэтага часу на ўсёй плошчы ў межах пасадскага паркана XVI ст.).

Плошча Запалоцкага пасада ў пачатку XIII ст. скарачаецца за кошт заходняй часткі прыкладна на 21 га. З таго часу межы Запалоцкага пасада з’яўляюцца вельмі ўстойлівымі і практычна ў нязменным выглядзе захаваліся да сённяшняга дня.

Статус сярэдневяковага насельніцтва даследаванай часткі Запалоцкага пасада вызначаюць свінцовая таварная пломба, керамічныя амфары, тыглі для плаўкі каляровых металаў, ювелірныя і іншыя інструменты. Сабрана калекцыя ювелірных вырабаў з медзі, бронзы і серабра [Дук, 2007 в]. Паводле наяўнага рэчавага матэрыялу можна зрабіць выснову, што на пасадзе сяліліся рамеснікі і гандляры.

Час засялення заходняй часткі Запалоцкага пасада можна надзейна датаваць у межах XI ст. З пэўнай доляй верагоднасці можна вызначыць пачатак засялення дадзенай тэрыторыі на мяжы X – XI стст. Верхнюю храналагічную мяжу сярэдняга стратыграфічнага гарызонта можна акрэсліць пачаткам XIII ст. Па-першае, сярод знаходак

адсутнічаюць шкляныя бранзалеты (знойдзены толькі 1 фрагмент у пераадкладзеным пласце), іх шырокае бытаванне ў Полацку прыпадае на 1220-я – 1250-я гг. [Штыхов, 1975, с. 95]. Па другое, сярод фрагментаў керамікі раскопаў 1 – 2 не вылучаны пераходныя формы да познесярэдневяковых тыпаў другой паловы XIII – XIV стст. Па-трэцяе, значная частка рэчаў мае верхнюю храналагічную мяжу існавання XII ст. Нарэшце, сярэдні стратыграфічны гарызонт мае адносна невялікую магутнасць і аднародны па структуры, тады як на Вялікім пасадзе і Верхнім замку напластаванні XIII ст. адны з самых вялікіх і стратыграфічна стракатых.

Археалагічных сведчанняў пра засяленне заходняй часткі Запалоцкага пасада ў XIV – XV стст. няма. Комплекс рэчаў верхняга стратыграфічнага гарызонта нешматлікі і ўкладаецца ў дыяпазон XVI – XIX стст. Выразных слядоў пабудоў XVI – XIX стст. у заходняй частцы Запалоцкага пасада не выяўлена. Верагодна, у гэты час заходняя частка Запалоцкага пасада не была заселена. Яна магла выкарыстоўвацца пад агароды ці выпасы хатняй жывёлы, пра магчымасць фальваркавай забудовы сведчаць нешматлікія фрагменты пячной кафлі. Асобныя рэчы, як, напрыклад, жалезная шпора, пацвярджаюць даныя пісьмовых крыніц аб ваенных дзеяннях часоў Інфлянцкай вайны. Падчас выправы 1579 г. палявы лагер караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя знаходзіўся ў згаданым раёне.

Прычыны, якія прымусілі людзей пакінуць частку пасада, трэба шукаць, верагодна, у рэальнай ваеннай пагрозе з боку Прыбалтыкі, дзе размясціўся Лівонскі ордэн Братоў рыцарства Хрыстовага. У 1201 г. будуецца Рыга і пачынаецца працяглая вайна з Полацкім княствам. Становішча Полацка ў першай трэці XIII ст. пагаршаецца таксама ў сувязі з абвастрэннем супрацьстаяння са смаленскімі князямі.

У выпадку набліжэння ворага з Прыбалтыкі жыхары Запалоцкага пасада першымі прынялі б на сябе асноўны ўдар, што, магчыма, ужо здаралася ў першай трэці XIII ст. Сляды гібелі ў агні крапасных умацаванняў гэта красамоўна пацвярджаюць. Аднак ворагам у момант іх гібелі выступала не лівонскае рыцарства, а войска кааліцый смаленскіх князёў. Полацк у XII – XIII стст. быў важным звяном у сістэме палітычных адносін усходнеславянскіх княстваў, што пацвярджаецца цікавейшымі фактамі гісторыі горада. Беспрэцэдэнтны ў гісторыі Русі выпадак здарыўся ў 1127 г. (па іншых крыніцах – у 1128 г.), калі саюзнікі Мсціслава I Уладзіміравіча (1125 – 1132) прынялі ўдзел у паходзе на Полацкую зямлю. У кааліцыю ўвайшлі Вячаслаў з Турава, Андрэй з Уладзіміра, Усевалад з Гародні, Вячаслаў Яраславіч з Клечаска, Усевалад Алегавіч з Чарнігава, Ізяслаў Мсціславіч з Курска, Расціслаў Мсціславіч са Смаленска, а таксама Іван Воіцешыч з торкамі [Алексеев, 2006, кн. 2, с. 13]. Напады на паўднёвыя гарады Полацкай зямлі (Заслаўе, Друцк, Лагойск, Барысаў) павінны былі пачацца ў адзін дзень – 4 жніўня. Пры гэтым асобныя атрады, па падліках Э. М. Загарульскага, толькі па прамой зрабілі шлях больш чым у 700 км [Загарульскі, 1998, с. 78]. Штурму Полацка, аднак, не адбылося, хаця асноўнай мэтай выправы быў менавіта ён. Аднак у 1129 г. Мсціслаў пры дапамозе сваіх ваяводаў і пры падтрымцы полацкага веча ўсё ж такі пакараў полацкіх князёў высылкай у Візантыю. Небяспека зноў абмінула Полацк, але шматгадовае супрацьстаянне з паўднёва-рускімі, наўгародскімі, а затым і смаленскімі князямі адным з наступстваў мела захоп горада ў 1222 г. смаленскім князем Мсціславам Давыдавічам [Алексеев, 2006, кн. 2, с. 19].

Запалоцкі пасад у межах даследаванай заходняй часткі быў умацаваны. Уздоўж р. Дзвіны на адлегласці каля 20 метраў працягнуўся драўляны паркан у выглядзе двайнога тыну, які меў браму і, магчыма, крапасныя вежы. Сляды гэтых драўляных канс-

трукцый, якія згарэлі ў моцным пажары, былі археалагічна даследаваны. Сляды пажару запалоцкага паркана, верагодна, сталі вынікам супрацьстаяння палачан са смалянамі. Магчыма, пасля згаданых падзей палачане пакідаюць заходнюю частку Запалоцкага пасада. Далейшая забудова Запалоцця развіваецца ў межах больш кампактнай усходняй часткі на плошчы 17 га.

Даных аб забудове Полацка ў XIV – XV стст. няшмат па прычыне адсутнасці на большай частцы пасадскай тэрыторыі будаўнічых гарызонтаў гэтага часу. Выкарыстоўваючы метад рэтраспекцыі, магчыма вызначыць, што ў асноўных рысах забудова Полацка мала чым адрознівалася ад папярэдняй XI – XIII стст. Гэта пацвярджае, па-першае, кансерватыўнасць развіцця цяслярскай тэхналогіі на працягу XI – XV стст., па-другое, наяўны археалагічны матэрыял. Адкрыты комплексы забудовы XIV – XV стст. на Верхнім замку ў межах IV – V будаўнічых гарызонтаў [Митрофанов, спр. № 203, с. 6 – 38], пабудовы рамесніка-касцярэза XV – першай паловы XVI стст. на Вялікім пасадзе [Дук, 2007 а].

Падчас археалагічнага даследавання на тэрыторыі Запалоцкага пасада былі ўскрыты рэшткі сядзібнай забудовы XV ст.

У шурфе 1 (2003 г.) на глыбіні 1 – 1,2 м ад дзённай паверхні была выяўлена аснова печы ў выглядзе прамавугольніка памерамі 1,1×0,8 м.

Сценкі печы мелі таўшчыню 0,2 м і вышыню 0,3 м і былі зроблены з чырвонай гліны, вапны, камянёў розных памераў, цэглы і цаглянага друзу. Печ арыентавана па накірунку паўночны ўсход – паўднёвы захад. Вусце печы выходзіла на паўднёвы захад.

Рабочая (унутраная) частка печы займала прастору 0,45×0,75 м. Вусце печы мела шырыню каля 0,2 м. Знутры печы, каля вусця, зроблена свайго роду падлога з чатырох камянёў 10×15 см, пакладзеных у адзін рад, і дзвюх цаглін у другім радзе. Быў знойдзены фрагмент дугі печы, які, верагодна, з’яўляўся скляпеннем вусця. Дуга ўяўляе сабой выгнутую аплаўленую цагліну, пакрытую карычневай шкламасай. Магчыма вызначыць толькі таўшчыню дугі – 4 см, мяркуемая даўжыня – 20 – 25 см, дыяметр вонкавага выгіну – каля 40 см.

Для будаўніцтва печы выкарыстоўваўся розны падручны матэрыял: цэгла другаснага выкарыстання, камяні памерамі да 0,2 м, пры гэтым якой-небудзь пэўнай сістэмы ў тэхніцы будаўніцтва не назіраецца. Так, паўднёва-ўсходняя сценка была зроблена з цэглы наступных памераў: № 1 – 22 (шырыня) ×?×? см, № 2 – 12×?×? см, № 3 10×?×? см, № 4 – 10×?×? см. Цэгла нізкай якасці, крохкая, вызначыць яе таўшчыню вельмі цяжка, часта фіксуецца толькі чырвоная пляма развалу будаўнічага друзу на месцы залягання цэглы – следства няякаснага абпалу. Заўважым, што дрэнна абпаленая цэгла была знойдзена падчас даследавання рэштак кафляных печаў XIV – XV стст. у полацкім княжацкім цераме [Заяц, 1997, с. 94]. Пра таўшчыню цэглы з печы ў Запалоцці можна меркаваць па фрагментах. Падчас раскопак культурнага пласта каля печы была знойдзена цэгла памерамі 9,7×?×4,5 см, 8×?×4 – 4,5 см і асобныя фрагменты таўшчынёй 3 см, 3,5 см і 4 см, а таксама 3,7 см (№ 5). Керамічнае цеста, з якога зроблена цэгла, аднароднага чырвонага колеру з дамешкамі буйной (да 0,8 см) жарствы. Можна выказаць меркаванне, што для будаўніцтва печы разам з камянямі і брусковай цэглай бралі плінфу шырынёй 22 см.

Пры будаўніцтве печы выкарыстоўвалася гаршковая кафля. Непасрэдна каля сценак і ўнутры печы сабраны нешматлікія фрагменты ў колькасці 9 адзінак, з іх 3 венцы, 2 донцы, 4 сценкі. Венцы кафлі круглыя, іх дыяметр складае 14 см, дыяметр донцаў – 8 см. Кафля сфармавана на ручным ганчарным крузе на падсыпцы з зярністага

пяску і жарствы, па краі донца зроблены борцік вышынёй 0,5 см. Таўшчыня сценак 0,7 – 1 см. Керамічнае цеста кафлі добра вымешанае, з дамешкамі дробназярністай жарствы і пяску, чарапок светла-ружовы, адзін фрагмент сценкі дымлены, цёмна-шэрага колеру. Адсутнасць у печы цэлых кафляў і наяўнасць нешматлікіх фрагментаў сведчыць аб тым, што на пэўным этапе печ была старанна разабрана да асновы, пры гэтым былі сабраны нават дробныя кавалкі кафлі. Тым не менш, на аснове знойдзеных фрагментаў можна правесці рэканструкцыю выгляду гаршковай кафлі з печы (мал. 29). За аснову рэканструкцыі неабходна прыняць таўшчыню сценак печы, якія павінны быць роўныя вышыні кафлі – 20 см, дыяметр венца і донца вядомы – адпаведна 14 і 8 см.

Аснова печы была зроблена з цёмна-шэрага з чырвоным адценнем суглінку, які ўтварыў свайго роду падлогу. У чырвоную гліну дадаваўся пясок-рачнік і вапна.

У запалоцкай печы выкарыстоўваўся адметны тып гаршковай кафлі, які ў Полацку знойдзены ў закрытым комплексе першай паловы XIV ст. [Заяц, 1997, с. 93]. У абодвух выпадках назіраецца супадзенне памераў і прыёмаў фармавання кафлі. Тым не менш, адрозненне кафлі з Запалоцця ад кафлі з княжацкага церама хаця і неістотнае, але ўсё ж такі ёсць: гэта колер абпалу (у запалоцкай кафлі ён светла-ружовы, а не карычневы). На помніку Лучна-1 вельмі блізкая па прапорцыях і колеру кафля выкарыстоўвалася ў печы канца XV – пачатку XVI стст. [Клімаў, 2003, с. 148].

Датаванне запалоцкай печы вызначаецца артэфактамі як непасрэдна з яе самой (кафля, цэгла), так і з культурнага пласта каля печы (керамічны посуд і бронзавая пус ейпі). Керамічны посуд па полацкіх матэрыялах з закрытых комплексаў мае надзейнае датаванне ў межах XV ст. Аднак кафля, знойдзеная ў запалоцкай печы, выкарыстоўвалася ў Полацку з пачатку XIV ст. Такім чынам, кафля ўказвае на будаўніцтва печы ў XIV ст. Керамічны посуд, сабраны непасрэдна каля печы і ў прапластках пад ёй, датуе печ XV ст. Першая дата выклікае сумненні: цяжка ўявіць бытаванне печы на працягу цэлага стагоддзя. Хутчэй за ўсё, справа ў іншым. У XV ст. у Полацку працягвалі вырабляць гаршковую кафлю. Гэта адпавядае меркаванню аб шматгаліновасці працэсаў фармавання і выкарыстання гаршковай кафлі не толькі ў паўночным рэгіёне (Полацка, Лучна), але і ў цэлым па Беларусі [Археалогія Беларусі, 2001, с. 322 – 323].

Знаходка печы сведчыць пра тое, што даследуемая тэрыторыя паўночнай часткі сучаснага Запалоцця ў XV ст. з'яўлялася месцам жыхарства заможных гараджан. Папярэдне можна вызначыць, што ў паўночнай частцы Запалоцкага пасаду месцілася адна ці некалькі феадальных сядзіб, сляды якой (развал кафляной печы) былі зафіксаваны падчас шурфоўкі. Падобны тып сядзібы ў XV ст. па-ранейшаму меў назву "харомы" [Mienicki, 1931, s. 10].

Унікальныя матэрыялы, атрыманыя ў выніку археалагічнай разведкі, дазваляюць вызначыць асаблівы статус даследуемай тэрыторыі ў развіцці гістарычнай тапаграфіі горада, што выключае яе перыферыйнасць па меншай меры ў XV ст.

У полацкім земскім прывілеі 1547 г. згадваюцца цэркві св. Сафіі, св. Спаса і "іншыя дамы царкоўныя". Паводле даных археалогіі, на полацкіх пасадах у XII – XV стст. існавалі дзве мураваныя царквы – гэта т. зв. "царква на рове", вядомая па пісьмовых крыніцах XVII ст. пад назвай Ражаства Хрыстова, і царква на стрэлцы Ніжняга замка [Дук, 2007 ж, с. 44; Раппопорт, 1980, с. 155]. Лакалізацыя Багародзіцкай царквы, пры якой у XII ст. існавала братчына, на сённяшні дзень не высветлена. Прынамсі, атаясамліваць яе ўслед за Л. В. Аляксеевым з "царквой на рове" на сённяшні дзень няма падстаў [Алексеев, 1966, с. 139]. "Старая царква Багародзіцы" размяшчалася "*в городе*", г. зн. на тэрыторыі *ўмацаванай*, якой на той час з'яўляліся старажытнае

гарадзішча і Верхні замак. Паводле інвентара 1618 г., на Верхнім замку размяшчалася "драўляная старая царква Дабравешчання Прачыстай Багародзіцы" [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 308 адв.]. Магчыма, у гэтых розначасовых крыніцах гаворка ідзе пра адну і тую ж царкву. Прысутнасць царквы Багародзіцы на Верхнім замку адпавядае схеме проціпастаўлення княжацкай рэзідэнцыі на гарадзішчы рэзідэнцыі епіскапа на Верхнім замку.

Таксама ў разглядаемы перыяд на пасадскай тэрыторыі размяшчалася царква св. Іаана Прадцечы на Востраве.

Адносна дрэнная захаванасць арганікі не дазваляе шырока прымяняць у Полацку асноўны метад абсалютнага датавання археалагічных комплексаў – вылічэнне ўзроста драўляных канструкцый па гадавых кольцах дрэў. Што тычыцца тэрыторыі Запалоцкага пасада, то ў адкрытай заходняй частцы культурны пласт не перавышае паўтара метраў, з іх у "чыстым" выглядзе культурны пласт мае магутнасць на трэць меншую. З іншага боку, супесь, з якой тут у асноўным складаецца культурны пласт, дае шырокія магчымасці для дэтальных стратыграфічных даследаванняў. Гэтаму садзейнічае ўнікальнейшая для старажытнага горада сітуацыя – культурны пласт на плошчы 21 га практычна не пашкоджаны гаспадарчай дзейнасцю.

### 6.3. Плаціровачная структура, назвы вуліц і забудова полацкіх пасадаў у XVI – XVIII стст.

У 1498 г. Полацк атрымлівае магдэбургскае права. Для сацыяльнай тапаграфіі горада гэта азначала змены ў забудове і планіроўцы гарадской тэрыторыі (узвядзенне ратушы і будынкаў грамадскага прызначэння, перанос гарадской плошчы, рэгламентацыя грамадзянскай прыватнаўласніцкай забудовы). У XVI – першай трэці XVIII стст. пераважала драўляная грамадзянская і культавая забудова, пасля ўзнікае і развіваецца ансамбль мураваных храмаў і цагляных дамоў.

Полацк у XVI – XVIII стст. перажыў розныя этапы палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця. За гэты час з найбуйнейшага горада ВКЛ, цэнтра намесніцтва (прыкладна да 1504 г.) і ваяводства (з 1504 па 1772 гг.), ён у выніку адміністрацыйна-тэрытарыяльных рэформ канца XVIII ст. пераўтварыўся ў павятовы горад у складзе Расійскай Імперыі. У 1772 г. Полацк становіцца адміністрацыйным цэнтрам правінцыі ў складзе Пскоўскай губерні, з 1776 г. – губернскім горадам, з 1778 па 1796 гг. Полацк з'яўляўся цэнтрам намесніцтва, пасля чаго пераўтварыўся ў павятовы горад спачатку Беларускай, а пасля 1802 г. Віцебскай губерні [Полоцк: Ист. очерк, 1987. С. 77].

У гістарычнай літаратуры плошча Полацка ў гэты час пазначаецца як роўная ў XVII ст. – 200 га, у XVIII ст. – 112 га (з улікам толькі тэрыторыі правабярэжнага Полацка) [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 79; Тарасаў, 1998 б, с. 95 – 96]. Першы разлік зроблены зыходзячы з наяўнасці культурнага пласта па-за межамі паркана, другі заснаваны на картаграфічных дакументах, якія фіксуюць забудову па-за межамі паркана напрыканцы XVIII ст. Прычым на ўсход ад Вялікага пасада плошча гэтай забудовы была роўна ўласна плошчы пасада (мал. 31). Сёння магчыма вызначыць, што пэўная забудова існавала "на вянцы" р. Дзвіны, як гэта і пазначана ў пісьмовых крыніцах. Таксама культурны пласт XVII – XVIII стст. выяўлены па-за межамі паркана ў паўночна-ўсходняй частцы Вялікага пасада і на нешырокай (да 150 м) паласе ўздоўж р. Дзвіны, на месцы старажытных пасяленняў за р. Палатой. Аднак прысутнасць забудовы і яе характар за рэдкім выключэннем не вызначаны. Такім чынам, у XVII – XVIII стст. плошча Полацка складала каля 250 га.

Асноўную частку гарадской тэрыторыі ўтваралі пасады, сумарная плошча Верхняга (з XI ст.) і Ніжняга замкаў (з 1563 г.) не перавышала 13 га. Пэўныя ваганні ў бок скарачэння адбываліся ў XVI ст. за кошт тэрыторый Запалоцкага і Вялікага пасадаў. Колькасць насельніцтва горада ў гэты час таксама даволі істотна вагалася. Па падліках гісторыкаў (В. А. Вароніна, З. Ю. Капыскага, С. В. Тарасава), у Полацку ў першай палове XVI ст. жыло ад 11 да 50 тыс. чалавек [Воронін, 2000 б, с. 30][31]; больш за 10 тыс. чалавек складала насельніцтва горада ў першай палове XVII ст. [Шайкоў, 1996, с. 147]; 700 чалавек засталося ў час ваеннага ліхалецця 1654 г. [Сагановіч, 1995, с. 130]; у 30-я – 40-я гады XVIII ст. у Полацку пражывала прыкладна 3 – 4 тыс. чалавек [Полоцк: Ист. очерк, 1987. С. 60]; па даных за 1805 г. колькасць гарадскога насельніцтва складала 2991 чалавек [Географический словарь, 1805, с. 1238].

Пры разліках колькасці насельніцтва ў XVIII ст. не быў улічаны той факт, што ў горадзе на будаўніцтве шматлікіх мураваных аб’ектаў была задзейнічана вялікая колькасць людзей. Пэўны час яны, незалежна ад паходжання з той ці іншай мясцовасці, безумоўна, пражывалі ў Полацку. Да таго ж трэба ўлічыць гандляроў і сялян з полацкай акругі, якія пастаянна наведвалі горад на розны тэрмін. Такім чынам, рэальная колькасць людзей, якая часова і пастаянна пражывала ў Полацку ў XVIII ст. была значна большай і магла дасягаць 8 – 10 тыс. чалавек.

Паводле рэвізіі 1552 г., у Полацку размяшчалася 1515 (ці 1513 з улікам удакладненых звестак В.А. Вароніна) двароў [Воронін, 2000 б, с. 29; Полоцкая ревизия…, 1905], у ліпені 1654 г. – 839 “жылых двароў”, у т. л. 782 пасадскіх, 34 – пушкарскіх і 23 шляхецкіх. Пустых пасадскіх двароў было звыш 900 [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 59].

Мяшчане адказвалі за падтрыманне ў парадку гарадской інфраструктуры (абарончыя ўмацаванні, дарогі, будынкі грамадзянскага прызначэння, масты). Апошняя катэгорыя нерухомых артэфактаў археалагічна не вывучана па прычыне складанасці арганізацыі падводных археалагічных даследаванняў. Гэты накірунак у будучым можа стаць вельмі перспектыўным, паколькі р. Дзвіна ў межах гарадской тэрыторыі вельмі статычная, у яе рэчышчы трапляюцца шматлікія артэфакты, якія па колькасці далёка пераўзыходзяць магчымасці традыцыйнай “наземнай” археалогіі. Акрамя таго, вада выдатна кансервуе металы і дрэва, што дазваляе спадзявацца на адкрыццё рэштак падводных драўляных канструкцый прычалаў, мастоў і нават сродкаў перамяшчэння. Прынамсі, звесткі пра масты праз Палату і Дзвіну неаднаразова згадваюцца ў пісьмовых крыніцах XVI – XVII стст. “Полоцкие мещане… они де мосты мостили, и струги и канаты на живой мост давали, и паромы строили и всякия поделки делали. И въ прошломъ де 165 году, они же мещане, сделали у города рва сто шестесят саженъ мерныхъ” (запіс 1664 г.) [Витебская старина, 1885, с. 270]. Праз Палату рабілі стацыянарныя на палях масты [Без-Корнилович, 1855, с. 83], тады як праз Дзвіну масты рабіліся, як сведчаць “Запіскі аб Маскоўскай вайне” Гейдэнштэйна, “пабудаваныя па вядомай сістэме на пантонах” [Витебская старина, 1885, с. 206]. У якасці пантонаў выкарыстоўваліся караблі-стругі, а месцы, дзе працавалі паромы, называліся перавозамі.

Дарэчы, пра існаванне маста праз р. Дзвіну (стацыянарнага альбо пантоннага) сведчыць жалаваная грамата Стэфана Баторыя на заснаванне ў Полацку езуіцкага калегіума: “для сообщенія острова с городом, …мы даем той коллегии полное право взимать с переправляющихся по мосту, на возстановленіе его, известную плату, по нашему указу” [Витебская старина, 1888, с. 1, л. 75]. Гэты мост, верагодна, размяшчаўся насуп-

---

[31] Найбольш верагоднай з’яўляецца лічба блізу 11 тыс. чалавек з магчымай нязначнай карэляцыяй у бок павелічэння.

раць Вялікага пасада ў раёне перакрыжавання сучасных вул. Ніжнепакроўскай і Замкавага завулку, дзе праходзіла дарога на Вільню, як гэта пазначана на плане Полацка 1707 г. і плане-рэканструкцыі Полацка XVI – XVII стст. А. К. Марэля [Иезуиты в Полоцке, 2005, с. 8; Чантурия, 2005, рис. 187].

Паводле прывілею Полацку на пацвярджэнне сваіх правоў і вольнасцей ад 11 сакавіка 1633 г., Полацк заставаўся асноўным гандлёвым цэнтрам рэгіёну, паколькі займацца гандлем можна было толькі ў самім "горадзе вялікім Полацкім", а ў прадмесцях "рынкаў, таргоў, крамаў, рэзніц, мер ваг як публічных, так і прыватных ніхто мець не мае" [Доўнар, 2004, с. 46 – 47]. У прывілеях 1580, 1591, 1633 гг. гаворыцца пра двухтыднёвыя кірмашы, пачынаючы ад каталіцкіх свят Трох каралёў і дня апосталаў Пятра і Паўла [Доўнар, 2004, с. 47].

Пастановай магістрата ад 8 жніўня 1635 г. вызначалася поўная рэгламентацыя гандлю ў Полацку. Гандаль ажыццяўляўся ў крамах на рынку, пры гэтым месцы пад крамы вымяраліся на рынку камісіяй, якая складалася з прадстаўнікоў магістрата і выбарных дэпутатаў ад мяшчан, а звесткі пра пляцы пад крамы запісваліся ў полацкія магістрацкія кнігі. Полацкі магістрат у дадзеным выпадку клапаціўся аб "аздобе" горада і гарадскога рынка. Паказальна, што дзеля гарадскога добраўпарадкавання выдаткоўваліся вялікія грошы з гарадской скарбніцы [Доўнар, 2004, с. 47].

Месца размяшчэння крамаў агароджвалася і мела браму. Самі крамы мелі строгі парадак размяшчэння, асобна прадугледжвалася існаванне спецыялізацыі ў гандлі з крам, гэтаксама як і размяшчэнне гарадскіх і прыватных крам у іншым месцы горада. Палачанам забаранялася мець прыкаморкі каля крам ці каля вялікіх крамных варот, не дазвалялася выпрошваць у магістрата "форткі крамныя", а магістрат не павінен быў даваць такіх дазволаў. Месца для крамаў даваў магістрат. Калі месца ў крамным радзе не хапала, то магістрат павінен быў даць жадаючаму іншае месца, але толькі на тэрыторыі рынка, хоць бывалі і выключэнні [Доўнар, 2004, с. 47].

Як і ў іншых буйных гарадах, гандаль у Полацку быў арганізаваны па радах, магчыма, кожны рад меў свайго старасту [Варонін, 2003, с. 35]. Паводле пісьмовых крыніц, на рынку размяшчаліся не толькі рады крамаў і лавак, але і жылыя дамы [Гардзееў, 2004, с. 51; ИЮМ, 1892, с. 357]. Пры гэтым на рынку сяліліся найбольш уплывовыя гараджане, як, напрыклад, полацкі бурмістр Крыштаф Старымовіч, дом якога стаяў у самім рынку на рагу вуліцы Бацечковай (запіс 1667 г.) [ИЮМ, 1895, с. 196]. Магчыма, дамы былі двухпавярховыя, а першы паверх прызначаўся пад краму. У тэстаменце полацкага бурмістра Давыда Панкова 1559 года згадваецца пра прыналежныя яму лаўкі па абодва бакі ў "местніцкім раду" на ўласнай зямлі: "А которие лавки мои новопостановъленые по обема сторонамъ у местницъкомъ ряду на моеи властнои земли кромъ тыхъ лавокъ, которие на Великии Торгъ стоять..." [Варонін, 2003, с. 39].

Лаўка (крама) прадстаўляла сабой тып гандлёвага збудавання, прамавугольнага ў плане, з навесам перад уваходам. Звычайна ў адным комплексе з лаўкай знаходзіліся жылыя, складскія і гандлёвыя памяшканні [Якимович, 1991, с. 359].

Частка адной з вуліц рынка была ўскрыта ў раскопе 2009 г. на плошчы Свабоды. Характар культурнага пласта дазваляе вызначыць, што гандлёвы рад належаў прадстаўнікам мясніцкай карпарацыі XVII ст. У раскоп трапіла толькі частка адной з лавак – склеп, які быў заглыблены ў мацерыковую гліну. Наяўнасць склепаў у лаўках палачан пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі XVII ст.

Маставая, якая была ўскрыта падчас раскопак, размешчана па накірунку паўночны захад – паўднёвы ўсход, што нехарактэрна для мерыдыяльнай забудовы вуліц

Полацка. Рынак меў уласную сістэму накірункаў вуліц, якія вялі ад асноўнага ўезда з боку езуіцкага калегіума (сучасны Замкавы праезд) і абыходзілі ратушную плошчу.

У актавых кнігах змешчаны цікавыя і інфарматыўныя звесткі аб месцапалажэнні гарадскога рынка. Так, у XVII – XVIII стст. з рынка магчыма было патрапіць на вуліцы Іллінскую, Баравую, Невельскую, безназоўную каля падножжа Верхняга замка. Вул. Бацечкавая і Іллінская праходзілі праз сам рынак. У 1704 г. рынак меў "*вялікі крамны рад*" і "*вялікія вароты*", якія былі размешчаны з боку езуіцкага калегіума, верагодна, па трасе вул. Бацечкавай.

Згадка вул. Невельскай у кнізе гарадавога магістрата 1779 г., якая размешчана "па накірунку ад рынка", супярэчыць планам 1778 і 1793 гг., на якіх тэрыторыя рынка з поўначы абмежавана дамініканскім кляштарам [Страчаная спадчына, 1998, рис. 243 – 244], а такое межаванне па пісьмовых крыніцах вядома з канца XVII ст. [ИЮМ, 1875, с. 245]. Да таго ж пачатак вул. Азаравай у магістрацкіх кнігах вызначаецца ад Ніжняга замка. Верагодна, у актавых кнігах пачатак пазначаных вуліц ад Ніжняга замка азначаў тое ж, што і ад рынка, г. зн. трапіць на іх з захаду, абмінуўшы рынак, было немагчыма.

Пра асартымент тавараў адной з крам сведчыць скарга мяшчанкі Аксаны Васільевай аб рабаванні яе крамы "в темном ряде" у ноч з 17 на 18 верасня 1656 г.: "въ то*й* краме было наперве*й* взято грошми готовыми, тоес копе*й*ками было золотых дванадцат, шапку подшытую, стояла копъ трохъ чырвоную, соболцова, мухаярушъ тачъки две, одна барщово*й* масти, други*й* десяток панчошок бялокгъловских, а великих панчох муских суконных пар пят, фартухъ саевы*й* новы*й* чорны*й*, прытом поесов сетковых вишневых десятокъ, ладовница аксамиту чорного, кгузиков белых крутофаловых тузинов шест, пасков ременныхъ шабелных петнадцат, поесов тежъ ременныхъ полтора десятка, балжы чырвоно*й*, листра целаю табаки […] и иншых немало розных рече*й* дробяком" [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 32].

Адзінкай землеўладання ў Полацку, як і ў іншых беларускіх гарадах, з'яўляўся "пляц". Пляц – назва ўчастка зямлі з узведзенай на ім жылой і гаспадарчай пабудовай. Пляц з'яўляўся асноўнай тапаграфічнай адзінкай, з якой складалася вуліца. Звычайная сядзіба палачаніна – гэта комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў, куды ўваходзіць таксама двор, плот, калодзеж і, як правіла, агарод. Двары часцей за ўсё былі машчоныя дрэвам.

Сядзіба прадстаўнікоў вышэйшых саслоўяў у XVI ст. называлася "двор", "дворище", "оселость", "маетность". Паводле выпісаў з актавых кніг за 1552 г., дворышчы палачан шчыльна размяшчаліся і на тэрыторыі Верхняга замка непасрэдна насупраць сабора св. Сафіі [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 221 адв.].

Выкарыстанне ў пісьмовых крыніцах XVI – пачатку XVII стст. пры апісанні дамоў полацкага набілітэту тэрмінаў "светелка въпокоевая", "упокоец", "ізба белая" адлюстроўвае працэс пераходу да новага тыпу жылых памяшканняў з камернай печчу і шклянымі вокнамі замест былых з глінабітнай печчу і волакавымі вокнамі. Тэрмін "святліца" ў дачыненні да полацкай забудовы ўпершыню фіксуецца ў пісьмовых крыніцах у першай палове XVI ст.: "В Замку ... Мостыку знашолъ у светълицы королевъскои у великои, а онъ собе на кривомъ столе прилегъ спати по обеде" [Дук, 2007 ж, с. 200; Судебная книга…, 2008, с. 240]. Святліцы з'яўляліся месцам пражывання гарадскога набілітэту, у прыватнасці, у святліцы пражываў цар Іван IV падчас выправы на Полацк у 1563 г. [Лебедевская летопись, 1965, с. 313].

У пачатку XVII ст. з'яўляецца тэрмін "пакой" у сувязі з заменай старых валовых акон на шкляныя [Молчанова, 1981, с. 30]. Святліца, пакой ("упокоец") – гэта

абагрэтыя памяшканні, у якіх жылі гаспадары, прыслуга сялілася ў “светлицах служных”. З усіх частак пабудоў у пазначаны час абаграваліся толькі кухні і святліцы [Topolska, 2002, s. 225]. У дамах заможных гараджан дзверы былі з дошак (цясаныя), сталярнай работы, нярэдка “футраваныя” (абабітыя дошкамі ў розных напрамках для дэкаратыўнага аздаблення) [Молчанова, 1981, с. 31]. Такія дзверы абавязкова мацаваліся жалезнымі завесамі с зашчапкамі, кручкамі і асначаліся вісячымі і ўнутранымі замкамі.

Жылым пабудовам супрацьстаўляецца “клеть” – пабудова гаспадарчага прызначэння, якая выконвала функцыю ляцёна (летняга жылля) і азначала тое ж, што і “камора”. Тэрмін “падклець”, ці “падклет”, азначаў кладоўку ці хлеў для свойскай жывёлы, у асобных выпадках – ніжні ярус харомаў. Напрыклад, на вул. Спаскай у клеці Філіпа Маісеевіча (запіс 18 сакавіка 1657 г.) размяшчалася, акрамя адзення і іншых рэчаў, “на доле в бочце горелки прост*ой* квартъ двесте девет […], овса ву коробе осмины две […], в засенах пшеницы солодав*ой* бочки две […], жыта бочок дванадцат […], соли полсолонки” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 272 – 273 адв.].

З іншых гаспадарчых пабудоў у Полацку згадваюцца “схованье для сена”, “шопа для возов”, “стайня”, “свирен на подклете”, “пекарня”, “спижаренка простая, то есть лазня”, “бровар”, “пивница”. Палачане валодалі ўласнымі складамі для захоўвання розных тавараў [Дук, 2007 ж, с. 207 – 208].

Апрача “паспалітай лазні” (існавала з 1498 г.), на некаторых сядзібах палачан таксама будаваліся прыватныя лазні, якія прадстаўлялі для горада пэўную пажарную небяспеку.

Аб канструкцыі лазняў мы можам меркаваць зыходзячы толькі з ускосных даных. Вядома, што ў Полацку, як і ў многіх беларускіх гарадах, існавала “лазня посполитая”. Паводле прывілею Полацку на магдэбургскае права, палачане “мають убудувати ку вжытку местскому лазню посполитую, где местце оберуть подобное” [Полоцкие грамоты, 1978, с. 156]. Яе падрабязнага рэестра не захавалася, аднак па аналогіі з магілёўскай гарадской лазняй можна вызначыць, што яна была драўлянай, двухкамернай, складалася са святліцы (мыечнай) і каморкі (парылкі). У кожным памяшканні знаходзілася па печцы, пры гэтым печ у парылцы была зроблена з каменю, цэглы і жалеза, зверху ляжалі камяні, а сама печ устаноўлена на драўляных апечках [Марзалюк, 1998, с. 40]. Верагодна, лазня мела шкляныя вокны, комін, атынкаваны вапнай, у мыечнай знаходзіліся бочкі з халоднай вадой, вялікі кацёл для кіпеню, шайкі, венікі і мыла. У лазні можна было выпіць піва і пагаліцца.

Ваявода Станіслаў Давойна загадаў браць штраф з мяшчан і рабаваць іх за тое, што яны маюць бровары і лазні ў сваіх дварах. Ён жа загадаў разбіраць і выносіць з замка мяшчанскія дамы [Варонін, 2000 б, с. 86 – 87]. Такія жорсткія меры тлумачыліся тым, што пажары былі сапраўдным бедствам для палачан і часта прыносілі большую шкоду, чым непрыяцельскія войскі. Вядома, напрыклад, што падчас пажару 1643 г. выгарэў увесь Полацк [Рябцевич, 2003], а падчас пажару 1683 г. загінула шмат жыхароў горада [Витебская старина, 1888, с. 257].

Палачане валодалі ўласнымі складамі для захоўвання розных тавараў, прынамсі, адзін з іх, згаданы ў 1650 г. склад (spichlerz) полацкага райцы Яна Сергеевіча, размяшчаўся на Вялікім пасадзе “ў самім паркане”, насупраць гаспадарскага дома. У 1650 г. полацкаму мешчаніну Міхалу Гапонавічу дазвалялася мець калодзеж і бровар за гарадскімі ўмацаваннямі, над р. Дзвіной, там, дзе размяшчалася яго асецЬ [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006, с. 199, 212].

Яшчэ адна катэгорыя нерухомасці згадваецца ў пісьмовых крыніцах XIV – XVII стст. – гэта полацкія млыны. Як мінімум два млыны знаходзіліся на р. Палаце, адзін – насупраць заходняй выспы Верхняга замка (г. зв. Машны) [Тарасаў, 1998 б, с. 72]. Насыпы на яго месцы візуальна фіксуюцца нават сёння. Млын згадваецца ў прывілеі Жыгімонта I 1510 г. (1509?) [Справы полацкага гродскага суда…., 1928, с. 196]. Яшчэ адзін млын належаў Барысаглебскаму манастыру і размяшчаўся на р. Бельчыца (падложная грамата Яраслава Ізяславіча 1396 г.), гэты ж млын на р. Бельчыца згадваецца ва ўводным лісце 16 ліпеня 1623 г. [Витебская старина, 1888, с. 10; ИЮМ, 1892, с. 358 – 361]. Археалагічныя даныя аб іх канструкцыі адсутнічаюць.

Паводле Прывілею 1510 (1509?) г., Жыгімонт I дазволіў палачанам пабудаваць чатыры гасціныя дамы. Дагэтуль купцы з іншых земляў мусілі жыць у прыватных дамах. Колькасць пабудаваных гасціных дамоў невядома, паколькі Рэвізія 1552 г. згадвае толькі адзін гасціны двор [Варонін, 2000 б, с. 44]. У грамаце Аляксея Міхайлавіча полацкім мяшчанам 1657 г. пазначаецца, што “гостинъ де дворъ въ Полотеске тесенъ, приезжимъ торговымъ людемъ изместиться негде” [Витебская старина, 1885, с. 78], для пабудовы гасцінага двара было аддадзена “пустое ратушное место по малую улицу”. На сённяшні дзень гасціныя двары археалагічна не выяўлены.

Да пабудоў грамадскага прызначэння XVI ст. адносіліся таксама свіраны ў Машне і Багародзіцкі, а таксама “важница” і “капница для воска”, згаданыя ў прывілеі Полацку на магдэбургскае права 1498 г. [Тарасаў, 1998 б, с. 71]. Яны размяшчаліся дзесьці ў непасрэднай блізкасці да полацкага рынка на Вялікім пасадзе.

Па аналогіі з іншымі беларускімі гарадамі дахі полацкіх драўляных будынкаў крылі гонтам і дранкай. Паводле Паўля Одэборна, дахі драўляных цэркваў на Полаччыне ў 1580-я гады крыліся гонтам [Сагановіч, 2005, с. 169]. Мураваныя пабудовы ў XVIII ст. мелі дахі, пакрытыя керамічнай дахоўкай. Асобныя драўляныя будынкі, напрыклад карпусы езуіцкага калегіума XVII ст., таксама былі крытыя керамічнай дахоўкай. Драўляны комплекс калегіума ў XVII ст. неаднаразова цярпеў ад пажараў [Габрусь, 2001, с. 163], у выніку чаго ў культурны пласт маглі трапляць фрагменты дахоўкі.

Форма дахаў большасці будынкаў была двусхільнай, аб чым сведчаць іканаграфічныя матэрыялы. Самыя раннія з іх – гэта планы С. Пахалавіцкага 1579 г. На малюнку “Аблога Полацка каралём Стэфанам Баторыем” паказаны Верхні і Ніжні замак [Тарасаў, 1998 б, с. 10 – 14]. Акрамя абарончых вежаў і гародняў, на плане даволі дэталёва намаляваны дамы гараджан і культавыя пабудовы. Разумеючы, што цалкам давяраць рэалістычнасці выяў С. Пахалавіцкага нельга, вылучым агульныя рысы знешняга выгляду будынкаў, якія на малюнках С. Пахалавіцкага, безумоўна, прысутнічаюць. Большасць будынкаў на плане двухпавярховыя [Тарасаў, 1998 б, с. 14]. Гэта маглі быць двух’ярусныя святліцы на падклецях. Дамы маюць двусхільныя дахі, а абарончыя вежы – шатровую форму стрэх, і толькі асобныя – двусхільную (мал. 30).

Паводле малюнка С. Пахалавіцкага, тэрыторыя Верхняга замка была шчыльна забудавана, што, дарэчы, пацвярджаецца археалагічным матэрыялам – нават у непасрэднай блізкасці да Сафійскага сабора даследаваны рэшткі пабудоў XVI ст. Аднак наўрад ці большасць дамоў на Вялікім пасадзе ў XVI – XVIII стст. былі двухпавярховымі, гэта дапушчальна толькі для Верхняга замка – традыцыйнага месца пражывання гарадскога набілітэту.

Масавая пасадская забудова Полацка XVI – XVIII стст. з’яўлялася аб’ектам спецыяльнага даследавання [Дук, 2007 ж, с. 222 – 227]. Асноўныя яе рысы наступныя: 1) пераважаў драўляны характар; 2) адносна невялікай была плошча жылых пабудоў (ад

17,5 да 35 $м^2$) і ўсяго прысядзібнага комплексу (сярэдняя плошча ад 100 – 160 да 300 $м^2$); 3) непрацяглы час існавання будынкаў (ад некалькіх гадоў да двух-трох дзесяцігоддзяў) [Дук, 2007 ж, с. 222 – 227].

Тэхналогія масавай грамадзянскай забудовы ў XVI – XVIII стст. заставалася даволі кансерватыўнай: на месцы старых будынкаў узводзіліся новыя, якія нярэдка паўтаралі абрысы папярэдніх пабудоў. На працягу XVI – першай паловы XVIII стст. памеры і размяшчэнне будынкаў, планаванне вуліц істотна не мяняліся. Толькі ў другой палове XVIII ст. назіраецца павелічэнне плошчы будынка і распаўсюджванне падмуркаў на каменнай аснове.

Першыя звесткі пра існаванне камяніц (мураванага прыватнаўласніцкага жылля) датуюцца не раней за XVII ст. Дакумент ад 10 лютага 1676 г. утрымлівае ліст “Przyznanie listu zapisu przez sławetnego pana Stanisława Cychanowicza burmistrza połockiego danego zięciowi jego Panu Łukaszowi Sitnianowiczowi Raycy miasta Połockiego y małzonce jego Paniey Łucyi Cyhanowiczownie” ад 23 студзеня 1676 г. У лісце згадваецца камяніца на вул. Вялікай: “… pewną summę pieniędzy, to jest zlotych pięcseth polskich, na kamienicy tu, w miescie Połockim, na ulicy Wielkiey stoiącey, ktorą trzymam w niemałym długu mnie winnym od nieboszczyka pana Piotra Rozczewskiego, burmistrza połockiego...” (“пэўная сума пенязяў, г. зн. пяцьсот польскіх злотых, на камяніцу тут, в месце полацкім, на вуліцы Вялікай стаячай, якую трымаем в немалай пазыке мне павіннай ад нябошчыка пана Пятра Разчэўскага, бурмістра полацкага”) [НГАБ, ф. 1823, воп. 2, спр. 3, арк. 29 адв.].

Археолагамі былі ўскрыты рэшткі двух розначасовых цагляных дамоў, якія з’яўляліся камяніцамі [Здановіч, спр. № 1213 а]. Першы быў пабудаваны не пазней за сярэдзіну XVII ст. і меў падлогу з керамічных плітак, багата аздобленую кафляную печ і сцены, складзеныя з цэглы-пальчаткі. Пазней на яго месцы быў пабудаваны другі дом, які паўтараў абрысы першага. Плошча абодвух дамоў была не меншай за 48 $м^2$. Не выключана, што дамы былі двухпавярховымі, а раскапаны першы ярус з’яўляўся крамай. Дом XVIII ст. на магутным цагляным падмурку з мноствам сутарэнняў выяўлены аўтарам падчас нагляду за будаўнічымі работамі па вул. Ніжнепакроўскай, 7 (падножжа ўсходняй часткі Верхняга замка). У 1692 г. быў узведзены так званы домік Пятра I [Слюнченко, 1988, с. 26]. Паводле актавай кнігі за 1702 г., на вул. Вялікай размяшчаўся дом харужага і віцебскага падваяводы, які складаўся з каморы, белай ізбы, да дома вялі вялікія вароты [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 261].

Пасля вайны 1654 – 1667 гг. узводзяцца першыя мураваныя карпусы г. зв. “старога езуіцкага калегіума”. Гэтыя карпусы, змураваныя з цэглы, разам з камяніцай на сучаснай вул. Ніжнепакроўскай, 7, мелі вялікую таўшчыню сцен, магчыма, выконвалі і фартыфікацыйную функцыю, утвараючы другі ярус абароны Верхняга і Ніжняга замкаў [Салаўёў, 2009, с. 71, 78].

Тым не менш, адзінкавасць археалагічных адкрыццяў і ўрыўкавыя звесткі пісьмовых крыніц не дазваляюць адзначыць масавы характар прыватнаўласніцкага мураванага дойлідства ў XVII ст. Гэтая сітуацыя не змянілася, а нават пагоршылася да канца XVIII ст., паколькі, паводле пісьмовых крыніц, у 1780 г. у Полацку было 360 драўляных дамоў і ні аднаго каменнага[32] [Шайкоў, 1996, с. 148]. Аднак ужо ў сярэдзіне 1780-х гг. у Полацку налічвалася каля 750 дамоў, у тым ліку 16 вялікіх цагляных будынкаў. Шпаркія тэмпы будаўніцтва тлумачацца статусам горада як цэнтра намесніцтва (1778 – 1796) [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 77 – 78].

[32] Трэба падкрэсліць, што гаворка ідзе толькі пра прыватнаўласніцкае мяшчанскае і дваранскае жыллё.

Вялікія драўляныя дамы ў XVII – XVIII стст., як правіла, былі двухзрубнымі, дзе адзін зруб меў значна большую даўжыню, чым другі, прыстаўлены да яго перпендыкулярна. Гэтыя будынкі мелі ганак, кафельныя печы з комінам, асветленыя памяшканні, вокны вялікіх памераў і прыбудоўкі каля задняй сцяны [Красьнянскі, 1928, с. 54].

На мяжы XVIII – XIX стст., па даных Расійскага геаграфічнага слоўніка, дамы ў Полацку былі "простыя драўляныя", мураваных мяшчанскіх дамоў было 19, рэгулярная мураваная забудова толькі распачыналася [Географический словарь, 1805, с. 1238].

Колькасць гарадскога насельніцтва расла за кошт перасялення часткі сялян пасля эпідэмій і войнаў: горад даваў шырокія магчымасці для сацыяльнай мабільнасці асобных гараджан, гандлёвых ці рамесных карпарацый [Котлярчук, 2001, с. 46]. Знойдзены ў Полацку сельскагаспадарчы інвентар (косы, акоўкі ад рыдлёвак, матыкі) сведчыць аб цесных кантактах горада з акругай у XVI – XVIII стст. Пры гэтым у першай палове XVI ст. вядомы выпадкі, калі самі сяляне набывалі збожжа ў Полацку [Варонін, 2000 б, с. 50].

Для жыхароў беларускага горада сельскагаспадарчая вытворчасць з'яўлялася значным дапаможным промыслам. Дакументы ўказваюць, што палачане займаліся сельскай гаспадаркай і мелі вялікія зямельныя плошчы не толькі ў аддаленых мясцінах за Палатой і ўздоўж яе, але і непасрэдна каля гарадскіх умацаванняў. Напрыклад, у грамаце, якая датуецца 1501 г., згадваецца "огород подле замка" [Тарасаў, 1998, с. 6]. У прыведзеным паведамленні гаворка ідзе пра агарод за межамі Верхняга замка. Але і на самім замку таксама існаваў агарод манастыра пры царкве св. Сафіі [ИЮМ, 1901, с. 18]. У крыніцах сярэдзіны XVII ст. ёсць звесткі пра агарод Грыгорыя Рылковіча, што змяшчаўся "на улицы названой Невелской за парканом меским полоцъким лежачый, з одное стороны подъле огорода Ярмошы каваля а зъ другое стороны подъле огорода Гавърылы Рослого зятя" [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006, с. 119] ці "дом… за рекою Двиною стоячый, з огородом и с пашънею на полпляца лежачый подле церъкви Светог(о) Миколы" [Гардзееў, 2004, с. 52]. Актавая кніга полацкага магістрата за 1650 г. утрымлівае шэраг спраў па продажы палачанамі агародаў, у тым ліку размешчаных у Запалоцці, відаць, на месцы закінутай да таго часу пасадскай забудовы: "ку венцу межы огородовъ, то естъ з обудвух сторон подле огородовъ пана Матыяша Кгедройца а с третее стороны подле огорода Подсвинковое а зъ четъвертое стороны подле огорода моего ж, мене, Петра Исаковича..." [Актавая кніга полацкага магістрата…, 2006, с. 175]. Такім чынам, за межамі гарадскіх умацаванняў Вялікага і Запалоцкага пасадаў, а таксама Верхняга замка існавалі сельскагаспадарчыя ўгоддзі палачан, падзеленыя на асобныя ўчасткі-агароды. Агароды былі абнесены платамі з жэрдак ці востраколам і яны самі па сабе часам з'яўляліся рухомай каштоўнасцю і аб'ектам крадзяжу.

Існуюць шматлікія прамыя звесткі пісьмовых крыніц XVII ст. пра наяўнасць прысядзібных агародаў і садоў у межах умацаванай гарадской тэрыторыі як на Верхнім замку ("погнался за женщинами *по огородамъ* при семъ доме" [ИЮМ, 1874, с. 270], так і на полацкіх пасадах ("стала стучать въ заднее окно, *съ огорода*" [ИЮМ, 1874, с. 278], "з одъное стороны подле огорода пана Спирыда Куръбатовича, а зъ другое стороны заулочокъ малый на рогу противо огорода пана Матъфея Гавърыловича, на улицы назъваной Великой", "ижъ огород свои власный… за парканом меским полоцким на улицы названой Батечковой на чверти пляца лежачый, з одное стороны подъле огорода ихъ же, Ганских, а зъ другое стороны подъле огорода пани Евъдокии Мелешъковны Дорофеевое Ахрамеевичовое, бурмистровое полоцъкое, а в тыле подле саду славетного пана Ивана Михновича, бурмистра полоцког(о) …" [Актавая кніга полацкага магістрата..., 2006, с. 89, 127].

Мяшчанскае землеўладанне прасціралася і далёка па-за межамі гарадской тэрыторыі, напрыклад, у другой палове XVIII ст. палачанам належала крыху больш за 1 тыс. дзесяцін зямлі [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 64].

У пісьмовых крыніцах у 1667 г. згадваецца гарадскі сад, размешчаны пад самым горадам за Палатой [ИЮМ, 1895, с. 166 – 167]. За горадам, уздоўж р. Палаты, размяшчаліся таксама і фальваркі. На копіі плана 1707 г. выразна бачны гарадскі сад (мал. 33) на поўнач ад Верхняга і насупраць Ніжняга замка, на правым беразе р. Палаты. Крыху вышэй, на поўнач ад яго, на правым беразе р. Палаты размяшчаліся фальваркі. Сёння тут размешчаны мікрараён горада “Аэрадром” і вул. Ф. Міронавай.

Паводле пастановы рэляцыйнага суда, бельчыцкія жыхары з Крыўцовага пасада, званага Кабак, “людзі простыя” і “агароднікі”, “якія купецтвам і шынкам не бавяцца, рамяством ніякім не займаюцца і ніякіх вольнасцей і таргоў гарадскіх не ўжываюць, адно зямлю аруць ... не павінны выконваць гарадскія павіннасці, апроч самой абароны, якая ўсім аднолькава належыць” [Доўнар, 2004, с. 46]. У пастанове вялікакняжацкага суда прама ўказваецца на агародніцтва як на занятак непаўнапраўных гараджан. Пастанова цікавая яшчэ і тым, што ў ёй пазначана патройная назва аднаго тапаграфічнага аб’екта: Бельчыцы, Крыўцоў пасад, Кабак. Акрамя таго, відавочна, што значную колькасць насельніцтва Крыўцовага пасада складалі земляробы.

### 6.3.1. Вялікі пасад

Вялікі пасад у XVI – XVIII стст. з’яўляўся найбуйнейшай адзінкай у сацыятапаграфічнай структуры Полацка.

Большасць жыхароў Вялікага пасада XVI – XVII стст. па-ранейшаму сялілася ў невялікіх драўляных будынках. Гэта можа тлумачыцца высокай шчыльнасцю забудовы. Згодна з падлікамі В. А. Вароніна, у 1552 г. на Вялікім пасадзе месцілася 769 двароў [Варонін, 2000 б, с. 29]. Разам з дварамі шляхты, духавенства, яўрэйскай абшчыны і гарадской беднаты, якія не ўлічваліся рэвізорамі, колькасць двароў магла быць значна большай (па звестках Лебедзеўскага летапісу, на Вялікім пасадзе ў 1563 г. згарэлі 3 тыс. двароў) [Варонін, 200 б, с. 29]. Пры гэтым частка пасада была занята нежылымі пабудовамі (крамамі, лазнямі, важніцамі і г. д.).

Яскравы прыклад апісання сядзіб з рэчавым начыннем Вялікага пасада XVII ст. утрымліваюць мяшчанскія “пратэстацыі аб крадзяжах”.

Так, Даніла Лалыка скардзіўся 8 кастрычніка 1656 г. на Яраша Кажамяку, што той, “жывучы у одном доме сполне з ним, Лалыкою, а подгледевшы у клети, где жона его, Лалыки, грошы свое ховала, таемным способом улезшы в тую клеть през верхъ тые грошы вси побрал” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 50].

У доме “аптекаркі” Раіны Рыдліцкай “кгъды она, пани Рыдлицкая, варыво поставила в доме зятя своего пана Андрея Боровского, в склепе то ес капусты солоно*й*, кружаную и сеченую ботвине, огурки, морков, репу и постернак, в том же склепе напитку ромного меду бочок две, в бочце одно*й* кгарцов осмъдесят, в другой бочце было кгарнцов пятдесят осмъ, продавано кгарнец меду по дванадцат полских, пива бочку в кгарцов шестдесят на потребу свою робленою з солоду пшонного, водки поземково*й*, барылка из других водок розных аптекарских, горелки простой квартъ пятсотъ и кварту купуючы по дванадцат польских. Аквавитово*й* горелки кварт двесте анышково*й*, кварту купуючы по золотому, тогды он […] Наумович […] копачом своим студню копал, в которой студне нашли рыну на шкоду ее, пани Рыдлицко*й* пересечы

казал, тым копачом за которым пересеченемъ то*й* рыны в скълеп воды немало нашло и тое варыво ромное од мала до велика пооборочывали и ратовати не могли” (запіс 8 кастрычніка 1656 г.) [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 53].

Ян Яскевіч 13 красавіка 1657 г. скардзіўся на злодзеяў, якія патаемна ўначы ўлезлі ў яго дом на вул. Вялікай, “а ўзлезшы праз плот з тылу ад венца р. Дзвіны ў той дом і здабыўшы праз тыльнае акно каморы немала розных рэчаў і грошаў ў шафе, якія ў той каморы захоўваліся” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 345].

Марцін Шчасны 29 красавіка 1657 г. скардзіўся на пакражу з яго клеці: “не ведома хто тое ночы прышодшы до того дому их и взлезшы на клеть з улицы Батечково*й* верхъ у той клети продрал, а продравшы вси жыботы их и маетност убогую, што одноколвек было в той клети з оного выбрал звыкрал, а напрод взято и украдено саяны тры, одинъ червонны*й* фалендышовы*й*, у которого уложыли справуючы копъ дванадцат, а два саяны зеленые люндышовые, стояли обадва копъ десети, полчамарокъ полчамлетовы*й* лязуровы*й* епасаманами лязуровыми новокупленный з адвалевки и за пят копеекъ, други полчамарок полчапълетовы*й* поношоны*й* блекстины*й* купълены за полкопы грошей, две трубы полотна беленого кужелного тонкого, полотна ровного кужелного тры трубы, сорочокъ пятнадцат женских неношоных, хуст ровных белых музъкихъ и женских. Кубел целый, выбран, полотна тонкого взято купленного за золотых сорок шест, фляш цыновых две, одна у кварту, а другая у две, шапка одна листсяя новая, верху сини*й*, а другая куньняя, такожъ верхъ сини*й*, ложки две сталевые рызкие, кубки два цыновые, сребра зытокъ шматъ велики*й*, пры томъ справы дворовые и обликгъ на Ивана Хаврату на копъ дванадцать” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 374-374 адв.].

Андрэй Іваноў, сын прапаршчыка Кранёва, скардзіўся 1 мая 1657 г. на лаўніка Івана Зімніцкага “што де*й* стоял он, прапоршчык, у него, пана Зимницкого на дворе, и прыежджали к нему п[ану] Зимницкому на тот двор его торговые люди, да у него дей прапоршчыка от амбара печат оторвали и потравили воз сена, цена возу талер биты*й* и чотыры алтыны, да к нему ж де Ивану Зимницкому прыежджали мужыки деревенские, и у него прапорщыка вкрали двои рукавицы, одным цена грывна, а други*й* пят алтын, да его ж Ивана Зимницкого молодцы сверху покрали полторы четверти сухаре*й*, да рыбы на две грывны, да зъ сумокъ вынали горемого серебра, где было на чотыры талеры битых, да с тех же сумок взяли рукавицы палчастые козлинные […], цена им полполтины […], о пистол, што де*й* внуки его (Зімніцкага – *заўвага аўтара*) на лавки играли и его пистол на землю сранили и ложу тое пистоли переломили, да его ж де внука унестла зеркало его […], а цена тому зеркалу грывна” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 380].

Адзенне, якое было ў жонкі мешчаніна Сцяпана Цітовіча (15 мая 1657 г.), захоўвалася ў “скрыньцы” “где наперве*й* видели полчамарок турецкого мухаиру, саян фалендышу вишневого кшталт аксамитны*й*, доломан фалендышовы*й* лазуровы*й*, фартухъ селезнево*й* кита*й*ки, шапъка аксаматна червона женская о кгонками собольлими обложона, корунки серебраные, престирадло зъ лиштвами сетковыми, поес гарусу зеленого, нажранги синие люндышовые, шапъ катабинку чорного, соболцом опушона, кштал чорны*й* адамашковы*й*, пры том розные хусты, белье, чого не личыли” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 404 адв.].

Важнейшым элементам гарадской інфраструктуры з’яўляліся пабудовы культавага прызначэння. У першай палове XVI ст. яшчэ захавалася большая частка мураваных праваслаўных цэркваў – помнікаў полацкай школы дойлідства XII ст. (каля 10). Па

даных Полацкай рэвізіі 1552 г., у горадзе знаходзілася не менш як 21 праваслаўная царква, абсалютная большасць іх былі драўляныя [Варонін, 2000 а, с 253]. Асобна падкрэслім, што ў рэвізіі не пазначаны цэрквы, якія размяшчаліся ў двух старэйшых полацкіх манастырах – Бельчыцкім Барысаглебскім і Спаса-Ефрасіннеўскім, а гэта не менш як 5 мураваных храмаў.

Паводле рэвізіі 1552 г., на Вялікім пасадзе Полацка размяшчаліся цэрквы Афанасаўская, Багаслоўская, Багаяўленская, Дабравешчанская, Іллінская, Міхайлаўская, Пятніцкая, Ражаства Хрыстова, Узнясення Хрыстова і Юр'еўская (св. Георгія). Лакалізацыя цэркваў св. Васіля і Прачысценскай (Багародзіцкай?), а таксама св. Тройцы і св. Спаса "ў рынку" на Вялікім пасадзе вельмі верагоднае [Варонін, 2000 а, с. 253; Варонін, 2009б, с. 165, 167]. Магчыма, Пятніцкая царква з 1552 па 1559 гг. пераўтварылася ў аднайменны мяшчанскі саслоўны манастыр [Варонін, 2003, с. 36]. Царква Ражаства Хрыстова лакалізавана паводле археалагічных і пісьмовых крыніц [Дук, 2007 ж, с. 44]. Царква была муравянай, відаць, да 1563 г., у другой палове XVI ст. згадваецца ўжо як драўляная [Варонін, 2009б, с. 166]. Пры ёй у XVII ст. знаходзіўся цвінтар. Царква існавала да трэцяй чвэрці XVII ст., час яе разбурэння прыпадае дзесьці на 1660-я – 1670-я гг. Так, у грамаце Яна III аб зацвярджэнні прывілея гарбарнаму і кушнерскаму цэху Полацка ад 26 сакавіка 1683 г. цэхавая брація была абавязана даваць па 3 фунты воску ў царкву св. Сафіі замест "разоренной церкви Рождества" [ИЮМ, 1875, с. 296 – 310].

Адна з гэтых цэркваў – Дабравешчанская, згадваецца на тэрыторыі Ніжняга замка ў 1622 г. [Витебская старина, 1883, с. 227]. Магчыма, у гэтых паведамленнях гаворка ідзе пра адзін з храмаў XII ст. – царкву на стрэлцы Ніжняга замка.

Пасля 1579 г. (вяртанне Полацка ў склад ВКЛ) большасць мураваных праваслаўных храмаў знаходзілася ў руінах. З гэтага часу разам з паслабленнем пазіцый праваслаўнай царквы, абумоўленым наданнем езуітам абсалютнай большасці маёмасці праваслаўных манастыроў і цэркваў, распаўсюджваннем уніяцтва з 1596 г., а таксама крызісам самой праваслаўнай царквы, ідзе працэс развіцця драўлянага, пераважна каталіцкага, сакральнага будаўніцтва.

Паводле Паўля Одэборна, у Полацку 1581 г. існавалі тры царквы, пабудаваныя з цэглы. Одэборн адзначае, што "трэці храм, аздоблены на італьянскі манер, нават цяпер звяртае на сябе ўвагу. Астатнія разбурыў вялікі князь маскавітаў Іван Васільевіч, калі васемнаццаць гадоў таму, захапіўшы Полацк, атрымаў яго ў сваё ўладанне" [Сагановіч, 2005, с. 182]. Мураваны храм, аздоблены на італьянскі манер, гэта, верагодна, царква св. Сафіі. Яе веліч здзіўляла многіх іншаземцаў, напрыклад, Р. Гейдэнштэйн заўважыў, што "храм у замку агромністы, на прыгожай мясцовасці і цудоўна пабудаваны з каменю". Што тычыцца астатніх двух храмаў, то гэта маглі быць цэрквы, размешчаныя ў самім горадзе, паколькі ў гэты час дакладна вядома аб існаванні, акрамя царквы св. Сафіі, Пятніцкай і Барысаглебскай цэркваў у Бельчыцкім манастыры, Спаса-Праабражэнскай царквы ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры (усе разам – ужо чатыры храмы). Таму, верагодна, што Одэборн меў на ўвазе цэрквы, размешчаныя непасрэдна ў горадзе, але якія? Раней намі ўжо згадвалася існаванне царквы Ражаства Хрыстова, якая, верагодна, на момант стварэння апісання Адэборна была муравянай [Дук, с. 210]. На Верхнім замку ў гэты час захаваўся толькі адзін мураваны храм. Значыць, трэцяя мураваная царква знаходзілася альбо на Вялікім, альбо на Запалоцкім пасадзе. Дакладна вызначыць гэтую царкву зараз цяжка.

Паводле Даравальнай Граматы Стэфана Баторыя на заснаванне ў Полацку езуіцкага калегіума ад 20 студзеня 1582 г., *у горадзе* размяшчаліся цэрквы Божага Узня-

сення (Вознесения Господня), Дабравешчання, Пятніцкая. Асноўная колькасць пералічаных у грамаце манастыроў і цэркваў размяшчалася альбо на Верхнім замку (манастыры св. Пятра, Уваскрасення Хрыстова (Машоначны), цэрквы св. Мікалая, св. Дзмітрыя), альбо на Востраве (манастыр св. Іаана Прадцечы), альбо па-за межамі пасадскай тэрыторыі (манастыры св. Спаса, св. Міхаіла Гарадзецкі, св. Казьмы і Даміана, св. Мікалая на Палупяце, царква св. Мікалая на Лучне). Нявызначанай застаецца лакалізацыя царквы св. Ачышчэння ці Срэценскай [Витебская старина, 1888, с. 73]. Таксама ў 1588 г. згадваецца царква св. Спаса "у месте Полоцкомъ на посаде Великом" [Тарасаў, 1998 б, с. 173]. Усе полацкія цэрквы і манастыры былі перададзены езуітам і сталі ўніяцкімі.

Выпіс з інвентара полацкіх цэркваў за 1618 г. сведчыць аб існаванні ў горадзе пятнаццаці цэркваў, з іх трох – у межах манастыра. Так, у выпісе з інвентара пазначаюцца: 1) "старая мураваная" царква св. Сафіі ў Замку, драўлянае начынне якой вельмі "апалае і пагнілае", 2) тут жа царква драўляная старая Дабравешчання Прачыстай Багародзіцы, 3) царква Ражаства Хрыстова "у месце пад Замкам стаячая", 4) царква св. Троіцы, 5) св. Спаса " в рынку", 6) царква св. Прарока Іллі "на ўліцы на пасадзе", 7) царква Узнясення Хрыстова "на ўліцы на пасадзе", 8) царква св. Казьмы і Даміяна, 9) царква там жа за р. Палатою св. Духа, 10) царква на прадмесці Невельскім св. Пятра, 11) царква св. Юр'я "в поле", 12) царква за р. Дзвіной "на пасадзе" св. Іаана Прадцечы, манастыр "в поле уверх р. Дзвіны стаячы над ракою Бельчыцай", 13) царква св. Барыса і Глеба мураваная, драўлянае начынне якой "апалае і пагнілае", 14) царква там жа на тым манастыры мураваная св. Пятніцы таксама "апала"; 15) цэркаўка там жа новапабудаваная, драўляная, Прачысценская [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 308 адв.].

Такім чынам, у 1618 г. з усіх цэркваў, згаданых у рэвізіі 1552 г., на Вялікім пасадзе захаваліся цэрквы Ражаства Хрыстова, св. Іллі, Узнясення Хрыстова і, магчыма, св. Юр'я. Апошняя лакалізавана "ў полі", г. зн. па-за межамі Вялікага пасада, але гэта, магчыма, сведчыць пра скарачэнне плошчы пасада, што на той час цалкам верагодна.

У XVII ст. на пасадзе лакалізаваны згаданая мураваная царква Ражаства Хрыстова і "брусяная, рубленая ў дванаццаць сцен" Багаяўленская разам з аднайменным манастыром (заснаваны ў 1633 г.) [Витебская старина, 1885, с. 278; ИЮМ, 1875, с. 352]. З 1633 г. Багаяўленская царква на доўгі час становіцца адзіным праваслаўным храмам у Полацку.

Паводле запісаў актавай кнігі за 1656 – 1657 гг. на пасадзе існаваў цвінтар і касцёл св. Крыжа, які быў размешчаны "ідучы па вул. Прабойнай з рынка ў Плігаўках", мясцовасці насупраць астрога – Верхняга Замка (гл. дадатак 2). Размяшчэнне гэтага касцёла адпавядае тэрыторыі, на якой пабудаваны езуіцкі калегіум.

У 1646 г. на рынку працягвала існаваць уніяцкая царква св. Спаса (упершыню згадваецца ў 1618 г.), якая згарэла падчас пажару недзе хутка пасля 1646 г. Мітрапаліт Антоній Сялява прызначыў настаяцелем гэтай царквы і царквы св. Георгія *за горадам* Васілія Нікіфаровіча [Витебская старина, 1888, с. 208 – 209].

Паводле плана Полацка 1707 г., на Вялікім пасадзе былі размешчаны цэрквы Багаяўленская, царква побач з вул. Прабойнай, на поўнач ад плошчы размяшчаўся дамініканскі сабор, на захад – езуіцкі калегіум (мал. 32). У 1733 – 1745 гг. быў змураваны езуіцкі касцёл Прывітання Найсвяцейшай Панны Марыі (асвечаны ў 1833 г. у імя Мікалая Мірлікійскага), у якім на манер сярэдневяковага Сафійскага сабора адбываліся соймікі шляхты [Гліннік, 2001, с. 202].

На копіі з дапаўненнямі таго ж плана (мал. 33) на поўдзень ад дамініканскага манастыра адлюстравана выява пабудовы з двусхільным дахам і вежай-званніцай з заходняга боку.

На думку А. А. Бараноўскага, гэтая пабудова з'яўляецца францысканскім кляштарам. Умоўнасць размяшчэння пазначаных тапаграфічных аб'ектаў на абодвух планах ужо адзначалася, на копіі плана 1707 г. сустракаецца памылка нават пры вызначэнні будынка пад № 6 (бернардзінскі кляштар замест дамініканскага) (мал. 33) [Дук, 2007 ж, с. 40 – 41]. Дакладна вызначыць прыналежнасць гэтай пабудовы на сённяшні дзень магчыма толькі гіпатэтычна.

У 1785 г. у Полацку з'явіўся другі пасля Багаяўленскага праваслаўны храм. У прыходскую царкву была пераўтворана драўляная могілкавая царква Пакрова Багародзіцы, збудаваная "на фарштаце" у 1781 г. Напрыканцы XVIII ст. у Полацку было ўжо тры праваслаўныя храмы – Багаяўленская і дамавая Кацярыненская (з 1785 г.), цэрквы Багаяўленскага манастыра і прыходская Пакроўская царква. З 1780 па 1804 г. мураваная Багаяўленская царква фактычна сумяшчала функцыі манастырскага і гарадскога сабора [Глііннік, 2001, с. 201].

Заўважым таксама, што дзесьці ва ўсходняй частцы сучаснай плошчы Свабоды альбо ў раёне заходняй часткі сённяшняга праспекта Ф. Скарыны з сярэдзіны XVI па сярэдзіну XVII стст. размяшчаўся кальвінскі збор. Ён знаходзіўся непасрэдна на рынку, што і абумовіла далейшую "лацінізацыю" рынкавай плошчы і стварэнне новай урбаністычнай структуры Полацка, надалей актыўна развітай езуітамі [Baranowski, 1994, s. 28, 32]. Апошні існаваў да сярэдзіны XVII ст. (спалены ў 1660 г.). Збор размяшчаўся на супрацьлеглым баку рынка ад езуіцкага калегіума. Паводле апісання збора 1636 г., ён меў вялікія вароты, новы дом з двума пакоямі (адзін з іх сталовая), сені, камору, гаспадарчыя пабудовы. У пакоях былі лаўкі, пастаўленыя кругам, дзве белыя печы, пакрытыя зялёнай кафляй, і адна чорная для выпякання хлеба [Иванова, 1992, с. 26].

Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (1654 – 1667 гг.) езуіты вярнуліся ў Полацк. На месцы калегіума яны пабачылі дамы мяшчан, пабудаваныя за час панавання маскоўскіх войскаў. Езуіты пачалі адбудоўваць на месцы колішняга касцёла "сціплы калегіум" і фарны касцёл, а насупраць, праз рынак, на месцы былога кальвінскага збора, другі касцёл Францыска Ксаверыя. Апошні, па сведчаннях пісьмовых крыніц, знаходзіўся на рынку і згарэў падчас пажару ў 1754 г. [Baranowski, 1994, s. 30, 32].

У другой палове XVIII – пачатку XIX стст. горад перажывае сапраўдны будаўнічы бум, у гэты час узводзіцца комплекс мураваных каталіцкіх кляштараў, будынкаў грамадзянскага прызначэння, фарміруецца архітэктурны ансамбль цэнтральнай рынкавай плошчы ў барокава-класічным стылі. У гэты час у Полацку паўсталі мураваныя ансамблі францысканскага, дамініканскага, базыліянскага і бернардзінскага кляштараў разам з касцёламі. У стылі Віленскага барока на месцы ўзарванага ў 1710 г. храма ўзводзіцца Сафійскі сабор (1738 – 1750 гг.), у сярэдзіне – другой палове XVIII ст. паўстаюць мураваныя будынкі езуіцкага калегіума разам з касцёлам св. Стэфана, узводзяцца жылыя карпусы Брацкай школы разам з праваслаўнай Багаяўленскай царквой, будуецца дом генерал-губернатара і шэраг іншых грамадскіх пабудоў [Baranowski, 1994]. Абсалютная большасць пералічаных новабудоўляў была здзейснена ў тыя часы, калі Полацк уваходзіў у склад Рэчы Паспалітай. Па маштабах мураванага будаўніцтва XVIII ст. гэты час можна параўнаць з эпохай росквіту полацкай школы дойлідства XII ст., змянілася толькі ідэалагічная афарбоўка: раней выключна праваслаўнае, цяпер гэта было ўжо пераважна каталіцкае дойлідства. Тым не менш, Полацк напрыканцы

XVIII ст. стаў горадам з развітай паўнацэннай еўрапейскай сістэмай забудовы цэнтральнай часткі горада, што сведчыць не толькі пра высокі ўзровень развіцця культуры, але і адпаведны эканамічны падмурак такіх шырокамаштабных здзяйсненняў.

Асобна трэба засяродзіць увагу на існаванні ў Полацку касцёлаў, пабудаваных езуітамі. З 1580 па 1600 гг. езуіты спраўлялі набажэнствы ў старым драўляным касцёле Св. апосталаў Пятра і Паўла на Верхнім замку. Гэты касцёл неаднаразова адбудоўваўся ў 1676 – 1677 гг. і ў 1728 г. У 1597 – 1600 гг. езуітамі быў пабудаваны драўляны касцёл на тэрыторыі калегіума, які з рознымі перабудовамі праіснаваў да 1733 г. У 1733 – 1738 гг. касцёл быў змураваны з цэглы і асвечаны пад назвай Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі [Paszenda, 1996, s. 525].

Акрамя названых касцёлаў, пры полацкім рынку існаваў драўляны касцёл св. Францыска Ксаверыя. Пачаткова гэты касцёл размяшчаўся дзесьці на завулках тэрыторыі Вялікага пасада, у 1679 г. узведзены пры рынку. Быў часткова разбураны ў 1754 г.

Згаданы касцёл св. Крыжа ўзведзены на пасадскай тэрыторыі над р. Палатой на пляцах, якія належалі езуітам. У 1655 г. падчас вайны быў перанесены маскоўскімі ўладамі на новае месца і зноў адбудаваны ў 1687 г., рэстаўраваны ў 1736 і 1757 гг. У 1674 г. узведзены касцёл св. Казіміра над р. Дзвіной, у 1702 г. перабудаваны пад назвай св. Іаана Хрысціцеля.

Акрамя згаданых касцёлаў, у фальварку Спас і на фальваркавых землях езуітамі было ўзведзена два касцёлы. Адзін з іх, пад назвай Гроба Гасподня (Grobu Pańskiego), быў мураваны, меў цвінтар і размяшчаўся ў раёне сучасных могілак на Касавер’і. Старажытная Спаса-Еўфрасіннеўская царква была перабудавана ў касцёл Праабражэння ці Божага Перамянення [Гліннік, 2003, с. 66; Paszenda, 1996, s. 525].

Вектар культавага будаўніцтва пачынае мяняцца пасля далучэння Полацка да Расійскай Імперыі (з 1772 г. правабярэжная частка горада, з 1793 г. – увесь горад). У 1761 – 1779 гг. узводзіцца мураваная праваслаўная Багаяўленская царква [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 41, арк. 118 – 118 адв.], па-за межамі паркана ў 1781 г. была ўзведзена драўляная Пакроўская царква. Такім чынам, шырокага распаўсюджання мураванае праваслаўнае дойлідства ў Полацку XVIII – пачатку XIX стст. так і не атрымала [Гліннік, 2001, с. 199 – 200].

Акрамя згаданых храмаў, на Ніжнім замку напрыканцы XVIII ст. размяшчаліся тры драўляныя ўніяцкія царквы і праваслаўны манастыр [Географический словарь, 1805, с. 1238].

Паводле М. В. Без-Карніловіча, Полацк у другой палове XVIII ст. з’яўляўся буйнейшым горадам на тэрыторыі Беларускіх губерняў па колькасці ўніяцкага, каталіцкага і праваслаўнага духавенства, па маштабах разгалінаванага гандлю, па колькасці мураваных помнікаў культавага дойлідства [Без-Корнилович, 1885, с. 93]. Заўважым, што ўзровень эканамічнага і духоўнага патэнцыялу Полацка напрыканцы XVIII ст. добра ілюструе той факт, што ў 1776 г. Полацк стаў губернскім горадам, а з 1778 па 1796 гг. з’яўляўся цэнтрам намесніцтва.

Вялікі пасад меў звычайную для сярэдневяковага горада пагонную забудову. На пасадзе сяліліся мяшчане, шляхта і духавенства. З канца XVI ст. і ў XVII ст. на тэрыторыі Вялікага пасада магчыма лакалізаваць сядзібы асобных прадстаўнікоў шляхецкіх родаў Дарагастайскіх, Друцкіх-Сакалінскіх, Шчытоў, Зяновічаў, Сяляваў (мал. 34) [Дук, 2007 ж, с. 68].

Да сярэдзіны XVII ст. захавалася мала звестак аб назвах полацкіх вуліц. Першая адлюстраваная ў пісьмовых крыніцах назва вуліцы датуецца канцом XIV ст. Гаворка

ідзе пра вул. Багародзіцкую, якая была размешчана дзесьці паблізу царквы св. Багаяўлення [Тарасаў, 1998 б, с. 179]. Назвы асобных полацкіх вуліц згаданы ў полацкай рэвізіі 1552 г. На Вялікім пасадзе пазначаны вул. Вялікая, Падольная, Вазнясенская і Вазнясенскі завулак (каля царквы Вазнясення Хрыстова), Іллінская, а таксама “мяшчанскі” Андронаў завулак (побач з вул. Вялікай і восьмай вежай). У нявызначанай частцы горада згадваецца вул. Пятніцкая, магчыма, размешчаная каля аднайменнай царквы на Вялікім пасадзе [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 8 – 9, 178]. З гэтых вуліц лакалізацыя толькі адной – Вялікай – дакладна высветлена: яна была размешчана на месцы заходняй часткі сучаснай вул. Ніжнепакроўскай. У 1570 г. згадваецца вул. Паслоўская “в Якимове початку” [Тарасаў, 1998 б, с. 179].

На плане Полацка 1910 г. пазначаны назвы вуліц, якія згадваюцца ў актавых кнігах сярэдзіны XVII – XVIII стст., сярод іх Прабойная, Вазнясенская, Невельская, Азараўская (Азаравая), Спаская. Ёсць усе падставы меркаваць, што гэтыя вуліцы ў XVII – пачатку XX стст. былі размешчаны на адных і тых жа месцах пад аднолькавай назвай. Выключэннем з’яўляецца вул. Вазнясенская, пра што гаворка пойдзе ніжэй.

Так, вул. Прабойная пралягала па мерыдыяльным накірунку (поўдзень-поўнач) у межах гарадскіх умацаванняў. Натуральнымі межамі пачатку і канца гэтай вуліцы з’яўляліся з поўдня – р. Дзвіна, з поўначы – р. Палата.

Выява гэтай вуліцы ёсць на планах пачатку XVIII ст. (мал. 32 і 33). Вуліца праходзіла па-над ровам насупраць вала Ніжняга замка і вяла ў бок Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

Вул Прабойная ў XVII ст. пачыналася ад брамы з боку р. Дзвіны [Тарасаў, 1998 б, с. 58], з усходу перасякала рынак і далей працягвалася да р. Палаты. На гэтай вуліцы ў 1656 – 1657 гг. быў размешчаны цвінтар і касцёл св. Крыжа “ідучы па *вул. Прабойнай* з *рынка* ў *Плігаўках*”. З запісу ў актавай кнізе 1704 г. вядома, што вул. Прабойная размяшчалася “ідучы па накірунку ад *Верхняга і Ніжняга замкаў* міма *езуіцкага шпіталя* да *яўрэйскай школы*”. Яўрэйская школа і сінагога паводле плана Полацка 1778 г. знаходзілася на месцы сённяшняй сядзібы па вул. Ніжнепакроўскай, 7 [Страчаная спадчына, 1998, с. 238], дзе падчас пабудовы дома ў 2002 г. былі адкрыты магутныя цагляныя падмуркі канца XVII ст. Гэтая ж школа адлюстравана і на копіі плана 1707 г. (мал. 35), і на плане 1778 г., пазначаная, аднак, ужо як драўляная.

Вул. Прабойная спыніла сваё існаванне напрыканцы XVIII ст., калі адбылася перапланіроўка горада і яна была змешчана на адзін рад забудовы на захад (мал. 36 – 38).

Вул. Вазнясенская, якая на плане 1910 г. перасякала вул. Ніжнепакроўскую і была размешчана ў мерыдыяльным накірунку, у XVII – XVIII стст. размяшчалася паралельна вул. Вялікай, на поўнач ад яе. На сучаснай карце Полацка гэта адпавядае тэрыторыі паміж паўднёвай вуліцай праспекта Ф.Скарыны і Ніжнепакроўскай. Вул. Вазнясенская атрымала сваю назву ад царквы Узнясення Хрыстова, якая згадваецца ў полацкай рэвізіі 1552 г. “в месте” [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 9, 21, 176].

Паводле запісаў у актавай кнізе полацкага магістрата 1656 – 1657 гг., вул. Вазнясенская мела выхад на вул. Прабойную, каля выхаду на вул. Прабойную была размешчана побач з “*пляцамі зборавымі*” і рынкам, размяшчалася “*ў тыле ратушы* і *гасцінага дома*”. У магістрацкай кнізе згадваецца дом “на улицы Возънесенско*й*, на кгрунте меском до ратуша полоцъкого належачом стоячы*й*, толко самы*й* будынокъ на полчверти пляца збудованы*й*, з одного боку подле дому Войтеха Закревского, а з другого огорода и кгрунту тежъ меского в тыле самого ратуша и дому гостинного будучого” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 348].

Шматлікія справы ў актавай кнізе 1656 – 1657 гг. фіксуюць наяўнасць агародаў і сядзіб палачан паміж вул. Вялікай і Вазнясенскай. Адна з такіх сядзіб была даследавана археалагічна [Здановіч, 2003]. Вул. Вазнясенская пралягала каля "пляцаў зборавых" (былы кальвінскі збор) [Baranowski, 1994], таксама каля ратушы і гасцінага дома. Гэта з'яўляецца прамым пацверджаннем меркавання аб размяшчэнні полацкай ратушы ў паўднёвай частцы сучаснай плошчы Свабоды на месцы дома генерал-губернатара. Менавіта гэты будынак быў узведзены напрыканцы XVIII ст. на месцы трох асобных мураваных пабудоў і быў размешчаны каля вул. Прабойнай насупраць згаданага ў магістрацкай кнізе 1656 – 1657 гг. пляца на вул. Вазнясенскай. Такім чынам, вул. Вазнясенская праходзіла з паўднёвага боку ад ратушы, будынак якой фасадам быў павернуты на поўнач, у бок рынку.

Важнай выяўленчай крыніцай, якая дае ўяўленне пра знешні выгляд гэтага найважнейшага элемента гарадской інфраструктуры магдэбургскага Полацка, з'яўляецца абраз св. Мікалая з фондаў НПГКМЗ (мал. 39). Абраз датуецца сярэдзінай XVIII ст. [Ярошевич, 2009 а, с. 19] і, вельмі верагодна, паходзіць з Экіманскай царквы св. Георгія, у якой згадваецца абраз св. Мікалая "у вялікіх памерах, са срэбранымі шатамі, старажытнага малявання"[33] [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114]. Сувязь многіх абразоў калекцыі НПГКМЗ з уніяцкай Георгіеўскай царквой у Экімані ўжо была вызначана мастацтвазнаўцамі [Ярошевич, 2009 а, с. 19].

Выява святога змешчана на фоне горада з выразнай барочнай забудовай. Ёсць падставы для суаднясення намаляванага горада з Полацкам XVIII ст. На гэта ўказваюць асаблівасці размяшчэння архітэктурных аб'ектаў: злева – высокая шмат'ярусная званіца, за фігурай святога – грамадзянскія пабудовы, справа – будынак, які нагадвае ратушу [Ярошевич, 2009 а, с. 19]. Будынкі згрупіраваны адпаведна кампазіцыйнай пабудове ўсіх намаляваных аб'ектаў. Пазначаныя будынкі могуць быць суаднесены з Сафійскім саборам, езуіцкім калегіумам і полацкай ратушай. Пра тое, што на абразе адлюстраваны менавіта будынак ратушы, сведчаць, па-першае, архітэктурныя асаблівасці будынка, па-другое, размяшчэнне яго за сцяной рынка, за якой, як вядома, і размяшчалася полацкая ратуша (мал. 40).

Для вул. Невельскай і Спаскай, якія былі размешчаны паралельна р. Дзвіне (накірунак усход-захад), натуральнай мяжой з захаду з'яўляўся прыродны роў ля падножжа Ніжняга замка, які выразна прасочваецца на планах XVIII ст. [Тарасаў, 1998 б, с. 57]. Тое ж можна адзначыць і для вул. Азаравай. З усходу развіццю гэтых вуліц замінаў гарадскі паркан, аднак вул. Невельская і Спаская перасякалі пасадскія ўмацаванні і паза межамі паркана пераўтвараліся ў гасцінцы.

Вул. Невельская размешчана насупраць Невельскай праязной брамы (запіс у актавых кнігах 1650, 1656 – 1657 гг.). Гэтая вуліца выходзіла за межы крапасной сцяны, дзе вакол яе ў XVII ст. размяшчаліся агароды палачан. Гэтыя агароды цягнуліся на поўнач да самай р. Палаты. Невельская брама была размешчана на скрыжаванні вул. Невельскай (сучасная вул. Войкава) і вул. Крапасной, якая існавала ў XIX – пачатку XX стст. [Тарасаў, 1998 б, с. 56].

Паводле актавых кніг 1650 і 1656 – 1657 гг., вул. Азаравая заканчвалася каля астрога (Ніжняга замка). У актавай кнізе 1721 г. пазначана, што вул. Азаравая перасякае *былы* гарадскі паркан. На ёй былі размешчаны *Андрэеў млын* і *цагельня*. Цагельня займала чвэрць гарадскога пляца паміж агародамі. Кніга полацкага гарадавога магіс-

[33] Праблему паходжання дадзенага абраза ўскладняе факт наяўнасці ў калекцыі жывапісу сярэдзіны XVIII ст. двух стылістычна адрозных абразоў св. Мікалая.

трата 1779 г. прадстаўляе надзвычай каштоўныя звесткі пра размяшчэнне тапаграфічных аб'ектаў на гэтай вуліцы. Так, паводле запісу ў кнізе 1779 г., вул. Азаравая цягнулася ад Ніжняга замка да *валатовак* паралельна вул. Баравой. Той факт, што валатоўкі г. зв. "усходняга" курганнага могільніка IX – X стст. захаваліся да канца XVIII ст., да нядаўняга часу ўяўлялася практычна неверагодным. Пазначэнне "валатовак" дазваляе вызначыць адзін з маркераў паўночнай мяжы старажытнага курганнага могільніка ў раёне сучаснай вул. Камуністычнай (былой Азаравай), што, дарэчы, адлюстравана на плане 1707 г. (мал. 32).

Частка вул. Азаравай была ўскрыта падчас раскопак 1987 – 1988 гг. Гэтая вуліца ў XII ст. праходзіла па адной трасе з больш познімі вуліцамі XVII – XVIII стст. З гэтага вынікае, што планіроўка Вялікага пасада і яго забудова былі вельмі кансерватыўнымі на працягу многіх стагоддзяў [Тарасаў, 1998 б, с. 66].

Вул. Спаская выходзіла за межы паркана і была размешчана паралельна р. Дзвіне (запіс у актавых кнігах 1650 і 1656 – 1657 гг.) аналагічна накірунку пачатку XX ст. Гэтая вуліца таксама згадваецца ў актавай кнізе 1779 г.

Размяшчэнне шэрагу вуліц Вялікага пасада таксама можна рэканструяваць, узяўшы за аснову план Полацка 1910 г. і больш раннія. Так, відавочна, што накірункі асноўных вуліц, якія знаходзіліся ў межах крапаснай сцяны, у XVIII – XIX стст. засталіся нязменнымі. На планах канца XVIII ст. паміж вул. Ніжнепакроўскай і Верхнепакроўскай пазначана вуліца, якая адсутнічае на плане 1910 г. Таксама, паводле планаў канца XVIII ст., шэраг вуліц быў размешчаны на поўнач ад вул. Невельскай.

У полацкай рэвізіі 1552 г. і актавых кнігах XVII ст. на Вялікім пасадзе згадваецца вул. Іллінская, якая выходзіла за межы абарончых умацаванняў. Сярод крапасных вежаў згадваецца Іллінская, якая на плане 1910 г. знаходзілася на скрыжаванні вул. Крапасной і Віцебскай [Тарасаў, 1998 б, с. 56]. Відавочна, што вежа і вуліца, якая да яе прымыкала, мелі аднолькавую назву. Назва вуліцы, верагодна, паходзіць ад назвы Іллінскай царквы, згаданай пад 1552 г. [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 21].

Паводле запісу ў кнізе 1656 – 1657 гг., вул. Іллінская была размешчана паралельна вул. Вазнясенскай. Запіс у кнізе гарадавога магістрата 1779 г. дэталізуе размяшчэнне вуліцы "на *рынку*, па накірунку з "*крамнага рада*". У 1755 г. вуліца праходзіла праз мост былога рова паркана і вяла да валатовак, справа "на рагу" размяшчаліся гарадскія пляцы [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 34, арк. 271 адв.].

На вул. Іллінскай да 1780 г. (прыезду ў Полацк Кацярыны II) быў пабудаваны вялікі трохпавярховы корпус езуіцкага калегіума, размешчаны насупраць паўднёвага фасада касцёла св. Стэфана. На заходнім канцы вул. Іллінскай былі пабудаваны два карпусы, адзін насупраць другога, па розныя бакі вуліцы. Вуліца заставалася праезджай нядоўга – пасля 1780 г. яна была перагароджана трохпавярховым будынкам езуцкага калегіума (корпус зруйнаваны ў 1964 г.) [Викентьев, 1910, с. 22 – 24].

У выніку археалагічных раскопак 2000 – 2003 гг. у паўднёвым дворыку былога езуіцкага калегіума былі адкрыты сляды сядзібнай забудовы. Адзін з дамоў першай паловы XVI ст. меў падклет з драўляным дрэнажом [Дук, 2003]. Гэты дрэнаж відавочна злучаўся з вулічным. Сёння можна вызначыць размяшчэнне гэтага дома па вул. Іллінскай. Вуліца ў XVI ст. мела драўляны вадасцёк.

У актавай кнізе за 1732 г. згадваюцца валатоўкі і "царкавішча" св. апосталаў Пятра і Паўла: "idąc ulicą Illinską w pole do Przesmuszek za wołotowkami alias gurami Bałhoreyskiemi, po prawey stronie teyże ulicy Illinskiey, przeciw cerkowiszcza Swiętych apostołow Piotra i Pawła" ("ідучы вуліцай Іллінскай ў поле да Прасьмушак за валатоў-

камі альбо гарамі Балгарэйскімі, па правым баку той жа вул. Іллінскай, насупраць царкавішча св. апосталаў Пятра і Паўла”) [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 17, арк. 51 – 51 адв.]. У кнізе 1739 г. капаная валатоўка згадваецца “na ulicy Illinskiey, za miastem, przeciwko rytey wołotowki, do tej gury Bałhoreyskiey leżącу” (“на вуліцы Іллінскай, за местам, насупраць капанай валатоўкі, да той гары Балгарэйскай ляжачы”) [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 24, арк. 27 адв.]. У прыведзеных паведамленнях атаясамліваюцца назвы часткі валатовак і гор Балгарэйскіх.

Такім чынам, старажытныя і сучасныя назвы пазначаных вуліц адпаведна Прабойная – Талстога (сёння захавалася толькі паўночная частка вул. Прабойнай у межах вул. Талстога), Невельская – Войкава, Азараўская – Камуністычная, Спаская – Замкавы праезд, Бацечкавая – паўночная вуліца праспекта Ф. Скарыны, Іллінская – паўднёвая вуліца праспекта Ф. Скарыны, Вялікая – Ніжнепакроўская.

У межах паркана, паводле актавых кніг 1650 і 1656 – 1657 гг., таксама былі размешчаны вул. Баравая, Бацечкавая, Сцяпанавая (мелі гасцінцы), Вазнічная, Сабачына, Савіна, Зборавая, Змітровая.

Вул. Спаская мела завулак да вул. Баравой, што сведчыць аб іх паралельным размяшчэнні. У актавай кнізе 1779 г. згадваецца яе аналагічнае размяшчэнне адносна вул. Азаравай. Такім чынам, паміж вул. Азаравай і Спаскай пралягала вул. Баравая, якая ў 1779 г. выходзіла за межы паркана. Па трасе гэтай вуліцы ў 1654 г. была размешчана Скарбная вежа (раней гэтая вежа была памылкова вызначана па трасе вул. Азаравай [Тарасаў, 1998 б, с. 56, мал. 71]). Вул Спаская праходзіла ад рынка да валатовак (запіс 1758 г.) [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 36, арк. 41].

Вул. Бацечкавая, паводле той жа крыніцы, размешчана паблізу вул. Іллінскай, “*пры рынку*”. Гэтая ж вуліца пралягала паралельна вул. Спаскай, выходзіла разам з ёй за межы гарадскога паркана. У актавай кнізе 1656 – 1657 гг. згадваецца пляц паміж вул. Бацечкавай і Спаскай уздоўж паркана. Відавочна, што вул. Бацечкавая была размешчана паміж вул. Іллінскай і Спаскай у межах сучаснага праспекта Ф. Скарыны. Па трасе вул. Бацечкавай у 1738 г. быў закладзены мураваны касцёл св. Стэфана [Викентьев, 1910, с. 20]. З заходняга боку вуліца была перагароджана двухпавярховым флігелем езуіцкага калегіума. Падчас археалагічнага нагляду А. А. Салаўёва ў 2009 г. за рэканструкцыяй былога флігеля былі адкрыты сляды брамы, ад якой пачынаўся драўляны мост праз Чорны ручай на Верхні замак [Викентьев, 1910, с. 24]. Гэтая брама была размешчана па трасе былой вул. Бацечкавай і вяла праз Чырвоную (Каралеўскую) вежу.

У межах паркана Вялікага пасада ў кнізе 1656 – 1657 гг. прысутнічае назва мясцовасці “Шэвердзін рог”, які быў размешчаны ў пачатку вул. Вялікай каля Верхняга Замка і безназоўнай вуліцы, якая вядзе з рынка каля царквы Ражаства Хрыстова (“храм на рове”). Гэтая безназоўная вуліца пачыналася ад р. Дзвіны, цягнулася ўздоўж Верхняга Замка і царквы Ражаства Хрыстова і вяла ў рынак. Тапаграфічна з ёй была звязана вул. Чыстая, якая пралягала “*з левага боку ад вуліцы каля царквы Ражаства Хрыстова па накірунку да ракі Дзвіны*”. Вул. Чыстая пралягала на поўдзень ад карпусоў езуіцкага калегіума.

У цяжбе архіепіскапа Антонія Сялявы з полацкімі мяшчанамі за 1638 г. згадваецца вул. Раждзественская, якая знаходзілася дзесьці на Вялікім пасадзе. На гэтай вуліцы размяшчаліся двары яўрэяў Арона Танхілевіча і Моўшы Мардохеевіча [Витебская старина, 1888, с. 179]. Магчыма, гэтая вуліца была размешчана каля царквы Ражаства Хрыстова каля Верхняга замка, аднак у актавых кнігах 1656 – 1657 гг. і пазнейшых па нейкіх прычынах згадваецца без назвы.

За гарадскім парканам размяшчалася вул. Малая, якая была пракладзена ўздоўж крапаснога рова. З усходняга боку ад вул. Малай пачыналіся агароды, за якімі размяшчаліся валатоўкі (курганы). Вул. Малая пачыналася ад Невельскай праязной вежы, на поўнач ад гэтай вежы да самой р. Палаты былі агароды.

Ворыўныя землі на ўсход ад паркана Вялікага пасада згадваюцца ў рэвізіі полацкага павета 1563 г.: "пашенные земли и перелогу ... по Полоте меж дорог и которое здесь къ Спасскому монастырю и Полоты реки до Еуфрасинского манастыра что противъ Стрелецкого города до Полоты реки ..." [РГАДА, ф. 389, оп. 1, д. 573, л. 382]. Тут жа прыведзены звесткі і пра курганны могільнік: "да на гореломъ посаде в на дол от техъ курганов пашенные земли … подле дорогъ к кгурганъ да на горелом посаде в на дол отъ, а за курганы … меж Двины реки и дороги, которое на Туровлю" [РГАДА, ф. 389, оп. 1, д. 573, л. 383].

Такім чынам, пра г. зв. "усходні" курганны могільнік IX – X стст. існуе некалькі згадак у пісьмовых крыніцах XVI – XVIII стст.[34] Адпаведна вул. Іллінская (сучасная паўднёвая частка пр. Ф. Скарыны) і Выгонная, назва якой сведчыць аб яе функцыянальным прызначэнні[35], маглі быць своеасаблівым маркерам распаўсюджвання курганнага некропаля з поўдня[36]. З поўначы, як адзначалася вышэй, адпаведным маркерам з'яўляецца сучасная вул. Камуністычная.

Вул. Вялікая і Сцяпанавая за межамі паркана ў XVII ст. былі акружаны агародамі. Дакладнай прывязкі на мясцовасці вул. Сцяпанавай у пісьмовых крыніцах не зафіксавана, аднак яна часта фігуруе ў актах куплі-продажу нерухомасці палачан. Адпаведна вул. Сцяпанавая павінна была размяшчацца ў цэнтральнай частцы Вялікага пасада. Магчыма, гэтая вуліца пралягала паміж вул. Невельскай і Азаравай.

Парныя назвы вул. Выгоннай і Бацечкавай, Бацечкавай і Спаскай сведчаць пра іх размяшчэнне паралельна адна адной за межамі крапаснай сцяны на поўдзень ад вул. Спаскай. Паміж вуліцамі размяшчаліся агароды.

Асобна трэба засяродзіць увагу на вул. Вялікай, якая ўпершыню згадана ў полацкай рэвізіі 1552 г. У 1733 г. гэтая вуліца згадваецца як "Вялікая маставая" [НГАБ, ф. 1878, воп. 1, спр. 2, арк. 283]. Дарэчы, вул. Вялікая з'ўлялася месцам пражывання пераважна заможнай часткі насельніцтва (мяшчан і шляхты), пра што яскрава сведчаць археалагічныя матэрыялы і даныя пісьмовых крыніц. Невыпадкова на гэтай жа вуліцы шляхціч Іван Стаброўскі ў 1621 г. аддае свой брацкі дом на ўладкаванне ў ім часовай праваслаўнай царквы. У доме мешчаніна Ігнація Вішні на гэтай жа вуліцы было засведчана "большое сборище мещанъ обоего пола, въ числе несколькихъ сотъ человекъ" [Витебская старина, 1888, с. 121 – 122]. Падчас наведвання Полацка ў 1780 г. імператрыца Кацярына ІІ жыла ў падрыхтаваным для яе драўляным палацы над Дзвіною, дзе раней жыў полацкі губернатар Іван Міхайлавіч Рэбіндэр [Без-Корнилович, 1855, с. 96]. На гэтай жа вуліцы ў XVII ст. пабудаваны першыя камяніцы.

На плане А. К. Марэля, які адлюстроўвае рэканструкцыю тапаграфіі Полацка ў XVI – XVII стст. (мал. 42), вул. Вялікая заканчваецца ў раёне размяшчэння францысканскага кляштара (згаданы ў актавай кнізе 1533 г.) і Багаяўленскай царквы [Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 222; Иезуиты в Полоцке, 2005, с. 8]. Гэта

[34] Усяго ў Полацку існавала два курганныя некропалі – г. зв. "паўночны" і "ўсходні".

[35] Вуліца, па якой выганялі хатнюю жывёлу на выпас і якая перасякала вул. Малую.

[36] Малаверагодна, каб гэтая вуліца праходзіла па курганным могільніку, да таго ж выганы для хатняй жывёлы не маглі знаходзіцца далёка ад горада. Такім чынам, выпас жывёлы адбываўся паміж вул. Вялікай і Выгоннай, натуральна, за межамі паркана.

пацвярджаюць вынікі археалагічнага даследавання. Непасрэдна на тэрыторыі вул. Ніжнепакроўскай насупраць Багаяўленскай царквы пад сучаснай праезджай часткай былі адкрыты рэшткі драўлянай забудовы з керамічным начыннем XIV – сярэдзіны XVII стст. [Дук, спр. № 2284]. Вул. Вялікая была прадоўжана ва ўсходнім накірунку толькі ў другой палове XVII ст., тады ж яна крочыла далей і за межы паркана.

Напрыканцы XVIII ст. адразу за былым парканам перпендыкулярна вул. Вялікай пралягаў Барані ўзвоз (мал. 41). Гэтая мясцовасць размешчана за "перакопам" (былы роў паркана па трасе вул. Іллінскай). Ад гэтага "перакопу" ў бок Бараняга ўзвозу размяшчалася "капаная" валатоўка (запіс 1759 г.) [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 37, арк. 185]. Неаднаразова ў кнігах XVII – XVIII стст. згадваецца мясцовасць "Плігаўкі", якая размешчана на вул. Прабойнай, пад Верхнім замкам, насупраць перавозу ад р. Дзвіны. У інвентары маёмасці полацкага архіепіскапа ад 16 чэрвеня 1580 г. зафіксавана вул. Плігаўская, якая размяшчалася на Вялікім пасадзе і ад якой вялі два завулкі [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 180].

На Вялікім пасадзе ў пісьмовых крыніцах згадваюцца тры перавозы, адзін з іх адлюстраваны на плане 1707 г. насупраць Верхняга замка. Чацвёрты перавоз існаваў насупраць вуліцы, якая ў 1910 г. мела назву Вазнясенская (сучасная вул. Сака і Ванцэцці), гэты перавоз адлюстраваны на плане 1707 г. насупраць Багаяўленскай царквы (мал. 32; 37; 42). Тут падчас археалагічнага нагляду ў 2003 г. былі адкрыты сляды зрубных пабудоў XVII ст. непасрэдна каля берагавой лініі р. Дзвіны.

З уключэннем Полацка ў склад Расійскай Імперыі забудова горада праводзілася па праекце рэгулярнай перапланіроўкі 1778 г. У 1793 г. распрацаваны праект І. Зігфрыдэна, паводле якога былая рынкавая плошча стала асноўным звяном трохчастковай структуры цэнтра, які ўключаў дзве гандлёвыя плошчы (другая знаходзілася ў раёне сучаснай плошчы Ф. Скарыны) [Чантурия, 2005, с. 274 – 275]. Змянілася і функцыя плошчы: напрыканцы XVIII ст. яе роля адміністрацыйнага цэнтра горада ўзмацнілася, а гандлёвая функцыя была ліквідавана.

У сувязі з гэтым асаблівую цікавасць уяўляе план рэгенерацыі Полацка 1778 г., на якім пазначаны існуючыя тапаграфічныя аб'екты Полацка і элементы плануемай забудовы (мал. 31). На дадзеным плане бачна, што старую нерэгулярную забудову павінна была змяніць новая. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. так і адбылося: гарадскія кварталы ўзбуйніліся, вуліцы сталі больш прамымі і шырокімі. У прыватнасці, вул. Вазнясенская трапіла пад забудову гарадскіх кварталаў (адна з камяніц канца XVII ст. – домік Пятра I – паўночным фасадам выходзіў менавіта на яе). Рэшткі паркана Вялікага пасада ў выглядзе рова былі знівеліраваны, гарадская забудова крочыла на ўсход, і на месцы курганаў (валатовак) размясціліся гарадскія кварталы.

### 6.3.2. Запалоцкі пасад

Паводле "Рэвізіі 1552 г.", на Запалоцкім пасадзе Полацка быў размешчаны 191 двор і існавалі цэрквы св. Духа і Пакроўская [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 24, 25]. Таксама на Запалоцкім пасадзе быў пабудаваны бернардзінскі кляштар. Прывілеем 1498 г. вялікага князя Аляксандра бернардзінцам дазвалялася жыць у Полацку на вызначаным участку горада. Прывілей рэгламентаваў месца будаўніцтва і характар забудовы: "erigenda ac pro monasterio, domibus, certis residenciis, habitationibus, ortis, officinis, ceteris commoditatibus construendis et constituendis aream, locum atque sittum, qui est sub castro nostro in Poloczko secus fluvium Polotha, incipiendo a fluvio Polotha circa latus pontis

et tenendo circumferencialiter iuxta viam sive stratam, que ducit de castro versus ecclesiam S. Spiritus” (“узвесці адпаведна манастыр, з заселенымі адміністрацыйнымі і жылымі дамамі, майстэрнямі з усімі патрэбамі, збудаванымі і ўсталяванымі ў адпаведнасці з мясцовасцю, якая размешчана пад Замкам нашым у Полацку, на беразе р. Палаты, пачынаючы з берага ад маста і працягваючы па акружнасці ў бок гасцінца ці машчонай вуліцы, што вядзе ад Замка да царквы св. Духа”) [Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, 1948, s. 538]. У тэксце акрэслены чатырохвугольнік: вусце р. Палаты, каля якога знаходзіўся мост, – дарога да царквы св. Духа – зноў рака Палата – луг. План размяшчэння бернардзінскага кляштара адлюстраваны на фрэсцы касцёла св. Францішка і Бернардзіна ў Вільні (мал. 43).

У 1563 г. падчас захопу Полацка войскамі Івана IV бернардзінскі кляштар на Запалоцкім пасадзе спыніў сваё існаванне (мал. 44).

Другая згадка сярэдзіны XVII ст. пра царкву св. Духа ў Запалоцці вызначае каардынаты вул. Зарачонай: “за Полотою в заулъку под улицы Заречоное, ку церкви Светог(о) Д(у)ха идучой, стоячый” [Гардзееў, 2004, с. 58].

Пісьмовыя крыніцы XVI ст. згадваюць пра яшчэ адну царкву ў Запалоцці – Казьмы і Даміяна, якая магла належаць аднайменнаму манастыру [Тарасаў, 1998 б, с. 87]. Пры гэтым больш-менш дакладная прывязка царквы да мясцовасці адсутнічае, акрамя згадкі: “въ месте Полоцком на посаде за Полотою” [Тарасаў, 1998 б, с. 87]. Менавіта царкву Казьмы і Даміяна С. В. Тарасаў атаясамлівае з царквой, адлюстраванай на гравюры Я. Баптысты 1580 г. у заходняй частцы Запалоцця. Выразна бачна, што храм арыентаваны па накірунку ўсход-захад і мае двусхільны дах з шатровым пакрыццем і крыжам (мал. 45). Да супрацьлеглага канца прымыкаў двух’ярусны аб’ём, які мог быць званніцай [Якимович, 1991, с. 271]. Гэты комплекс не мог быць бернардзінскім кляштарам, паколькі апошні ў 1563 г. быў спалены па загадзе Івана IV (бернардзінцы вяртаюцца ў Полацк толькі напрыканцы XVII ст. і ўзводзяць спачатку драўляныя, а потым і мураваныя будынкі кляштара ўжо ў Задзвінні) [Ярашэвіч, 1999, с. 536]. Найверагодней, што на плане адлюстравана царква св. Духа, паколькі згаданая “дарога ці гасцінец”, якая вядзе ад “шырокага маста” з Верхняга замка да царквы св. Духа, павінна быць галоўнай на пасадзе. На гравюры Я. Баптысты якраз і адлюстравана шырокая вуліца, якая вядзе праз увесь пасад ад маста да царквы.

Пазначаная ў Прывілеі 1498 г. тэрыторыя, якая належала бернардзінцам, размяшчалася ва ўсходняй частцы Запалоцкага пасада ў раёне сучасных вуліц Краснова і Міхайлаўскай. Дарэчы, поплаў і зараз знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы Запалоцця насупраць заходняга мыса Верхняга замка (раён Машны). Царква св. Духа магла размяшчацца на захад ад пазначанай тэрыторыі, магчыма, у раёне аўтамабільнага маста праз Дзвіну.

Аб размяшчэнні бернардзінскага кляштара ва ўсходняй частцы Запалоцця ёсць ускосныя пацверджанні.

Па-першае, на фрэсцы бернардзінскага касцёла ў Вільні размяшчэнне архітэктурных і тапаграфічных аб’ектаў Полацка 1563 г. не выклікае пярэчанняў, у т. л. і лакалізацыя кляштара [Глiннiк, 2004].

Па-другое, у 2003 г. на паўночна-ўсходняй ускраіне Запалоцкага пасада выяўлены сляды заможнай сядзібы XV ст. Не выключана, што адкрыты археалагічны комплекс з’яўляўся часткай двара, які трымалі ганзейскія купцы і які з канца XV ст. мог належаць бернардзінскаму кляштару (пра гэта сведчыць адметная канструкцыя печы) [Дук, 2006 б].

Па-трэцяе, у 2006 г. падчас археалагічнага нагляду за землянымі работамі ў Запалоцці па вул. Краснова, д. 12 быў знойдзены набор кафлі першай паловы XVI ст. На адной пласціне адлюстравана выява манаграмы Божай Маці, якая сведчыць пра каталіцкае веравызнанне ўладальніка печы (мал. 7). Гэтая печ магла знаходзіцца ў доме ганзейскага гандляра альбо святара-бернардзіна. У любым выпадку ганчар, які рабіў кафлю, і пячнік, які клаў печ, наўрад ці былі мясцовага (полацкага) паходжання: такога роду навацыі ў першай палове XVI ст. у Полацку яшчэ не былі засвоены на ўзроўні мясцовай рамеснай вытворчасці. Гэтыя майстры маглі быць запрошаны ў Полацк з гарадоў Ганзейскага саюзу, магчыма, з Рыгі. Геральдычная выява манаграмы Божай Маці на карнізнай кафлі з адкрытага пячнога набору з'яўляецца пакуль што самым раннім прыкладам выкарыстання "гербавай" кафлі ў Полацку [Дук, Салаўёў, 2007 е].

У любым выпадку, тэрыторыя для размяшчэння кляштара была абрана невыпадкова. На працягу стагоддзяў размяшчэнне культавых пабудоў у Полацку заўсёды адпавядала патрэбам палачан. Каталіцкі храм мог быць узведзены на месцы пражывання максімальнай колькасці вернікаў адпаведнай канфесіі.

Прыкладам гарадской сядзібы ў межах Запалоцкага пасада з'яўляецца інвентар нерухомай уласнасці Людвікі Караліны Радзівіл за 1685 г. Сядзіба была размешчана на вул. Вялікай і мела агароджу. Сядзібная брама знаходзілася з боку завулка, які спускаўся да р. Дзвіны. Брама мела вялікія вароты і меншую "форту". Дом быў драўляным, меў "белую палату" з каморай (кладоўкай) пры ёй, а таксама сенцы з яшчэ адной каморай. Печ у палаце была паліваная, комін патрабаваў рамонту. З мэблі ў палаце былі стол сталярнай работы, лавы дзве спорыя (вялікія) і дзве малыя, шафа. Камора складалася з вялікай лавы, гаспадарчай чорнай печы, але з выведзеным комінам. Вокны дома былі "шкляныя ў дрэве зробленыя". Акно каморы выходзіла на вуліцу і мела дзве аканіцы на завесах. Усе чацвёра дзвярэй будынка былі таксама на завесах. Дзверы ў палаце мелі зашчапку, дзверы ў абодвух каморах былі забяспечаны ўнутранымі замкамі, а дзверы ў каморцы сенцаў мелі дадаткова яшчэ зашчапку. Камора ў сенцах была крыта дзевяццю апрацаванымі дошкамі, а рэшта – простымі дошкамі [Дзярновіч, 2009, с. 71 – 72].

За сенцамі з каморай знаходзіўся свіран з засекамі. Дзверы свірана мелі ўнутраны замок. У свіран можна было трапіць непасрэдна з каморы сенцаў, дзверы паміж імі былі на завесах. Пад свіранам знаходзіўся склеп (піўніца), у які вялі дзверы на завесах. За свіранам размяшчалася павець, крытая старымі драніцамі, за павеццю – старая лазня. Для захоўвання дроў мелася асобная пабудова – "сенцы". Двое дзвярэй у ім былі на бегунках. Пры сядзібе меўся агарод, які з боку вуліцы быў абнесены вастраколам, ці "астрогам". На падвор'і размяшчалася яшчэ адна жылая пабудова – "добрая палата" з чорнай печчу. Уваход у гэты будынак быў праз дзверы на завесах. Паміж гэтай пабудовай і брамай размяшчаўся "хлявок" без дзвярэй. За хлевам месціліся стайня і павець. Увесь комплекс быў пакрыты драніцамі, асобныя пабудовы мелі супольныя дахі. У цэлым сядзіба нагадвала фальварак і істотна адрознівалася ад вясковага вяночнага двара [Дзярновіч, 2009, с. 72].

Дзякуючы тэксту скаргі полацкага лаўніка Івана Аляксеевіча на мешчаніна "места запалоцкага" Аляксея Сотніка ад 10 лістапада 1656 г. стала магчыма высветліць уладкаванне агарода ў межах гарадскога пасада: "маючы огород сво*й* власны*й* вечысты*й* на Заполотю, на улицы Еглявинско*й* стоячы*й*, чверти пляца […], огорожаны*й* вколо заметом и ворота уставлены были, в котором огороде было засеено розные ярыны огородные, тоест борщъ, чоснок, шалвея, оли*й*, гвоздики, огурки, палве*й*, а всобливе сад яблонны*й*, было яблоне*й* садовых трыдцат, на которых то яблонех завше рок од ро-

ку овоцы он, жалуючы*й*, мел и пожытковал. А онъ, Алексей Сотник, невядоме зуфалства и своволенства своего в том огороде розобравшы праслы, диры почынившы, тые праслы на пожыток сво*й* от усего огорода вырил и извозил. А в осталну на тот огород вжо через него розобраны*й* насадяко и на тые засевки ярынные свини, кони, коровы, козы напустил, через которое кгвалтовное розебране невядоме огорода и напущене коне*й*, быдла, коз, свине*й*, тые яблоны садовые овоцовые в нивех обернули и тот сад увес усушыли, якож борщъ и розные золка с кореня повыкопано и в нивех обернено и згола дощенту розорыл. И тот будынок около огорода прасел трытцат пят разобрал и внивех обернул, через которое розебране огорода он, жалуючы, шкадует 30 талеров" [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 74 адв.].

З тэксту вынікае, што агарод быў схаваны за драўляным "замётам" у трыдцаць прасел, меў вароты. Агарод займаў адносна невялікую плошчу – чвэрць пляца, аднак на ім акрамя агародніны яшчэ вырошчвалася трыццать (!) садовых яблынь, якія і ўяўлялі асноўную каштоўнасць. Нават калі прыняць, што пляц меў максімальны памер каля 300 м$^2$, яго чвэрць будзе роўная 75 м$^2$. У такім выпадку садовыя дрэвы ў колькасці 30 штук былі нізкаҏослыя, што, дарэчы, і тлумачыць іх хуткае "выкараненне і ўсушэнне" быдлам.

Уяўляе цікавасць і пералік свойскай жывёлы, якую палачане трымалі ў горадзе (свінні, коні, каровы, козы), а таксама і той факт, што актыўна практыкаваўся звоз нерухомай маёмасці, у дадзеным выпадку "будынку" агароджы.

У XVII ст. на Запалоцкім пасадзе, акрамя царквы св. Духа, існавалі цэрквы Казьмы і Даміяна (згадваецца пад 1606, 1618 і 1708 гг.). У XIX ст. царква размяшчалася на месцы агарода, які належаў царкве св. Сафіі, на той час яна была цалкам разбурана [Сементовский, 1890, с. 131].

У справах, змешчаных у актавай кнізе 1656 – 1657 гг., сустракаюцца назвы вул. Вялікай, Еглявінскай, Зарэчнай, Выгоннай, Ярмолава завулка. Гэтыя вуліцы былі размешчаны ў межах запалоцкага паркана. За парканам размяшчаліся мясцовасці Селяўшчызна і Глушчыца. З усіх вуліц магчыма вызначыць месцапалажэнне вул. Вялікай (сучасная вул. Краснова). Яна з'яўлялася свайго роду працягам аднайменнай вуліцы Вялікага пасада, перасякала межы паркана і пераходзіла ў гасцінец. На гэтай вуліцы ў XVII ст. размяшчаліся сядзібы заможнага насельніцтва, вуліца была машчоная дрэвам [Дзярновіч, 2009; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, 1948, s. 538].

У актавай кнізе 1704 г. згадваецца Басціённы завулак, у кнізе 1779 г. – завулак Цыкуновы. Абодва завулкі размешчаны паміж вул. Вялікай і р. Дзвіной.

Забудова Запалоцкага пасада паводле плана 1707 г. не адлюстроўвае выяў цэркваў, хаця царква св. Казьмы і Даміана згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1708 г. З усіх вуліц на плане пазначаны дзве асноўныя: адна – вул. Вялікая – пракладзена паралельна р. Дзвіне, назву другой, якая пераходзіць у гасцінец, вызначыць цяжка (мал. 46).

У любым выпадку, на абодвух планах пачатку XVIII ст. на тэрыторыі Запалоцкага пасада шчыльная забудова не пазначаецца. Пад 1704 г. пасад згадваецца як "прадмесце места Полацкага Запалоцце" [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 2, арк. 3 адв.]. Пры гэтым наяўнасць абарончага рова колішняга паркана прысутнічае толькі на плане 1720-х гг.

### 6.3.3. Экіманскі пасад

Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі былога Экіманскага пасада былі праведзены ў 2009 г. і мелі на мэце вызначэнне часу ўтварэння культурнага пласта, зоны яго

распаўсюджвання і яго сутнасных характарыстык. Фактычна гэта былі першыя сістэмныя раскопкі ў Экімані. Разам з вынікамі археалагічнага нагляду ў папярэднія гады быў атрыманы значны фактaлагічны матэрыял, які дазваляе вызначыць ролю і месца Экімані ў сацыятапаграфічнай структуры Полацка.

У 2005 г. пракладалася траншэя пад вадаправод па вул. Набярэжнай. Звесткі пра стратыграфію культурнага пласта захаваліся ў палявым дзённіку А. А. Салаўёва, які праводзіў археалагічны нагляд. Так, культурны пласт дасягаў глыбіні 1,2 м (у сярэднім 1 м) і ўяўляў сабой аднародную зямлю цёмна-шэрага колеру. Практычна на ўсёй працягласці траншэі на глыбіні каля 1 м была выяўлена драўляная маставая з круглых бярвенняў дыяметрам каля 15 – 17 см, якая пачыналася ад вул. Садовай і вяла да разгалінавання з вул. Перамогі. Пад'ёмны матэрыял прадстаўлены пераважна фрагментамі керамічных вырабаў XVII – XVIII стст. Відавочна, што ўскрыты насціл вулічнай маставой паўтарае трасіроўку сённяшняй вуліцы, што сведчыць пра пераемнасць у размяшчэнні старажытнай і сучаснай забудовы на тэрыторыі старой часткі Экіманскага пасада.

У выніку археалагічных даследаванняў у 2009 г. быў вызначаны час утварэння культурнага пласта на тэрыторыі былога Экіманскага пасада (другая палова XV – XIX стст.) і тэрыторыя яго залягання (7 га). Артэфактаў, ранейшых за XV ст., археалагічна не выяўлена, за выключэннем крыжа-энкалпіёна XII ст. (мал. 47), знойдзенага на агародзе побач з былой Георгіеўскай царквой Н. С. Баравік (захоўваецца ў НПГКМЗ). Кавалкі г. зв. "слабаабпаленай плінфы", знойдзенай у 1976 г. П. А. Рапапортам падчас пошуку падмуркаў царквы св. Георгія, на самой справе аказаліся цэглай XVI ст.

Атрыманыя падчас раскопак даныя стала магчыма супаставіць з пісьмовымі крыніцамі па гісторыі Экіманскага пасада.

Назва "Экімань" паходзіць ад назвы храма Іаакіма і Ганны. Аналагічная карціна з паходжаннем назвы Якіманскай (Экіманскай, Акіманскай) вуліцы Пскова ад назвы манастырскага храма [Колосова, 2004, с. 51]. Экіманская царква згадваецца ў полацкай рэвізіі 1552 г. [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 22, 26].

У рэвізіі 1552 г. Экімань згадваецца як пасяленне з развітай тапаграфічнай структурай, уласна пасад. На тэрыторыі пасада было размешчана 269 двароў, і Экімань з'яўлялася другім па значнасці пасяленнем у тапаграфічнай структуры горада, саступаючы толькі Вялікаму пасаду (769 двароў). Такім чынам, з моманту заснавання пасялення (даныя археалогіі пра гэта ўпэўнена сведчаць) да сярэдзіны XVI ст. прайшло не больш за 50 – 80 гадоў. Гэта азначае, што засяленне дадзенай тэрыторыі магло адбыцца не інакш, як цэнтралізавана, і, відаць, працэс перасялення быў добра арганізаваны.

Што заставіла людзей перасяліцца ў Экімань? Адказ знаходзім у пісьмовых крыніцах. У маі і жніўні 1518 г. маскоўскія войскі ў чарговы раз спалілі Вялікі і Запалоцкі пасады і паркан (дагэтуль пасад выпальваўся ў 1508 і 1513 гг.) [Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 192 – 196]. Пасля гэтых падзей насельніцтва пасадаў, якое было пад уладай баяр і духавенства, вымушана было *пакінуць свае дворышчы ў горадзе і разысціся*. Месцы, куды яны разышліся, у крыніцах не пазначаецца, аднак ёсць усе падставы для сцвярджэння, што іх шлях быў накіраваны на левабярэжжа р. Дзвіны, а мяжа рассялення ахоплівала Экіманскі і Крыўцоў пасады (па-за межамі мястэчак Слабада і Востраў). Юрыдычная залежнасць гэтых людзей ад баярства адлюстравана ў тапонімах Экімані – Баяршчызна, вул. Баярская. Пазней, з канца XVI ст., насельніцтва Экімані заставалася пад юрыдыкай езуіцкага калегіума. Зручнае размяшчэнне Экіманскага пасада на левым беразе р. Дзвіны на значным аддаленні ад Верхняга замка (асноўнай мэты частых захопніцкіх паходаў на Полацк у XVI – XVII стст.) рабіла пасад вельмі прыцягальным для жыцця.

Пачатак гэтага перасялення таксама магчыма вызначыць дастаткова ўпэўнена. У прывілеі Полацку на магдэбургскае права 7 кастрычніка 1498 г. Аляксандра Ягелончыка вызначаны катэгорыі баярскіх, мяшчанскіх і “папоўскіх” людзей, якія “живут(ь) за Двиною, так и тые, *которые з другое стороны реки Двины и на острове мешкают(ь)”*. У тэксце другога прывілея на магдэбургскае права Жыгімонта Старога 27 жніўня 1509 г. (датуецца паводле Г. Л. Харашкевіч) называюцца “вси мещане, и чорные люди, и всякие закладни, так тые, которые мешкають в замъку, и около замъку, *так теж и тые за Двиною* и на всяких местъцох в мести нашом Полоцьком, за вл(а)д(ы)кою, и за игуменью, и за кн(я)зи и за бояры, и за игумены и за попы, на всих местцох ц(е)рк(о)в(н)ых и кн(я)зьских и бояръских” [Полоцкие грамоты, 1980, с. 57]. Такім чынам, у 1498 і 1509 гг. згадваюцца людзі, якія былі падначалены баярам і духавенству і пражывалі на тэрыторыі левабярэжнай часткі Полацка.

Многія з гэтых людзей як на Экіманскім, так і на Крыўцовым пасадах займаліся агародніцтвам і выпадалі з сістэмы сацыяльна-эканамічнага развіцця горада. Аналагічная сітуацыя з масавым перасяленнем жыхароў горада на прыгарадныя фальваркі напаткала многія беларускія гарады ў выніку войн XVI – XVII стст. Напрыклад, каралеўскія рэвізоры адзначалі катастрафічны стан Гародні ў выніку перасялення людзей на фальваркі ў 1680 г. [Гардзееў, 2008, с. 253 – 254].

Паводле рэвізіі 1552 г., на ўласных землях у Экімані жылі толькі два мешчаніны, на мяшчанскай зямлі – адзін, на шляхецкіх – чатырнаццаць, астатнія сяліліся на царкоўных землях [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 26].

У 1650-я гг. пасад меў разгалінаваную вулічную сетку. Тут размяшчаліся вул. Баярская, Віленская, Езеньская, а таксама мясцовасць Баяршчызна з вул. Вялікай. Да таго ж Экіманскі пасад меў уласны рынак. Назва вул. Віленскай сведчыць пра наяўнасць аднайменнай дарогі па-за межамі пасада. Пра аналагічную дарогу паведамляецца ў апісанні пахода Івана IV на Полацк 1563 г. “за Двиною же рекою на Виленскои дороге … против Якиманские слободы” [Лебедевская летопись, 1965, с. 306].

У 1774 г. на езуіцкім фальварку Экімані разам з Востравам размяшчаўся 121 дом з насельніцтвам 726 чалавек, мястэчка было размешчана ўздоўж р. Дзвіны на дзве мілі, а ўшыр на адну мілю “а месцамі болей ці меней”, і “ляжыць тое мястэчка ад слабады Бельчыцкай у 1/4 мілі”. У Экімані былі чатыры карчмы – Пятніцкая, Хоцевічская і Палюдавічская [Lustrator Połocki…, 1774, с. 2 – 3, 24 – 25]. Чацвёртая карчма была прыватная, альбо вольная [Сяргеенка, 2003, с. 55].

Паводле “Люстрацыі 1774 г.”, Экімань з’яўлялася полацкім мястэчкам (такі ж статус меў і Востраў), але разглядаецца разам з дзевяццю фальваркамі полацкіх езуітаў [Lustrator Połocki…, 1774, с. 2]. Экіманскія мяшчане былі прыпісаны да езуіцкага калегіума.

З даных пісьмовых крыніц XVII – XVIII стст. вядома, што на тэрыторыі Экіманскага пасада размяшчаліся касцёл і царква. Так, у 1646 г. мітрапаліт Антоній Сялява прызначыў настаяцелем царквы св. Георгія *за горадам* Васілія Нікіфаровіча [Витебская старина, 1888, с. 208 – 209]. На тэрыторыі Экіманскага пасада размяшчаўся “драўляны касцёл без рэзідэнцыі для ксяндза”, была і прыходская царква з вялікім заезджым домам. Гэты дом меў “пакой” і мураваныя склепы, каля дома размяшчаліся “спустошаныя” стадолы з прычыны ўтрымання ў іх расійскага лазарэту. Адзначаецца, што Экімань “пры абразцовай расійскага салдата абыходжанні прыйшло да цалкам мізэрнага стану” і ў параўнанні з іншымі фальваркамі была не самай густанаселенай і прыбытковай [Сяргеенка, 2003, с. 55; Lustrator Połocki…, 1774, с. 3].

У пісьмовых крыніцах не пазначаюцца назвы касцёла і цэркваў XVII – XVIII стст. Сучасныя насельнікі в. Экімань не памятаюць назву царквы, якая была напалову разбурана падчас баявых дзеянняў 1944 г. У “Даведцы аддзела аховы помнікаў архітэктуры ўпраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР аб разбурэнні і рабаванні гітлераўскімі акупантамі гістарычных помнікаў архітэктуры на тэрыторыі Беларусі ў 1941 – 44 гг.” экіманскі храм згадваецца як “выстроенный в 1737 г. и являющийся древнейшим деревянным сооружением города” [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 488]. П. А. Рапапорт у справаздачы аб археалагічных даследаваннях згадвае Георгіеўскую царкву, каля якой ён і праводзіў даследаванні [Раппопорт, спр. № 527, с. 24].

З тэксту копіі інвентара Экіманскай праваслаўнай царквы, зробленай Вікенціем Мяніцкім у пачатку XX ст., вынікае, што царква ў мястэчку Экіманія мела назву ў гонар св. Георгія. У 1853 г. гэтая царква была перабудавана[37] з каталіцкага касцёла, узведзенага ў 1736 г. [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114]. Гэты касцёл, відаць, быў пабудаваны на месцы аднайменнай уніяцкай царквы, згаданай у дакуменце 1646 г. і, магчыма, разбуранай падчас вайны 1654 – 1667 гг.

Царква ўяўляла сабой крыжова-купальны драўляны храм на каменным падмурку з адным купалам і званніцай. Пабудавана ў візантыйскім стылі, дах крыты гонтам [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114]. У царкве над царскімі варотамі знаходзіўся абраз Казанскай Божай Маці, які шанаваўся мясцовымі жыхарамі як цудадзейны. Абраз утрымліваў надпіс “Образъ Казанскія Божія Матери, 1637 года, октября 29 дня”. У царкве размяшчаліся на правай сцяне абраз св. Георгія, на левай – св. Мікалая, абодва зроблены “ў вялікіх памерах, са срэбранымі шатамі, старажытнага малявання” [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114]. На жаль, высветліць час стварэння дадзенага інвентара цяжка. Паводле другога інвентара за 1854 г., над царскімі варотамі Георгіеўскай царквы ў трэцім радзе іканастаса размяшчаліся абразы Дабравешчання, справа ад яго – абраз Грамніцы (Стрэчанне), злева – абраз Дабравешчанне [Ярошевич, 2009 б, с. 234]. Два абразы з гэтай царквы – Грамніцы і Узнясенне – сёння захоўваюцца ў фондах НПГКМЗ.

У копіі інвентара, зробленага Вікенціем Мяніцкім, згадваецца таксама старажытная ўніяцкая царква св. Мікалая, якая знаходзілася непадалёк ад царквы св. Георгія і была зруйнавана ў сярэдзіне XIX ст. Царква мела 4 званы, два вялікія адліты ў 1776 і 1881 гг., два малыя не датаваны і былі без надпісаў. Звон, адліты ў 1776 г., утрымліваў два надпісы: “Me fecit Johann August hetzel anno 1766 in Riga” і “Roku 1766 ten dzwon odlowani z bractwa do cerkwi Ekimanskiey Swientego Mikolaia” [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114]. Гэты звон відавочна паходзіў з былой уніяцкай царквы св. Мікалая і быў адліты за сродкі экіманскага мікалаеўскага брацтва.

Да парафіі Мікалаеўскай царквы належалі шматлікія прыходы, частка якіх у 1778 г. была аддадзена полацкай Барысаглебскай (у тэксце інвентара памылкова вызначана “Багаяўленскай”) царкве на Кабаку [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 114, 114 адв.].

Паводле плана Полацка 1707 г., Экіманскі пасад мае вулічную сетку, аналагічную сучаснай трасіроўцы вуліц (мал. 48). Віленская вуліца праходзіла паралельна ручаю і вяла на поўдзень каля царквы св. Мікалая. На месцы Георгіеўскай царквы на плане размешчаны вялікі доўгі дом, згаданы ў люстрацыі 1774 г. Самой Георгіеўскай царквы на плане няма, паколькі яна ў той час была зруйнавана, а адбудавана ў 1736 г. як касцёл. На плане добра бачны перавоз па р. Дзвіне, які вёў уздоўж Вострава да Верхняга замка.

[37] Перабудова адбылася за кошт пецярбургскага купца Кудрашова.

Падчас археалагічных даследаванняў у 2000 і 2009 гг. былі выяўлены падмуркі і цвінтар царквы. Падмуркі складаліся з цэглы на вапнавай рошчыне, памер цэглы набліжаны да памеру плінфы і складае 31×15×4,5 см. Падмуркі і цвінтар належалі драўлянай уніяцкай царкве св. Мікалая, якая была разбурана ў сярэдзіне XIX ст. Час яе будаўніцтва застаецца нявысветленым, аднак можна меркаваць, што яно адбылося пасля Інфлянцкай вайны, магчыма, на падмурку царквы св. Іаакіма і Ганны. Царква св. Георгія, згаданая ў пісьмовых крыніцах сярэдзіны XVII ст., перабудаваная ў 1736 г. у касцёл, а ў 1863 г. у праваслаўную царкву, праіснавала да 1944 г.

Кафля з выявай манаграмы полацкага архіепіскапа і ўніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы знойдзена каля былой царквы св. Георгія ў адзінкавым экземпляры ўяўляе вялікую цікавасць (мал. 49). Выява манаграмы (лацінскія літары “A” і “S”) змешчана ў полі вянка. Рамка зялёнапаліванай кафлі з адным уступам, што сведчыць пра час яе вырабу ў межах другой чвэрці – сярэдзіны XVII стст. (вядома, што Антоній Сялява памёр у 1655 г.). Рэзідэнцыя полацкага архіепіскапа размяшчалася на Верхнім замку, таму кафля з выявай манаграмы належала прызначанаму Сялявай у 1646 г. настаяцелю храма св. Георгія Васілію Нікіфаровічу.

Такім чынам, Экіманскі пасад утварыўся ў пачатку XVI ст. за кошт перасяленцаў з Вялікага і Запалоцкага пасадаў Полацка. Гэта пацвярджаюць археалагічныя даныя і звесткі пісьмовых крыніц. З канца XVI ст. Экімань з’яўляецца найбуйнейшай юрыдыкай езуітаў, згаданай у люстрацыі 1774 г. як фальварак. Экіманскі пасад меў разгалінаваную вулічную сетку, уласны рынак, элементы гарадской інфраструктуры і адыгрываў важную ролю ў сацыяльна-эканамічным развіцці Полацка XVI – XVIII стст. У гады падначалення Полацка цару Аляксею Міхайлавічу магістрат клапаціўся аб належным стане інфраструктуры экіманскага пасада нароўні з іншымі, пра што сведчаць адпаведныя запісы: “абы пляцы и кгрунты порожные впусте не лежали и штобы тот посад Екиманский … в будынок розшыралсе” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 77].

### 6.3.4. Крыўцоў пасад

Крыўцоў пасад фарміраваўся на працягу другой паловы XV – XVII стст. У 1552 г. буйнейшымі тэрытарыяльнымі адзінкамі на левабярэжжы р. Дзвіны з’яўляліся “пасады” Востраўскі, Слабадскі і Крыўцоў. Сумарная колькасць двароў трох левабярэжных пасадаў складала 284 (103 двара размяшчалася на Слабадскім пасадзе, 30 – на Крыўцовым, 151 – на Востраўскім). Слабая заселенасць Крыўцовага пасада ў сярэдзіне XVI ст. сведчыць пра адсутнасць на ім разгалінаванай інфраструктуры, людзі сяліліся на беразе р. Дзвіны, на ўзвышшы надпоймавай тэрасы, паводле запісаў у актавых кнігах “на вянцу р. Дзвіны”. Гісторыя Крыўцовага пасада ў сярэдзіне XVI ст. налічвала крыху больш за 50 гадоў, у той час калі Слабада і Востраў паводле археалагічных даных былі заселены з XI ст. Крыўцоў пасад у XVI ст. быў размешчаны паміж Востраўскім і Слабадскім пасадамі.

Насельніцтва Слабадскога пасада паводле “Рэвізіі 1552 г.” складала 103 мешчаніны. З іх 51 мешчанін пражываў на землях манастыра Барыса і Глеба, на землях княгіні Ілліной-Астроўскай – 30, на землях полацкага зямяніна Сямёна Ульскага – 22 [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 27].

Культурны пласт на тэрыторыі Крыўцовага пасада размешчаны ўздоўж р. Дзвіны паласой, шырынёй каля 150 м. Плошча Крыўцовага пасада разам са Старой Слабадой і Вастравам складае 22 га.

Слабада і Востраў у XVII – XVIII стст. з’яўляліся часткамі Крыўцовага пасада. На Востраве ў 1582 г. па-ранейшаму размяшчаўся манастыр св. Іаана Прадцечы [Витебская старина, 1888, с. 73]. Згадка пра Храм Іаана Прадцечы засведчана ў рэвізіі 1618 г., пасля гэтага часу звесткі пра храм адсутнічаюць.

У XVII ст. на Крыўцовым пасадзе размяшчаліся мясцовасці Востраў, Кабак, Старая і Новая Слабоды. З адміністрацыйна-прававога пункту погляду яны з’яўляліся тэрытарыяльнымі адзінкамі ў складзе Крыўцовага пасада і ў 1622 – 1623 гг. былі перададзены пад юрысдыкцыю полацкага магістрата.

Забудова Крыўцовага пасада ў XVI – XVII стст. у агульных рысах не адрознівалася ад аналагічнай на Вялікім і Запалоцкім пасадах. У адпаведнасці з агульнымі тэндэнцыямі развіцця грамадзянскага дойлідства, забудова манастыра Барыса і Глеба ў слабадзе Крыўцовага пасада ў 1563 г. была драўлянай. На тэрыторыі манастыра былі размешчаны келлі, якія былі спалены да падыходу маскоўскіх войскаў, ад усёй драўлянай забудовы засталася адна “братъская пеколня”. Гэтая “пеколня” мела сені, у ёй размясціўся на начлег Іван IV [Лебедевская летопись, 1965, с. 308].

Верагодна, да часу падыходу маскоўскіх войск плошча забудовы Востраўскага пасада была значна паменшана аналагічна тэндэнцыям развіцця Вялікага пасада. Пра гэта сведчыць паведамленне Лебедзеўскага летапісу аб тым, што цар загадаў “стрелцы стати и закопатися у Двины реки в березех и на острову” [Лебедевская летопись, 1965, с. 308]. Згаданыя “бярозы” маглі размяшчацца на ўсход ад Вострава насупраць Вялікага пасада. У рэвізіі полацкага павета 1563 г. і на самім Востраве згадваюцца ворыўныя землі: “Архиепископу Антонию отмерено и старою пашнею, что на Острове ...” [РГАДА, ф. 389, оп. 1, д. 573, л. 383].

Паводле плана С. Пахалавіцкага 1579 г. (мал. 50), забудова на Востраве адсутнічае, на плане Полацка 1707 г. яна вельмі нешматлікая, а на планах канца XVIII ст. забудовы на Востраве ўвогуле няма.

Пратэстацыя Кузьмы Пестуна аб крадзяжы з яго дома ад 20 сакавіка 1657 г. ілюструе інтэр’ер мяшчанскага дома на Востраве: “нетъ ведома хто злодейским способом в ночы зъ суботы на неделю вшодшы в дом его на острове стоячы*й* и одбившы защепъ ку до истобке и през верхъ добывшысе в сени взял и украл наперве*й* коробки две в которых было розных хустъ белых немало, а меновите кашуль белокглавских осмъ музких две, обрусы два, наметки кужельные тры, да чужых рече*й* през Матюша Михайловича положоных взяли опончу новую, козлинъ выпраных тры, ту вапню, до того в сенях взяли сермягу его Пестуна власную белую” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 279 адв., спр. 454].

Паводле скаргі мешчаніна Афанаса Іванавіча Балоты ад 18 верасня 1656 г. у “дварэ” на Крыўцовым пасадзе знаходзіліся “стол в ызбе и розное начыне деревеное до мешканья […] начыне домовое то*й* стол светличны*й* коштовал золотых тры, кади бочки, а пры том и тое право на стол” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, спр. 40, арк. 23].

Найбольш інфарматыўнай у рэканструкцыі асаблівасцяў гарадской тапаграфіі Крыўцовага пасада Полацка з’яўляецца актавая кніга 1656 – 1657 гг. Пры гэтым прааналізаваныя актавыя кнігі XVIII ст. не фіксуюць здзелак аб куплі-продажы дамоў ці агародаў на левабярэжным пасадзе, а таксама не прадстаўляюць іншых звестак пра нерухомасць гэтай часткі Полацка. Магчыма, гэта з’яўляецца прамым сведчаннем маргіналізацыі левабярэжных пасадаў Полацка, паколькі ў актавых кнігах змяшчаюцца маёмасныя справы пераважна заможнай часткі мяшчанства, уладальнікаў нерухомасці.

Так, паводле кніг за 1650, 1656 – 1657 гг., Востраў меў вул. Праезджую, тут жа быў размешчаны перавоз ад р. Дзвіны. На мясцовасці Кабак размяшчалася вул. Пра-

бойная (па накірунку ад царквы Барыса і Глеба да перавозу ад р. Дзвіны). Адпаведна мясцовасць Кабак размяшчалася на левым беразе р. Бельчыцы ад царквы Барыса і Глеба да перавозу з боку р. Дзвіны. За гэтай часткай у другой палове XVII ст. замацавалася назва "Новая Слабада", размешчаная "за *ракой Бельчанкай* на беразе *ракі Дзвіны і* далей уздоўж *вуліцы* на поўдзень *у гару да царквы Барыса і Глеба*". Прамое атаясамленне гэтых назваў – Кабак / Новая Слабада – пазначана ў полацкім вопісе 1774 г. [Lustrator Połocki…, 1774]. Новая Слабада (Кабак) лакалізавана пры вусці левага берага р. Бельчыцы, на "вянцу" і адлюстравана на плане 1707 г. разам з перавозам (мал. 51). Старая Слабада (Бельчыцкая) размешчана па вул. Вялікай, якая вядзе ад Кабака да царквы Барыса і Глеба. Такім чынам, Старая Слабада – гэта мясцовасць, якая размешчана на правым беразе р. Бельчыцы.

Вельмі важным для разумення развіцця Барысаглебскага манастыра ў 1660-я гг. падаецца той факт, што ў пісьмовых крыніцах нідзе не фігуруюць назвы манастырскіх цэркваў, акрамя царквы Барыса і Глеба. Магчыма, пад найменнем "царква Барыса і Глеба" разумеўся ўвесь манастыр, паколькі як варыянт назвы ў актавай кнізе зафіксаваны тэрмін "*Барысаглеб*". Аднак у грамаце ад 25 чэрвеня 1511 г. Бельчыцкі манастыр двойчы называўся адначасова Багародзіцкім і Барысаглебскім: "записал тую землю со всим к манастыру на Бельчицы Пречистое Богоматеры и святым мучеником Борысу и Глебу" [Полоцкие грамоты, 1980, с. 77]. Верагодна, у дадзеным запісе гаворка ідзе пра т. зв. Вялікі (безымянны) сабор XII ст. пад назвай Прачыстай Багамацеры. Гэты сабор размяшчаўся на тэрыторыі манастыра і быў часткова археалагічна даследаваны ў XIX – XX стст. [Селицкий, 1992, с. 34]. У грамаце ад 20 снежня 1497 г. згадваецца двор з агародам каля царквы Прачыстай Багамацеры, размешчанай паблізу двара ігумена [Полоцкие грамоты, 1978, с. 148][38]. Аднак у рэвізіі 1618 г. згадваецца "новаадбудаваная" драўляная Прачысценская царква. Яна знаходзілася побач з мураванымі напалову разбуранымі (без дахаў) цэрквамі Барысаглебскай і Пятніцкай [ИЮМ, 1871, с. 321 – 323]. Што разумець пад тэрмінам "новаадбудаваная" – рамонт храма ці яго ўзвядзенне – магчыма высветліць толькі пасля дэтальных археалагічных раскопак. Улічваючы сацыяльна-эканамічныя рэаліі таго часу, папярэдне магчыма вызначыць усё ж такі рамонт ужо існаваўшай царквы. Да таго ж цэркваў, узведзеных у XVII ст., на тэрыторыі манастыра, паводле археалагічных даных, не было.

На астатняй, асноўнай частцы Крыўцовага пасада, "над ручаём", на захад ад Слабод да Вострава, размяшчаліся Чортаў завулак "на гары", каля яго пралягала вул. Чортавая, апошняя – насупраць царквы св. Міколы (упершыню згадана пад 1552 г. у "месте" [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 9, 22, 25]). Гэтая царква св. Міколы была размешчана на гары (надпоймавая тэраса), праз рад забудовы ад р. Дзвіны.

Размяшчэнне царквы св. Міколы каля вул. Чортавай выглядае далёка не выпадковым, калі ўлічыць факт суаднясення культа св. Міколы і Вялеса, які ў народных уяўленнях мае розныя іпастасі, у т. л. "нячыстага", "чорта" [Успенский, 1982, с. 87].

На плане 1707 г. на тэрыторыі Крыўцовага пасада адлюстравана выява царквы на вянцы р. Дзвіны (мал. 51). Драўляны бернардзінскі кляштар, узведзены ў 1696 г., размяшчаўся на правым беразе Крыўцовага ручая, і яго выява адсутнічае на гэтым плане (мал. 51). Аднак бернардзінскі кляштар нанесены на копію плана 1707 г. (ня-

---

[38] Варта нагадаць, што ў той час у Полацку вядомы дзве царквы Прачыстай Багамацеры – на Верхнім замку і на тэрыторыі манастыра. Царква на Замку фігуруе пад назвай "Багародзіцкая". Прыведзенае паведамленне пазначае менавіта царкву ў Бельчыцы, паколькі яна размяшчалася пры двары ігумена – настаяцеля манастыра.

правільнае вызначэнне яго ў тлумачальным запісе агаворвалася вышэй) (мал. 52). Такім чынам, на арыгінальным плане 1707 г. адлюстравана выява царквы св. Міколы.

На правым беразе р. Бельчыца паводле плана 1707 г. забудова адсутнічае за выключэннем царквы св. Барыса і Глеба аднайменнага манастыра. Тым не менш, забудова дадзенай правабярэжнай часткі р. Бельчыцы пад назвай Старая Слабада ў гэты час існавала, пра што яскрава сведчаць вынікі археалагічных раскопак.

Так, у 2009 г. найбольш ранняя па храналогіі група артэфактаў выяўлена падчас раскопак у Старой Слабадзе на правым беразе р. Бельчыцы. У раскопе 1 знойдзена венца ляпнога, загладжанага на ганчарным крузе гаршка, якое датуецца X – пачаткам XI стст. (мал. 53). Аналагічная кераміка добра вядома ў Полацку, яна знойдзена на полацкім гарадзішчы і вакольным горадзе.

У тым жа раскопе знойдзена чорная шкляная пацерка з чатырнаццаціграннымі зрэзанымі вугламі (мал. 53), якая паводле курганных пахаванняў датуецца X – XI стст. [Фехнер, 1959, с. 168, рис. 5]. Падобныя пацеркі былі характэрны ў асноўным для сельскага насельніцтва Старажытнай Русі.

Гэтыя два артэфакты сведчаць пра магчымы час засялення Старой Слабады ў X ст.

Астатняя кераміка – гэта ганчарны посуд XI – XIII стст. і XIV – XVIII стст. Кераміка XI – XIII стст. прадстаўлена пераважна выразнымі S-падобнымі па профілю венцамі гаршкоў, шырока вядомымі ў Полацку ў гэты час. Кераміка XIV – XV стст. нешматлікая, сярод керамікі XVI – XVIII стст. вылучаюцца фрагменты місак, венцы гаршкоў.

На тэрыторыі Крыўцовага пасада па-за межамі Старой Слабады знойдзена кераміка, тыповая для XVI – XVIII стст., у т. л. кафля.

Такім чынам, найбольш раннія храналагічныя групы знаходак X – XIV стст. былі выяўлены на тэрыторыі Старой Слабады. У выніку стала магчыма вызначыць паходжанне тапоніма “Слабада” ад тэрміну “слабодка” – сельскагаспадарчае прадмесце Полацка. Старая Слабада размешчана ў зручным месцы пры ўпадзенні р. Бельчыцы ў Дзвіну, праз яе праходзіў шлях на Менск і Кіеў. Каля гэтай слабодкі ў XII ст. быў заснаваны Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр. Пэўная аўтаномія дадзенай тэрыторыі засведчана ў рэвізіі 1552 г., якая вызначае гэтае пасяленне ўжо як полацкі пасад. У XVII – XVIII стст. тапонімы “Старая Слабада” і “Новая Слабада” вызначаюць ужо толькі тэрытарыяльныя часткі Крыўцовага пасада.

На Крыўцовым пасадзе (на захад ад вусця Бельчыцы да Вострава) знаходкі прадстаўлены керамікай і рэчамі XV – XVIII стст. Аднак, згодна з данымі пісьмовых крыніц, засяленне дадзенай часткі адбылося не раней за мяжу XV – XVI стст. Гэта сведчыць пра сінхроннасць засялення тэрыторыі Крыўцовага пасада і Экімані і аднолькавыя прычыны, якія прывялі да такой маштабнай з’явы.

Сярод гэтых прычын назавём дзве асноўныя: скарачэнне і заняпад асноўнай пасадскай тэрыторыі на правым беразе Полацка ў выніку частых ваенных дзеянняў першай паловы XVI ст. і змена юрыдычнага статуса пасадскага насельніцтва ў сувязі з распаўсюджаннем магдэбургскага права (пасля 1498 г.). У выніку частка насельніцтва, якое сядзела на землях баяр і духавенства, была вымушана перасяліцца на левы бераг р. Дзвіны. Гэты тэзіс добра ілюструе полацкая рэвізія 1552 г., паводле якой на Крыўцовым пасадзе было размешчана 30 двароў, якія належалі Васілею Карценю, якія “з местом тягнуть, а ему позма з них две копе и сорок осмъ гршей прыходить” [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 148].

У заключэнне нельга не засяродзіць увагу на існаванні сельскагаспадарчых прадмесцяў Полацка, вядомых з пісьмовых крыніц XIV – XVIII стст. Асноўныя з іх –

гэта “сяльцо” Прасмужкі з ворыўнымі землямі і сенажацямі на ўсход ад Вялікага пасада за валатоўкамі (згадваецца ў XIV – XVIII стст. [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 17, арк. 51 – 51 адв.; Полоцкие грамоты, 1977, с. 86; Полоцкие грамоты, 1978, с. 143]), манастыр св. Мікалая на Лучне на месцы сучаснай вёскі Ропна на 5 км уніз па р. Дзвіне, каля якога, верагодна, існавала слабада (манастыр згадваецца ў акце аб продажы зямлі полацкаму архіепіскапу Іоне пад 1487 г. як размешчаны *ў Полацку* [Mienicki, 1931, s. 9]), фальваркі XVII – XVIII стст. існавалі на тэрыторыі сучаснага мікрараёна Полацка “Аэрадром” (на паўночны ўсход ад Запалоцкага пасада) [Дук, 2007 ж, с. 31].

Падводзячы вынік, вылучым агульныя моманты ў развіцці сацыятапаграфічнай структуры ўсіх полацкіх пасадаў. Так, вуліцы з назвай “Вялікая” у XVII – XVIII стст. размяшчаліся на Вялікім, Запалоцкім, Крыўцовым і Экіманскім пасадах. Аналагічная “падвойная” назва – “вуліца Прабойная” – зафіксавана на Вялікім і Крыўцовым пасадах.

Гарадскі набілітэт сяліўся пераважна ў межах цэнтральнай часткі Вялікага пасада (ад вул. Вялікай да вул. Азаравай), у Запалоцці – на вул. Вялікай. Назва мясцовасці “Баяршчызна” і наяўнасць вул. Баярскай сведчыць аб пражыванні на Экіманскім пасадзе прадстаўнікоў сацыяльнай эліты.

Сядзібы яўрэяў у XVII ст. пазначаны выключна на вул. Вялікай аднайменнага пасаду, на адрэзку паміж Багаяўленскай царквой і парканам. У XVIII ст. яўрэі мелі ўласныя пляцы на вул. Невельскай, Бацечкавай, па-за межамі былога паркана на вул. Вялікай. План Полацка 1910 г., дарэчы, пазначае вул. Яўрэйскую адразу за парканам.

Такім чынам, Вялікі і Запалоцкі пасады Полацка ў XVI – XVIII стст. былі падзелены вуліцамі, якія размяшчаліся адна ад другой прыкладна на аднолькавай адлегласці. Найбольш шчыльная вулічная трасіроўка Вялікага пасада зафіксавана па накірунку захад-усход (ад Верхняга і Ніжняга замкаў у бок паркана). Прастора паміж гэтымі вуліцамі была роўная двум гарадскім пляцам. Археалагічна вызначана, што адзін гарадскі пляц ва ўсходняй частцы Верхняга замка ў XVI – XVIII стст. займаў тэрыторыю каля 100 – 160 м$^2$ [Дук, 2007 ж, с. 242]. Такая ж плошча пляцаў тут існавала з XII ст., калі гэтая тэрыторыя яшчэ была пасадскай. У XVI ст. плошча некаторых пляцаў на вул. Вялікай магла дасягаць 300 м$^2$ (мал. 54). Гэта дастаткова вялікія памеры, калі ўзгадаць, што плошча пляцаў магдэбургскай Гародні складала ў сярэднім ад 23,7 – 35,5 м$^2$ да 47,4 – 59,25 м$^2$ [Гардзееў, 2008, с. 106]. На пасадскай тэрыторыі Полацка ў 1553 г. згадваюцца невялікія пляцы ў 1 прут (прут ці прэнт роўны 4,87 м) з агародам пры ім у 2 пруты [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр 3, арк. 276]. Сумарная плошча такога пляца складае 58,44 м$^2$.

Вуліцы адна ад другой маглі размяшчацца на адлегласці каля 20 – 50 м. Гэтая больш шчыльная ў параўнанні з сучаснай трасіроўка вуліц гістарычнага цэнтра Полацка адпавядала патрэбам гарадской забудовы, якая ў асноўным была аднапавярховай і драўлянай. Тапаграфічныя апісанні аб’ектаў нерухомасці сведчаць, што большасць пляцаў размяшчаліся радамі ўздоўж вуліц ці на “венцах” рэк Дзвіна, Палата, Бельчыца. Як правіла, тыльным бокам пляцы межавалі з суседнім радам забудовы другой вуліцы.

Напрыканцы XVIII – пачатку XIX стст. адбываецца значная перапланіроўка горада. У выніку гэтай перапланіроўкі частка вуліц была ліквідавана. Напрыклад, назва вул. Вазнясенскай была перанесена на іншую вуліцу. На плане 1910 г. гэтая вуліца была размешчана ў мерыдыяльным напрамку. З’явілася вул. Рыжская, якая стала выконваць функцыі былой Прабойнай, г. зн. звязвала мастом праз р. Палату і роў цэнтральную частку горада з яго паўночнымі ўскраінамі.

Такім чынам, паводле даных пісьмовых і археалагічных крыніц можна ўпэўнена сцвярджаць, што ў XVII ст. у Полацку існавала разгалінавая сістэма вулічнай планіроў-

кі, асноўныя рысы якой магчыма прасачыць з XII ст. Назвы асноўных вуліц полацкіх пасадаў з’яўляюцца вельмі ўстойлівымі на працягу XVII – XVIII стст. (рэтраспектыўна па назвах вул. Вялікай і Іллінскай тое ж можна адзначыць і для XVI ст.). Значная перапланіроўка вулічнай сеткі адбылася не раней за пачатак XIX ст., што адпавядала патрэбам масавага мураванага грамадзянскага будаўніцтва і новым гістарычным рэаліям развіцця Полацка.

### 6.4. Абарончыя ўмацаванні полацкіх пасадаў XI – XVIII стст.

Абарончыя ўмацаванні Верхняга і Ніжняга замкаў, Вялікага і Запалоцкага пасадаў Полацка з’яўляліся прадметам гісторыка-археалагічнага даследавання [Даўгяла, 1928; Тарасаў, 1998 б]. Акцэнт у даследаваннях быў зроблены менавіта на характарыстыцы замкавых умацаванняў. Тым не менш, Полацк здаўна вылучаўся сваімі магутнымі пасадскімі ўмацаваннямі, што з’яўляецца яго яскравай адметнасцю. Назапашванне новых археалагічных даных і аналіз пісьмовых крыніц дазваляе па-новаму разглядзець этапы існавання і канструкцыйныя асаблівасці пасадскіх фартэцый.

Першыя даныя пра наяўнасць абарончых умацаванняў пасада атрыманы падчас археалагічных раскопак 1987 – 1988 гг. на плошчы Свабоды [Тарасаў, 1998 б, с. 53]. Выяўлены фрагмент сцяны даўжынёй каля 24 м. У 2002 г. намі быў адкрыты працяг гэтай жа сцяны ў паўднёвым дворыку былога езуіцкага калегіума. Канструкцыя гэтай сцяны падрабязна апісана ў спецыяльных працах [Дук, Тарасаў, 2005; Тарасаў, 1998 б]. Усяго былі ўскрыты два ўчасткі сцяны. Адзін – з усходняга боку (раён сучаснай плошчы Свабоды). Тут сцяна была зроблена ў перакладной (руставай) тэхніцы з выкарыстаннем масіўных камянёў каля падножжа і драўляных канструкцый-гародняў. Другі – з паўднёвага боку, дзе зафіксаваны выключна драўляныя гародні. Намі было выказана меркаванне, што гэтая сцяна з’яўляецца самым раннім узорам фартыфікацыі Вялікага пасада сярэдзіны XI ст. Яна агароджвала ўчастак старажытнага Полацка на поўдзень ад гарадзішча і на ўсход ад р. Палаты, памеры гэтай тэрыторыі складалі каля 12 га [Дук, Тарасаў, 2005].

Час пабудовы сцяны не выклікае сумненняў – гэта XI ст. Аднак у святле новых даных аб вялізарных памерах Запалоцкага пасада ў XI ст. (каля 40 га) становіцца зразумелым, што адкрытыя фрагменты ўмацаванняў сярэдзіны XI ст. не мелі дачынення да Вялікага пасада, які на той час толькі фарміраваўся. Сама назва “Вялікі” магла з’явіцца не раней за XIII ст., калі Запалоцкі пасад значна скараціўся ў памерах. Такім чынам, разглядаемая сцяна пасада XI ст. – гэта сцяна *вакольнага горада* Полацка. Адпаведна яна і вызначае яго плошчу.

Наяўнасць у Полацку XI ст. сістэмы магутных абарончых умацаванняў пацвярджаюць дзве скандынаўскія сагі: “Дзеянні датчан” (мяжа XII – XIII стст.) і “Сага аб Тыдрыку Бернскім” (каля 1250 г.). Апошняя ўтрымлівае апісанне канструкцыі крапасных сцен: “горад гэты так умацаваны, што яны наўрад ці цяпер ведаюць, як яны здолеюць узяць гэты горад. Там моцная каменная сцяна і высокія вежы. Равы шырокія і глыбокія, і ў горадзе было вялікае войска, каб абараняць гэты горад” [Джаксон, 2001, с. 133]. Прыведзеная цытата не з’яўляецца гістарычна дакладным апісаннем, аднак сам факт, што Полацк – адзіны горад з дванаццаці вядомых скандынавам гарадоў Старажытнай Русі, у якім згадваюцца крапасныя ўмацаванні, падаецца вельмі значным [Джаксон, 2001, с. 133]. І ёсць усе падставы для сцвярджэння, што апісаныя канструкцыі крапасных сценаў маюць прамое дачыненне да вакольнага горада.

Абарончыя ўмацаванні Запалоцкага пасада XI ст. былі даследаваны С. В. Тарасавым у 1986 г. у паўночна-заходняй частцы і Д. У. Дукам у паўднёва-заходняй частцы Запалоцкага пасада [Дук, 2006 в; Тарасаў, 1998 б, с. 59 – 60].

Канструкцыя абарончых сцен у паўднёва-заходняй частцы Запалоцкага пасада складалася з рада вастракола з бярвенняў дыяметрам 0,15 – 0,2 м. Са знешняга боку ад сцяны на аддаленасці 0,4 м пакладзены лагі дыяметрам 0,2 м. Лагі, верагодна, выкарыстоўваліся як унутрывальная канструкцыя. Абарончая сцяна праходзіла ўздоўж р. Дзвіны на адлегласці 23 м ад абрыва берагавой лініі. Даных аб характары ўмацаванняў пасада ў паўночна-заходняй частцы няшмат, адзначаецца толькі "існаванне наземных збудаванняў (хутчэй за ўсё жылых)" [Тарасаў, 1998 б, с. 60]. Паводле С. В. Тарасава, на другім этапе (XIII – пачатак XIV стст.) узводзіцца падвойны тын, выкопваецца роў. У XIV – XVI стст. каля падножжа сцен з'яўляецца каменная брукаванка.

У пачатку XVI ст. у Полацку склалася канфліктная сітуацыя паміж мяшчанамі і феадаламі (баярствам і духавенствам) на прадмет замкавай павіннасці. Сутнасць канфлікта палягала ў тым, што, па меркаванні полацкага ўладыкі і баяр, работы па падсыпцы замкавай гары і ўзнаўлення яе драўляных сцен з'яўляліся абавязкам толькі тых залежных ад іх людзей, якія сядзелі на землях баярскіх у "месце". Мяшчане, якія падпарадкоўваліся гарадскому магістрату, патрабавалі, каб работы па ўмацаванню замка ўскладаліся на баярскіх і царкоўных людзей з фальваркаў "за чвэрць мілі і далей ад Полацка" [Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 192 – 194]. Гэты парадак захаваўся прынамсі ад часоў Казіміра (1440 – 1492) і дзейнічаў да ўвядзення ў Полацку магдэбургскага права. Пасля 1498 г. будову і рэпарацыю замка павінны былі рабіць усе землеўласнікі полацкага ваяводства. Яны высылалі сялян з інструментам і канямі. Полацкія мяшчане выконвалі земляныя работы па падсыпанні замка і неслі замкавую службу. З Выроку вялікага князя Аляксандра ад 1502 г. вынікае, што "город и острог маютъ мещане стеречы поспол с путники сел(ь)скими; а на границы и по дорогам сторожу от непрыятелеи в нинешнии часы валечныи маютъ вси посполите, как пан Станислав, так и владыка, и бояре, и игуменья, и мещане" [Полоцкие грамоты, 1978, с. 197 – 199].

У пачатку XVI ст. у Полацку быў пабудаваны "паркан" – умацаванні Вялікага пасада. Гэта адбылося каля 1501 г., калі ў Полацку быў атрад жаўнераў пад кіраўніцтвам чэха Чэрніна. "Служылыя" людзі Чэрніна будавалі паркан, а мяшчане пастаўлялі дрэва [Даўгяла, 1928, с. 215 – 219; Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 192]. У 1508 г. паркан быў спалены татарамі, пасля чаго нанова адбудаваны. У 1513 г. паркан быў спалены маскоўскім войскам на чале з князем Васілём Шуйскім. Чарговы паркан быў узведзены каля 1516 г. бліжэй да Верхняга замку на адлегласці ў "некалькі палётаў стралы" ад былога паркана. Гэты паркан згадваецца ў справе аб продажы агародаў на "старым гарадзішчы ў новым паркане" 20 красавіка 1517 г. [Описание документов и бумаг…, с. 432].

У маі і жніўні 1518 г. маскоўскія войскі зноў спалілі паркан [Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 192 – 196]. Пасля гэтых падзей насельніцтва пасадаў, якое было пад уладай баяр і духавенства, вымушана было пакінуць свае дворышчы ў горадзе і разысціся. Тэрыторыю гэтых дворышчаў занялі мяшчане, якія знаходзіліся пад прысудам гарадскога магістрата. У 1533 г. ва "Ухваленні сыпання гары замкавай Полацка і астрогаў" [39] зафіксавана катастрафічнае скарачэнне тэрыторыі Запалоцкага пасада. Калі на пачатку XVI ст. сядзібы палачан былі размешчаны не толькі ў межах пасадскіх

[39] Абодва астрогі – гэта пасады Вялікі і Запалоцкі.

умацаванняў, але і далёка за імі, то ў 1533 г. “одно огороды и пашни и гумна на тыхъ местехъ мещанъские суть” [Справы полацкага гродзскага суда…, 1928, с. 194–195].

Разам з новым парканам у 1516 г. былі адбудаваны і ўмацаванні Верхняга замка. Такія звесткі прыводзяцца ў справе аб продажы Багданам Цішковічам паловы двара ў “Новым замку” [Описание документов и бумаг…, с. 432]. Дакумент не датаваны, аднак хутчэй за ўсё здзелка адбылася ў 1517 г. “Новы замак” – гэта, відавочна, новыя ўмацаванні Верхняга замка, паколькі Ніжняга замка ў пачатку XVI ст. быць не магло. Магчыма да гэтага часу была пашырана тэрыторыя Верхняга замка за кошт уключэння часткі былой пасадскай тэрыторыі (на месцы г. зв. “усходніх” раскопаў 1959 – 1962 гг.).

Канструкцыю паркана пачатку XVI ст. магчыма вызначыць толькі прыкладна. Археалагічных даных пра гэты час мы не маем, аднак ёсць сведчанні “Ухвалення” 1533 г., што баярскімі мяшчанамі “ижъ ни одного кола у в острозе с тыхъ дворищъ не роблено”. Такім чынам, сцяна паркана ўяўляла сабой вастракол, які быў пастаўлены на ўнутранай частцы рова – “перакопа”.

Наступны этап будаўніцтва паркана звязаны з ваяводствам Станіслава Давойны (1542 – 1563). Звесткі аб паркане ёсць у Полацкай рэвізіі 1552 г.: “Острогъ около того места былъ робленъ з дерева дубового за двема посады, за Великим и Заполоцким, который вжо велми упалъ, нижли пан воевода острог знову заложылъ и далей его в поле помкнулъ, который повинни робити по делницам своим вси мещане места Полоцкого и люди князские, панские и земянские, которые в месте мешкають и тежъ люди, которые на церковныхъ землях жывутъ.

Мещане вси места Полоцкого чергами своими у брамъ устроговых сторожу завжъды чынити и въ замъку кожъдое ночы по улицахъ ходечы огню стеречы повинни” [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 30 – 31].

На думку З. Даўгялы, згаданы паркан быў пабудаваны не раней за 1542 г. [Даўгяла, 1928, с. 225]. На выязных шляхах паркан меў астрогавыя брамы і ахоўваўся гарадской вартай. Рэвізія засведчыла дрэнны стан гарадскіх пасадскіх умацаванняў, што не спрыяла б іх баяздольнасці. Аднак падчас аблогі Полацка войскамі Івана IV у 1563 г. паркан быў ужо добра ўмацаваны.

Так, абарончыя ўмацаванні Вялікага пасада вызначаны маскоўскім войскам як “вельмі моцныя”, паркан быў *зрублены* “и всякими крепостьми делан” аналагічна сцяне Верхняга замка, роў вакол астрога (пасада) быў “крепокъ и глубокъ” [Алексеев, 2006, кн. 1, с. 104 – 106; Лебедевская летопись, 1965, с. 310]. З боку р. Дзвіны крапасная сцяна адсутнічала, аднак былі зафіксаваны вежы над ракой, што дазваляе вызначыць наяўнасць пэўных умацаванняў і з боку р. Дзвіны.

Такім чынам, пасля 1552 г. абарончыя ўмацаванні Вялікага пасада былі прыведзены ў належны стан. Замест вастракола былі ўсталяваны зрубныя гародні. Абарончая сцяна Запалоцкага пасада, відаць, яшчэ існавала, але не прадстаўляла ніякай перашкоды, што дазволіла яртуолскаму і старажавому палкам Івана IV размясціцца на беразе р. Палаты непасрэдна каля Верхняга замка.

На сённяшні дзень магчыма высвятліць назву толькі дзвюх вежаў Вялікага пасада. Захавалася копія выпіскі з актавай кнігі за 1553 г., паводле якой у Полацку размяшчаўся дом з агародам на вуліцы, “якая вяла ад Віленскай вежы да Смаленскай” [LVIA, ф. 599, воп. 1, спр. 3, арк. 276]. На Верхнім замку, паводле Рэвізіі 1552 г., згадваюцца вежы Усцейская, Другая, Асвейская, Чацвёртая, Міхайлаўская, Багародзіцкая, Сёмая, Восьмая, Сафійская [Тарасаў, 1998 б, с. 42]. Згаданыя ў кнізе 1553 г. вежы Віленская і Смаленская маглі належаць абарончай сцяне Вялікага пасада, уліч-

ваючы дрэнны стан запалоцкіх умацаванняў. Гэтыя вежы ў пісьмовых крыніцах сярэдзіны XVII ст. ужо не згадваюцца.

Фартыфікацыйная дзейнасць маскоўскіх стральцоў тычылася будаўніцтва крапасных сцен Верхняга і новаўзведзенага Ніжняга замкаў. Аднак у 1563 г. быў узведзены таксама і паркан Запалоцкага пасада, які ўяўляў сабой драўляную сцяну, пастаўленую на земляны вал (мал. 55) [Гейденштейн, 1889, с. 58]. Крапасная сцяна Запалоцця прадугледжвала і наяўнасць рова: "Да и в остроге за Полотою бояром и воеводам изъездити и изсмотрити, которые места выгорело и то место велети заделати Петру (*Зайцаву – заўвага аўтара*) и Борису (*Шчокіну*) накрепко, стены в три или в четыре как будет пригоже, и землею насыпати, и подошевные бои и башни поделати для стенного бою, и рвы старые около стен поделати. А будет в котором месте пригож, рвы и новые покопати" [Книга полоцкого похода..., 2004, с. 70 – 71].

Звестак пра абарончыя ўмацаванні пасадаў адразу пасля вызвалення Полацка войскам Стэфана Баторыя ў 1579 г. няма. Пасля Інфлянцкай вайны, падчас якой у 1563 – 1579 гг. Вялікі пасад уяўляў сабой "пажарышча", яны, відавочна, не аднаўляліся.

У 1633 г. адбылося паўстанне гараджан супраць падваяводы Яна Лісоўскага і гарадской рады. Сутнасць канфлікта палягала ў тым, што падваявода патрабаваў ад палачан тэрмінова ўзвесці вежу Ніжняга замка альбо падвезці дрэва на яе рамонт. Адначасова ён патрабаваў, каб усе жыхары Запалоцця перасяліліся ў Верхні замак. Палачане не падпарадкаваліся патрабаванням ваяводы, і ўрэшце маскоўскае войска ў ноч з 12 на 13 чэрвеня "все место Полоцкое и Заполотье сплюндровало и попалило … также и замок вышний ледво се одержал" [АСД, 1867, с. 271 – 272]. У апісанні падзей Вялікі пасад нідзе не згадваецца, фігуруе толькі Запалоцце. Магчыма, з часоў Інфлянцкай вайны да 1630-х гг. прыярытэтнай для засялення з'яўлялася тэрыторыя Запалоцкага пасада. Абарончыя ўмацаванні Полацка ў гэты час атачалі толькі Верхні і Ніжні замкі.

Пасля згаданых падзей многія палачане не жадалі вяртацца на пажарышча, і кароль Уладзіслаў IV выдаў грамату аб забароне палачанам пакідаць горад і сяліцца на тэрыторыі, занятай рускімі войскамі [АСД, 1867, с. 276].

У 1638 г. мяшчане пачалі ўзводзіць новы паркан Вялікага пасада. Гарадскі паркан быў вымераны з дапамогай шнура, падлічаная ў горадзе колькасць "пляцаў" прапарцыянальна адпавядала кавалку сцяны, які патрэбна было аднавіць: "и где которому будет назначено мейсце, тамъ, а негде индей маетъ свой парканъ ставить, а клетки маюць быти не клинястые, але вздлужъ, абы клетками руму много не займовати, а въ клеткахъ маюць стояки ставить …" [АСД, 1867, с. 309]. Новы паркан, як бачна, быў зроблены з драўляных клецяў каркаснай канструкцыі.

Пастанова магістрата 1638 г. была прынята пры ўдзеле прадстаўнікоў гараджан. Аднак ужо праз два гады шляхта забараніла ўдзел мяшчан, якія жылі на шляхецкіх юрыдыках, займацца ўмацаваннем паркана [Ткачев, 1987, с. 65].

З верасня 1654 г. па восень 1655 гг. па загадзе цара Аляксея Міхайлавіча полацкія мяшчане выканалі вялізарную працу па ўзмацненні Вялікага пасада. Каля Запалоцкага пасада паміж р. Дзвіна і Палата з боку поля быў выкапаны новы роў, і ў гэты роў з абодвух бакоў устаўлены шчыльна прыстасаваныя "на іглах" адно да аднаго бярвенні. Па-за ровам былі пастаўлены моцныя брусы-"надоўбы", якія зверху былі правушаны, і ў гэтыя вухі прадзеты клінні, з-за чаго іх было цяжка выцягнуць з зямлі і скінуць са слупа. Акрамя таго, Запалоцце мела свой стары "астрог" – паркан з варотамі і "рукавамі". Разам з замкавымі ўмацаваннямі агульная даўжыня крапасных сцен Полацка перавышала ў гэты час 5 км. У выніку Полацк пераўтварыўся ў моцную крэпасць [Бабятынскі, 2009, с. 307; Даўгяла, 1928, с. 235 – 236].

Паведамленні Каштарысных кніг Полацка 1654 г. і Кніг прыходна-расходных Аляксея Міхайлавіча 1654 – 1655 гг. падрабязна прааналізаваны С. В. Тарасавым [Тарасаў, 1998 б, с. 54 – 58]. Крапасная сцяна Вялікага пасада складалася з васьмі вежаў і дзвюх фортак (Варвары, Міронаўскай, Ложнай, Іллінскай, Скарбнай, Невельскай, Навугольнай, Кабыльчынай). Гэтыя вежы лакалізаваны на сучасным плане Полацка [Тарасаў, 1998 б, мал. 71]. Пра канструкцыю крапасных сцен можна меркаваць па выніках археалагічных ракопак на месцы размяшчэння Навугольнай вежы. Ніжнія венцы вежы былі заглыблены ў мацярык на 0,2 м. Да яе прымыкалі слупы-палі канструкцыі клецяў. Развал гліны, магчыма, сведчыць пра наяўнасць у вежы печаў [Тарасаў, спр. № 1422, с. 8].

План Полацка 1707 г. адлюстроўвае наяўнасць умацаванняў (крапасной сцяны) Вялікага пасада і Верхняга замка (мал. 32). У Запалоцці застаўся толькі роў, на Ніжнім замку – вал. Апошняя згадка Запалоцкага паркана датуецца 1685 г. [Дзярновіч, 2009, с. 70]. Падчас Паўночнай вайны ўмацаванні пасадаў (Крыўцова на Востраве, Запалоцкага) адпавядалі г. зв. бастыённай сістэме, найбольш дасканала прадстаўленай усё ж на Верхнім замку. Узімку падыходы да горада абаранялі спецыяльна зробленыя палонкі ў р. Дзвіне, якія рэгулярна прачышчаліся [Ткачев, 1987, с. 67]. Планы Полацка канца XVIII ст. фіксуюць ужо толькі рэшткі рова з усходняга боку Вялікага пасада [Тарасаў, 1998 б, мал. 3 – 8].

У актавых кнігах полацкага магістрата XVIII ст. захаваліся дастаткова інфарматыўныя звесткі пра пасадскія ўмацаванні. Так, кніга за 1721 г. утрымлівае паведамленне аб існаванні закінутага паркана, які перасякае вуліца Азаравая [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 10, арк. 24]. У гродскай кнізе 1779 г. сустракаюцца паведамленні пра гарадскі паркан, які з'яўляўся ўжо не болей як тапаграфічнай адзінкай [НГАБ, ф. 2424, воп. 1, спр. 1, арк. 31 адв.]. З гэтых паведамленняў можна даведацца, што за парканам па трасе вуліцы Азараўскай (сучасная Камуністычная) па-ранейшаму размяшчаліся валатоўкі [НГАБ, ф. 2424, воп. 1, спр. 1, арк. 31 адв., 45 адв., 52 адв., 88 – 88 адв.]. Паводле А. Шчакатава, які ў пачатку XIX ст. пакінуў нататку пра гарадскія ўмацаванні Замка, "вал, окружавший весь город, также весьма унизился" [Географический словарь, 1805, с. 1237 – 1238]. Апошняя спроба ўмацавання гарадскіх сцен адбылася напярэдадні вайны 1812 г., калі "места полацкае было найлепш прыстасавана да абароны", а тэрыторыя пасада была агароджана двайным астрогам і ровам [Даўгяла, 1928, с. 238].

Такім чынам, абарончыя збудаванні вакольнага горада XI ст. былі вывучаны падчас раскопак 1987 – 1988 гг., частка абарончай сцяны Запалоцкага пасада XI – XII стст. даследавана ў 2004 і 2006 гг. Звестак пісьмовых крыніц аб наяўнасці абарончых умацаванняў Вялікага і Запалоцкага пасада раней за пачатак XVI ст. няма. Абавязак "Полтеск рубливать", вызначаны вялікім князем Казімірам у 1460 г., датычыўся Верхняга замка [Даўгяла, 1928, с. 214]. Адкрытыя і археалагічна даследаваныя С. В. Тарасавым умацаванні Запалоцкага пасада "другога этапа XIII – пачатку XIV стст.", верагодна, былі ўзведзены ўсё ж у пачатку XVI ст. і праз пэўны час падпраўлены (у пісьмовых крыніцах згадваецца абмазка з гліны і вымастка з камянёў). Менавіта тады быў выкапаны роў ("перакоп") і пастаўлены вастракол, сляды якога ў выглядзе дзвюх мацерыковых траншэй былі зафіксаваны ў раскопе 1986 г. У 1654 г. быў выкапаны роў, узмоцнены ўстаўленымі шчыльна адзін да аднаго бярвеннямі, частка гэтага рова была археалагічна даследавана.

Першы гарадскі паркан атачаў вакольны горад у XI ст. і Запалоцкі пасад у XI – XII стст. Вакольны горад у XI ст. быў умацаваны крапасной сцяной з драўляных гародняў і гародняў, зробленых у перакладной (руставай) тэхніцы. Запалоцкі пасад атачала

сцяна з драўлянага вастракола. З таго часу і да пачатку XVI ст. звесткі ў пісьмовых крыніцах аб умацаваннях пасадаў адсутнічаюць. Надзейных археалагічных сведчанняў пра іх існаванне таксама няма. Каля 1501 г. быў узведзены паркан Вялікага і Запалоцкага пасадаў, які неаднаразова перарабляўся ў першай палове XVI ст. і выпальваўся падчас аблог маскоўскім войскам. Паркан першай паловы XVI ст. уяўляў сабой вастракол з бярвенняў, з напольнага боку быў выкапаны роў. Паміж 1552 – 1563 гг. замест вастракола вакол Вялікага пасада пабудаваны зрубныя гародні. Пасля Інфлянцкай вайны новы паркан Вялікага пасада быў адбудаваны толькі ў 1638 г. Паркан уяўляў сабой драўляныя клеці каркаснага тыпу. Аналагічная канструкцыя крапасных сцен адлюстравана археалагічнымі і пісьмовымі крыніцамі 1654 – 1655 гг. У пачатку XVIII ст. захаваўся толькі роў былой крапасной сцяны Вялікага пасада, з таго часу пасадскія ўмацаванні да 1812 г. больш не аднаўляліся.

### 6.5. Гарадскія могілкі

#### 6.5.1. Могільнік X – XI стст.

Некропаль быў важным элементам сацыятапаграфічнай структуры кожнага сярэдневяковага еўрапейскага горада. Не з’яўляюцца выключэннем з гэтага правіла і гарады Усходняй Еўропы. Відавочна, што раннесярэдневяковы Полацк павінен быў мець свой курганны некропаль. Аднак, у адрозненне ад шэрагу іншых раннегарадскіх цэнтраў Русі, у Полацку да часу яго археалагічнага вывучэння не захавалася ніводнага кургана. І ўсё ж сёння аб існаванні полацкага курганнага могільніка гісторыкі кажуць з упэўненасцю, спасылаючыся на тое, што курганы былі знішчаны ў выніку актыўнага развіцця горада і пашырэння яго тэрыторыі. Па гэтай прычыне пытанне аб месцы размяшчэння раннесярэдневяковага полацкага курганнага некропаля неаднаразова ўздымалася ў гістарыяграфіі [Дук, Плавінскі, 2006 а].

Асноўнай выяўленчай крыніцай для рэканструкцыі размяшчэння полацкага курганнага некропаля дагэтуль застаецца план С. Пахалавіцкага. Зыходзячы з яго даследчыкі мяркуюць аб існаванні дзвюх курганных груп – на поўнач ад горада (далей “паўночны курганны могільнік”) і на ўсход ад яго (адпаведна “ўсходні курганны могільнік”).

*“Паўночны курганны могільнік”* знаходзіўся на правабярэжжы р. Палаты. С. В. Тарасаў выказаў гіпотэзу аб размяшчэнні царквы св. Міхаіла на ранейшай тэрыторыі курганнага могільніка на правым беразе р. Палаты каля Запалоцця [Тарасаў, 1998 б, с. 79, 82]. Упершыню Міхайлаўскі манастыр на Гарадку згадваецца ў 1511 г., аднак даследчык канстатуе, што ніякіх археалагічных даных аб часе яго заснавання няма [Тарасаў, 1998 б, с. 79, 82].

Размяшчэнне “паўночнага курганнага могільніка” можна рэканструяваць наступным чынам. Могільнік цягнуўся з паўночнага ўсходу ўздоўж правага берага р. Палаты ад Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра на паўднёвы захад і набліжаўся да выгіну старога русла р. Палаты, ад якога пачынаецца прыродны роў, пазначаны на малюнку С. Пахалавіцкага як “Fossa naturalis”. Паўднёвая мяжа могільніка магла размяшчацца прыблізна на адлегласці 1 км ад р. Дзвіны. Дакладнае мерыдыяльнае размяшчэнне могільніка на малюнку Пахалавіцкага 1579 г. (мал. 56) у дадзеным выпадку можа не з’яўляцца вынікам маштабнага скажэння.

Але наколькі блізка да р. Палаты размяшчаўся могільнік? Складаны характар рэльефа, наяўнасць поплава, шматлікіх равоў каля правага берага р. Палаты дазваляе

заўважыць, што адлегласць да р. Палаты на асобных участках магла быць не меншай за 100 – 300 м. Максімальная адлегласць ад р. Палаты – каля 500 м – знаходзілася як раз насупраць гарадзішча і заселенай з XI ст. тэрыторыі на захад ад р. Палаты. А гэта азначае, што "паўночны курганны некропаль" месціўся на тэрыторыі сучасных полацкіх новабудоўляў, якая мае назву "Аэрадром" (мал. 58). Гэтая частка горада размешчана на поўнач ад Запалоцця і на паўночны захад ад першапачатковага гарадзішча.

У сувязі з гэтым заслугоўваюць увагі даныя І. П. Дэйніса, паводле якіх аэрадром на месцы сённяшніх новабудоўляў існаваў з 1916 па 1970-я гг. Пачатак яго будаўніцтва звязаны з падзеямі Першай сусветнай вайны. Спачатку аэрадром быў размешчаны каля Міхайлаўскіх і ваенных могілак. Земляная паверхня падчас будаўніцтва ў 1916 г. была выраўнавана, усе купіны зрэзаны, равы засыпаны [Дэйнис, 1978, с. 234]. Пасля Вялікай Айчыннай вайны плошча аэрадрома была пашырана, дзеля чаго былі ліквідаваны Міхайлаўскія могілкі [Дэйнис, 1978, с. 234]. Такім чынам, можна пагадзіцца з думкай С. В. Тарасава аб канчатковым знішчэнні рэштак "паўночнага курганнага могільніка" падчас пачатковай пабудовы аэрадрома. Толькі адбылося гэта не ў 1937, а ў 1916 г. Верагодна, менавіта таму А. М. Ляўданскі ўжо не зафіксаваў яго слядоў. Але пачалося знішчэнне "паўночнага некропаля", напэўна, значна раней, паколькі даследчыкі другой паловы XIX ст. яго ўжо не знаходзілі альбо не заўважалі (дзе знаходзіўся курган, замаляваны Струкавым, невядома).

Г. В. Штыхаў раней лічыў, што менавіта ў "паўночным курганным могільніку" знаходзілася асноўная колькасць полацкіх курганоў [Штыхов, 1975, с. 31]. Думка слушная, паколькі па плошчы гэты могільнік мог быць вельмі вялікім. Толькі па мінімальных падліках гіпатэтычная тэрыторыя размяшчэння курганоў была не меншай за 50 га. Натуральна, не ўся гэтая плошча была занята ўзведзенымі ўшчыльную адзін да аднаго курганамі. Хутчэй за ўсё, курганы маглі размяшчацца асобнымі групамі, якія знаходзіліся на пэўнай адлегласці адна ад адной, асабліва калі ўлічыць складаны характар рэльефу мясцовасці.

На жаль, ніякіх іншых прамых звестак аб існаванні "паўночнага курганнага некропаля", акрамя плана С. Пахалавіцкага, няма. Спадзявацца на перспектывы пошуку рэштак могільніка археалагічнымі метадамі цяжка, паколькі тэрыторыя былога аэрадрома моцна пашкоджана прамысловай дзейнасцю пераважна 80-х – 90-х гг. XX ст. і гэтая частка мяркуемага могільніка, магчыма, страчана незваротна. Тэрыторыя на паўночны ўсход ад аэрадрома ўздоўж р. Палаты да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра была шчыльна забудавана яшчэ ў даваенны час, зараз тут размешчаны пераважна аднапавярховыя дамы з падворкамі і гародамі, што не выключае магчымасці яе археалагічнага вывучэння.

*"Усходні курганны могільнік"* размяшчаўся ўздоўж правага берага р. Дзвіны прыблізна па трасе сучаснай вуліцы Ніжнепакроўскай (мал. 37). Акрамя плана Пахалавіцкага, звесткі аб існаванні "*курганов*" на месцы "ўсходняга курганнага могільніка" змяшчаюцца ў Лебедзеўскім летапісе, у рэвізіі полацкага павета 1563 г. і магістрацкіх кнігах XVII – XVIII стст. У запісах магістрацкіх кніг назва часткі валатовак "усходняга курганнага могільніка" пазначаецца як "горы Балгарэйскія".

Існаванне "ўсходняга курганнага могільніка" пацвярджаецца і матэрыяльнымі помнікамі. Да нядаўняга часу да іх ліку можна было аднесці толькі меч тыпу V паводле Петэрсана, які датуецца X ст. Меч быў знойдзены на глыбіні 3,5 м, што можа сведчыць пра вялікі, не меншы за 2 м, пласт будаўнічага друзу на месцы знаходкі [Поболь, 1960, с. 150 – 151]. Меч быў выяўлены ў 1956 г. на адлегласці 100 – 200 м ад правага берага р.

Дзвіны за 1,5 км на ўсход ад Верхняга замка. Меч знайшлі падчас будаўніцтва швейнай фабрыкі. У 1959 г. Л. Д. Побаль абследаваў месца знаходкі, але не знайшоў ні слядоў курганоў, ні культурнага пласта. Аднак ён выказаў меркаванне, што меч паходзіць з разбуранага дружыннага кургана. Месца знаходкі было вызначана Побалем як месца размяшчэння курганнага могільніка полацкіх дружыннікаў IX – XII стст. Па гэтай прычыне археалагічныя пошукі рэшткаў курганных пахаванняў у раёне былой швейнай фабрыкі будуць вельмі ўскладнены.

У 2004 г. падчас назірання за будаўнічымі работамі па вуліцы Ніжнепакроўскай, 44 А. А. Салаўёвым былі сабраны шматлікія фрагменты рознachасовых керамічных вырабаў. Сярод гэтых матэрыялаў вылучаюцца развалы двух ляпных гаршчкоў X ст., тыповых для "пахавальнай керамікі". Апісаныя гаршчкі знойдзены на адлегласці прыблізна 250 м ад усходняй фартыфікацыйнай лініі Вялікага пасада сярэдзіны XVII ст.

Меркаваць, наколькі далёка цягнуліся на ўсход і захад насыпы "ўсходняга курганнага могільніку", сёння можна толькі прыкладна. План Пахалавіцкага дакладнага адказу не дае, паколькі скажэнні маштабу найбольш значныя менавіта ва ўсходняй частцы. Верагоднай усходняй мяжой могільніка з'яўлялася "сяльцо" Прасмужкі, размешчанае на ўсход ад сучаснай вул. Юбілейнай.

Паўночная мяжа курганнага могільніка ў XVI – XVIII стст. праходзіла ў раёне сучаснай вул. Камуністычнай. На поўнач ад згаданай вуліцы зафіксаваны культурны пласт XVI – XVIII стст. з рэшткамі рамесных майстэрняў. На поўдзень ад вул. Камуністычнай культурны пласт адсутнічае, што пацвярджае размяшчэнне валатовак.

Паводле даных пісьмовых крыніц, межы курганнага некропаля (валатовак) у XVI – XVII стст. заставаліся нязменнымі, першыя звесткі пра разбурэнне валатовак зафіксаваны не раней за пачатак XVIII ст.

Такім чынам, насыпы "ўсходняга курганнага могільніка" размяшчаліся паласой уздоўж правага берага р. Дзвіны. Яны пачыналіся ў раёне межаў паркана XVI ст. і цягнуліся не менш як на 1500 м на ўсход ад Верхняга замка[40]. На сучаснай карце Полацка гэта адпавядае прасторы паміж вул. Свярдлова, Ніжнепакроўскай, Камуністычнай і Юбілейнай.

Магчыма, у канцы X – XI стст. пэўная частка "ўсходняга курганнага могільніка" трапіла пад забудову Вялікага пасада, на месцы старых курганоў з'явіліся хрысціянскія могілкі ці асобныя хрысціянскія пахаванні па абрадзе інгумацыі. У XVII – XVIII стст. частка могільніка па трасе сучаснай вул. Ніжнепакроўскай была забудавана.

Выяўленне развалаў гаршчкоў, якія датуюцца X ст., і пахаванняў, якія былі здзейснены да XVI ст., сведчыць аб магчымасці археалагічнага вывучэння "ўсходняга могільніка". Перспектыўнай тэрыторыяй для падобных даследаванняў падаецца раён, прылеглы да вул. Ніжнепакроўскай ад Багаяўленскага манастыра на захадзе да канца гэтай вуліцы на ўсходзе. Пры гэтым найбольшую цікавасць прадстаўляе ўмоўная паласа на поўнач ад вул. Ніжнепакроўскай шырынёй каля 100 м. Гэта ўчастак надпоймавай тэрасы р. Дзвіны, дзе магутнасць культурнага пласта ў межах паркана, па выніках шматгадовых назіранняў, не перавышае 1,5 м.

Такім чынам, нягледзячы на тое, што курганы полацкага могільніка, напэўна, былі знішчаны ўжо на пачатку XX ст., а звесткі аб месцазнаходжанні хрысціянскіх могілак часоў Полацкага княства да нядаўняга часу ўвогуле адсутнічалі, скласці пэўнае ўяўленне аб тапаграфіі гарадскога некропаля ўсё ж такі магчыма.

[40] Размяшчэнне валатовак насупраць рова паркана пазначана на арыгінале гравюры С. Пахалавіцкага (мал. 50).

У X ст. Полацк быў, верагодна, абкружаны вялізнымі паганскімі могілкамі. Адна іх частка ("паўночны курганны могільнік") размяшчалася на правым беразе р. Палаты. Курганы цягнуліся з паўночнага ўсходу, ад пазнейшага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, на паўднёвы захад – да рова, які пачынаецца каля паўночнага выгіну першапачатковага рэчышча р. Палаты. Далей курганы працягваліся да забудовы сучаснага мікрараёна "Аэрадром", г. зн. на паўночны захад ад пасяленняў XI – XIII стст. правага берага р. Палаты.

Выказанае меркаванне пра лакалізацыю "паўночнага курганнага могільніка" заснавана на даных плана С. Пахалавіцкага і асаблівасцях размяшчэння паселішчаў на правым беразе р. Палаты. Матэрыяльных сведчанняў існавання некропаля пакуль што не выяўлена.

Больш упэўнена можна казаць пра "ўсходні курганны могільнік". Гэтая частка полацкага паганскага некропаля размяшчалася ўздоўж правага берага р. Дзвіны. Могільнік пачынаўся прыкладна за межамі паркана XVI ст. і цягнуўся не менш як на 1500 м на ўсход ад Верхняга замка. На сучаснай карце Полацка гэта адпавядае прасторы паміж вул. Свярдлова, Ніжнепакроўскай, Камуністычнай і Юбілейнай. На ўсход ад вул. Юбілейнай у XIV – XVIII стст. размяшчалася слабада (фальварак) Прасмужкі [Дэйніс, 2007, с. 166]. Меркаваць аб пахавальным абрадзе, этнічнай і сацыяльнай прыналежнасці памерлых мы не можам. Хаця дапушчэнне аб наяўнасці ў могільніку крывіцкіх і скандынаўскіх дружынных пахаванняў падаецца цалкам верагодным.

Складаным з'яўляецца і пытанне аб датаванні "ўсходняга курганнага могільніка" (як і "паўночнага"). Наяўныя знаходкі могуць быць аднесены да X ст. З ростам горада ў XII ст. могілкі папярэдняга стагоддзя маглі ўвайсці ў межы гарадской забудовы. З гэтага часу ствараюцца ўмовы для з'яўлення новых гарадскіх могілак, размешчаных больш кампактна на тэрыторыі Вялікага пасада і гарадскіх ваколіц. Пасля адмаўлення ад пахавання нябожчыкаў на тэрыторыі старажытных "усходняга" і "паўночнага" могільнікаў працэс паступовага руйнавання курганоў X ст. стаў непазбежным. Аднак першыя сведчанні аб разбурэнні валатовак датуюцца толькі пачаткам XVIII ст. (1739 г.). Пазначэнне "валатовак" у актавай кнізе 1779 г. дазваляе вызначыць адзін з маркераў паўночнай мяжы старажытнага курганнага могільніка ў раёне сучаснай вул. Камуністычнай. Паўднёвай мяжой могільніка ў 1656 – 1657 гг. з'яўлялася вул. Іллінская (сёння гэта паўднёвая частка пр. Ф. Скарыны).

Месца знаходкі мяча і ляпной керамікі з'яўляецца не адзіным пунктам, які варта звязваць з могілкамі старажытнага Полацка. У верасні 1987 г. падчас работ на сваім гародзе каля дома № 24 па 2-ім завулку Фрунзэ (тэрыторыя першапачатковага гарадзішча) Я. І. Лешчык знайшоў у пяску косткі шкілета без чэрапа. Пры шкілеце было выяўлена 35 ракавін каўры, 2 шкляныя зонныя пацеркі XII – XIII стст., пакрытыя белай пацінай, бронзавы віты двухдротавы пярсцёнак і бронзавы бранзалет са змеепадобнымі галоўкамі XI – XIV стст. [Тарасов, спр. № 1084, с. 22 – 23, рис. 28:10, 12, 113].

Доўгі час выпадкова выяўленае пахаванне на заходняй ускраіне гарадзішча з'яўлялася адзіным і па гэтай прычыне a priori прынята вызначальным для ўсіх іншых. Падчас раскопак на гарадзішчы ў 2007 г. было вызначана, што могілкі дзейнічалі ў XVII – XVIII стст. (знойдзены рэшткі 36 чалавек). Пахаванне XII – XIII стст. з'яўляецца самым раннім. Прычыну размяшчэння гэтага пахавання высветліць цяжка. Магчыма, пахаванне было зроблена адразу пасля спынення жыцця на гарадзішчы ў пачатку XIV ст. У пачатку XVI ст. гарадзішча з'яўлялася часткай пасадскай тэрыторыі, на якой размяшчаліся сядзібы палачан. Такім чынам, пахаванняў, ранейшых за XVII ст., на гарадзішчы па археалагічных і пісьмовых даных больш не зафіксавана.

### 6.5.2. Могілкі XII – XIII стст.

Імклівае пашырэнне хрысціянства ў XII – XIII стст. абумовіла з’яўленне зусім новага тыпу пахавальнага комплекса, звязанага з культавымі будынкам і прылеглай да яго тэрыторыі – царкоўным дваром. Пахавальны абрад, паводле якога рабіліся падобныя комплексы, фарміраваўся пад візантыйскім уплывам і амаль цалкам адпавядаў хрысціянскім некралагічным канонам [Вайцяховіч, 2008, с 20].

Унутры цэркваў хавалі знатных ці заможных нябожчыкаў, ці вышэйшы царкоўны клір, а простых гараджан – на гарадскіх могілках. Пахаванні XII ст. унутры цэркваў у цагляных саркафагах выяўлены ў прыбудовах да Сафійскага сабора, храме-пахавальні полацкіх епіскапаў у Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры, каля цэркваў на стрэлцы Ніжняга замка і на рове (Ражаства Хрыстова). Баяры маглі быць пахаваны пры царкве Багародзіцы, згаданай пад 1159 г. [Алексеев, 2006, кн. 1, с. 140], аднак яе месцазнаходжанне ці магчымае суаднясенне з ужо вядомымі помнікамі полацкай школы дойлідства пакуль што не вызначана. Калі раней курганны насып з’яўляўся адзінай канструкцыяй пахавальнага збудавання як для заможнага чалавека, так і для простага, то пахаванні, зробленыя ўнутры храмаў у саркафагах і аркасоліях, прызначаны ў першую чаргу для князёў, іх сем’яў і вышэйшага кліру, а затым для заможных пасаднікаў і святароў. Людзей з ніжэйшым сацыяльным статусам маглі хаваць на могілках вакол храмаў у драўляных трунах ці нават без іх [Вайцяховіч, 2008, с. 23 – 24].

Пры разглядзе полацкіх могілак XI – XIII стст. нельга не звярнуць увагу на адкрыццё цагляных склепаў (крыпт) у непасрэднай блізкасці ад так званай царквы на рове (Ражаства Хрыстова). У 1967 г. на тэрыторыі, прылеглай да храма, М. К. Каргер адкрыў дзве магільні, зробленыя з плінфы. Як адзначае П. А. Рапапорт, адносіны гэтых магільняў да царквы не высветлены [Раппопорт, 1980, с. 156]. Наяўнасць “княжацкіх” знакаў на плінфе дазваляе адносіць час іх пабудовы да часоў Полацкай дзяржавы. Вызначыць характар гэтых пахаванняў можна толькі падчас правядзення новых археалагічных раскопак.

Цікавыя звесткі аб гарадскіх могілках, якія маглі існаваць да XIII ст., прыводзіць вядомы полацкі краязнаўца І. П. Дэйніс. Ён указвае на існаванне гарадскіх могілак на поўнач ад даўняй гандлёвай плошчы (раён размяшчэння езуіцкага калегіума / кадэцкага корпуса) да р. Палаты. Усходняя мяжа могілак – роў на месцы сучаснай вул. Талстога [Дэйнис, 1978, с. 90]. Паводле І. П. Дэйніса, у XIII – XIV стст. могілкі былі перанесены ў раён вул. Ніжнепакроўскай да сучаснай вул. Талстога. З развіццём пасада могільнік перапыніў існаванне і быў вынесены за межы горада[41] [Дэйнис, 1978, с. 92 – 93]. На жаль, Дэйніс не прыводзіць доказаў у падтрымку выказаных меркаванняў, крынічная база прыведзеных звестак аўтарам не пазначаецца[42].

Варта падкрэсліць, што факт знаходкі мяча І. П. Дэйнісу быў добра вядомы, таксама як і дзейнасць усіх археалагічных экспедыцый у Полацку ў 1960-х гг., аднак ён не пагаджаўся з меркаваннем аб месцапалажэнні пачатковага некропаля ў раёне швейнай фабрыкі, паколькі, на яго думку, гэты некропаль не мог быць вынесены так далёка ад гарадскіх умацаванняў [Дэйнис, 1979, с. 84].

[41] Прыкладна 1 – 1,5 км на ўсход ад Верхняга замка.

[42] Магчыма, І. П. Дэйніс запазычыў звесткі з тэкста прывілея С. Баторыя езуітам ад 20 студзеня 1582 г., у якім згадваюцца гарадскія могілкі каля рынка на Вялікім пасадзе, аднак гэтыя могілкі належалі насельніцтву XVI – XVII стст. і размяшчаліся больш кампактна ў раёне царквы Ражаства Хрыстова і езуіцкага калегіума.

### 6.5.3. Могілкі XIV – XVIII стст.

Звестак пра могілкі XIV – XV стст. у пісьмовых крыніцах не захавалася. Адзінай крыніцай іх вывучэння з’яўляюцца даныя археалогіі.

Найбольш раннімі ў разглядаемы перыяд з’яўляюцца археалагічна выяўленыя пахаванні на Востраве як магчыма сінхронныя часу існавання Іаана-Прадцечанскага манастыра.

Манастыр Іаана Прадцечы спыніў сваю дзейнасць у сярэдзіне XVI ст. Пры гэтым манастыры размяшчаўся могільнік, які быў часткова ўскрыты падчас раскопак 1959 г. Так, ва ўсходняй частцы Вострава, на месцы верагоднага размяшчэння манастыра, у абрыве берагавой лініі былі зафіксаваны шматлікія рэшткі чалавечых костак [Поболь, спр. № 112, с. 10]. У шурфе 1 на глыбіні 1,5 м былі выяўлены пераадкладзеныя чалавечыя косткі і тры чарапы. У шурфе 2 на глыбіні 1 м быў выяўлены шкілет, пакладзены на спіну галавой на захад. Левая рука была выцягнута ўздоўж цела, а правая сагнута ў локці і размяшчалася на тазе. Рэшткі пахавальнага інвентара і труны не былі знойдзены, аднак прысутнасць каванага цвіка над пахаваннем сведчыць аб яго магчымым існаванні. У шурфе 3 на глыбіні 1,2 – 1,5 м знойдзена 8 рознačасовых пахаванняў рознай ступені захаванасці. Усе шкілеты былі пакладзены галавой на захад. У шурфе 4 пад культурным пластом на мацерыку на глыбіні 1,5 м былі выяўлены чалавечыя косткі [Поболь, спр. № 112, с. 10 – 11]. Размяшчэнне шурфоў адносна адзін аднаго дазваляе вызначыць прыкладнае размяшчэнне і межы могілак.

У пачатку XII ст. на стрэлцы Ніжняга замка будуецца царква, якая, на думку П. А. Рапапорта, з’яўлялася княжацкай пахавальняй [Раппопорт, 1980, с. 154]. Рапапорт прыводзіць даныя пра наяўнасць пахаванняў у трунах каля знешняга боку падмуркаў царквы, якія, на яго думку, адносіліся да часу функцыянавання царквы (XII – XVI стст.) [Раппопорт, 1980, с. 154]. Наяўнасць мужчынскіх і жаночых пахаванняў сведчыць, што царква не была манастырскай.

Раней лічылася, што царква знаходзілася на ўскрайку могілак XII – XIII стст. на тэрыторыі, якая складала з гарадзішчам адно геаграфічнае цэлае [Тарасаў, 1998 б, с. 77]. У раскопе, праведзеным у 2008 г. непасрэдна каля царквы, было адкрыта адзінае пахаванне, якое стратыграфічна датуецца XV – першай паловай XVI стст. [Дук, спр. № 2600]. Натуральна, што адкрытае пахаванне далёка не адзінае і пазней будуць вывучаны іншыя – даныя раскопак П. А. Рапапорта пра гэта ўпэўнена сведчаць. Відавочна, што могілкі каля царквы на стрэлцы Ніжняга замка не звязаны з пахаваннямі на гарадзішчы. Верагодна, яны былі цвінтаром царквы, якая спыніла сваё існаванне дзесьці ў першай палове ці сярэдзіне XVI ст.

Гарадскія могілкі XVI – XVIII стст. зафіксаваны ў асобных частках Полацка. У гэты час канфесійнае жыццё становіцца стракатым, існуюць пахаванні з каталіцкім і ўніяцкім насельніцтвам, і асобна – праваслаўныя могілкі.

Найбольш даследаванымі з’яўляюцца могілкі на месцы старога гарадзішча.

Тое, што тэрыторыя першапачатковага гарадзішча была занята могілкамі XVIII – XX стст., адзначаў ужо А. М. Ляўданскі [Ляўданскі, 1930, с. 161 – 163]. І. П. Дэйніс прыводзіць згадкі аб існаванні *старажытных праваслаўных* могілак на гарадзішчы. Дэйніс адзначае, што непасрэдна да 1917 г. гарадзішча выкарыстоўвалася як могілкі для хатніх жывёл, у 1920-я гг. на ім хавалі самазабойц [Дэйнис, 1978, с. 14].

Падчас раскопак 2007 г. на гарадзішчы былі ўскрыты рэшткі 36 чалавек: 13 дзяцей і 23 дарослых [Емельянчик, Кошкин, 2009, с. 9]. Пахаванні размешчаны на глыбіні

ад 0,8 да 1,4 м. Візуальна контуры пахавальных ям не прасочваліся. Аднак непасрэдна над пахаваннямі былі знойдзены нешматлікія артэфакты, пераважна рэшткі керамікі з зялёнай эмаллю XVII – XVIII стст. і непаліваных гаршкоў XVI – XVII стст., каваныя цвікі.

Нешматлікі пахавальны інвентар сведчыць аб прыналежнасці памерлых да каталіцкай канфесіі. З пахавальнага інвентара 16 найлепш захаваных і збольшага некранутых пахаванняў сабраны два алавяныя нацельныя крыжы, з якіх адзін вельмі пашкоджаны карозіяй, нацельная ікона-медальён, чатыры шкляныя гузікі, тры бронзавыя засцежкі.

Гэтыя рэчы былі знойдзены на целах пяці памерлых (пахаванні №№ 10, 17, 22, 25, 27). Рэшткі драўляных трун захаваліся толькі на двух пахаваннях (№№ 11, 27), затое жалезныя цвікі былі знойдзены каля большасці шкілетаў у колькасці ад 1 да 4 штук, што сведчыць аб наяўнасці трун. Большасць пахаванняў арыентаваны галавой на захад (№№ 2, 3, 3б, 4, 5, 7, 11, 13, 14, 16, 18, 20, 26, 27), меншая частка – на паўночны захад (6, 12, 15, 21 22, 25). Некаторыя пахаванні здзейснены на месцы старых: целы памерлых перакрываюць адно другое (адпаведна №№ 2, 3, 15 – 21). Асобныя пахаванні размешчаны ўпарадкавана адзін каля аднаго: адзін рад пахаванняў №№ 14, 15, 16 перакрывае пахаванні 17, 21. Зафіксавана і парнае пахаванне №№ 20, 27. Выразна прасочваецца тэндэнцыя ў размяшчэнні целаў памерлых: жанчын хавалі са складзенымі на грудзях каля самага падбародка рукамі, кісцямі ўніз (пахаванні 17, 20), адной левай рукой на грудзях, другой – на жываце (пахаванне 7), дзвюма рукамі на жываце (пахаванне 27). Мужчын хавалі са складзенымі на жываце рукамі (пахаванні 14, 15, 16, 20), складзенымі на грудзях рукамі (пахаванні 2, 11), ці рукамі, выцягнутымі ўздоўж цела (пахаванне 18).

Пахавальны інвентар вельмі бедны, у пераважнай большасці выпадкаў ён прадстаўлены алавяным крыжыкам на грудзях памерлага. Большасць крыжыкаў не захавалася па прычыне карозіі. Пра адзенне памерлага даных практычна няма. На целах трох памерлых жанчын і мужчын знойдзены бронзавыя засцежкі і шкляныя гузікі ў верхняй частцы шкілета. Верагодна, целы некаторых памерлых апраналася ў лёгкую тканевую кашулю на зашпільках і гузіках, большасць памерлых – у кашулю без зашпілек. Пахавальнага абутку не выяўлена. На могілках пахаваны вернікі каталіцкай канфесіі, верагодна, полацкая шляхта. Пра гэта сведчаць ускосныя археалагічныя даныя: косткі адной маладой жанчыны захавалі сляды спецыфічнай хваробы – сіфіліса. Асноўным пераносчыкам гэтай хваробы былі людзі ваенных і гандлёвых прафесій. Пра кантакты са зброяй красамоўна сведчаць фізічныя пашкоджанні, якія зафіксаваны на костках некаторых памерлых (мужчыны з пахаванняў №№ 13 і 14). Пры гэтым рэдкая сустракаемасць сярод даследаванай групы паталогіі, вядомай як cribra orbitalia, ускосна сведчыць пра нядрэнныя ўмовы жыцця [Емельянчик, Кошкин, 2009, с. 12 – 13].

У насельніцтва, якое пахавана на полацкім гарадзішчы, адзначаны высокі ўзровень смяротнасці, тыповы для беларускіх гарадоў таго часу. Сярэдняя працягласць жыцця з улікам дзіцячай смяротнасці складала 24,7 гадоў. Пік смяротнасці прыходзіўся на перыяд першага дзяцінства, большасць дзяцей памірала ва ўзросце да 6 гадоў. Зроблена выснова аб падабенстве полацкай краніалагічнай серыі і хcraналагічна блізкай серыі сельскага насельніцтва Беларусі, што ўказвае на мясцовае паходжанне насельніцтва, яго генетычныя сувязі з карэннымі жыхарамі Беларусі [Емельянчик, Кошкин, 2009, с. 14 – 15].

Могілкі існавалі і на тэрыторыі Запалоцкага пасада. Ва ўсходняй частцы сучаснага Запалоцця са слоў мясцовых жыхароў падчас рыцця зямлі на агародах часта зна-

ходзяць косці людзей (чарапы і рэшткі шкілетаў). Пахаванні былі ўскрыты і падчас шурфоўкі ў 2003 г. у Запалоцці. Апошняя група стратыграфічна датуецца XVI – XVII стст.

Звычайна на тэрыторыі манастыроў ці кляштараў існавалі могілкі. Інвентар жаночага манастыра св. Сафіі ад 6 чэрвеня 1637 г., зроблены падчас перадачы яго базыліянам, засведчыў існаванне цвінтара[43] каля царквы. Гэты манастыр быў размешчаны "ад форткі замкавай (*Верхняга замка*) за ракой Дзвіной, ад першага да другога вугла, які прылягае да пабудоў двара ўладыкі, 29 сажняў, ад другога да трэцяга вугла, які да муроў царквы св. Сафіі стаіць, 18 сажняў, ад таго вугла ідзе сцяна каля муроў царквы св. Сафіі, у сцяне фортка, па якой манашкі з манастыра да царквы св. Сафіі праз *цвінтар* ходзяць; а ад той форткі непадалёку ў сцяне вароты, якія да таго манастыра вядуць, шырынёй у два вазы, з форткай 26 сажняў і з варотамі; ад тых варот тая сцяна вядзе, злучаючыся з будаваннем некалькіх дамоў, у якіх убогія і царкоўная прыслуга жывуць, аж да завулку; па гэтым завулку пад самым парканам да брамы Вялікай замкавай ездзяць, той сцяны пачаўшы ад чацвёртага вугла, што з фортай і з варотамі, да пятага вугла на тым завулку стаячым, сцяны 35 сажняў, а ад таго вугла да вугла, што на замку стаіць, вугал да паркана шосты: той сцяны 40 сажняў, ад таго шостага вугла зноў да таго вугла, што ад форткі замкавай да Дзвіны стаіць, ад якой пачалося вымярэнне – той сцяны 50 сажняў" [ИЮМ, 1901, с. 18 – 19].

На тэрыторыі былога дамініканскага кляштара ў раёне сучаснай плошчы Свабоды было зафіксавана дзесяць выдзяўбаных трун-калод. Яны былі зроблены з цэльнага кавалка дрэва і складаліся з накрыўкі і ніжняй часткі. Калоды былі звужаны ў нагах і мелі выдзяўбаную выемку ў нагах нябожчыка. Сярэднія памеры калод 1,9×0,4 м. Ва ўсіх трунах знойдзены шкілеты, пры гэтым якіх-небудзь прадметаў не выяўлена, за выключэннем дэталяў адзення. Ад вопраткі засталіся толькі фрагменты скуранога абутку – поршняў ці мяккіх туфляў. Яшчэ тры пахаванні былі змешчаны ў трунах прамавугольнай формы, зробленых з масіўных дошак [Тарасаў, спр. № 1014, с. 5]. Час пахавання вызначаецца ў межах XVIII ст.

Паводле прывілея Уладзіслава IV праваслаўнаму Багаяўленскаму манастыру ад 6 чэрвеня 1633 года, манастыру дазвалялася пабудаваць на "Большой улице, граничащей съ одной стороны Большою улицею, съ другой стороны отъ Двины, полплацемъ земли Екатерины Прилуцкой, по мужу Островской, съ третьей стороны полпляцемъ мещанки Ходыки, а съ четвертой стороны четвертью плаца Павла Невзора, где стоялъ его дворъ отдалъ на вечныя времена въ пользу монастыря греческого исповеданья неуниатовъ" [ИЮМ, 1875, с. 352]. Для манастырскіх патрэб таксама дазвалялася выкупаць іншыя пляцы *"на кладбище"* для пахавання памерлых [ИЮМ, 1875, с. 353]. Паводле даравальнай граматы Аляксея Міхайлавіча Багаяўленскаму праваслаўнаму манастыру ад 23 верасня 1656 г., "три дворныя места пустыя жидовския, Якоба да Герца, да Римлянина Каспара Пневского, владеть, и те места очистить для пространства подъ колокольню, и для погребения телесъ умершихъ православныхъ християнскихъ" [Витебская старина, 1885, с. 63].

Манастыр, такім чынам, становіцца адзіным месцам на правабярэжнай частцы Полацка, дзе праваслаўнае насельніцтва ў XVII – XVIII стст. мела права на пахаванне.

Рэшткі манастырскіх могілак былі ўскрыты падчас археалагічнага нагляду за пракладкай будаўнічай траншэі ў 2005 г. Цела нябожчыка было пакладзена ў труну-калоду і заглыблена ў мацярык на 0,3 м. Пахаванне – мужчынскае, безынвентарнае. Нябож-

[43] Цвінтар – назва манастырскіх ці царкоўных могілак.

чык быў арыентаваны галавой на поўнач. Узрост памерлага – 40 – 50 гадоў. Паводле стратыграфічных даных, пахаванне было здзейснена не пазней за XV – першую палову XVI стст. Такім чынам, археалагічныя даныя пацвярджаюць звесткі пісьмовых крыніц, што могілкі існавалі ў раёне Багаяўленскага манастыра раней за XVII ст. Іх наяўнасць стала асноўнай прычынай размяшчэння непадалёк праваслаўнага Багаяўленскага манастыра.

У 2003 г. безынвентарныя пахаванні ў трунах-калодах былі адкрыты ў двары былога езуіцкага калегіума (верагодна, былы цвінтар царквы Ражаства Хрыстова), датуюцца XVII ст. Арыентацыя шкілетаў галавой на ўсход (два выпадкі), адзін – на поўнач.

Падчас рамонтна-рэстаўрацыйных работ заходніх карпусоў былога езуіцкага калегіума ў 2009 г. былі адкрыты пахаванні, якія стратыграфічна датуюцца XVI – XVII стст. Высветліць накірунак размяшчэння цел памерлых і асаблівасці пахавання не ўдалося, паколькі пахаванні былі выпадкова знойдзены будаўнікамі. Пахаванні размешчаны побач з фрагментамі фахверкавага будынка XVII ст., які, магчыма, з’яўляецца касцёлам св. Крыжа (археалагічны нагляд А. А. Салаўёва). Было высветлена, што падмуркі выяўленай пабудовы перакрывалі частку пахаванняў, якія адпаведна датуюцца часам, ранейшым за XVII ст. Паводле пісьмовых крыніц, у XVI – пачатку XVII стст. каля царквы Ражаства Хрыстова размяшчаўся цвінтар. У 1621 г. праваслаўныя мяшчане заяўлялі свае правы на пахаванне памерлых каля царквы паводле грэчаскага (праваслаўнага) абраду, апелююючы, што “кгрунтъ ... и цмынтаръ Божый и королевский, а мы дей церковь будовали, намъ вольно тела умерлыхъ тамъ ховати” [Витебская старина, 1888, с. 120].

Прадстаўнікі гарадскога патрыцыята “рускай” веры па даўняй традыцыі працягвалі хаваць памерлых у храмах. Так, паводле тэстамента ад 3 верасня 1656 г. Арыны Лукашэвічовай, жонкі полацкага бурмістра, яе цела павінна быць пахавана “способом и звычаем хрыстиянским русским в земли пры муже моем Лукьяне в церкви Богоявления светого у Полоцку, през сына моего Даниеля Лаптевича и през зятя моего” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 54]. Тэстамент Настассі Паўковай ад 1 снежня 1656 г. абавязваў яе мужа пана Васіля Павука і сына, каб яе цела “хрестиянскимъ способом поховали в прытворе в церкви Богоявления” [НГАБ, ф. 1823, воп. 1, спр. 1, арк. 98]. Такім чынам, тэстаменты полацкіх мяшчан яскрава сведчаць, што Багаяўленская царква з’яўляецца храмам-пахавальняй праваслаўнага насельніцтва Полацка, у першую чаргу кці填араў царквы, сама меней з сярэдзіны XVII ст.

Пахаванні ў склепе Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы былі вывучаны падчас раскопак 2005 г. Усяго было даследавана 8 склепаў. Высветлена, што ўсе склепы пабудаваны ў адзін час у межах другой паловы XVIII ст. У 3 склепах былі зафіксаваны чалавечыя косткі. Уяўляе цікавасць непарушанае калектыўнае пахаванне ў дамавіне з крыпты № 3. Гэтае пахаванне прадстаўлена амаль поўнымі шкілетамі 6 мужчын сталага веку (узрост больш за 50 год) [Емяльянчык, 2009, с. 34]. Фактычна гэта было перапахаванне, паколькі косткі былі абгорнуты ў дарагую тканіну з сярэбранай ніццю. Паводле антрапалагічных даных, людзі, пахаваныя ў склепах царквы, не маюць падабенства з мясцовым насельніцтвам Беларускага Падзвіння. У склепах царквы былі пахаваны кіраўнікі ордэна езуітаў [Дэйніс, 2007, с. 131].

Найбольш старажытныя яўрэйскія могілкі былі размешчаны на ўсход ад Пакроўскай царквы. Сама ж гэтая царква, пабудаваная ў 1781 г., з’яўлялася могілкавай, на захад ад яе па плане 1778 г. размяшчаліся “благочестивые”, г. зн. праваслаўныя могілкі [Пасадская, 1998, с. 208]. Час утварэння яўрэйскага могільніка вызначыць цяжка, магчыма, яго заснаванне належыць да XVI ст.

Яшчэ адзін яўрэйскі могільнік існаваў ў Задзвінні (былы Крыўцоў пасад) на месцы г. зв. Слабады. Трэці і самы вялікі яўрэйскі могільнік (6,72 га) размяшчаўся па вул. Ленінградскай [Пасадская, 1998, с. 209], ён быў ліквідаваны ў 1950-я гг., трапіўшы ў зону новабудоўляў.

Каля царквы св. Мікалая ў в. Экімань у раскопах 2000 і 2009 гг. быў адкрыты цвінтар. Непасрэдна каля падмуркаў царквы св. Мікалая былі выяўлены пахаванні, уладкаваныя аналагічна могілкам на полацкім гарадзішчы. Яны належалі каталіцкаму (ці ўніяцкаму?) насельніцтву (арыенціроўка шкілетаў галавой на паўночны захад, наяўнасць розначасовых пахаванняў у межах адной магілы).

Адно з пахаванняў на цвінтары належала дзяўчынцы ва ўзросце 6 месяцаў. Сабраны шкілетныя рэшткі. Галава немаўля судакраналася з тканінай, у якую была ўплецена ніць з каляровага металу (бронзы). Каля скроні было кальцо дыяметрам 2,3 см, шырынёй 0,5 см, зробленае з бяросты. Труны не зафіксавана, але пра яе наяўнасць сведчыць цвік даўжынёй 3 см з рэшткамі дрэва.

Полацкі краязнаўца І. П. Дэйніс сведчыць пра існаванне на экіманскім цвінтары “нізкіх каменных крыжоў”, ад якіх на сённяшні дзень захаваўся толькі малюнак [Дэйніс, 2007, с. 116].

Паводле плана Полацка 1707 г., на тэрыторыі Крыўцовага пасада на поўдзень ад больш позняга могільніка “Фатынаўка” існавалі вялікія могілкі з капліцай. Магчыма, гэтая капліца з’яўляецца царквой Параскевы Пятніцы. У XVI – XVIII стст. могільнікі працягвалі існаваць і каля ўсіх буйных манастыроў – Спаса-Еўфрасіннеўскага, Барысаглебскага, Багаяўленскага [Пасадская, 1998, с. 209].

Могілкі размяшчаліся і каля згаданага ў полацкай рэвізіі манастыра Міхаіла на Гарадку (“Гарадцы”). Могільнік існаваў як праваслаўны. Каталіцкі могільнік “Ксаверыя” быў закладзены езуітамі ў канцы XVI ст. На яго месцы, як мяркуецца, у XII ст. быў размешчаны мужскі Георгіеўскі манастыр. Могільнік “Фатынаўка” ўзнік не раней за сярэдзіну XVIII ст. Таксама гарадскімі могілкамі з’яўляліся стараверскія каля вёсак Грамы і Граменкі (сярэдзіна XVIII ст.) і могілкі Чырвоныя (канец XVIII ст.) [Пасадская, 1998, с. 210].

Такім чынам, у X – XI стст. Полацк быў акружаны дзвюма вялікімі курганнымі групамі: г. зв. “паўночны” і “ўсходні” могільнікі. Імклівае пашырэнне хрысціянства ў XII – XIII стст. абумовіла з’яўленне зусім новага тыпу пахавальнага комплекса, звязанага з культавым будынкам і прылеглай да яго тэрыторыяй – царкоўным дваром. У гэтыя часы працэс разбурэння язычніцкага некропаля стаў ужо непазбежным па прычыне пашырэння тэрыторыі горада. Магчыма, што першыя хрысціянскія могілкі, акрамя храмавых, з’явіліся на перыферыі тагачаснага Вялікага пасада каля рова па сучаснай вул. Талстога.

У XIV – XV стст. могілкі існавалі каля цэркваў. Прыкладам таму з’яўляюцца могілкі, размешчаныя на Востраве, сінхронныя часу існавання Іаана-Прадцечанскага манастыра, і могілкі каля царквы на стрэлцы Ніжняга замка.

Найбольш даследаванымі ў археалагічным плане з’яўляюцца гарадскія могілкі XVI – XVIII стст. на полацкім гарадзішчы і экіманскія. Іх аб’ядноўваюць асаблівасці размяшчэння цел памерлых (заходняя ці паўночна-заходняя арыенціроўка шкілетаў у драўляных трунах з дошак ці выдзяўбаных з цэльнага кавалка дрэва), практычна безынвентарны характар пахавання, целы закопваліся на глыбіню 1 – 1,5 м. Могілкі дзейнічалі на працягу некалькіх стагоддзяў, у межах адной магілы, як правіла, размяшчаліся адзін над адным розначасовыя пахаванні.

Могілкі пры цэрквах XVI – XVIII стст. амаль не даследаваны, за выключэннем перапахаванняў у цагляных склепах Спаса-Праабражэнскай царквы. Той факт, што палачане зберагалі памяць аб памерлых, даказвае доўгатэрміновы характар існавання могілак, наяўнасць перапахаванняў і захаванасць г. зв. “усходняга” язычніцкага некропаля (“валатовак”) да канца XVIII ст.

Падводзячы вынік, адзначым, што планіровачная структура полацкіх пасадаў складалася на працягу значнага прамежку часу. У IX – XI стст. адбывалася станаўленне і развіццё вакольнага горада Полацка – г. зв. “малога” пасада, асновы будучага Вялікага пасада (плошча 12,5 га). На працягу XI ст. узніклі і дасягнулі найбольшага тэрытарыяльнага пашырэння Вялікі і Запалоцкі пасады (плошча адпаведна каля 50 і 40 га). Запалоцкі пасад скарачаецца напалову за кошт заходняй часткі ў пачатку XIII ст.

Запалоцкі пасад быў умацаваны драўляным вастраколам у XI – XII стст., абарончая сцяна вакольнага горада складалася з гародняў і на асобных участках была зроблена ў перакладной (руставай) тэхніцы з выкарыстаннем камянёў у падмурку. Даныя пра абарончыя ўмацаванні Вялікага пасада ў гэты час адсутнічаюць.

Каля 1501 г. у Полацку быў пабудаваны “паркан” – умацаванні Вялікага і Запалоцкага пасадаў. Гэты паркан неаднаразова перабудоўваўся і праіснаваў да пачатку XVIII ст. Запалоцкі паркан праіснаваў з рознымі перабудовамі да вайны 1654 – 1667 гг.

Пасяленні палачан размяшчаліся і па-за межамі крапасной сцяны і былі даследаваны археалагічна. Забудова XI – XVIII стст. адкрыта на “вянцы” правага берага р. Палаты насупраць Верхняга і Ніжняга замкаў, а таксама полацкага гарадзішча.

Найбольш старажытныя пасяленні на левабярэжжы р. Дзвіны – Слабада і Востраў – былі заснаваны ў X – XI стст. Менавіта пры гэтых пасяленнях і паўсталі два з трох буйнейшых у XII – XVI стст. полацкіх манастыроў: Бельчыцкі Барысаглебскі і Іаана Прадцечы. Тэрыторыя левабярэжнага Крыўцовага і Экіманскага пасадаў была заселена значна пазней – не раней за канец XV ст., у першую чаргу, залежным ад баяр і духавенства насельніцтвам Вялікага і Запалоцкага пасадаў. Засяленне левабярэжнай часткі Полацка было звязана з частымі войнамі першай паловы XVI ст. (паходы 1508, 1513, 1518 гг.), у выніку якіх правабярэжныя пасады разам з парканам выпальваліся, а насельніцтва было вымушана разысціся.

# 7. РАМЕСНЫЯ ЗАНЯТКІ І ГАНДЛЁВЫЯ СУВЯЗІ ПАСАДСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА

## 7.1. Рамесныя занямкі

Полацк здаўна з’яўляўся значным гандлёва-рамесным цэнтрам рэгіёна. Археалагічныя даследаванні пацвярджаюць прысутнасць слядоў разгалінаванай рамеснай вытворчасці ў межах гарадской тэрыторыі ў X – XVIII стст. Істотным чынам гэтыя даныя дапаўняюць звесткі пісьмовых крыніц XVI – XVIII стст. У гэты час юрыдычна замацаваўся прынцып, згодна з якім мешчанінам (г. зн. паўнапраўным гараджанінам) мог лічыцца толькі той чалавек, які займаецца рамяством ці гандлем.

У раннегарадскі этап IX – X стст. рамяство, верагодна, мела абшчынны характар. З-за недахопу наяўных археалагічных даных больш дакладна вызначыць характар рамяства на пасяленнях Беларускага Падзвіння на сённяшні дзень з’яўляецца невырашальнай задачай. У прыватнасці, на Лукомльскім гарадзішчы былі выяўлены формы для адліўкі ювелірных упрыгожанняў, што з’яўляецца, на думку І.І. Ерамеева і Г. В. Штыхава, прыметай для датавання ранесярэдневяковага культурнага пласта [Еремеев, Штхов, 2007, с. 116 – 117]. Падобных артэфактаў у Полацку пакуль што не знойдзена, што тлумачыцца невялікай плошчай ускрытых раннегарадскіх напластаванняў (для параўнання: на Лукомльскім гарадзішчы ўскрыта каля 700 м$^2$, на полацкім – каля 120 м$^2$).

На тэрыторыі вакольнага горада ў 1989 г. былі ўскрыты рэшткі ювелірнай майстэрні X – пачатку XI стст. у межах аднаго сядзібнага двара. Пра наяўнасць майстэрні сведчаць вялікая колькасць шкляных пацерак, сярод якіх былі бракаваныя, ювелірныя пінцэты, накаваленка, гіркі-разнавагі, фрагмент бронзавага пярсцёнка [Тарасаў, 1998 б, мал. 48 – 50, 52; Тарасов, спр. № 1165, с. 12].

Рэшткі другой майстэрні былі адкрыты ў шурфе па вул. Стралецкай, 23. Тут быў ускрыты развал печы, у якой знаходзіліся фрагменты тыгляў і ліцейнай формы для імітацыі арабскай манеты [Тарасаў, 2003, с. 267]. Такім чынам, ювелірнае рамяство з’яўляецца адзіным, сляды якога выразна зафіксаваны ў раннегарадскіх напластаваннях вакольнага горада.

Разам з ювелірным рамяством у раннегарадскі час магчыма вызначыць і кавальскае. Сляды кавальскага рамяства вызначаюцца па знаходжанні шлакаў у пласце апошняй чвэрці І тыс. на гарадзішчы і вакольным горадзе. Развіццю кавальскага рамяства ў той час, безумоўна, спрыяла блізкае размяшчэнне р. Палаты з практычна неабмежаванымі запасамі вады.

Росквіт рамёстваў прыпадае на XI – XIII стст. Гэта шмат у чым абумовіла станаўленне Полацка як горада ў сацыяльна-эканамічным разуменні. Г. В. Штыхаў вылучае ў Полацку XI – XIII стст. наступныя віды рамёстваў: кавальскае, ювелірнае, гарбарнае і кушнерскае, дрэваапрацоўчае, касцярэзнае, каменячоснае і ганчарнае [Штыхов, 1975, с. 56 – 103]. Апісанне тэхналогіі рамёстваў і прадукцыі надзейна падмацавана археалагічнымі знаходкамі, некаторыя з іх можна характарызаваць як комплексы вытворчых майстэрняў (наяўнасць спецыялізаваных рамесных інструментаў, паўфабрыкатаў і гатовых вырабаў, рэштках жылых і вытворчых пабудоў, сыравіны, адыходаў вытворчасці). Усе разам гэтыя прыметы спецыялізаванай майстэрні прысутнічаюць рэдка, аднак іх пэўныя спалучэнні дазваляюць вызначаць тыя ці іншыя вытворчыя комплексы. Пры гэтым асабліва падкрэслім, што набор адзінкавых прымет (напрыклад, знаходжанне рамеснага брака ці асобных прылад працы і інш.) пазначаюць

толькі *магчымасць* існавання раменай вытворчасці на той ці іншай тэрыторыі. *Верагоднасць* такой вытворчасці можа быць вызначана толькі пры працягненні археалагічнага вывучэння.

Комплекс прымет, які сведчыць пра існаванне той ці іншай спецыялізаванай майстэрні, вызначае стан ведаў пра існаванне раменай вытворчасці ў Полацку ў X – XVIII стст. і прадстаўляе найбольшую цікавасць.

Так, сярод матэрыялаў, атрыманых падчас раскопак 1950 – 1960-х гг. да комплекса рамесных майстэрняў можна залічыць набор рухомых і нерухомых артэфактаў, звязаных з кавальскай, ювелірнай і гарбарнай вытворчасцю.

Кавальскае рамяство прадстаўлена вялікім наборам прылад працы і рэшткамі пабудоў гаспадарчага прызначэння (гаспадарчая пабудова 6–Ж, якая вызначаецца як кузня, і пабудова 4–М) [Штыхов, 1975, с. 56]. Той жа набор артэфактаў характарызуе ювелірную вытворчасць (пабудова 7–М 1243 – 1245 гг.). Гарбарная справа прадстаўлена вялікім наборам паўфабрыкатаў, адыходаў вытворчасці і гатовых вырабаў са скуры. Прычым усе групы артэфактаў XI–XIII стст. (абутак, рамяні, каліты, воўна, перамяшаная з вапнай і інш.) у вялікай колькасці знойдзены толькі на месцы г. зв. усходніх раскопаў, што дазваляе вызначыць гэтую тэрыторыю як асноўную для размяшчэння гарбарнай вытворчасці таго часу. Майстэрня лакалізавана ў межах пабудовы 7–А [Штыхов, 1975, с. 72 – 75].

Картаграфія размяшчэння археалагічных комплексаў розначасовых рамесных майстэрняў прадстаўлена на мал. 59. Пры гэтым асабліва падкрэслім, што адзінкавыя сляды вытворчасці (асобныя фрагменты прылад працы, адыходы вытворчасці ці паўфабрыкаты) той ці іншай галіны рамяства сустракаюцца практычна ў кожным раскопе і пры складанні пазначанай карты-схемы не ўлічваліся.

Найбольшай колькасцю прадстаўлены артэфакты (вырабы, нарыхтоўкі, прылады вытворчасці), якія сведчаць пра развіццё ў Полацку ювелірнай справы. Эталонам і вяршыняй эмальернай справы з'яўляецца Крыж Еўфрасінні Полацкай, створаны Лазарам Богшай у 1161 г. Пытанне аб месцы вырабу Крыжа з'яўляецца дыскусійным. Даследчыкамі прапануюцца гіпотэзы аб магчымым яго стварэнні ў Полацку ці ў Кіеве.

Археалагічнымі прыметамі эмальерных майстэрань з'яўляюцца рэшткі рознакаляровай эмалевай масы, матрыцы, тыгелькі, інструментарый ювеліра. Тры такія майстэрні выяўлены ў Кіеве [Кошман, 2006, с. 66 – 67].

Пытанне аб магчымасці існавання спецыялізаванай на вытворчасці вырабаў з перагародчатай эмаллю ювелірнай майстэрні з'яўлялася прадметам асобнага даследавання [Кошман, 2006]. Так, у Полацку падчас раскопак 1962 г. В. Р. Тарасенкі і Г. В. Штыхава на Верхнім замку былі знойдзены фрагменты вырабу з перагародкавай эмаллю XII ст. Акрамя таго, у раскопе быў знойдзены і інструментарый ювеліра – бронзавы пінцэт, тыглі, у тым ліку тыглі з нацёкамі чырвонай шклопадобнай масы і расплаўленага металу. Гэтыя знаходкі як быццам бы сведчаць пра існаванне ювелірнай майстэрні. Контраргументам з'яўляецца сціслае апісанне ў справаздачы слядоў драўляных канструкцый на вызначаным стратыграфічным гарызонце, уласна майстэрні [Кошман, 2006, с. 67].

На нашу думку, дадзены комплекс рэчаў не можа з'яўляцца выпадковым наборам артэфактаў. Усё ж ён сведчыць пра існаванне ювелірнай майстэрні калі не непасрэдна ў межах раскопа 3, то дзесьці побач з ім. Гэтая майстэрня існавала ў XII ст. на пасадскай тэрыторыі *каля* Верхняга замка.

Падчас раскопак Г. В. Штыхава ў 1963 – 1968 гг. на Верхнім замку быў знойдзены шэраг матэрыялаў, якія сведчаць аб развіцці ювелірнага мастацтва ў Полацку XII –

XIII стст. Сярод іх шматлікія ліцейныя формачкі для адліўкі пацерак, прывесак, крыжыкаў, гузікаў, пярсцёнкаў, бранзалетаў і г. д. Таксама былі знойдзены недапрацаваныя формы і ліцейныя тыглі (больш за 50 шт.), якія сведчаць пра мясцовую вытворчасць ювелірных упрыгожанняў. Рэшткамі майстэрні ювеліра можа быць загінуўшая ў пажары пабудова 7–М 1243 – 1245 гг. (вызначэнне паводле дэндрахраналогіі) [Тарасаў, 2003, с. 267; Штыхов, 1975, с. 46].

Другая ювелірная майстэрня XII ст. існавала на адлегласці больш за 400 м на ўсход ад адзначанай і мае ўсе неабходныя прыметы спецыялізаванага вытворчага комплекса: 1) наяўнасць 7 пабудоў, пры гэтым памеры жылой часткі сядзібы складаюць каля 340 м$^2$, усяго прысядзібнага комплекса – больш за 1500 м$^2$; 2) багаты набор ювелірных вырабаў і прылад працы ювеліра (вырабы з каляровых металаў, бурштыну, шкла); 3) наяўнасць вырабаў і нарыхтовак з бронзы (больш за 40 экз.). Сярод саміх гаспадароў сядзібы была ўзроставая спецыялізацыя. Рамеснікі адначасова працавалі з металам, шклом, бурштынам і косцьмі. Вырабы з метала ў пераважнай большасці рабіліся на заказ, а бурштын, шкло былі прадуктамі масавага попыту. На прыкладзе полацкай сядзібы прадстаўлена першае сведчанне ювелірнай таварнай вытворчасці на тэрыторыі Беларусі [Тарасаў, 2003, с. 271 – 272].

Гэтая сядзіба належала далёка не радавому рамесніку. Можна цалкам пагадзіцца, што тут на працягу амаль стагоддзя жыла цэлая сям'я-дынастыя ювеліраў.

Існуюць пераканаўчыя доказы існавання мясцовай вытворчасці шкляных вырабаў у межах вызначанага рамеснага комплекса. Знойдзены вырабы са шкла, аплаўлены шклошлак у выглядзе дыскападобнай прывескі, шкляная кропелька ў выглядзе "батаеўскай слёзкі" ўнутры шлака, аплаўленыя шкляныя нарыхтоўкі ў выглядзе бранзалета і бракаваныя пацеркі, у якіх адсутнічалі канальныя адтуліны [Тарасаў, 2003, с. 271].

Майстар і члены яго сям'і былі адукаванымі людзьмі, ведалі грамату. Аб гэтым сведчаць надпісы на праселках ("пататная"), асобныя літары на керамічным посудзе і касцях [Тарасаў, 2003, с. 272].

Цалкам верагодна атаясамліваць сярод гаспадароў сядзібы знакамітага ювеліра Лазара Богшу, на карысць гэтага сведчыць надпіс на адной з косці літар "Л" і "ЛН" – скарочанай формы ад "лазореві".

Дык ці магчыма вызначыць Полацк як месца, дзе Лазарам Богшам быў выраблены знакаміты Крыж Еўфрасінні? Прамога адказу на гэтае пытанне, відаць, мы не знойдзем, аднак ускосныя доказы на карысць такога меркавання ўсё ж такі ёсць. Сярод рарытэтных знаходак на полацкім гарадзішчы заслугоўваюць увагі дзве бронзавыя фігуркі-падвескі ад напрастольнага крыжа – Багародзіцы і апостала Іаана, якія аплакваюць Хрыста (сюжэт распяцця на крыжы). Фігуркі адлітыя ў форме, малюнак барэльефны, вышынёй 0,4 – 0,6 см. Вышыня фігуркі Багародзіцы – 8 см, у фігуркі апостала адсутнічае галава, але захавалася ніжняя частка (крапленне), што ўсё разам мае вышыню 8 см. Абедзве фігуркі размяшчаліся на кіотным крыжы (мал. 60). Аснова кіотнага крыжа з цалкам аналагічнай фігуркай Прадстаячай Багамацеры была знойдзена ў 1940 г. у Севастопалі (Херсанэсе), асобная фігурка Іаана – на Шапятоўскім гарадзішчы Хмяльніцкай вобласці (Украіна), яна датуецца першай паловай XIII ст. Знаходка дзвюх фігурак на полацкім гарадзішчы – трэцяя ў гэтым шэрагу, што сведчыць аб іх вялікай каштоўнасці. На карысць мясцовай (полацкай) адліўкі абедзвюх фігурак гавораць шматлікія абломкі тыгляў, знойдзеныя ў стратыграфічным пласце XII – XIII стст. Візуальнае параўнанне фігурак, знойдзеных у Херсанэсе, Шаставіцы і Полацку дазваляе заўважыць, што асобныя дэталі адзення Божай Маці і апостала Іаана з полацкага гарадзішча маюць істотныя адрозненні ад згаданай групы вырабаў.

Відавочна, што полацкія фігуркі адліты ў асобнай ювелірнай форме, а пазначаныя асаблівасці пацвярджаюць магчымасць іх мясцовай вытворчасці. Паўсюль разам са згаданымі знаходкамі ў культурным пласце былі адшуканы фрагменты тыгляў для плаўкі каляровых металаў. Усё гэта сведчыць, што мясцовая вытворчасць высокамастацкіх рэчаў па візантыйскіх канонах у Полацку, відавочна, існавала.

Існаванне мясцовай вытворчасці высокамастацкіх рэчаў выразна прасочваецца на прыкладзе іншых прадметаў дробнай пластыкі. Так, у раскопе 2007 г. была знойдзена адваротная створка меднага крыжа-энкалпіёна (машчавіка). Крыж быў знойдзены ў верхнім перакапаным пласце зямлі. Падобныя крыжы належаць да тыпу т. зв. барысаглебскіх энкалпіёнаў (варыянт 1 паводле Г. Ф. Карзухінай і А. А. Пясковай), час існавання такіх крыжоў ахоплівае XI – пачатак XIII стст. [Корзухина, Пескова, 2003, с. 87]. Кананічна на ліцавой створцы змяшчалася выява князя Барыса, на адваротнай – Глеба, хоць вядомы і варыяцыі, звязаныя з асабістымі перавагамі майстроў. Уладальнікамі крыжоў-энкалпіёнаў былі вялікія князі, дружыннікі, рамеснікі і іншыя заможныя людзі. Крыж мае памеры 5,2×7,1×0,4 см (з завесамі), 5,2×6 см (без завес). Малюнак барэльефны, захаванасць крыжа добрая (мал. 61).

Першасная адліўка энкалпіёнаў падобнага тыпу адбывалася ў Кіеве, у некаторых усходнеславянскіх землях вядомы мадыфікаваныя адліўкі па прывезеных з Кіева ўзорах. Да ліку такіх адлівак належыць створка крыжа, знойдзеная на полацкім гарадзішчы. Крыж з аналагічнай выявай знойдзены падчас раскопак у Вялікім Ноўгарадзе ў пабудове 1135 г. (памер 5×5,8 см).

Ёсць падставы меркаваць, што знойдзены на гарадзішчы крыж быў выраблены ў Полацку ў часы княжання аднаго з сыноў легендарнага Усяслава Брачыславіча (1044 – 1101) – Барыса Усяславіча (1127 – 1128). У першай трэці XII ст. у Полацку актыўна распаўсюджваецца культ Барыса і Глеба, у прыгараднай мясцовасці Бельчыцы на левым беразе р. Дзвіны будуецца Барысаглебскі княжацкі манастыр з велічным саборным храмам.

Малюнак на створцы полацкага крыжа добра чытаецца, маюцца нязначныя сляды пацёртасці лікаў святых, выкліканыя працяглым нашэннем крыжа. У цэнтры кампазіцыі змешчана выява князя ў поўны рост. У левай руцэ князь трымае сімвал веры – мадэль храма. Храм намаляваны трохапсідным, ён мае прысадзістыя прапорцыі. Верагодна, за аснову малюнка прыняты Сафійскі сабор. Але які? З трох вядомых на Русі Сафіяў (Кіеў, Ноўгарад, Полацк) полацкая і наўгародская мелі па тры апсіды[44], значыць, кіеўскі храм з пяццю апсідамі за аснову малюнка на крыжы не мог быць прыняты. Такім чынам, прататып малюнка храма – крыжова-купальны сабор з трыма апсідамі і пяццю купаламі. І хоць фармальна гэтаму апісанню найбольш адпавядае полацкая Сафія[45], усё ж мадэль храма ў руцэ князя – гэта выява традыцыйнага праваслаўнага пяцігаловага храма, які сімвалізаваў Уваскрашэнне Хрыста і чатырохевангелле.

У выяве князя ювелір старанна перадаў усе дробныя дэталі вопраткі (на правым плячы князя – фібула, на галаве – княжацкі вянок, бачны ніспадаючыя складкі намёта). Майстар імкнуўся перадаць адзенне святых: зверху ў медальёне змешчаны малюнак Багамацеры, выразна бачны мафорый, у бакавых медальёнах размешчаны крыху меншыя па памеры малюнкі святых.

---

[44] Пазнейшыя прыдзелы Наўгародскай Сафіі ў разлік не прымаюцца.

[45] Існуе меркаванне, што пачатковы сабор XI ст. у Полацку меў пяць купалоў, у XII ст., падчас другога этапа будаўнічых работ, да іх былі дабудаваны яшчэ два.

У раскопе на Вялікім пасадзе ў 2009 г. былі знойдзены дзве ліцавыя створкі бронзавых крыжоў-энкалпіёнаў з выявай Ускрыжаванняў. Адзін з іх выклікае найвялікшую цікавасць. Шырыня крыжа 4 см. Вышыня ад вушка да абламанай ніжняй часткі 4,7 см, да ніжняй часткі перакрыжжа – 4,3 см, таўшчыня створкі – 0,3 см (мал. 62). Выява Ускрыжаванага Хрыста перададзена высокім рэльефам. Захаваліся выявы дробных дэталяў (рысы твару, характэрная перадача німба, стылізаваны раслінны арнамент над Сусветным дрэвам). Надгалоўе выканана ў выглядзе шырокага вушка.

Гэты энкалпіён пакуль што не мае аналагаў. Тыпалагічна падобная выява вядома толькі на энкалпіёне XII ст., які захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі Украіны (г. Кіеў) і паходжанне якога застаецца нявысветленым [Корзухина, Пескова, 2003, с. 96]. Іканаграфічны тып выявы на гэтым крыжы вельмі сцёрты і практычна не чытаецца. Памеры энкалпіёна 5,0×3,9×2,3 см.

Такая форма крыжоў-энкалпіёнаў з пашыранымі канцамі характэрна для візантыйскіх вырабаў, але вытворчасць захоўваемага ў Кіеве крыжа на тэрыторыі Русі не выклікае сумнення [Корзухина, Пескова, 2003, с. 96].

Выява Хрыста на знойдзеным падчас раскопак на плошчы Свабоды крыжы-энкалпіёне стылістычна роднасная выяве на нацельных крыжах “паўночнаеўрапейскага тыпу”, якія датуюцца X – XI стст. Два з іх знойдзены ў Полацку, адзін – сярод рэчаў ювелірнай майстэрні X – XI стст. на Ніжнім замку [Тарасаў, 1998 б, мал. 48], другі – выпадковая знаходка А. Г. Бухавецкага ў вусці р. Палаты (мал. 63). Крыж, знойдзены ў р. Палаце, мае памер 5,2×3,9 см. Памеры крыжа з Ніжняга замка – 5×3,8 см. Шырыня крыжа-энкалпіёна 4 см. Вышыня ад вушка да абламанай ніжняй часткі 4,7 см, да ніжняй часткі перакрыжжа – 4,3 см, таўшчыня створкі – 0,3 см.

На ўсіх трох выявах фігура Хрыста займае ўсё поле крыжа, выразна перададзены рысы твару, дэталі аддзення. Кісці рук Хрыста непрапарцыянальна вялікія. Амаль супадаюць памеры (шырыня знойдзенага на плошчы Свабоды і ў р. Палаце крыжоў адпаведна 4 і 3,9 см). Гэта сведчыць на карысць іх вытворчасці ў межах адной з дзвюх ювелірных майстэрняў X – XII стст., адкрытых на Ніжнім замку і на Вялікім пасадзе г. Полацка. Інакш як яшчэ патлумачыць факт знаходжання трох унікальных, тыпалагічна роднасных рэчаў на абмежаванай тэрыторыі каля Верхняга замка? Пры гэтым падкрэслім тую акалічнасць, што адзін з нацельных крыжоў быў знойдзены падчас раскопак рэшткаў ювелірнай майстэрні X – XI стст.

Пры раскопках на гарадзішчы былі выяўленыя артэфакты, якія сведчаць аб пражыванні тут гарадской вярхушкі – князя і баяраў. Сярод іх – бронзавая літая накладка (мал. 64). Выраб мае форму роўнастаронняга трохвугольніка, выгнутага па вертыкальнай восі (памер бакоў роўны 10 см). Гэты прадмет з’яўляўся састаўной часткай адной кампазіцыі з некалькіх, магчыма, аналагічных па сюжэце, накладак. Малюнак барэльефны, вышыня адліўкі 0,3 см. Можна выказаць меркаванне, што некалькі падобных накладак атачалі драўляную чару. Дэфармацыя верхняй часткі выраба не дазваляе вызначыць дыяметр чары.

Мацавалася накладка з дапамогай металічных штыфтоў да ніжняга боку вянка драўлянай чары і да прыдоннай часткі сценкі – на гэта ўказваюць адтуліны ў верхняй частцы выраба, а таксама адтуліна са штыфтам у ніжнім вуглу. Малюнак грыфона з’яўляўся свайго роду абярэгам змесціва трапезнай чары, прызначанай, верагодна, для сталавання князя або яго бліжэйшага асяроддзя. Не выключана, аднак, прызначэнне чары для царкоўных мэт. Раслінны арнамент сімвалізуе Дрэва Жыцця – архетып найстаражытнейшага сакральнага сюжэта.

Такім чынам, археалагічныя даныя сведчаць аб вытворчасці ў Полацку высокамастацкіх рэчаў, адным з якіх мог з’яўляцца знакаміты Крыж Еўфрасінні (мал. 65). Пражыванне ў горадзе заказчыцы, ігуменні Еўфрасінні, цалкам пацвярджае гэтую думку.

Сляды вытворчасці жалеза ў межах пасадскай тэрыторыі (рэшткі печаў-домніц, наяўнасць скаплення шлакаў) археалагічна зафіксаваны не толькі на тэрыторыі, прылеглай да Верхняга замка. Металургічны шлак трапляецца ў культурных напластаваннях XI – XVI стст. практычна паўсюдна на пасадскай тэрыторыі, вялікія скапленні шлакаў зафіксаваны ў раскопах на Ніжнім замку, паўночнай і паўднёвай частках Вялікага пасаду, г. зн. месцах, прылеглых да р. Палаты ці р. Дзвіны, але на адлегласці да 150 м ад іх. Усё гэта сведчыць аб вытворчасці жалеза на месцы і наступнай яго кавальскай апрацоўцы.

Як прыклад такой апрацоўкі адзначым вырабы, знойдзеныя падчас раскопак на полацкім гарадзішчы ў 2007 г., якія паходзяць са зброевай майстэрні. Слядоў самой пабудовы, улічваючы невялікую плошчу раскопа, дакладна вызначыць не ўдалося, аднак знойдзеныя артэфакты пераканаўча сведчаць на карысць яе існавання. Так, у раскопе былі знойдзены 44 адзінкі жалезных пласцінак наборнага даспеха і іх нарыхтовак, два кольцы кальчугі. Пласцінкі даспеха знойдзены ў стратыграфічным пласце XII – XIII стст. З іх ліку вылучаецца шырокая пласціна-нарыхтоўка з раскляпанымі, але не завальцаванымі адтулінамі для трымання (памеры 2,5×6,5 см), 13 вузкіх пласцінак і іх фрагментаў, якія маюць адзін падоўжаны зубчаты край і дзве ці тры адтуліны для крапяжу, адна пасярэдзіне, дзве па краях (памеры гэтых пласцінак ў сярэднім 1×6,5 см). Большасць пласцінак (30 цэлых і фрагментаў) зроблены ў форме крыху выгнутых па даўжыні жалезных палосак з дзвюма-трыма адтулінамі для крапяжу.

Нечаканым адкрыццем стала даследаванне рэштkaў печы па вытворчасці плінфы на жылой пасадскай (!) тэрыторыі. У 2007 г. былі атрыманы пераканаўчыя доказы існавання на паўночнай ускраіне Вялікага пасада ў XII ст. гэтага важнага вытворчага комплекса. Росквіт полацкай школы мураванага дойлідства ў XII ст. патрабаваў вялікай колькасці будаўнічых матэрыялаў. Іх вытворчасць павінна была адбывацца ў вялікіх маштабах, улічваючы той факт, што ў Полацку археалагічна адкрыта не менш за 10 мураваных храмаў XII ст. (сапраўдная іх колькасць была большай).

Так, у раёне сучаснай вул. Войкава, у будаўнічай траншэі паміж дамамі 1 – 5 быў зафіксаваны развал плінфы без слядоў рошчыны і плітка падлогі з пашкоджанай палівай. Сабрана шмат кавалкаў абпаленай і аплаўленай плінфы. Большасць фрагментаў таўшчынёй 2,7 – 3,5 см, некаторыя 3,7 – 4 см, шырынёй ад 15 да 20 см (знойдзена 7 шт.). Асобныя фрагменты плінфы (19 шт.) мелі знакі на тарцах у выглядзе квадратаў, ліній, трохвугольнікаў і ламаных ліній. Уся плінфа знойдзена ў пласце вільготнай і абпаленай чырвонай гліны з дамешкамі вугля і попелу. У перадмацерыку прасочваецца прапластка шчыльнай чырвонай гліны з дамешкамі колатай плінфы – асновы печы для абпалу плінфы. Да часу яе ўзвядзення вакол утварыўся тонкі культурны пласт. Па гэтай прычыне под ніжняй камеры печы быў значна вышэйшы за ўзровень мацерыка. Падчас разбурэння печы ўся цэлая плінфа была сабрана [Соловьёв, 2009, с. 261].

Наяўнасць вялікай колькасці цаглянага друзу, бракаванай перапаленай і колатай плінфы з’яўляецца характэрным спадарожнікам плінфяной вытворчасці [Раппопорт, 1985, с. 166]. Шырыня ўчастка траншэі, у якой даследаваны рэшткі плінфы, складае 3,5 м. Прапласткі керамічнага друзу з колатай плінфай перавышалі шырыню ўчастка [Соловьёв, спр. № 2510, с. 5]. Такім чынам, памеры печы былі большыя за адзначаную даўжыню. Гэта тыпова для печаў такога кшталту, дыяметр асновы якіх быў каля 4,5 м [Раппопорт, 1985, с. 166, 199].

Печ была зроблена на перыферыі пасадскай тэрыторыі, на той час ужо заселенай [Соловьёв, 2004; 2009]. Печ размяшчалася паблізу ад рова, які вёў да р. Палаты і быў засыпаны ў XIX ст. Улічваючы вялікую пажаранебяспеку цаглянай вытворчасці, магчыма вызначыць, што гэты роў у старажытнасці быў запоўнены вадой.

Нельга не звярнуць увагу на выяўлены на тэрыторыі паселішча за р. Палатой комплекс з 4 паўфабрыкатаў і 1 праселкі з шыфернага сланца. Разам са спадарожнай керамікай (1 ляпное венца і некалькі раннеганчарных) выяўленыя артэфакты магчыма датаваць у межах XI ст. Рэчы размяшчаліся ў межах мацерыковых ям (гл. дадатак 1). Характар даследавання не прадугледжваў правядзення археалагічных раскопак, таму, відавочна, гэты комплекс рэчаў далёка не поўны. У дадзеным выпадку вельмі важна, што адкрытыя сляды каменячоснай справы, магчыма, сведчаць пра рамесныя заняткі пэўнай часткі насельніцтва і апрацоўку каменю з прывазной сыравіны на пасадскай тэрыторыі.

У XIV – XV стст. даных аб развіцці рамёстваў у Полацку няшмат па прычыне адсутнасці будаўнічых гарызонтаў гэтага часу. Тым не менш, асобныя археалагічныя комплексы дазваляюць вызначыць ступень развіцця асобных рамёстваў. Так, на тэрыторыі паўднёвага дворыка былога кадэцкага корпуса (езуіцкага калегіума / акадэміі) у г. Полацку ў раскопе 4 (2003 г.) былі выяўлены рэшткі касцярэзнай майстэрні [Дук, 2007 а].

Рэшткі касцярэзнай майстэрні былі даследаваны ў стратыграфічным пласце разам з рэчамі, якія датуюцца ў дыяпазоне XIV – XVI стст. Гэты стратыграфічны пласт захаваў рухомыя артэфакты і фрагменты драўлянай забудовы сядзібы рамесніка-касцярэза. Ад будынкаў засталіся напалову спарахнелыя кавалкі абпаленых плах, драўляныя насцілы з дошак і архітэктурна-дэкаратыўная кераміка каля іх (кавалкі глінянай абмазкі печы, кавалкі гаршковай кафлі і пліткі падлогі). Каля плах і драўляных насцілаў знойдзена вялікая колькасць металічных рэчаў – інвентар згарэлых пабудоў, а таксама вырабы з косці, нарыхтоўкі і абрэзкі косці.

Большасць масавых і індывідуальных знаходак існавала ў межах XV – XVI стст., а іх характар указвае на тое, што на месцы раскопа 4 размяшчалася адна ці некалькі пабудоў, якія загінулі ў агні.

Размяшчэнне рэшткаў плах дазваляе акрэсліць адлегласць паміж сценамі адной з пабудоў – 2,3 м. Бліжэй да сярэдзіны пабудовы, амаль ушчыльную да паўднёвай сценкі, размяшчаўся апечак (развал спечанай гліны на плошчы квадрата 1,8×1,2 м, магутнасцю 0,3 – 0,4 м). На асобных кавалках гліны захаваліся адбіткі гаршковай кафлі.

Цікава адзначыць, што пад адной з плах (верагодна, ніжні вянок пабудовы), якую маркіраваў краевугольны камень, знойдзена манета – прускі грош Альберта II (1537 ці 1544 гг.) – як магчымае сведчанне звычаю класці манету пад вугал дома.

Група рухомых артэфактаў прадстаўлена жалезнымі дэталямі дзвярнога набора, прыладамі працы і будаўнічымі матэрыяламі. У склад рэчаў пабудовы ўваходзяць прабоі, будаўнічыя і пабытовыя скабяныя вырабы, завескі ад аканіц, дзвярная клямка, цвікі, жалезнае кольца і дзве дэталі ад навясных замкоў. З рэдкіх знаходак вылучым кавалак свінцовай аправы ад шклянога акна.

Прылады працы рамесніка-касцярэза прадстаўлены жалезным разцом, разцом-калаўротам, шыламі, чатырма нажамі, двума свердламі, вырабам невядомага прызначэння.

Разам з пазначанымі металічнымі рэчамі былі знойдзены два асялкі, якія маглі выкарыстоўвацца як лашчылы для паліравання косці. Асялкі зроблены з дробназярністага пясчаніку.

Адметнай з’яўляецца і значная колькасць знойдзеных касцяных артэфактаў, якія прадстаўляюць усе ступені вытворчасці: ад рэшткаў апрацаваных рагоў, касцей і рамеснага браку да нарыхтовак і гатовых вырабаў. Так, у стратыграфічным пласце 3 знойдзена 25 аснаванняў (разетак) масіўных рагоў, 86 касцяных нарыхтовак разам з адыходамі вытворчасці (рэшткамі апрацаваных рагоў і костак). Дзве касцяныя накладкі з адтулінамі з’яўляюцца рамесным бракам. Вырабы прадстаўлены касцяным пярсцёнкам і шахматнай фігурай (ферзь) (мал. 66). Разам з гэтымі касцянымі вырабамі былі знойдзены згаданыя вышэй металічныя інструменты, кавалкі керамікі, пераважна гаршкоў.

З 86 рэштак апрацаваных рагоў і костак 3 – гэта разеткі рагоў са слядамі рэзання і 83 нарыхтоўкі і абрэзкі з рагоў і костак, як правіла, тонкія касцяныя пласцінкі рознай формы. Да нарыхтовак належаць кавалкі адросткаў рагоў са слядамі падрубкі, ламання, пілавання, рэзання і глянцавання. Рамесны брак прадстаўлены накладкамі на дзяржанне нажа ці нейкую іншую прыладу. Усяго знойдзена 5 такіх накладак (вызначана сыравіна толькі двух). Тры накладкі маюць некалькі адтулін дыяметрам 0,2 – 0,3 см для клёпкавага мацавання на металічнай аснове. Зроблены з рога аленя (cervus elaphus) і лася (alces alces). Таўшчыня накладак каля 0,3 см.

Цэлыя касцяныя вырабы з’яўляюцца рарытэтнымі знаходкамі. Сярод іх неабходна вылучыць касцяную шахматную фігуру фярзя XV – XVI стст. з рога аленя (самка cervus elaphus, узрост большы за 4 гады, перад вытворчасцю сыравіна была адмочана) і косць для гульні: кубік з рабром 1,2 см з нанесенымі цыркульным арнаментам вочкамі ад аднаго да шасці[46] (мал. 66).

Сыравінай для вытворчасці касцяных вырабаў з’яўляўся астэалагічны матэрыял дзікай і хатняй жывёлы. Па вызначэнні А. А. Разлуцкай, усе 25 спілаў разетак рагоў належалі аленям (cervus elaphus). З 86 спілаў і нарыхтовак асноўная частка (83 адзінкі) была зроблена з рагоў, якія належалі дзікім жывёлам: 68 – аленю, 14 – ласю (alces alces), 1– лані (cervus dama). Апрацаваныя косткі хатняй жывёлы (усяго 3 адзінкі) належалі: 1 – буйной рагатай жывёле (bos taurus), 1 – свінні (sus scrofa domestica), 1 – каню (equus caballus).

Даследаваная частка Вялікага пасада здаўна з’яўлялася месцам пражывання рамеснікаў-касцярэзаў. У раскопе 2 (2002 г.) таксама былі выяўлены сляды касцярэзнай вытворчасці ў культурным пласце, які адпавядае стратыграфічнаму гарызонту 4 і датуецца XII – XIII стст. Абмежаваная плошча раскопа 2 (36 м$^2$) дазволіла толькі засведчыць факт прысутнасці рэшткаў касцярэзнай вытворчасці. Раскоп 2 размяшчаўся па найменшай прамой на адлегласці 7,5 м ад раскопа 4 (сярэдняя адлегласць складае 10 – 15 м), што можа сведчыць аб пераемнасці рамеснай традыцыі ў розныя гістарычныя эпохі. Гэта, дарэчы, дастаткова тыпова для Полацка. Аналагічнае назіранне зроблена па выніках даследавання ювелірных майстэрняў на тэрыторыі Вялікага пасада ў раёне сучаснай плошчы Свабоды: тут рамеснікі-злотнікі традыцыйна сяліліся з XII па XVII стст. Спадкаемства ў развіцці вытворчых традыцый з’яўляецца характэрнай рысай рамесніцтва Полацка часоў Сярэдневякоўя і Ранняга Новага часу.

Рэшткі другой касцярэзнай майстэрні, стратыграфічна датаванай XIII – XIV стст., былі даследаваны на тэрыторыі Ніжняга замка (у вызначаны перыяд – часткі Вялікага пасада). Драўляных канструкцый пабудовы практычна не захавалася, аднак яе размяшчэнне вызначана стратыграфічна. Знойдзены комплекс рогавых адыходаў вытворчасці, гатовых вырабаў з рога і косці, а таксама інструмент рамесніка-касцярэза ў ніжнім стратыграфічным гарызонце раскопа 1 (2008 г.).

[46] Па вызначэнні А. А. Разлуцкай, зроблены, верагодна, з косці каня.

Інструмент касцярэза прадстаўлены жалезнымі рэчамі: сякерай для апрацоўкі косці са спрацаваным лязом, шылам, свердзелам.

Асноўная частка артэфактаў з касцярэзнай майстэрні – гэта сыравіна з рогу, а менавіта адыходы вытворчасці – спілаваныя разеткі, кавалкі адпілаваных рогавых пласцінак. Вырабамі рамесніка з'яўляюцца касцяныя і рогавыя рэчы, сярод якіх двухбаковыя грабяні, муфты і праколка.

Рамесная вытворчасць XVI – XVIII стст. становіцца вельмі разнастайнай па асартыменце і відах прадукцыі. У XVI ст. адбываецца аб'яднанне рамеснікаў у буйныя карпарацыі (брацтвы), аснову будучых цэхаў. Пад 1500 г. згадваюцца "пекары, меснеки, пивовары, доилиды, и иные ремесники" [Полоцкие грамоты, 1978, с. 197], у 1502 г. апавядаецца пра полацкіх "золотаров и рымаров, и седларов и ковалев и сыромятников и шевцов и гонъчаров и пивоваров и плотников, и иных ремесников и скоморохов" [Полоцкие грамоты, 1978, с. 197].

Сярод рамеснікаў у першай палове XVI ст. найбольш значная і ўплывовая карпарацыя была мясніцкая. З XVII ст. полацкія рамеснікі аб'ядноўваюцца ў цэхавыя арганізацыі. Усім рамеснікам у горадзе і ў прадмесцях прадпісана быць паслухмянымі цэхам.

Гарбарства здаўна займала важнае месца ў іерархіі рамесных прафесій Полацка. Згодна з данымі пісьмовых крыніц, у першай палове XVI ст. у Полацку працавалі седлары, рымары, сырамятнікі, кажамякі, хамутнікі, рукавічнікі [Варонін, 2000 б, с. 38 – 39]. Прадстаўнікі гэтых прафесій стварылі ў Полацку першы цэх.

Сляды гарбарнай вытворчасці былі выяўлены ў Полацку на ўсход па-за межамі паркана Вялікага пасада. Тут знойдзены комплекс нерухомых артэфактаў, які пацвярджае наяўнасць гарбарных майстэрняў XVII – XVIII стст. Гэтыя артэфакты выяўлены на значнай плошчы і ўяўляюць сабой групу гатовых вырабаў (скураны абутак, футаралы, цацкі і інш.), нарыхтоўкі і інструменты вытворчасці, рамесны брак. Блізкае размяшчэнне да вады (р. Палата і роў паркана) спрыяла развіццю вытворчасці [Дук, 2004].

Па звестках пісьмовых крыніц, у 1601 г. у Полацку было ўтворана два цэхі. Адзін з іх аб'ядноўваў кавалёў, кацельнікаў, слесараў, мечнікаў і залатароў, другі – краўцоў, кушняроў, шапачнікаў, сапожнікаў і гарбароў [Полоцк: Ист. очерк, 1987. С. 49]. У 1619 г. шапачнікі і кушняры вылучыліся з аб'яднанага цэха і стварылі самастойны. З цягам часу да гэтага ж цэху далучыліся скурнікі і краўцы. Напачатку XVIII ст. (1726 г.) цэх кушняроў, шапачнікаў і гарбароў зноў падзяліўся, і з яго складу выйшлі гарбары і ўтварылі новы цэх [Игнатенко, 1963, с. 32]. Напрыканцы XVIII ст. у Полацку нараджаецца мануфактурная вытворчасць (гарбарня Марка Лукашэвіча), у 1786 г. дзейнічае 12 майстэрняў мануфактурнага тыпу па вытворчасці скур [Лютый, 1987, с. 134; Полоцк: Ист. очерк, 1987. С. 63, 81].

З сярэдзіны і да канца XVII ст. у Полацку было створана 6 новых цэхаў: цырульнікаў (1642 г.); ганчароў, печнікаў, муляраў і цагельнікаў (1643 г.); скурнікаў і кушняроў (1683 г.). З 1640 г. стаў вядомы самастойны цэх чабатароў, а з 1677 г. – кавальскі і слясарскі цэхі [Гардзееў, 2003, с. 177]. Акрамя таго, актавыя кнігі полацкага магістрата за 1656 – 1657 гг. сведчаць аб існаванні цэха слесараў, кавалёў, катляроў і мечнікаў [Гардзееў, 2003, с. 179 – 180].

У XVII ст. у Полацку паскорылася інтэграцыя рамеснікаў у межах асобных цэхаў, аднак цэх кафляроў у горадзе створаны не быў. У XVII – XVIII стст. вытворчасцю кафлі па-ранейшаму займаліся рамеснікі-кафляры, што ўвайшлі з 1643 г. у цэх ганчароў [АСД, 1867, с. 333]. Будаўніцтвам печаў займаліся муляры, якія ў 1643 г. утварылі ў Полацку свой цэх [Игнатенко, 1963, с. 32]. Гэта пацвярджаюць і пісьмовыя крыніцы: у

1643 г. у Полацку быў утвораны цэх цагельнікаў [Игнатенко, 1963, с. 32]. У тым жа годзе полацкія ганчары ўтварылі свой цэх, устаў якога прадугледжваў экзамен па спецыяльнасці на выраб 5 прадметаў: гарнца шырынёю ў тры пядзі альбо ў далонь; збана такога ж памеру; даёнкі ў карэц велічынёй; рынкі і міскі ў чвэрць шырынёй [АСД, 1867, с. 333]. Уставы многіх цэхаў прадугледжвалі стварэнне "штукі", г. зн. рэчы, якая б пацвярджала дасканаласць у прафесіі.

У 1654 г. у Полацку вядомы 3 ганчары з ліку каля 750 раменснікаў іншых спецыяльнасцей [Игнатенко, 1963, с. 11]. Да канца XVIII ст. у сувязі з масавай вытворчасцю шклянога посуду колькасць ганчароў значна скарацілася і займала толькі шостае месца (2,3 %) у параўнанні з раменснікамі іншых прафесій [Лютый, 1987, с. 125].

Многія з высокапрафесійных полацкіх раменснікаў былі вывезены ў Аружэйную палату маскоўскага Крамля. Сярод іх у 1660 г. згадваюцца сярэбраных спраў майстры, збройнікі, броннікі, загармістры (майстры гадзіннікавай справы) і карэтнікі [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 194]

Паскарэнне тэмпаў мураванага дойлідства ў сярэдзіне XVIII ст. выклікала патрэбу ў вялікай колькасці кваліфікаваных раменснікаў. У выніку шырокамаштабных будаўнічых работ у Полацку сталі больш запатрабаванымі паслугі гандляроў, пачалі актыўна развівацца шляхі зносін. Адным з найбольш значных вытворчых цэнтраў становіцца езуіцкі калегіум, у якім працавалі і навучаліся раменснікі шматлікіх спецыяльнасцяў [Kadulska, 2009, s. 247 – 249].

На працягу XVIII ст. Полацк захаваў ролю значнага раменнага цэнтра. Пад 1775 г. згадваецца наяўнасць у Полацку 108 цэхавых раменснікаў і 49 падмайстраў і вучняў. Усяго ж названа 405 асоб мужчынскага гандлёва-прамысловага насельніцтва [Полоцк: Ист. очерк, 1987, с. 61].

Залатары былі вельмі паважанымі людзьмі ў Полацку, яны мелі высокае грамадскае становішча і вылучаліся заможнасцю як сярод раменснікаў, так і ў мяшчанскім асяроддзі ўвогуле [Варонін, 2000 б, с. 38]. Полацкія ювеліры былі вядомы і за межамі дзяржавы: у 1660 г. у Аружэйную палату было вывезена 68 полацкіх і віцебскіх раменнікаў, сярод якіх першымі згадваюцца майстры "срэбранай" справы [Игнатенко, 1963, с. 13].

Існаванне ювелірнай вытворчасці прасочваецца паводле археалагічных матэрыялаў. У культурным пласце Полацка былі знойдзены шматлікія артэфакты, якія пацвярджаюць высокі ўзровень развіцця рамёстваў у гэты час. Найбольш яскравым археалагічным комплексам, які пацвярджае высокія традыцыі развіцця ювелірнай справы ў эпоху Ранняга Новага часу з'яўляецца комплекс рэчаў з ювелірнай майстэрні XVII ст. [Дук, 2007 ж, с. 171 – 175]. З гэтага комплексу варта вылучыць наступныя групы артэфактаў: сыравіна, паўфабрыкаты і гатовыя вырабы, інструменты вытворчасці, рэшткі драўляных пабудоў сядзібнага двара.

Па сведчанні пісьмовых крыніц, самыя распаўсюджаныя ганчарныя вырабы – гаршкі – у XVI ст. пастаўляліся ў Полацк з маёнткаў (двароў) мяшчан з бліжэйшай і аддаленай акругі, напрыклад, Друі, Астроўна і інш. [Полоцкая ревизия…, 1905, с. 105, 145]. Тое ж магчыма сцвердзіць і пра вытворчасць жалеза. Сыравіна (балотная руда) пастаўлялася ў Полацк з сельскай акругі. Пэўная частка крычнага жалеза, відаць, трапляла адтуль жа, хаця ў Полацку і былі адкрыты сляды вытворчасці жалеза на ўласна пасадскай тэрыторыі (у 2003 г. у раскопе на Вялікім пасадзе была выяўлена ніжняя частка сырадутнай печы XVI ст. для выплаўлення чорнага метала, да таго ж вытворчасць жалеза пацвярджаюць шматлікія кавалкі шлака ў культурных напластаваннях X – XVII стст.).

Культурны пласт Полацка ў цэлым дрэнна захоўвае арганіку, таму вырабы з дрэва і скуры XI – XIII стст. у Полацку дастаткова рэдкія. У тых раёнах горада, дзе арганіка адносна добра захоўваецца (усходняя частка Верхняга замка), асобныя катэгорыі артэфактаў не знойдзены. Так, за ўсе гады археалагічнага вывучэння Полацка не было знойдзена ніводнага фрагмента берасцяных грамат, такіх папулярных у Ноўгарадзе. Відавочна, што справа зусім не ў тэзісе "трэба шукаць" (археолагі часта знаходзяць бярosту і касцяныя прылады для пісьма – пісалы – у культурных пластах XI – XIII стст.). Верагодна, у Полацку, як і ў цэлым на тэрыторыі Беларусі, у Сярэдневякоўі існаваў іншы, акрамя бяросты, матэрыял для пісьма. У перапісцы палачане маглі шырока выкарыстоўваць драўляныя таблічкі з воскам – т. зв. цэры. Два фрагменты берасцяных грамат, выяўленых у Віцебску і Мсціслаўлі, сведчаць аб гандлёвых сувязях з Ноўгарадам. Берасцяныя граматы маглі выкарыстоўвацца наўгародскімі купцамі.

### 7.2. Гандлёвыя сувязі

Археалагічны матэрыял разам з данымі пісьмовых крыніц з'яўляецца надзейнай асновай для рэканструкцыі гандлёвых сувязяў старажытнага Полацка. Развіццю гандлёвых сувязяў Полацка ў IX – XIII стст. прысвечаны работы айчынных археолагаў [Ганецкая, 2003; Штыхов, 1975, с. 104 – 110]. Тэзісна іх змест зводзіцца да наступнага. Выраблены ў Полацку рэчы карысталіся попытам сярод насельніцтва воласці. Рамеснікі выраблялі прадукцыю па замове і на продаж. Сведчаннем знешнеэканамічных зносін з'яўляюцца асобныя катэгорыі археалагічных знаходак.

У X – XIII стст. самымі шматлікімі знаходкамі прадметаў імпарту з'яўляюцца праселкі з оўручскага шыферу. Іх зафіксавана больш за 897 шт. (даныя паводле І. У. Ганецкай па матэрыялах раскопак А. М. Ляўданскага, А. Р. Мітрафанава, М. К. Каргера, Г. В. Штыхава, П. А. Рапапорта, Г. М. Сагановіча, Н. І. Здановіч і С. В. Тарасава) [Ганецкая, 2003, с. 50]. Шыферныя праселкі з прывезенага каменю выраблялiся і на месцы, пра што адназначна сведчаць нарыхтоўкі з розных гістарычных частак Полацка. За апошняе дзесяцігоддзе калекцыя праселак і асялкоў з оўручскага шыферу папоўнілася больш як на 112 экз.

Другое месца па колькасці займаюць амфары, у якіх прывозілі віно з прычарнаморскіх правінцый Візантыі. У полацкай калекцыі зафіксавана больш за 443 фрагменты гэтага начыння [Ганецкая, 2003, с. 51]. Больш за 35 знойдзена ў раскопках аўтара.

Шкляныя вырабы прадстаўлены 53 фрагментамі, з якіх не менш за 39 – гэта посуд. Якасць шкла і спосабы аздаблення ўказваюць на іх візантыйскае ці кіеўскае паходжанне (мал. 67). Не выключаецца, аднак, вытворчасць шклянога ці паліванага посуду з імпартнай сыравіны ў Полацку. Пра гэта сведчыць шматлікі шклошлак, які трапляецца літаральна ў кожным раскопе ў пластах XI – XIII стст., найбольшая колькасць шкляных вырабаў фіксуецца ў напластаваннях першай паловы XIII ст. (пераважна гэта шкляныя бранзалеты).

Калекцыя пацерак з раскопак 1988 – 1989 гг. была апрацавана Т. С. Скрыпчанка. Было вызначана паходжанне 59 экземпляраў (Візантыя – 11+19?; Сірыя – 13?; Пярэдняя Азія – 2; Кіеў – 8+6?). Адна пацерка з раскопак каля Брацкай школы ідэнтыфікавана як пярэднеазіяцкая [Ганецкая, 2003, с. 52].

Сердалік, сапфір, горны крышталь, знойдзеныя ў адзінкавых экземплярах, паступалі з пярэдняй Азіі. З гэтай катэгорыі знаходак найбольшай колькасцю прадстаўлены пацеркі з сердаліку (дзве знойдзены ў раскопках на Запалоцкім пасадзе (2004, 2006 гг.), па адной – на Вялікім пасадзе ў 2005 і 2009 гг. і тры – на гарадзішчы ў 2007 г.).

Знаходкі самшытавых грабеньчыкаў нешматлікія: 24 экземпляры выяўлены лакальна ў раскопах на Верхнім замку [Ганецкая, 2003, с. 52] і 1 – у раскопе на плошчы Свабоды (2009 г.). Прывозілі іх з тэрыторыі сучаснага Азербайджана.

З металічных рэчаў бясспрэчным імпартам з'яўляецца меч Х ст., знойдзены на тэрыторыі "ўсходняга" курганнага некропаля [Плавінскі, 2009, с. 15]. Вырабы з чорных металаў, якія імпартаваліся з вострава Готланд, утрымлівалі павышаную колькасць нікелю, які выкарыстоўваўся полацкімі кавалямі для вырабу камбінаваных прылад [Гурин, 1987, с. 105]. Скандынаўскія рэчы нешматлікія. Сярод іх варта вылучыць накладку ў выглядзе галавы дракона (гіпатэтычна), ланцэтападобныя наканечнікі стрэл, магчыма, асобныя формы нажоў з вузкімі і вельмі выцягнутымі чаранкамі. Балцкі і заходнееўрапейскі імпарт прадстаўлены бранзалетамі са звярынымі галовамі, бронзавымі "U"-падобнымі наканечнікамі похваў раманскага тыпу [Плавінскі, Штыхаў, 2006, с. 69; Штыхов, 1975, с. 68].

Каляровыя металы былі цалкам прывазныя. З бронзы і медзі мясцовымі майстрамі выраблялiся як утылітарныя, так і эстэтычныя рэчы. Сведчаннем мясцовай вытворчасці з'яўляюцца частыя знаходкі ў напластаваннях ХІ – ХІІІ стст. шлакаў каляровых металаў і тыгляў для плаўлення медзі ці бронзы. Свінцом пакрываліся дахі полацкіх храмаў. Шмат свінцовых вырабаў знойдзена падчас раскопак пасадскай тэрыторыі (гузікі ад верхняй мехавой вопраткі, грузікі, пячаткі і пломбы і інш.). Дакладнага вызначэння мясцовай вытворчасці ці імпартнага паходжання магчыма дасягнуць шляхам супастаўлення рэшткаў металаў на тыглях з наяўнымі рэчамі. Улічваючы вялікую колькасць знаходак гатовых вырабаў і іх нарыхтовак, а таксама медных, бронзавых і алавяных зліткаў (толькі падчас раскопак аўтара іх зафіксавана не менш за 500 экз.), гэты накірунак даследавання ўяўляецца вельмі перспектыўным.

На гарадзішчы ў 1987 г. падчас даследавання жаночага пахавання былі знойдзены ракавіны кауры ў колькасці 35 шт. Гэтыя ракавіны насілі як карáлі. Месцам іх здабычы з'яўляецца Індыйскі акіян, у Полацк ракавіны маглі трапіць па дняпроўскім шляху з поўдня альбо з Ноўгарада ці Пскова з поўначы [Ганецкая, 2003, с. 55].

З прадуктаў харчавання імпартнага паходжання магчыма вызначыць толькі шкарлупкі грэцкага арэха і амфары як тарны посуд для дастаўкі віна.

Бурштын з'яўляецца частай знаходкай падчас раскопак на тэрыторыі вакольнага горада і Вялікага пасада. Толькі на тэрыторыі вакольнага горада знойдзена 1313 кавалкаў, з іх 11 фрагментаў са слядамі апрацоўкі, 15 нарыхтовак пацерак і падвесак, 16 гатовых вырабаў (13 пацерак, 1 падвеска, 2 пярсцёнкі) [Ганецкая, 2003, с. 53].

Сведкамі эканамічных зносін з краінамі тагачаснай Заходняй Еўропы з'яўляюцца заходнееўрапейскія дэнарыі, з Візантыяй – візантыйскія манеты і арабскія дырхамы, якія з'яўляліся ўніверсальным плацёжным сродкам. Геаграфія скарбаў дырхамаў маркіруе накірункі развіцця разгалінаваных гандлёвых сувязяў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння [Алексеев, 2006, кн. 1, с. 43 – 49]. Асаблівую вагу ў вызначэнні крыніц паступлення сыравіны мае знаходжанне ў Полацку скарба сярэбраных і алавяных рэчаў у 1910 г. на Верхнім замку, ухаванага ў ХІ ст. [Штыхов, 1975, с. 107].

У 2002 г. падчас раскопак на тэрыторыі Вялікага пасада былі знойдзены 3 фрагменты белаглінянага паліўнога начыння з паліхромным роспісам. Гэтая кераміка, паводле вызначэння У. Ю. Коваля, магла належаць да групы візантыйскай керамікі з пяціколерным роспісам. Кераміка гэтага тыпу з'яўляецца найвышэйшым дасягненнем візантыйскай керамічнай вытворчасці. На Русі быў знойдзены толькі адзін яе ўзор – у Кіеве (талерка з выявай птушкі) [Лавыш, 2008, с. 54]. Спектральны аналіз дадзеных

фрагментаў пацвердзіў, што кобальт па хімічным складзе ўсходні, таксама як і паліва[47]. Дадзеныя кавалкі керамікі маглі належаць талерцы з выявай на ўнутранай частцы леапарда ці нейкага фантастычнага звера (мал. 68). Знаходжанне рэдкага і дарагога тыпу візантыйскай керамікі на пасадскай тэрыторыі пацвярджае высокі сацыяльны статус яе насельніцтва.

Арганізацыя гандлю ў Полацку вядома па пісьмовых крыніцах XIII – XVI стст. і, безумоўна, грунтавалася на больш ранняй традыцыі (“старыны не рухаем, навіны не ўводзім”). Замежным купцам забараняўся дробны гандаль у гарадах Полацкай зямлі, толькі оптавы. У прывілеі Полацку на магдэбургскае права 1498 г. асабліва агаворваўся парадак продажу асноўных тавараў: “Теж тые купцы чужыи оприч ярмарку под тую меру продавати мають сукно поставом, соль лаштом, перец, имберь, микгдалы и иншые зелья простые – каменем, шафран, мушкаты, гвоздики, квѣт мушкатовый, кгалкган, цытвар и иншие зелья дородшие – фунтом, секиры, ножы и иншие речы таковские – тахром, або в тузину, железо, олово, медь, цыну, мосяж и иншые речы таковские – цеинтнаром, фикги, розинки – кошем, вино какое кольве и пиво немецкое и иншое питье чужое – бочкою целою; ино тыи купцы чужии не будуть смети под меру меншую а ни продавати, а ни куповати, только, как наверху написано” [Полоцкие грамоты, 1978, с. 154 – 156]. Прывілей замацаваў выключнае права палачан прымаць у сябе нямецкіх купцоў, тройчы ў год, на двухтыднёвых ярмарках, гандляваць можна было свабодна, а ў іншыя часы толькі па “меры”, г. зн. оптам. Гэта і стала прычынай скарачэння аб’ёму нямецкага гандлю ў Полацку [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 143 – 143].

Першыя звесткі аб кантакце гарадоў Полацкай зямлі з Рыгай, а праз Рыгу – з Гоцкім берагам (в. Готланд) утрымлівае хроніка Генрыха Лацвійскага (1210 – 1212 гг.). [Левко, 1989, с. 37]. “Смаленская праўда” 1229 г. (дагавор Смаленска з Рыгай, Гоцкім берагам) з’яўлялася асновай для развіцця і арганізацыі гандлю па Заходняй Дзвіне, у т. л. праз гарады Полацк і Віцебск у наступныя часы [Штыхов, 1975, с 108]. Набыць аксаміты, розныя пацеркі і бразготкі візантыйскага ці кіеўскага паходжання, мячы і іншую зброю з Германіі ці Скандынавіі можна было толькі ў полацкіх купцоў. Такім чынам, была створана эканамічная манаполія, якая праіснавала не менш за палову тысячагоддзя [Тарасаў, 2009, с. 83 – 84].

З XIII ст. Полацк становіцца цэнтрам сталага гандлю немцаў у Падзвінні. Тут існавала пастаянная факторыя Ганзы, якую Рыга пераўтварыла ў свой філіял і кіравала ўсім яе жыццём. З іншых ганзейскіх гарадоў сваіх купцоў у Полацк прысылаў Вісбі, Гданьск і Любек (мал. 57). Апрача Ганзы, у XV ст. на Дзвіне гандляваў і Інфлянцкі ордэн [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 140 – 141; Полоцкие грамоты, 1977, с. 142]. З Дамовы Полацка з Рыгай 1330 г. вынікае, што адным з тавараў, якія імпартаваліся ў Полацк у XIII – XIV стст., была металічная сыравіна.

Нямецкая факторыя, верагодна, размяшчалася на тэрыторыі Запалоцкага пасада, каля яе ці нават на яе тэрыторыі ў 1498 г. быў пабудаваны бернардзінскі кляштар. Полацкія граматы XV – XVI стст. сведчаць пра складаны і шматаспектны працэс рэгламентацыі полацка-рыжскага гандлю ў кантэксце палітычных і сацыяльна-эканамічных адносін.

Прыметны аб’ём меў увоз металаў на Полаччыну ў першай палове XVI ст. Так, з замежных купцоў ад продажу патэльняў, сякер, лемяшоў спаганялася трыццатая частка,

[47] Спектральны аналіз праведзены К. А. Лавыш у Інстытуце гісторыі матэрыяльнай культуры Расійскай акадэміі навук.

а ад пяцісот кос – 30 грошаў шырокіх. Па аб’ёму імпарт металічных рэчаў можна параўнаць толькі з увозам тканін [Варонін, 2000 б, с. 48].

Археалагічныя калекцыі не адлюстроўваюць асобныя віды тавараў, якія траплялі з іншых земляў (напрыклад, тканіна). Даныя пісьмовых крыніц узбагачаюць уяўленні пра асобныя катэгорыі прадукцыі. Паводле ведамасці на збор пошліны на віцебскай мытнай заставе за 1605 – 1606 гг., у Полацк увозіліся мыла, розныя гатункі тканіны, скураны абутак, аддзенне, футра, касцяныя грабяні [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 173]. У 1765 г. кантрабандны ўвоз і вываз тавараў набыў велізарныя маштабы. Полацкімі купцамі вывозіліся медзь, латунь, жалеза, футра, мыла, чай, воск, сала, скуры, рыба, палатно, украінскі тытунь, мёд. Завозілі жэмчуг, нюрнбергскую галантарэю, грызэт, аксаміт, камзолы, англійскія баваўняныя тканіны, шатландскае сукно, шоўк, шаўковую пражу, залатыя галуны, палотны швабскія і галандскія, кісею, батыст, шаўковыя панчохі і чапцы, англійскія і французскія сагаты [Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Полацка, 2002, с. 172].

Паводле археалагічнага матэрыялу, у XIV – XVII стст. імпарт у Полацку, як і ў іншых гарадах Беларускага Падзвіння, найбольш масава быў прадстаўлены керамікай (чорнаглянцаванай), белагліянай, паліхромнай, і г. зв. “каменным таварам” [Левко, 1989, с. 27 – 31]. Геаграфія імпарту керамікі ахоплівае тэрыторыю такіх краін, як Польшча, Літва, Германія, а калекцыя налічвае дастаткова прадстаўнічую колькасць вырабаў [Дук, 2007 ж, с. 134 – 136, 142]. Г. зв. “рэйнская” кераміка атрымала ў Полацку шырокае распаўсюджанне ў XVI – XVIII стст. [Дук, 2007 ж, с. 142]. Да яе ліку належаць знойдзеныя падчас раскопак у 2002 г. на пасадскай тэрыторыі асобныя фрагменты посуду (мал. 69).

Гандлёвыя сувязі з Маскоўскай дзяржавай адлюстраваны на прыкладзе самай масавай катэгорыі керамічнай вытворчасці – глінянага посуду. Новыя тэхналагічныя прыёмы (пранікненне нажнога ганчарнага круга, нанясенне паліў і інш.) апярэджвалі развіццё маскоўскай керамічнай вытворчасці амаль на цэлае стагоддзе – нават у адносна блізкім да Полаччыны Смаленску з’яўленне “тачонай” керамікі фіксуецца не раней за другую палову XVII ст. (у Полацку – з XVI ст.). І хоць формы смаленскага посуду часта дублююць маскоўскую кераміку, тэхніка нанясення паліў паступова набліжаецца да беларускіх аналагаў [Дук, 2007 ж, с. 99]. Не апошнюю ролю ў гэтым працэсе адыгрываў той факт, што Смаленск у XVII ст. з’яўляўся свайго роду брамай у гандлі Маскоўскай дзяржавы з краінамі Захаду. У XVII ст. на тэрыторыі ВКЛ былі актыўна распаўсюджаны сярэбраныя капейкі Маскоўскай дзяржавы, адзін з эпізодаў выкарыстання такой манеты меў для палачан трагічныя наступствы і стаў прычынай пажару 1643 г. [Рябцевич, 2003].

Нумізматычныя калекцыі сведчаць пра прысутнасць у Полацку філіялаў гандлёвых дамоў, якія мелі ўласныя грашовыя адзінкі – г. зв. жэтоны. Адзін з білонавых жэтонаў фірмы Ганса Шультэса (Нюрнберг, XVI ст.) выяўлены падчас раскопак на тэрыторыі Вялікага пасада ў 2002 г.

Мода на паленне тытуню абумовіла ўвоз керамічных люлек у XVII – XVIII стст. з тэрыторыі Галандыі, попыт на парфуму і развіццё аптэчнай справы сталі прычынай увозу белагліняных памадных слоікаў з тэрыторыі Расіі [Дук, 2007 ж, с. 137, 145].

Асобныя артэфакты, знойдзеныя ў Полацку, сведчаць пра сувязі з мусульманскім светам. Да ліку імпартаванай з Усходу керамікі адносіцца фрагмент збана XVI ст., які знутры пакрыты белай глухой palівай, а звонку – сіняй. Начынне мае дэкараваную рэльефным арнаментам паверхню, якая дадаткова аздоблена белым колерам (мал. 70).

Па вусным вызначэнні І. У. Ганецкай і У. Ю. Коваля, гэтае начынне – турэцкі паўфаянс з паліхромным падглазурным роспісам.

Пра наяўнасць гандлёвых сувязяў палачан з Турцыяй сведчаць пісьмовыя крыніцы. У 1561 г. полацкі ваявода Станіслаў Давойна атрымаў права бязмытнага пропуску праз усю тэрыторыю ВКЛ чатырох вазоў тавараў з Полацка ў Турцыю і назад [Варонін, 2000 б, с. 50].

Захапленне культурай Усходу стала адметнай рысай маньерыстычнай традыцыі мастацтва ВКЛ Натуральна, што гэтыя тэндэнцыі не абмінулі і Полацк. Панаванне ў Рэчы Паспалітай у канцы XVI – пачатку XVII стст. моды на ўсё ўсходняе (турэцкае, іранскае, угорскае, малдаўскае, харвацкае, славацкае) прадыктавала з’яўленне асобных высокамастацкіх вырабаў [Дук, 2007 ж, мал. 68: 30, 31].

Такім чынам, падводзячы вынік агляду развіцця рамяства і гандлю варта заўважыць, што ў Полацку ў X – XIII стст. існавала мясцовая вытворчасць ювелірных рэчаў (зафіксаваны сляды дзвюх ювелірных майстэрняў X – XI стст., у напластаваннях XII ст. адкрыты сляды ювелірнай вытворчасці на Верхнім замку і комплекс майстэрні XII ст. на Вялікім пасадзе. Апошняя, акрамя вырабаў рэчаў з каляровых металаў, спецыялізавалася і на вытворчасці шкляных вырабаў. Вытворчасць высокамастацкіх рэчаў магла адбывацца і ў межах ювелірнай майстэрні на полацкім гарадзішчы.

У XI – XIII стст. у Полацку развіваліся наступныя віды рамёстваў, вылучаныя па матэрыялах “усходніх” раскопаў на Верхнім замку: кавальскае, ювелірнае, гарбарнае і кушнерскае, дрэваапрацоўчае, касцярэзнае, каменячоснае і ганчарнае. Сляды касцярэзнай вытворчасці зафіксаваны ў напластаваннях XII – XIII стст. на тэрыторыі Вялікага пасада. У XII ст. у межах полацкага гарадзішча існавала зброевая майстэрня.

У XIV – XV стст. даных аб развіцці рамёстваў у Полацку няшмат па прычыне адсутнасці будаўнічых гарызонтаў гэтага часу на большай частцы пасадскай тэрыторыі. Археалагічна зафіксавана наяўнасць касцярэзнай майстэрні XV – першай паловы XVI стст. на тэрыторыі Вялікага пасада. Рэшткі другой касцярэзнай майстэрні, стратыграфічна датаванай XIII – XIV стст., былі даследаваны на тэрыторыі Ніжняга замка (у вызначаны перыяд – часткі Вялікага пасада).

Рамесная вытворчасць XVI – XVIII стст. становіцца вельмі разнастайнай па асартыменце і відах прадукцыі. У XVI ст. адбываецца аб’яднанне рамеснікаў у буйныя карпарацыі (брацтвы), аснову будучых цэхаў. З XVII ст. полацкія рамеснікі аб’ядноўваюцца ў цэхавыя арганізацыі (кавалёў, краўцоў, шапачнікаў, гарбароў, цырульнікаў, ганчароў, печнікаў, муляроў, кавалёў, цагельнікаў і інш.). Злотнікі (ювеліры), відаць, таксама былі аб’яднаны ў цэх. Сляды ювелірнай майстэрні XVII ст. археалагічна даследаваны на тэрыторыі Вялікага пасада.

Гандлёвыя сувязі насельніцтва Полацка непарыўна звязаны з запатрабаваннямі рамеснай вытворчасці. Так, развіццё ювелірнай справы цалкам залежыць ад прывазной сыравіны, увоз якой займае прыметнае месца ўжо ў X – XI стст. Археалагічныя даныя сведчаць пра існаванне шматлікіх рэгіёнаў, з якімі былі ўсталяваны прамыя ці апасрэдаваныя гандлёвыя кантакты. Асноўныя з іх – гэта тэрыторыя сучаснай Германіі, Польшчы, Прыбалтыкі, Скандынавіі. Сувязі з гэтымі рэгіёнамі існавалі ўжо ў X ст. і працягвалі развівацца ў XI – XVIII стст. У XI – XIII стст. у Полацк трапляюць шматлікія рэчы з Візантыі, грэчаскіх правінцый і ўсходнерускіх княстваў, у XV – XVI стст. існуюць сведчанні гандлёвых кантактаў з Турцыяй і краінамі Усходу. У XVI – XVIII стст. пачынаецца актыўнае ўзаемапранікненне тавараў з Полацка ў Маскоўскую дзяржаву.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Полацк з'яўляецца адным з самых старажытных гарадоў на тэрыторыі Паўночнай Русі. Археалагічны матэрыял пацвярджае даныя летапісных крыніц аб існаванні Полацка ў IX – X стст. разам з такімі летапіснымі "градамі", як Ладага, Ноўгарад (Рурыкава гарадзішча), Ізборск, Пскоў. Сацыятапаграфічная структура Полацка ў IX – XIII стст. прайшла складаны шлях развіцця, які мае свае адрозненні ад аналагічных працэсаў у гарадах Паўночнай Русі. Варажскі этнічны элемент у Полацку прасочваецца ў значна меншай ступені ў параўнанні з Ладагай і Ноўгарадам. Стратыграфія культурнага пласта і матэрыяльная культура другой паловы I тыс. мае найбольшыя падабенствы менавіта з гарадамі Беларускага Падзвіння (Віцебскам і Лукомлем). І хаця пісьмовыя крыніцы згадваюць гэтыя гарады ў больш позні час, няма сумненняў у іх "протагарадскім" этапе ў IX – X стст.

Полацк узнік на аснове аўтахтоннага пасялення балтаў днепра-дзвінскай і банцараўскай культур, пры гэтым культурны пласт трэцяй і апошняй чвэрці I тыс. н. ч. найлепш захаваўся на тэрыторыі вакольнага горада. Керамічны комплекс банцараўскай і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў з гэтага пласта сведчыць аб пэўным этапе сумеснага пражывання двух этнасаў (усходніх балтаў і славян-крывічоў) пачатковага Полацка. Што тычыцца гарадзішча, то керамічныя комплексы адзначанага часу тут прысутнічаюць у моцна перамешаных культурных напластаваннях разам з раннеганчарнай керамікай, што сведчыць пра больш складаны характар гісторыі помніка.

Станаўленне сярэдневяковага Полацка прыпадае на сярэдзіну XI ст., тое ж можна адзначыць і ў дачыненні да іншых гарадоў Паўночнай Русі (Ноўгарад, Ізборск, Пскоў). Віцебск у XI ст. вылучаецца як удзельны "прыгарад" Полацка, а рысы развітага гандлёва-рамеснага пасялення з функцыямі ўласна горада набывае не раней за XII ст.

Асноўным фактарам, які б вылучаў Полацк з ліку сінхронных пасяленняў Беларускага Падзвіння з'яўляецца вядучая палітычная, а як вынік – і сацыяльна-эканамічная роля. "Стартавыя" магчымасці для развіцця пасялення адыгрываў менавіта факт размяшчэння на ім княжацкай адміністрацыі. Гэтая адміністрацыя спачатку васальна падпарадкоўвалася Рурыку, у другой палове X ст. спрабавала быць самастойнай у адносінах да Ноўгарада, а ў XI ст. праводзіла ў дачыненні да яго самастойную эканамічную і, як вынік, палітычную дзейнасць. Пра гэта сведчаць паход наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча на Полацк і забойства полацкага князя Рагвалода (каля 890 г.), паходы полацкіх князёў Брачыслава Ізяславіча (1021 г.) і Усяслава Брачыславіча (1066 г.) на Ноўгарад. Адсутнасць на полацкім гарадзішчы слядоў размяшчэння варажскай дружыны сведчыць аб дамінаванні на ім мясцовай крывіцкай рода-племяннай вярхушкі ў IX – XI стст., падпарадкаванай спачатку інтарэсам Ноўгарада, а ў далейшым, з часоў Рагвалода і Брачыслава Ізяславіча, падтрымліваючай мясцовага князя.

Развіццё пасадскай структуры Полацка прайшло шлях ад этапа станаўлення вакольнага горада (т. зв. "малога пасада") IX – першай паловы XI стст. да ўтварэння першых горадаўтваральных пасадаў – Вялікага і Запалоцкага ў другой палове XI ст. Так званая "канчанская" структура ў Полацку не склалася, што адрознівае Полацк ад гарадоў-дзяржаў Ноўгарада і Пскова. У Полацку з XI ст. галоўную ролю адыгрывалі вольныя гарадскія абшчыннікі, аб'яднаныя ў гандлёва-рамесныя карпарацыі накшталт "братчын". Мяшчанская абшчына была вылучана са складу зямлі-воласці толькі пасля надання Полацку магдэбургскага права (1498 г.). Пасля 1498 г. у склад мяшчанства ўвайшло ўсё насельніцтва горада, за выключэннем духавенства і баяр. Юрыдычная перавага полацкага баярства над мяшчанамі зафіксавана ў пісьмовых крыніцах не раней за 80-я – 90-я гг. XV ст. У першай палове XVI ст. у Полацку склалася г. зв. "соценная" сістэма

арганізацыі пасадскага насельніцтва. Апошняя акалічнасць істотным чынам адрознівае Полацк ад рэгіёнаў Паўночнай Русі, дзе "соценная" сістэма існавала з XII ст.

Планіровачная структура полацкіх пасадаў складалася на працягу значнага прамежку часу ў межах пяці выразна акрэсленых этапаў:

I этап – станаўленне вакольнага горада ("малога" пасада) IX – XI стст. і пасяленняў за р. Палатой (з X ст.), фарміраванне сацыятапаграфічнай структуры Вялікага і Запалоцкага пасадаў у XI ст., існаванне пасялення на месцы Старой Слабады пры вусці р. Бельчыца (з X ст.) і Вострава на р. Дзвіне (XI ст.). Першыя сведчанні пра існаванне паркана Запалоцкага пасада (XI ст.).

II этап – XII – XV стст. Спыненне існавання вакольнага горада, скарачэнне плошчы Запалоцкага пасада (пачатак XIII ст.), спыненне існавання пасяленняў за р. Палатой, уключэнне старога гарадзішча ў склад Вялікага пасада і павелічэнне тэрыторыі Верхняга замка за кошт часткі Вялікага пасада (пачатак XIV ст.).

III этап – першая палова XVI стст. (да 1563 г.). Утварэнне левабярэжных пасадаў Полацка (Востраўскі, Крыўцоў, Слабадскі і Экіманскі) за кошт перасяленцаў з Вялікага і Запалоцкага пасадаў (пачатак XVI ст.). Скарачэнне тэрыторыі Запалоцкага пасада (першая палова XVI ст.). Будаўніцтва паркана Вялікага і Запалоцкага пасадаў (каля 1501 г.).

IV этап – 1563 – 1579 гг. Узвядзенне Ніжняга замка на частцы Вялікага пасада, змена русла р. Палаты (1563 г.). Спыненне існавання Вялікага пасада. Аднаўленне тэрыторыі Запалоцкага пасада ў межах паркана.

V этап – 1579 г. – канец XVIII ст. Перанос гарадской рынкавай плошчы (1581 г.). Пераўтварэнне старога гарадзішча ў гарадскія могілкі (XVII ст.). Арганізацыйнае аб'яднанне левабярэжнага насельніцтва Полацка ў межах Крыўцовага і Экіманскага пасадаў.

Дзяцінец Полацка ў IX – XIII стст. існаваў на старажытным полацкім гарадзішчы, а з пачатку XIV ст. яго функцыі стаў выконваць Верхні замак. У XI – XVI стст. Верхні замак – старажытны сакральны цэнтр, які выкарыстоўваўся і для адміністрацыйна-цырыманіяльных мэтаў. Акрамя таго, Верхні замак мог з'яўляцца месцам дзейнасці князя (XI – XIV стст.), магчыма, і яго пражывання (пасля 1326 г.). На Верхнім замку жылі княжацкі намеснік (з 1392 г.), ваявода (з 1504 г.), уладыка, баяры і мяшчане, тут жа размяшчаўся шэраг манастыроў і быў пабудаваны Сафійскі сабор. Выкарыстанне тэрміна "*дзяцінец*" у дачыненні да Верхняга замка правамоцна толькі з пачатку XIV ст.

На момант станаўлення пасадскай структуры ў XI ст. плошча Полацка складала каля 180 га, на працягу XVII – XVIII стст. яна дасягнула максімальных памераў і была не меншай за 200 га. Асноўную частку гарадской тэрыторыі ўтваралі пасады, плошча Верхняга (з XI ст.) і Ніжняга замкаў (з 1563 г.) не перавышала 17 га.

Запалоцкі пасад быў умацаваны драўляным вастраколам у XI – XII стст., абарончая сцяна вакольнага горада складалася з гародняў і на асобных участках была зроблена ў перакладной (руставай) тэхніцы з выкарыстаннем камянёў у падмурку. Даныя пра абарончыя ўмацаванні Вялікага пасада ў гэты час адсутнічаюць.

Каля 1501 г. у Полацку быў пабудаваны "паркан" – умацаванні Вялікага і Запалоцкага пасадаў. Плошча пасадаў у той час была адпаведна каля 60 і 17 га. Паркан Вялікага пасада неаднаразова перабудоўваўся і праіснаваў як фартыфікацыйная адзінка да пачатку XVIII ст. Запалоцкі паркан праіснаваў з рознымі перабудовамі да вайны 1654 – 1667 гг.

Пасяленні палачан размяшчаліся і па-за межамі крапасной сцяны і былі даследаваны археалагічна. Забудова XI – XVIII стст. адкрыта на "вянцы" правага берага р. Палаты насупраць Верхняга і Ніжняга замкаў, полацкага гарадзішча.

Найбольш старажытныя пасяленні на левабярэжжы р. Дзвіны – Слабада і Востраў – былі заснаваны ў XI ст. Менавіта пры гэтых пасяленнях і паўсталі два з трох буйнейшых у XII – XVI стст. полацкіх манастыроў: Бельчыцкі Барысаглебскі і Іаана

Прадцечы. Тэрыторыя левабярэжных Крыўцовага, і Экіманскага пасада была заселена значна пазней – па даных археалагічных і пісьмовых крыніц, у пачатку XVI ст. –залежным ад баяр і духавенства насельніцтвам Вялікага і Запалоцкага пасадаў. Засяленне левабярэжнай часткі Полацка было звязана з частымі войнамі першай паловы XVI ст. (паходы 1508, 1513, 1518 гг.), у выніку якіх правабярэжныя пасады разам з парканам выпальваліся, а насельніцтва было вымушана разысціся.

У XIV – XVIII стст. вакол Полацка існавалі сельскагаспадарчыя прадмесці. Асноўныя з іх – гэта сяло Прасмужкі, манастыр св. Мікалая на Лучне са слабодкай, фальваркі XVII – XVIII стст. за р. Палатой. Паміж Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыром і Прасмужкамі ў раёне Валовага возера існавала Невельскае прадмесце.

У XVII ст. у Полацку існавала разгалінавая сістэма вулічнай планіроўкі, асноўныя рысы якой можна прасачыць з XII ст. Назвы асноўных вуліц полацкіх пасадаў з’яўляюцца вельмі ўстойлівымі на працягу XVII – XVIII стст. (рэтраспектыўна па назвах асобных вуліц тое ж адзначаецца і для XVI ст.). Значная перапланіроўка вулічнай сеткі адбылася не раней за пачатак XIX ст., што адпавядала патрэбам масавага мураванага грамадзянскага будаўніцтва і новым гістарычным рэаліям развіцця Полацка.

Вялікі і Запалоцкі пасады Полацка ў XVI – XVIII стст. былі падзелены вуліцамі, якія размяшчаліся адна ад другой прыкладна на аднолькавай адлегласці. Прастора паміж вуліцамі была роўная двум гарадскім пляцам. Археалагічна вызначана, што адзін гарадскі пляц ва ўсходняй частцы Верхняга замка ў XVI – XVIII стст. быў роўны каля 100 – 160 $м^2$. Такая ж плошча пляцаў тут існавала з XII ст., калі гэтая тэрыторыя яшчэ была пасадскай. У XVI ст. плошча некаторых пляцаў на вул. Вялікай магла дасягаць 300 $м^2$. На пасадскай тэрыторыі Полацка ў 1553 г. існавалі і невялікія пляцы, роўныя 58,44 $м^2$.

Вуліцы адна ад другой маглі размяшчацца на адлегласці каля 20 – 50 м. Гэтая больш шчыльная ў параўнанні з сучаснай трасіроўка вуліц гістарычнага цэнтра Полацка адпавядала патрэбам гарадской забудовы, якая ў асноўным была аднапавярховай і драўлянай. Тапаграфічныя апісанні аб’ектаў нерухомасці сведчаць, што большасць пляцаў размяшчаліся радамі ўздоўж вуліц ці на “венцах” рэк Дзвіна, Палата, Бельчыца. Як правіла, тыльным бокам пляцы межавалі з суседнім радам забудовы другой вуліцы.

Развіццё пасадаў не магло адбывацца без разгалінаванай рамеснай вытворчасці. У Полацку з X ст. існавала мясцовая вытворчасць ювелірных рэчаў, з XII ст. – шкляных вырабаў. У XI – XIII стст. у Полацку развіваліся наступныя віды рамёстваў: кавальскае, ювелірнае, гарбарнае і кушнерскае, дрэваапрацоўчае, касцярэзнае, каменячоснае і ганчарнае. У XII ст. адкрыты сляды зброевай майстэрні. У XIV – XVI стст. зафіксаваны рэшткі дзвюх касцярэзных майстэрняў.

Рамесная вытворчасць XVI – XVIII стст. была вельмі разнастайнай па асартыменце і відах прадукцыі. У XVI ст. адбываецца аб’яднанне рамеснікаў у буйныя карпарацыі (брацтвы), аснову будучых цэхаў. З XVII ст. полацкія рамеснікі аб’ядноўваліся ў цэхавыя арганізацыі (кавалёў, краўцоў, шапачнікаў, гарбароў, цырульнікаў, ганчароў, печнікаў, муляроў, цагельнікаў, злотнікаў).

Гандлёвыя сувязі насельніцтва Полацка былі непарыўна звязаны з запатрабаваннямі рамеснай вытворчасці. Так, развіццё ювелірнай справы цалкам залежала ад прывазной сыравіны, увоз якой займаў істотнае месца ўжо ў X – XI стст. Археалагічныя даныя сведчаць пра існаванне шматлікіх рэгіёнаў, з якімі былі ўсталяваны прамыя ці апасродкаваныя гандлёвыя кантакты. Асноўныя з іх – гэта тэрыторыя сучаснай Германіі, Польшчы, Прыбалтыкі, Скандынавіі. Сувязі з гэтымі рэгіёнамі існавалі ўжо ў X ст. і працягвалі развівацца ў XI – XVIII стст. У XI – XIII стст. у Полацк трапляюць шматлікія рэчы з Візантыі, грэчаскіх правінцый і ўсходнерускіх княстваў, у XV – XVI стст. існуюць сведчанні пра гандлёвыя кантакты з Турцыяй і краінамі Усходу. У XVI – XVIII стст. пачынаецца актыўнае ўзаемапранікненне тавараў з Полацка ў Маскоўскую дзяржаву.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

АіНБ – Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя

АН БССР – Акадэмія навук Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

АСД – Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа

БАН – Беларуская акадэмія навук

БГА – Беларускі гістарычны агляд

БГЧ – Беларускі гістарычны часопіс

ГАЗ – Гісторыка-археалагічны зборнік

ГАППЗ – Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі

ИАППЗ – История и археология Полоцка и Полоцкой земли

ИЮМ – Историко-юридические материалы, извлечённые из актовых книг губерний Витебской и Могилёвской, хранящиеся в Центральном архиве в Витебске и изданные под редакцией архивариуса сего архива Сазонова

ІГНАНБ – Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

МАБ – Матэрыялы па археалогіі Беларусі

МИА – Материалы и исследования по археологиии СССР

НГАБ – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

НМГКБ – Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі

НПГКМЗ – Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік

НПИКМЗ – Национальный Полоцкий историко-культурный музей-заповедник

НТДП – Навукова-тэхнічнае дзяржаўнае прадпрыемства

ПГКБ – Помнікі гісторыі і культуры Беларусі

ПГУ – Полоцкий государственный университет

ПСРЛ – Полное собрание русских летописей

РГАДА – Российский государственный архив древних актов

СА – Советская археология

САИ – Свод археологических источников

CPH – Commentarii Polocenses Historici (Полацкія гістарычныя запіскі)

LVIA – Lietuvos valstybės istorijos archyvas

## ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ


Актавая кніга полацкага магістрата 1650 г.: зб. дакл. / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі; склаў і падрыхт. да друку М. Ю. Гардзееў. – Мінск : Беларуская навука, 2006. – 270 с.: іл.

Акты Литовско-Русского государства / М. Довнар-Запольский. Вып. 1, т. 2. Довнар-Запольский, М. В. (1867 – 1934) 1390 – 1529 гг. – Б.в., б.г. – 258 с.

Александрович, С. Особенности развития городов Великого княжества Литовского в XVI – XVII вв. / С. Александрович // ГАЗ. – 1998. – № 13. – С. 157 – 161.

Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры. В 2 кн. / Л. В. Алексеев; Ин-т археологии РАН. – М. : Наука, 2006. – Кн. 1. – 2006. – 289 с.

Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры. В 2 кн. / Л. В. Алексеев; Ин-т археологии РАН. – М. : Наука, 2006. – Кн. 2. – 2006. – 167 с.

Алексеев, Л. В. Полоцкая земля (очерки истории Северной Белоруссии) в IX – XIII вв. / Л. В. Алексеев. – М. : Наука, 1966. – 296 с., ил.

Археалогія Беларусі. У 4 т. / В. М. Ляўко [і інш.]; пад. рэд. В. М. Ляўко [і інш.]. – Мінск : Беларуская навука, 2001. – Т. 4: Помнікі XIV – XVIII ст. – 597 с.

АСД. – Вильна, 1867. – Т. 1. – 409 с.

Бабятынскі, К. Дзейнасць войска Васіля Пятровіча Шарамецева на тэрыторыі Полацкага ваяводзства ў час вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй у 1654 – 1655 гг. / К. Бабятынскі // ARCHE. – 2009. – № 4. – С. 288 – 311.

Без-Корнилович, М. О. Историческія сведенія о примечательнейших местах в Белорусіи с присовокупленіем и другихъ сведеній к ней же относящихся / М.О. Без-Корнилович. – СПб. : В типографіи III Отд. Собст. Е. И. В. Канцеляріи, 1855. – 357 с.

Бектинеев, Ш. И. Торговые пути X – XV вв. на территории Белорусского Подвинья / Ш. И. Бектинеев // ИАППЗ (к 1125-летию г. Полоцка). – Полоцк, 1987. – С. 6 – 7.

Белецкий, В. Д. Городское ядро средневекового Пскова / В. Д. Белецкий, С. В. Белецкий. Ч. 1: Белецкий, С. В. Начало Пскова / С.В. Белецкий. – СПб., 1996. – 92 с.

Белецкий, С. В. Новые публикации материалов раскопок средневековых городов Белоруссии // С. В. Белецкий, Ю. А. Лесман // СА. – 1979. – № 1. – С. 303 – 313.

Белецкий, С. В. О нижнем слое Труворова городища (керамика и хронология) / С. В. Белецкий, Ю. А. Лесман // Изборск и его округа (Материалы II международной научно-практической конференции). – Изборск, 2006. – С. 71 – 100.

Белы, А. Plan von Polotzko anno 1707 / А. Белы // Спадчына. – 1998 – № 4 – С. 12 – 15.

Белы, А. Полацк у нямецкіх "Лятучых лістках" XVI ст. Інфлянцкая вайна на старонках першых еўрапейскіх газет / А. Белы // Спадчына. – 1997. – № 6. – С. 213 – 219.

Бубенько, Т. С. Социотопографическая структура посада средневекового Витебска (X – первая половина XIV вв.) / Т. С. Бубенько // Труды VI Международного Конгресса славянской археологии. Т. 2: Славянский средневековый город. – М. : НПБО "Фонд археологии", 1997. – С. 23 – 30.

Бубенько, Т. С. Средневековый Витебск. Посад – Нижний замок (X – первая половина XIV в.): Монография / Т. С. Бубенько. – Витебск : Издательство УО «ВГУ им П. М. Машерова», 2004. – 276 с.: ил.

Булкин, В. А. Отчёт об археологических исследованиях Софийского собора и прилегающих к нему территорий в 1978 году / В. А. Булкин // Архіў ІГНАНБ. – Воп. 1. – Спр. 594.

Бэрк, П. Народная культура Эўропы ранняга Новага часу / П. Бэрк. – Мінск : Тэхналогія, 1999. – 380 с.

Вайцяховіч, А. В. Пахавальны абрад некропалей полацкіх культавых будынкаў XII – XIII стагоддзяў / А.В. Вайцяховіч // Вестник ПГУ. Серия А. Гуманитарные науки. – 2008. – № 7. – С. 20 – 27.

Варонін, В. Мяшчанскае землеўладанне ў Полацкім ваяводстве ў 1-й палове XVI ст. / В. Варонін // ГАППЗ: матэрыялы III міжнар. навук. канф. – Полацк : Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік; ПГУ, 1998. – С. 58 – 63.

Варонін, В. Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі: “Тарасаў, Сяргей В. Полацк IX – XVII ст.: Гісторыя і тапаграфія” / В. Варонін. – Мінск : Беларуская навука, 1998. – 183 с.: іл. // БГА. Т. 7. Сш. 1 (12). 2000 а. – С. 246 – 254.

Варонін, В. Полацк / В. Варонін // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2: Кадэцкі корпус – Яцкевіч / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]; маст. З. Э. Герасімовіч. – Мінск : БелЭн, 2006. – С. 443 – 445.

Варонін, В. Тэстамент полацкага бурмістра Давыда Панкова 1559 г. / В. Варонін // ГАППЗ // Матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Полацк : НПГКМЗ, 2003. – С. 32 – 40.

Варонін, В. А. Падзеі 1307 года ў Полацку: спроба крытычнага разбору / В. А. Варонін // ГАППЗ: матэрыялы V Міжнароднай навуковай канферэнцыі (24 – 25 кастрычніка 2007 г.). – Полацк : НПГКМЗ, 2009. – С. 30 – 40.

Варонін, В. А. Праваслаўныя цэрквы і манастыры горада Полацка (да 1582 года) / В. А. Варонін // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. Вып. 2. – Минск : РИВШ, 2009б. – С. 152 – 174.

Варонін, В. А. Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё Полацкага ваяводства ў першай палове XVI стагоддзя: дыс. … канд. гіст. навук: 07.00.02 / В. А. Варонін. – Мінск, 2000 б. – 109 с.

Викентьев, В. П. Полоцкий кадетский корпус. Исторический очерк 75-летия его существования / В. П. Викентьев. – Полоцк: Типография Х. В. Клячко, 1910. – 396 с. [приложений 43 с.].

Витебская старина / сост. А. Сапунов, 1883. – Т. I. – Витебск : Типо-литография Г. А. Малкина. – 664 с.

Витебская старина / сост. А. Сапунов, 1885. – Т. IV. – Витебск : Типо-литография Г. А. Малкина. – 394 + XII с.

Витебская старина / сост. А. Сапунов, 1888. – Т. V. – Витебск : Типо-литография Г. А. Малкина. – 670 с. + 40 л. ил.

Возний, І. Формування торгово-ремісничих посадів давньоруських міст кінця Х – першої половини XIII ст. на території межиріччя Верхнього Сірету та Середнього Дністра / І. Возний, А. Федорук // Наукові записки з української історії: Збірник наукових статей. – Вип. 20. – Переяслав-Хмельницький, 2008. – С. 139 – 147.

Волковицкий, А. И. Материальная культура древней Ладоги / А. И. Волковицкий, Б. С. Короткевич, С. Л. Кузьмин // Старая Ладога. Древняя столица Руси. Каталог выставки. – СПб : Изд-во Государственного Эрмитажа, 2003. – С. 133 – 142.

Габрусь, Т. В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. – Мінск : Ураджай, 2001. – 287 с.: іл.

Ганецкая, І. У. Імпарт у Полацку Х – XIII стст. па археалагічных матэрыялах / І. У. Ганецкая // ГАППЗ // Матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Полацк : НПГКМЗ, 2003. – С. 50 – 58.

Гардзееў, М. Акты па аперацыях з нерухомасцю ў полацкіх магістрацкіх кнігах другой паловы XVII ст. / М. Гардзееў // СРН. – 2004. – Т. 1. – С. 50 – 58.

Гардзееў, М. Дакументы па гісторыі рамяства ў актавай кнізе полацкага магістрата за 1656 – 1657 г. / М. Гардзееў // БГА. – Т. 10. Сшытак 1 – 2 (18 – 19). – Снежань 2003. – С. 175 – 187.

Гардзееў, Ю. Магдэбургская Гародня / Ю. Гардзееў. – Гародня–Wrocław: Wrocławska Drukarnia naukowa PAN im S. Kulczycskiego Sp., 2008. – 383 с.

Гейденштейн, Р. Записки о Московской войне (1578 – 1582) / Р. Гейденштейн. – СПб. : Издание археографической комиссии, 1889. – 309 с. [указатели – 27 с.].

Географический словарь Российского государства. Ч. 4. Отд. 1. – М. : Университетская типография у Любия, Гария и Попова, 1805. – 1366 с.

Гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. – Варшава – Мінск : "Efekt", 2008. – 164 с.: іл.

Гісторыя Беларусі. У 6 т. Т. 1: Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.)[і інш.]. – Мінск : "Экаперспектыва", 2000. – 351 с.; іл.

Гліннік, В. Полацкія саборныя цэрквы (Х – ХХ стст.) / В. Гліннік // Беларускі горад у часе і прасторы: 500 гадоў Полацкай магдэбургіі: зб. навук. прац. – Наваполацк : ПДУ, 2001. – С. 198 – 205.

Гліннік, В. В. Да гісторыі будаўнічай актыўнасці полацкіх езуітаў у фальварку Спас / В. В. Гліннік // Матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Полацк : НПГКМЗ, 2003. – С. 64 – 73.

Гліннік, В. В. Невядомая познегатычная выява полацкай трагедыі 1563 г. / В. В. Гліннік // Матэрыялы навук.-практ. канф. (па выніках навукова-даследчай работы ў 2004 г.). – Полацк : НПГКМЗ, 2004. – С. 143 – 159.

Горский, А. А. Русь: От славянского Расселения до Московского царства / А. А. Горский. – М. : Языки славянской культуры, 2004. – 392 с. – (Studia historica).

Гурин, М. Ф. Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX – XIII вв. / М. Ф. Гурин. АН БССР. Ин-т истории. – Минск : Наука и техника, 1987. – 149 [2] с., 16 л. ил.

Даўгяла, З. Polociae mocnia. Гістарычна-тапаграфічны нарыс полацкіх умацаванняў / З. Даўгяла // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Ін-та беларускае культуры. – Менск, 1928. Кн. 3. Працы клясы гісторыі. Т. 2. – С. 209 – 239.

Дворниченко, А. Ю. Земская и государственная традиции в истории дореволюционной России / А. Ю. Дворническнко // История. Мир прошлого в современном освещении. Сборник научных статей к 75-летию профессора Э. Д. Фролова. – СПб : Изд-во С.-Петербургского университета, 2008. – С. 459 – 474.

Джаксон, Т. Н. Austr i Gordum: Древнерусские топонимы в древнескандинавских источниках / Т. Н. Джаксон. – М. : Языки славянской культуры, 2001. – 208 с., рис., табл.

Дзярновіч, А. І. Гарадская сядзіба Полацка XVII ст. (паводле інвентара з Радзівілаўскага архіва) / А. І. Дзярновіч // ГАППЗ: матэрыялы V Міжнароднай навуковай канферэнцыі (24 – 25 кастрычніка 2007 г.). – Полацк : НПГКМЗ, 2009. – С. 65 – 75.

Доўнар, А. Пацвярджальны прывілей Полацку 1633 г. (нарыс з гісторыі Полацка 30-х гг. XVII ст.) / А. Доўнар // СРН. Т. 1. – Полацк, 2004. – С. 43 – 49.

Дук, Д. Полацкая касцярэзная майстэрня XV – першай паловы XVI стст. / Д. Дук // Acta archaeologica Albaruthenica. Vol. II (Вып. 2) / уклад. М. А. Плавінскі, В. М. Сідаровіч. – Мінск : І. П. Логвінаў, 2007 а. – С. 86 – 101.

Дук, Д. Аб полацкім некропалі Х – XIII стст. / Д. Дук, М. Плавінскі // ГАЗ, 2006 а. – Вып. 22. – С. 173 – 186.

Дук, Д. Археалагічная разведка на Запалоцкім пасадзе Полацка ў 2003 г. / Д. Дук // МАБ. – 2006 б. – № 11. – С. 104 – 113.

Дук, Д. Величие и безвестие: храмы Бельчицкого Борисоглебского монастыря в Полоцке / Д. Дук // Родина. – 2008 а. – № 8. – С. 43 – 45.

Дук, Д. Да пытання тапаграфічнага развіцця Вялікага пасада Полацка ў XI ст. / Д. Дук, С. Тарасаў // ГАЗ, 2005. – № 20. – С. 163 – 168.

Дук, Д. Древо жизни Полоцкого городища / Д. Дук // Родина. – 2007 б. – № 10. – С. 37 – 39.

